## Споведзь перад людзьмі

У свой час Міхась Стральцоў, пішучы літаратурна-крытычнае эсэ пра Кузьму Чорнага, заўважыў, што чытача цікавяць толькі тыя пошукі пісьменніка, якія завяршаюцца творчай удачай. Або яшчэ: важна не тое, як ты шукаеш, але тое, што ты знайшоў.

Гэтыя словы нашага слыннага пісьменніка прыгадаліся падчас знаёмства з рукапісам кнігі Анатоля Крэйдзіча. Асабліва па-добраму, вельмі светла ўразіла аповесць аўтара «Шчасце ў падарунак», якая мае падзагаловак (гісторыя адной меланхоліі). Гэта твор сталы, шматгранны, нават рамантычны, які напаўняе душу чытача (прынамсі маю) ружовым светам дабрыні і чалавечай годнасці, дзе праз сардэчныя пакуты героя атрымліваеш асабістае ачышчэнне. Галоўны герой аповесці «Шчасце ў падарунак» Косцік, не гледзячы на ўсе перэпетыі лёсу, не страціўшы сваёй рэальнасці, стаў мастацкім адкрыццём аўтара. Мы, чытаючы, паступова, ад пачатку, да завяршэння твора праслежваем, як радасць спазнання чалавечай сутнасці адбіваецца ў чалавеку, мяняе яго. Нельга не заўважыць у кнізе Анатоля Крэйдзіча адметнай рысы яго творчасці - шчодрасці. Яна праследжваецца, як ў аповесці, так і ў апавяданнях «Нічога не здарылася», «Шчаслівая ты, Ленка», «Смех», «Партрэт», «У цягніку», «Баравы мёд» і шмат іншых. Шчодрасць аўтара бачна ў мастацкай самааддачы, ва ўражаннях і ў успрыманні навакольнага свету.

Міжволі хочацца зноў звярнуцца да выказвання Міхася Стральцова. Разважаючы пра літаратуру і месца пісьменніка ў ёй, Міхась Стральцоў адзначаў, што ў літаратуры перамагае толькі чалавечае і чалавечнае, а фальш, пустазвонства, бяздумная даніна чарговай модзе, колькі б яны ні прэтэндавалі на жыццё ў слове, на ўвагу сучаснікаў ці нашчадкаў, урэшце будуць названы сваімі імёнамі.

Дык вось, кніга Анатоля Крэйдзіча - гэта споведзь чалавека перад людзьмі, перад кожным паасобку і перад усімі разам. Часам і за знарочыстай прыхарошанасцю мы бачым боль за няскладнасць лёсу, самаабман герояў з-за іх рамантычнага складу характару. Але, як вядома: шыла ў мяшку не схаваеш. Дзякуючы розным жыццёвым акалічнасцям усё ўраўнаважваецца. Так, па законах быцця і існасці, усё становіцца на свае месцы ў адносінах герояў аповесці «Шчасце ў падарунак» Косціка і Рыты.

Пісьменніку нельга ніколі забываць, што чалавек - гэта цэлы свет. Бязмежны і супрацьлеглы, просты і парадаксальны, шчыры і хцівы, прамалінейны і завуаляваны, сур'ёзны і блазнаваты...

Анатоль Крэйдзіч бачыць, разумее і надзяляе сваіх герояў не лялечным схематызмам, а ўсімі жывымі рысамі людскога жыцця. Менавіта ўсё гэта і стварае непаўторны свет аўтара, ягоныя пошукі, як гаварыў М.Стральцоў «завершаны творчай удачай». У гэтым лёгка пераканацца, калі прачытаць кнігу аўтара.

*Анатоль Казлоў*

## ШЧАСЦЕ Ў ПАДАРУНАК
## Гісторыя адной меланхоліі

Трэба шукаць сарцавіну, самую глыбокую канцэнтрацыю чалавечага ў чалавеку.

*М.Булгакаў*

### ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ЗАПІСКА

Шаноўны рэдактар!

Хоць я і не прафесійны літаратар, а ўсяго толькі журналіст, тым не менш нейкае чуццё падказвае мне, што твор, які выпадкова трапіў у мае рукі і які я пераадрасоўваю Вам, патрабуе якраз гэтага дадатку-тлумачэння. Такім чынам, прашу лічыць гэты мой суправаджальны ліст часткаю «Гісторыі...» Калі, вядома, у Вас будзе на тое згода.

Шаноўны чытач!

Цябе я таксама прасіў бы не аддзяляць запіску ад асноўнага, аўтарскага тэксту. Лічыце яе... ну, скажам, асобным раздзелам.

Калі ўжо я падпісваю твор сваім імем, то, пэўна ж, маю права распараджацца ім па свайму разуменню, на што і ўпаўнаважыў мяне аўтар, які сам падпісацца наадрэз адмовіўся. Калі Вы дачытаеце запіску да канца, то зразумееце, чаму ён паступіў менавіта так, а не іначай.

Але пачнем спачатку, з таго слотнага верасნёўскага дня, калі абрыдлы за некалькі дзён дождж, што шумеў за акном, нібыта ўваліўся ў мой кабінет у чалавечым аблічча. З жанчыны няпэўнага ўзросту, з яе доўгага, з накінутым на галаву капюшонам, чорнага плашча сцякала на падлогу вада. Твар яе таксама быў мокры, і, як мне падалося, не толькі ад дажджу. Нібыта пацвярджаючы маю здагадку, жанчына ўсхліпнула.

Паздароўкаўшыся і справіўшыся, хто гаспадар кабінета, яна выцягнула з-пад плашча абгорнуты чысценькім белым ватманам альбом, і паклала на самы край майго заваленага паперамі стала.

- Што гэта?

- Гэта? - нібы перапытала яна. - А Вы адгарніце вокладку, і самі ўбачыце, што.

На першай старонцы каліграфічнымі літарамі было выведзена: «Шчасце ў падарунак. Раман». Унізе стаяла імя і прозвішча аўтара.

- Прабачце, але Вы не па адрасу. Вам трэба ў рэдакцыю літаратурнага часопіса. А гэта газета. Мы не друкуем раманаў.

- Я ведаю, што газета, - захвалявалася жанчына. - Але я знарок шукала якраз вас. Вы адкуль родам?.. Ну, бачыце, мы з вамі землякі. Мне так і тлумачылі. Няўжо ж па-зямляцку не паможаце? Вы ж лепш ведаеце, дзе тут гэтыя вашыя часопісы. Можа б паклапаціліся.

Яна ўмольна зірнула на мяне з глыбіні накінутага на самыя вочы капюшона. Гэткая знябожаная і бездапаможная.

- Гм. Па-зямляцку, кажаце.

- Ну, вядома. Няўжо ж мне шукаць, нічога і нікога не ведаючы, тыя часопісы. Грэх землякам адмаўляць. Мы аддзячым, не падумайце...

- А хто вы будзеце аўтару, калі не сакрэт?

- Я? - яна лёгка ўсміхнулася. - Які ж тут сакрэт. Ён прасіў, каб я назвалася Маргарытай. Проста Маргарыта. Гэта маё імя.

І, ужо прачыніўшы дзверы, каб выйсці, азірнулася, дадала:

- Жонка я яму. - Затрымалася, крыху падумала, сказала, нібыта вінячыся. - Там усё прыдумана, не падумайце...

- А чаму ж ён cdd- Хворы ён...

І жанчына хуценька, забыўшыся развітацца, прычыніла за сабой дзверы.

Праз які тыдзень ці мо нават раней да мяне ў кабінет літаральна ўварваўся малады чалавек. Выгляд ён меў яўна нездаровы. Найперш пра гэта сведчылі запаленыя вочы і сцягнуты, высахлы твар. Позірк хваравіта блукаў па кабінеце.

- Гэта да вас прыходзіла жанчына па імені Маргарыта?

- Да мяне, - успомніў я і адразу ж здагадаўся, хто перада мною.

- Альбом... у вас?

- У мяне.

Нечаканы госць замяўся.

- Вы ўжо прачыталі?

- Прачытаў. Але...

- Не працягвайце, - ён замахаў рукамі, - прашу вас, нічога больш не кажыце. І нікому, нікому яго не паказвайце. Пакуль я не дам на тое сваю згоду. Усё. Бывай, зямляк.

Ён знік гэтак жа нечаканна, як і жанчына, якая назвалася Маргарытай.

Мне нічога не заставалася, як толькі здзіўлена паціснуць плячыма і забыцца на рукапіс. Балазе, хапала сваіх клопатаў...

Праз некалькі месяцаў пасля дзіўных візітаў не менш дзіўных землякоў (а мо і праз год), наведаўшыся ў родны свой гарадок, я

пацікавіўся быў у сваякоў, ці не ведаюць яны такіх маладых людзей альбо хоць бы ці не чулі пра іх што-кольвек.

Аказалася - чулі.

Матцы нібыта нехта расказваў, што жыве ў іх гарадку такая сям'я. Ён працуе мулярам. З некім, кажуць, не падзяліў кватэру, лічы, адабраў, а пасля схаваўся на цэлы месяц ці нават болей ад помсты. Але той, пакрыўджаны, усё адно дарваўся да яго і ледзь не скалечыў. Яна, праўда, дакладна не магла сказаць, ці таго маладога муляра спачатку пабілі, а тады ён схаваўся, ці знайшлі ў схованцы і надавалі кухталёў. Дакладна ведала толькі, што бойка была, і што яго, гэтага муляра, ўратавала жонка.

- Кажуць людзі, - у матчыным голасе з'явілася трагічная нотка, - што за ёю, за сваёй Рыткаю, здаецца, гэтак яе завуць, ён жыве, як за каменнай сцяной. Накорміць, апране, дзетак дагледзіць, усё і па хаце, і па гаспадарцы ўправіць. Нават і катэдж - нібыта больш яе заслуга, чым яго...

Матка, у рэшце рэшт, ахрысціла яе «залатой жанчынай», маўляў, такім трэба помнік пры жыцці ставіць.

Пасля я на доўгі час забыўся і на рукапіс, і на яго жывых герояў.

І вось успомніў. Адразу ж, як толькі пераступіў парог іхняй кватэры ўжо ў сталіцы. Я пазнаў сваіх даўніх візіцёраў, хоць ён ужо быў сівы, а на яе твары з'явіліся першыя неглыбокія маршчынкі і... акуляры.

У мяне было рэдакцыйнае заданне: зрабіць інтэрв'ю з лаўрэатам нейкай міжнароднай прэміі, якая выдаецца за гуманізм у творчасці. Гэтым «гуманістам» аказаўся той самы мой стары знаёмы, чый рукапіс пыліўся недзе ў шуфлядзе рабочага стала ў рэдакцыйным кабінеце.

Нагаварыўшыся пра творчасць, мы ўспомнілі і пра яго той рукапіс. Гаспадар сказаў:

- Здаецца, то была споведзь, а не літаратура. Нешта я ўжо і запамятаваў, як яна напісана. Ведаеце, я цяпер з задавальненнем перачытаў бы тую крэмзаніну.

Я запісаў яго словы, каб пасля перанесці на газетную старонку. Мне, па-шчырасці, зрабілася крыўдна за той рукапіс. Мне ён падабаўся. Шчырасць, чысціню, светлы боль выпраменьвалі тыя прыгожым дзявочым (так, так - дзявочым) почыркам спісаныя старонкі. А ён гэтак абыякава, крыху нават грэбліва, зняважліва адазваўся пра іх. А яшчэ гуманіст. За што толькі далі яму тую прэмію.

Я паспрабаваў запярэчыць, маўляў, ніякая гэта не крэмзаніна... Субяседнік у адказ адно паблажліва ўсміхнуўся. Калі гаспадыня

прынесла гарачую гарбату і самапечаныя пернічкі, ён, падзынькваючы лыжачкай, прапанаваў:

- Я хацеў бы прачытаць тую сваю споведзь. Але не ў рукапісе, а апублікаваную. Падпрацуй яе і выдай пад сваім імем. Бо я пад сваім усё адно публікаваць не буду. А табе будзе маральная кампенсацыя за клопаты.

- Вы адцураліся ад свайго?.. - я ледзь не сказаў «дзіцяці».

Ён зноў паблажліва ўсміхнуўся, прыгубіў гарбаты:

- Не ў гэтым справа, зямляча. Дык згодзен?

- Згодзен.

Я адказаў сцвярджальна толькі таму, што ў той міг мяне ахапіла пачуццё жалю да няшчаснага, як мне тады ўявілася, рукапісу, і адначасова пачуццё непрыязнасці да яго аўтара. Ён нібыта прапаноўваў мне ўсынавіць сваё дзіця, якое не падабалася яму і падабалася мне. Праўда, на нейкі міг, расказваючы па маёй просьбе пра першы свой празаічны твор, ён, падалося, усё ж расчуліўся.

- А ведаеш, - уздыхнуў апавядальнік, - хацеў яго, героя свайго, алкаголікам зрабіць. Але - от, трэба ж такому - сон прысніў, нібыта ён, гэта значыць, я, спіўся... Нібыта, чуеш, назбіралі мне хлопцы грошай на білет у сталіцу, каб рукапіс «звёз», а я на тыя грошы набраў гарэлкі, закускі, і пайшоў пешшу. І вось прасынаюся ранічкаю ў лесе пад кустом (куст запомніў - калінавы), азіраюся, мацаю вакол сябе рукамі - няма рукапісу. А тут нейкая гамана зусім блізка. Вызіраю з-за куста, гляджу: маім рукапісам паляўнічыя вогнішча распальваюць. Я стаю і плачу. Моўчкі. Доўга. А сэрца баліць-баліць...

Мне падалося, што расказанае было не сном, а праўдаю. Аднак здагадку пакінуў пры сабе.

Літаральна за некалькі дзён я паправіў, як мог (а мог я дагэтуль правіць адно журналісцкія, газетныя тэксты), выцягнуты з дальняга кута шуфляды рукапіс, разбіў яго на часткі і раздзелы, раздзелам даў назвы, закрэсліў слова «раман» і замест яго напісаў «Гісторыя адной меланхоліі» (усё-ткі, падумаў, гэта сапраўды споведзь, і я не вызначыўся пэўна, які жанр найлепш ёй пасуе), рэдакцыйная машыністка ўпотай перадрукавала ўсё гэта на машынцы і... І на папцы, у якую паклаў «гісторыю», вывеў сваё прозвішча, імя...

## Частка першая.

## РЫТКА

### I

- Танец з хусцінкаю! Сем на сорак! - абвясціў у мікрафон музыка і апэразаўся расцягнутым мехам гармоніка.

Як і ўсе, я перабіраў нагамі, тоўк і перамешваў пясок на падворку, штурхаў локцямі суседзяў: злева безаблічна-непрыкметную аднагодку Рытку, справа незнаёмага мне мужычка, п'янаватага, а таму вельмі энергічнага і смешнага.

Танцоры стварылі жывое пярэста-рухавае кола пад адзіным на ўвесь двор, затое яркім, ліхтаром.

На мяне часам зіркалі дзяўчаты, і я лавіў іх запаленыя гарэлкаю, рухам, вясельнаю ўзрушанасцю позіркі.

Адным, можа, падабалася мая знешнасць, бо я тады быў статны і на галаву вышэйшы за сваіх аднагодкаў, іншым, як сам лічыў тады, абыходлівасць і самастойнасць, у адрозненне ад многіх я амаль не піў за сталом, быў цвярозы, але вясёлы, востры на слова, якое, прынамсі, нікога не крыўдзіла.

Рытка не зыркала. Яна пазней прызналася, што не асмельвалася «страляць» па мне, бо, па-першае, не было чым - вочы колькі ні фарбавала, а прыгожымі, выразнымі яны так і не рабіліся, а па-другое, даўно звыклася з думкаю, што яна нікому-нікому не патрэбна, нават самаму бядотнаму хлапчыне.

Мяне не здзівіла, што я апынуўся калені ў калені на пасцеленай на доле хусцінцы з нейкай мілай істотай адным з першых. Мы цмокнуліся ў вусны - у яе былі густа напамаджаныя, бессаромна бліШчалі. Я крутнуўся з дзяўчынаю, твар якой начыста сцёрся з маёй памяці, у вальсе, пакінуў яе і пайшоў, прытанцоўваючы і памахваючы над сабой хусцінкаю, па крузе, выбіраючы «партыю». Мне падалося, што запрасіць якую прыгажуню было б занадта банальна, і я апынуўся перад самаю старэйшай з усяго гурту жанчынаю, без году бабуляю. Кола загуло і запляскала ў ладкі. Гарманіст крыкнуў у мікрафон:

- Бабуля, у засос яго, у засос!

Танец са смехам і гоманам працягваўся. Паспелі пастаяць каленьмі на хусцінцы ці не ўсе, хто быў у коле, а спрытнейшыя нават двойчы ці тройчы, толькі маю суседку Рытку ўсе абміналі. Яна перастала ўжо ўсміхацца, часцей глядзела сабе пад ногі, чым на танцораў, а пасля я прыкмеціў, як у вачах дзяўчыны няўлоўна

бліснула слязінка. Я маліў Бога, каб хлопец, што якраз важна праходжваўся паўз гаманкі ланцужок, спыніўся каля яе. Ну, хоць бы дзеля жаласлівасці. Але па-мойму не атрымлівалася. Я пачаў злавацца: чаму гэта яны такія безуважныя, чаму не хочуць парадаваць бядачку?

Калі мяне другім разам запрасілі цмокнуцца на хусцінцы, я пасля «працэдуры», не раздумваючы, папраставаў да Рыткі. Яна не паверыла: пастаяла, утаропіўшыся ў мяне няўцямнымі шэранькімі вачыма, і тады ўжо паслухмяна пайшла на сярэдзіну. Калі нашыя вусны наблізіліся, гарманіст працяжна цмокнуў у мікрафон, і гэтае агромністае «цу-цу-цу», што лавінаю выкацілася з узмацняльніка, падалося мне здзекам. Але то быў бяскрыўдны жарт. Затое па-сапраўднаму здзеклівa прагучала кінутае кімсьці з натоўпу: «Што за здыхлю выбраў наш Кастусь?» Пэўна, яна таксама пачула тую насмешку, бо ледзь чутна трапятнулася, і мне захацелася прыцiснуць яе да сябе, захінуць ад нядобрых языкоў, супакоіць...

Я запрасіў яе «на хусцінку» і наступным разам, пасля чаго дзяўчына быццам бы папрыгажэла, вочкі яе засвяціліся, і яна ўжо не саромелася раз-пораз «пастрэльваць» у мой бок.

Мне было хораша на душы ад таго, што я гэтакі знаходлівы і што гэтак дапамог дзяўчыне. Я запрашаў бы яе яшчэ і яшчэ, але танец скончыўся. Запыленая, брудная хусцінка зацеляпалася на штыкеціне, нехта паліў мне з вядра на рукі, яшчэ нехта працягнуў цыгарку...

Мой добры настрой не астудзілі ні вечаровы халадок, ні нахабныя зануды-камары, ні кпіны сябрукоў. Хлопцы чамусьці ўпарта чапляліся за мае пацалункі з Рыткаю, і я ледзь паспяваў адбівацца.

- Бабёнка ў цябе, Кастусь, класная.

- Магу прадаць, калі няўцерп.

- Го-го-го. Колькі просіш?

- Да магілы разлічвацца будзеш.

- У-у-у. Яй-бо, я, калі б і мільён мне давалі, не пацалаваў бы гэтую паскубаную кураняўку.

- ...Хто такую брыдкую пад куст павядзе? - хіхікнуў ззаду піскляві Кепка.

- А яна з такім здыхляком, як ты, пад куст не пойдзе.

- Бягом пабяжыць, гі-гі.

- А як дагоніць? Ты ж не ведаеш, што хлопцы робяць з дзяўчатамі пад кустом. З цябе Манькі Кулачковай хопіць.

- Не, хлопцы, я Кастусю палец у рот не паклаў бы. - Гэта ўжо азначала адступленне.

Мне закарцела дабіць праціўніка:

- Можна падумаць, я ўзяў бы твой брудны палец у свой рот.

- Наблатыкаўся ў тым сваім нівярсяцеце...

...І мы разышліся. Я хацеў яшчэ пастаяць на лёгкім, ледзь улоўным ветрыку, але гаспадар хадзіў па мяккай, як мука, паколатай абцасамі танцпляцоўцы-падворку і крапіў яе шматком сена, якое раз-пораз апускаў у вядзерца з вадою. Шаматнула дожджыкам і па маіх запыленых джынсах, чаравіках. Гаспадар занудліва паўтараў:

- У хату, госцейкі, у хату. Вып'ем, яшчэ патанцуем. У хату...

Уцякаючы ад гаспадарскага дажджу, я, перасмейваючыся з кімсьці, уваліўся разам з іншымі ў звонкую і мітуслівую, нібы вулей, хату.

І ўсё ж настрой у той вечар мне, як я ні выкручваўся, сапсавалі. Сапсавала матка.

Яна гукнула мяне, калі выбіраў, дзе сесці:

- Хадзі сюды, Косцік. Тутака во, каля мяне, свабодна.

- Не, мамо, я да хлопцаў праціснуся, там весялей.

- Кажу табе, хадзі сюды, пагаманіць трэба. - І яна неяк заклапочана зіркнула на мяне. - Сынок, - шапнула на вуха, калі сеў побач, - ці ты ўжэ сабе харашэйшай дзеўкі не знайшоў, га? Вунь Гаткін хлопец і насаты, і згорблены, і не вучаны - а бачыў, якую дзеўку водзіць? Пастухом робіць - ды з гэтым дзелам не промах. Ого-го-о. Умее мазгі запудрыць. Ніхто і не падумае, калі не ведае, што каровам хвасты круціць. На цябе скарэй падумаюць, што такі нехлямяжы. Глядзі мне, каб з гэтаю, як яе, я цябе не бачыла. Мне ж людзей сорамна. Ты ведаеш, які ў яе бацька?

- Ну?

- Што ну? Алкаш. І яна такою будзе. Кроў у яе чыя? Бацькава. Яна нават падобная на бацьку, сухара насатага.

- Ой, мамо, перастань! Людзі во пачуюць.

- Не перастану, пакуль не адчэпішся ад гэтага шчураняці праціўнага. Думаеш, яе бацьку так проста Шчуром завуць? Не, бо ў яго і мода, і морда шчурыныя. А яблыко ад яблыні недалёка падае.

- Ну ўсё. Не збіраюся я з ёю гуляць.

- То давай, сынок, давай вып'ем. Табе сённячы можна. Бач, цвярозы зусім, то грамулька мо не пашкодзіць.

- Зараз во разам з усімі і вып'ем.

Матчыны словы дапяклі мяне. Раззлавалі з-за таго, што нават яна не зразумела, чаму я танцаваў з Рыткаю. Мне захацелася (першы раз у жыцці) захмялець, і я наліў сабе поўную стограмоўку. Маці асцярожна тузанула за рукаў:

- Мо не піў бы поўную, га? Чуеш? Каб не вырвала з непрывычкі.

Мне хацелася ўзбрыкнуць, сказаць, каб не лезла ў мае справы, бо я ўжо дарослы і магу сам сабой распараджацца. Душыла крыўда, што і сябры, і матка, і, напэўна ж, усё вяселле гэтак прымітыўна вытлумачылі маю дабрыню да дзяўчыны, якую лёс зусім не па яе віне абдзяліў знешнасцю. Хацелася крыкнуць: «Разуйце вочы, не блытайце дабрыню з заляцаннем. І наогул: я маю права рабіць тое, што лічу патрэбным, а не тое, што вам падабаецца...»

Тым часам нехта гукнуў: «Кастусь, не зявай», - і я перакуліў стограмоўку. Пасля другой крыху зашумела ў галаве. Яшчэ раз супакоіў матку і перайшоў у іншы пакойчык, дзе весялілася маладзейшая, якраз па мне, кампанія. Там хмялеў далей, пакуль гарэлка не адабрала памяць.

## II

Раніцою доўга не расплюшчваў вачэй. А калі ўсё ж асмеліўся, доўга не мог зразумець, дзе я. Напэўна, на маім месцы спалохаўся б любы, калі б замест чысценька пабеленай столі ўбачыў над сабою дзіркаваты канёк пакрытага шыферам хлява, аброслыя павуціннем кроквы і перагародкі. Пада мною шамацеў вялізны пахучы матрац - сена. Воддаль, бліжэй да квадратнай дзіркі лаза, валяліся некалькі вілаў-трайчакоў, драўляныя граблі... З дзіркі тырчэлі дзве жэрдкі-драбіны.

Сціснуўшы далонямі скроні, падняўся. Аказалася, ляжаў не на голым сене. Пада мною была пасцелена нечая куртка. Перавярнуў і жахнуўся - яе, Рытчына. «Няўжо я спаў тут з Рыткаю?» Ад такой згадкі галава разбалелася яшчэ больш, і я, ледзь не страціўшы прытомнасць, зноў бухнуўся ў абдымкі сена і водару...

Калі прачнуўся другім разам, з усіх шчылін старога даху ўжо тырчэлі залацістыя коп'і-промні.

У галаве пасвяжэла, толькі цела трымцела асінавым лістком і ныла, быццам учора цэлы дзень насіў каменне.

Згадка пра бацькоў, якія, напэўна, вельмі хвалююцца, куды я прапаў, падганяла. Але колькі хвілін ляжаў яшчэ, не маючы сілы паварушыцца.

За тыя хвіліны праз маю свядомасць пранеслася плойма супярэчлівых думак.

«Рыта, Рытка, Маргарытка, мне і сорамна і брыдка (пасміхнуўся рыфме). Што было гэтае начы? Нашто я зачапіў цябе? Як я зірну на цябе сёння? Пашкадаваў на сваю галаву. А ці трэба было? Маці казала, што не трэба. Яна старэйшая і мудрэйшая. А я дурны. Але ж я

не рабіў нічога дурнога. Вось толькі гэтае сена. Толькі б ніхто не ўведаў. Божа, толькі б не дайшло да маткі».

Трывога прагнала і санлівасць, і слабасць. Да мяне, нарэшце, з усёй яснасцю дайшла недарэчнасць маіх учарашніх паводзін.

* * *

На падворак выбіраўся з вялікай асцярожнасцю. На кожнай прыступцы драбін спыняўся і пільна прыслухоўваўся, гатовы ў любую хвіліну шмыгануць угару, зашыцца ў сена. Ад маёй учарашняй упэўненасці не засталося і следу.

Унізе акуратна, не спяшаючыся, абабіў ад сена светла-карычневую сарочку, джынсы, знайшоў нейкую анучку, працёр запыленыя карычневыя туфлі. Прычасаў валасы, павыдзімаў з грабеньчыка смецце. Крышачку, на адзін палец, адчыніў рыпучыя, вышчарбленыя з-пад нізу дзверы, прытуліў да шчыліны вуха. Недзе блізка пішчалі качаняты, какатала квактуха. Адчыніў дзверы болей і прасунуў у шчыліну галаву. Качаняты паласкалі ва ўкапанай у зямлю бляшанцы з-пад селядцоў чорныя і жоўтыя насы. Побач спала, схаваўшы пад крыло галаву, маці-качка. Пад квактухай ля парослага імхом чорнага плоту варушыліся, шукаючы цяплейшага месца, рознакаляровыя пушыстыя шарыкі. Чмыхнуў вецер, і на падворку закружыўся рой парашуцікаў-дзьмухаўцоў, якія насцярожылі і качку, і квактуху. А малеча бегала і лавіла іх.

На хвілінку я забыўся пра асцярожнасць і паплаціўся. Невядома адкуль з'явілася Рытка. У выцвілым халаціку на вострых хлапечых плечках і старых, заляпаных гноем і брудам бясколерных растоптах, яна была яшчэ больш пачварная, чым учора.

- Не бойся, дома нікога няма, бацькі пайшлі пахмяляцца. - Рытка стаяла і па-змоўніцку, схіліўшы на бок галаву, зазірала сваімі маленькімі шэранькімі вачыма ў мае вочы. У позірку чыталася ўпэўненасць у тым, што яна падабаецца мне...

Рытка трымала пагнутую алюмініевую міску з нейкім змесівам, і рука яе таксама была выпацканая.

- Ідзі туды, за агарод. Там ніхто не ўбачыць.

Я выслізнуў з дзвярэй.

- Чакай, Кастуська. Мне трэба табе нешта сказаць.

- Ну?

- Прыходзь да старой грушы. Ну, дзе ў дупле чэрці водзяцца. Там скажу.

- Ага. - І я вопрамеццю кінуўся прэч, пераскочыў цераз канаўку за агародам, знайшоў у траве сцежку і паплёўся, збянтэжаны і спалоханы, дахаты.

* * *

Дома, на шчасце, ніхто пра мае начныя і ранішнія прыгоды не ведаў. Маці адно насварылася, што не начаваў, дзе трэба, і ўзялася тачыць бацьку.

- Я цябе калі, панчоха старая, прасіла, каб узмежкі павыкошваў, бо трава зараз спруцянее пад гэтакім сонцам? Каб сённячы ж касу накляпаў і павыкошваў усё на свеце, бо як бач валёнкам па шыі заробіш.

- Каса ў мяне гатовая, баба. Гатовая. Я не кашу, бо ўвесь узмежак у дзьмухаўцах. Праз дзень-другі пух пазлятае, тады і зраблю ўсё як трэба.

- Каб ты ўжо ў глухое балота зляцеў...

Бацька прапусціў гэтыя словы паўз вушэй. Ён працягваў мне качыныя яйкі.

- Глянь, Кастусь, у цябе вочы лепш бачаць. Ці варушыцца там што-небудзь? - Пакуль я то вокам, то вухам абследаваў яйкі, бацька мармытаў:

- Качка дурная. З тымі, што вылупіліся, да вады пабегла, а гэтых, бач, пакінула. То я на печ іх паклаў. А адно, чуеш, Кастусь, бегчы не здужала, дык на зямлі ляжала. Прыхаладзіла шыю. Цяпер яна ў яго як усё адно скручаная - дзюбка не прама, а ўбок глядзіць. Што з ім рабіць?

- Глянь, тата, гэтае ўжо наклёўваецца. Вунь трэшчынкі. І шалясціць-шалясціць. І гэтыя варушацца. А гэтае ці захалола ў хляве, ці спяклося на печы.

- Захалола. Зірні на скрыўленае.

Я ўзяў у рукі скрыўленае качаня.

- Што яму рабіць, сынок, каб выпрамілася?

Выйшла меншая за мяне на два гады сястра. Яна хмыкнула, маўляў, гэтае качаня трэба закапаць у разору і не дурыць галаву. Маці падхапіла яе.

- Ёсць вывадак - хопіць. А то будзеш днямі валаводзіцца каля небаракі.

Я выпраміў качаняці галаву і зацiснуў між пальцамі. Яно падрыгалася і сядзела ўжо ціха, адно лыпала чорнымі вачанятамі.

- Калі б гэтак колькі дзён пасядзела, напэўна выпрасталася б.

- Выпрастаецца яно ў яме, - бразнула клямкаю маці.

Цэлы дзень я правалэндаўся з пакалечаным качанём. Вечарам таксама да поўначы не выпускаў з рук. А на Рытчына запрашэнне спаткацца ля грушы забыўся.

На трэці дзень маё качаня трымала галаву прыкметна раўней. Яйкі апусцелі, і малеча, якая з іх вылупілася, ужо галёкала следам за качкаю. Я яшчэ колькі дзён павыпраўляў бедачыну і пусціў у гурт. Скрыўленасць засталася, але цяпер яна не перашкаджала качаняці есці, піць, рухацца, развівацца і хутка расці.

За пятнаццаць з лішнім гадоў многае забылася з таго юначага, даармейскага жыцця, а гэты эпізод чамусьці помніцца вельмі яскрава і з усімі падрабязнасцямі. Я дакладна ведаў, што ратую пачварнае птушаня не дзеля таго, каб пад восень мець лішні кавалак мяса, але я не ведаў, дзеля чаго раблю гэта.

**III**

Наступная мая сустрэча з Рытай адбылася праз два месяцы, у сярэдзіне лета, пасля маёй сесіі ва ўніверсітэце, дзе вучыўся на філалагічным факультэце. Я ўжо быў пераведзены на другі курс.

Гэтыя два месяцы былі для мяне вельмі насычаныя самымі рознымі справамі. Я павыкошваў на ўзмежках траву, абагнаў бульбу, пакалоў і пакастрыў пад клуняю дровы, перачытаў Булгакава, Сартра, Разанава, Ванегута і Межэлайціса, адолеў без троек сесію, схадзіў у тэатр на прагляд «Трохграшовай оперы», выпіў з дзесятак вёдраў кавы, некалькі разоў пацалаваўся з прыгожанькай верціхвосткай-аднакурсніцай, накрэмзаў паўблакнота вершыкаў, якія, аднак, нікому не паказаў, паправіўся на паўкілаграма і ні разу ні аб чым не пашкадаваў.

А з Рыткаю сустрэўся выпадкова пад грушкаю, у дупле якой водзяцца чэрці. Якраз там, дзе дамаўляліся. Толькі са спазненнем на два з гакам месяцы. Паўз гэтую грушу прабягала сцяжына, якая разам са старым дрэвам падзяляла вёску на дзве паловы. Мы ішлі па ёй насустрач адно аднаму, быццам знарок дзеля таго, каб спаткацца.

Рытка зазірнула ў велізарнае спарахнелае па краях дупло, агукнула, засмяялася:

- А шкада, што мы ўжо выйшлі з таго ўзросту, калі вераць у казкі, у чарцей.

У нашай вёсцы бацькі па традыцыі расказваюць сваім малалетнім дзецям казку, якую ім расказвалі іх бацькі, што апоўначы з дупла старой грушы выскокваюць чэрці, ператвараюцца ў авечак і палохаюць людзей, таму вечарам нельга доўга бадзяцца па вуліцы. Груша

зелянела толькі адным сваім бокам, другі, мёртвы, чарнеў голымі рагамі галля.

- А я цябе чакала тады. - Рытка апусціла вочы і прасавала наском басаножка сцежку. Справа-налева, злева-направа - як шчотачка аўтамабіля. Валасы ў яе былі рэдзенькія, прамыя, колеру нездаровай збажыны. Нос, здавалася, засланяў сабой і вочы, і вусны, якія губляліся на твары.

- Даруй, - адказаў я, каб нешта сказаць і каб не пакрыўдзіць яе. - Я не мог прыйсці, і вельмі шкадаваў аб гэтым.

- Праўда? - Яна ўскінула вочы. Яны блішчалі.

Я ўсміхнуўся, як мне тады падалося, шкадобнай, бацькоўскай усмешкай:

- Ведама ж, праўда. - Я хлусіў.

- А ведаеш, што я хацела сказаць табе?

- Не.

Агеньчыкі ў яе вачах патухлі, іх месца заняла насцярожанасць і нешта яшчэ. Можа, пакута.

- Я хацела сказаць пра сенавал.

- Што?

- Ну, гэта, расказаць, што і як было між намі.

Яе вочы неяк па-даросламу ўважліва вывучалі мяне.

- А хіба што-небудзь было?

- А ты нічога не помніш?

- Не, я зусім нічога не помню. Я нават не помню, як скончылася вяселле.

Гэтым разам я казаў праўду.

Рытка пасля майго прызнання зрабілася нейкаю лягчэйшаю, вальнейшаю. Так заўсёды бывае, калі напружанне змяняецца разняволенасцю.

- А я помню. - Яе вочы зноў па-маладому засвяціліся, а ў голасе нават з'явілася нотка какетлівасці. - Ад цябе было не адчапіцца. У цемнаце ты схапіў мяне на рукі і панёс у хлеў, на сена.

- Па драбінах?

- Ну, не па паветры ж.

- Гм. Ранкам адзін злазіў, і то баяўся, каб не трэснулі.

- Дзіва што - цвярозы. - Яе вочы зноў насцярожыліся.

Шкада - я не ўмеў тады разгадваць вочы. Чытаць чытаў, а разгадваць не ўмеў. Я разгадваю іх цяпер, як рэбусы, узнаўляючы ў памяці.

Мы маўчалі добрую хвіліну. Яна глядзела ўдалячынь, убок, туды, дзе каля малінавага ляску ўзбягала на пагорак дзвюма глыбокімі

каляінамі мяккая попельная дарога. Пасля рашуча зірнула на мяне (так глядзяць у бездань, у якую даўно наважыліся паляцець, але ўсё не рашаюцца) і сказала тое, чаго я ніяк не чакаў пачуць:

- Я цяжарная, Кастуська.

Мяне быццам абдалі кіпенем.

- Як? - Іншых слоў не знайшлося.

- Так. Пайшоў трэці месяц.

Я збоку зыркнуў на яе жывот.

- У два месяцы на жывот ніхто не глядзіць. - Яна ўсміхнулася, стомленая, а ў вачах быў страх.

- Што ж цяпер рабіць? - Я зрабіўся поўным ідыётам і не разумеў, што адбываецца з намі і вакол нас.

- Не ведаю. - Яе голас задрыжэў. У ім чулася мальба. Але вырашыць, а тым больш абяцаць нешта ў гэты момант я ўжо не мог і дамовіўся сустрэцца з ёю заўтра, пад вечар, на гэтым жа месцы. Яна пакорліва згадзілася, і мы, нават не развітаўшыся, разышліся.

Ідучы дахаты, я ўсю дарогу паўтараў: «Чортава груша, чортава груша...» А калі сцяміў, што трызню ўголас, змоўк. У галаве блыталіся думкі пра вучобу, пра маці, якая, калі што, з'есць мяне, пра сястру, якая абавязкова будзе насміхацца, пра магчымы шлюб з Рыткаю, які здаваўся мне вялікаю недарэчнасцю і нават глупствам.

Да сямейнага жыцця я быў не падрыхтаваны, і добра ўсведамляў гэта: не адвучыўся, не адслужыў у войску, і наогул яшчэ зусім малады. Мне хацелася спазнаваць свет, быць вольным і ні ад кога не залежаць. Хацелася безаглядна радавацца жыццю.

## IV

Пасля таго, як Рытка абвясціла пра сваю цяжарнасць, я шчэ не ведаў, што мне не дадзена самому распараджацца сваім лёсам, што гэтыя абавязкі ўзяла не сябе нейкая вышэйшая сіла, якая дзейнічала па-за маёй свядомасцю.

Я мог толькі фанабэрыцца або, наадварот, хадзіць змрочны і разбіты, быццам мяне выключылі з першага курса ўніверсітэта, і трэба наважыцца сказаць пра гэта маці.

А сказаць пра свае пакуты я не рашаўся.

Прыйшоўшы ў той дзень дахаты, з галавой зашыўся пад коўдру на драўлянай ляжанцы за печчу, быццам ад некага ці ад нечага хаваўся. На двары, за сцяною, усчаўся вятрыска. Ён разгайдаў галлё «пепінкі», што расла на рагу нашай хаты, і ў акно забохкаў невялічкі, з тэнісны шарык, яблык. Гэта раздражняла мяне, і я сарваўся з

ляжанкі, выскачыў на двор і са злосцю ірвануў недаспелае гарэзлівае стварэнне.

І толькі калі ўкусіў яго - засмяяўся. Я паспрабаваў уявіць сабе, як выглядаў толькі што збоку: выскокваю, як ашалелы, з хаты, кідаюся на беднае, ні ў чым не вінаватае яблычаня, упіваюся ў яго, вылупіўшы вочы, зубамі, як у заклятага ворага.

Праўду кажуць: ад трагічнага да смешнага - адзін крок.

З поўдня на вёску насоўвалася чарнюшчая, нібыта размешаная з фіялетавай акварэллю сажа, хмара.

- Сынок, памажы качак у хлеў загнаць, - паклікала ад канаўкі маці.

Пакуль мы заганялі пісклівае птаства (качка са скрыўленай шыяй па-ранейшаму адным вокам глядзела ў неба, а другім у зямлю, але была добра ўкормленая), зграбалі з бацькам і накрывалі рэшткі сена, памагалі маёй малодшай на год пстрычцы-сястры здымаць бялізну, у сцежку, у драўляны ганак, у бульбоўнік урэзаліся буйныя, як тыя недаспелыя пепінкі, кроплі.

Калі дождж ашалеў не на жарт, я ўжо стаяў ля акна і таропіўся ў шыбіну, забыўшыся пра ўсё на свеце, нават пра Рытку, якая апошнім часам не выходзіла з маёй галавы ні днём, ні ноччу. Я склаў і тут жа дэкламаваў уголас, вершык:

Люблю часіну непагоды,
як вёску хваля захлісне.
І, твар насупіўшы, прырода
міргае бліскавіцай мне.
Лісточак рве віхор-свавольнік
з галінкі тонкай у акне.
Я за акном, як той нявольнік.
Пад хвалі б твар падставіць мне.

Вершык атрымаўся нейкі асенні, з адным лісточкам, і я адразу ж забыўся на яго. Цяпер, успамінаючы той час, згадаў яго адразу і да апошняга слоўца.

- Хі-хі, нявольнік.

Гэта сястра не прамінула пакпіць з мяне. Ад яе я заўсёды меў адны непрыемнасці. Што б ні рабіў, яна насміхалася і цвяліла мяне.

- Праўда, скора Рытка Шчурыха зробіць цябе нявольнікам. Ужо ўсё сяло ведае, што яна цяжарная ад цябе. Во пацеха будзе - Рытка з хвастом.

- Ідзі адсюль, дурная, бо як трэсну мухабойкай, дык і прыліпнеш да гэтага куфра (яна сядзела, звесіўшы ногі, на куфры, у якім, між іншым, ляжаў яе пасаг).

Пстрычка пырхнула на кухню. У мяне разбалелася галава і я, не распранаючыся, заснуў трывожным сном на ляжанцы за печчу.

Штораз прахопліваўся, але спаў да самай раніцы. Мяне супакойваў толькі дождж, які, нібы бабка-шаптуха, усю ноч прамаўляў нада мною свае гаючыя замовы-малітвы.

Ранічкою маці зірнула на мяне і затрывожылася:

- Ты бытта нездаровы, сынок. Бач, змаркатнелы зусім, і вочы блішчаць. Каб часам не грып.

- Які яшчэ грып? Улетку.

- Думаеш, улетку грыпу не можа быць? Ён калі хочаш прычэпіцца. Жару няма? - Яна даланёй паслухала мой лоб: - Не, няма.

Пасля ўхапілася за доўгі вільчак і пачала выцягваць ім з печы, з гарачага зіхоткага вуголля вялізны чыгун з вадою. Я ледзь паспеў адскочыць, каб яна не прапарола знянацку мой нічым не прыкрыты бок.

- Дай мо я памагу табе, мама.

Я абгарнуў анучкаю чорную пузатую пасудзіну, перанёс яе ў сенцы і выплеснуў кіпень у цэбар са свінячай мешанню.

У гэты дзень я ўсё рабіў неяк машынальна і бяздумна. Усе мае думкі займала Рытка, яе цяжарнасць, як і маё безвыходнае становішча, магчымы шлюб. Я ўжо змірыўся з тым, што мне давядзецца ажаніцца з гэтай нягеглай, заморанай дзеўкаю, з гэтым, гэтым... брыдкім качанём, бо іначай яна зробіцца ў вёсцы яшчэ большым насмішчам і ўсё жыццё будзе пакутаваць. А я напоўню лік тых, хто гэтыя пакуты памнажае. Яе і без дзіцяці ніхто не возьме замуж, а тым больш з дзіцем.

Мне зрабілася да слёз шкада яе, такую адзінокую і няшчасную, усімі адрынутую і аднаму Богу вядома колькі разоў зняважаную.

Збіраючыся з абеду на спатканне, я цвёрда вырашыў даць Рытцы згоду на шлюб. І нават уяўляў сабе, як засвеціцца ад гэтае навіны яе твар, як пакута і трывога, што пастаянна дрыжаць у яе вачах, у адзін момант ператворацца ў радасць, як на маіх вачах няшчасны чалавек пераўвасобіцца ў шчаслівага.

Ад такіх думак мяне самога ахоплівала шчымлівая радасць, і я здаваўся сабе лёгкім, бы аблачынка. Аднак варта было ўспомніць пра маці, пра тое, як яна адрэагуе на мой намер, радасць як бач лопалася.

І ўсё ж да грушкі я ішоў, поўны рашучасці абнадзеіць дзяўчыну. Мне здавалася, што крочыў не вельмі хутка, а на самой справе ледзь не ляцеў. Дзядзька, з якім я размінуўся, нават гукнуў у спіну:

- Кастусь, дзе пажар?

- Які пажар?

- Я думаў, ты на пажар гэтак грабеш.

- Ат. - Я махнуў рукой і пайшоў не так хутка, а дзядзька ззаду задаволена рагатнуў.

Па ўтравелай сцежцы ўздоўж пареслай альхою і вербалозам канавы падышоў да мастка з неабкораных бярозавых круглякоў. Вакол усё зелянела, вышараванае цёплым летнім дажджом.

## V

Рытка чакала. Я згледзеў яе, яшчэ не ступіўшы на масток. Адсюль можна было адгадаць, які ў яе настрой.

Рытка вельмі нервавалася. Яна прысядала, зрывала травінку, заціскала ў зубах і зараз жа выплёўвала. Зрывала зноў, кусала, выплёўвала. Выпроствалася, папраўляла кароценькую сукенку так, што мне здавалася, быццам яна выцірае аб бёдры свае кволенькія далонькі.

Мяне яшчэ больш ахапіла шкадоба да яе. Я падышоў і адразу ж узяў яе ручаняты ў свае.

Што гэта былі за ручаняты! Халодныя і безжыццёвыя, як лапкі збянтэжанага птушаняці. Аб тым, што яны жывыя, напамінала толькі ледзь улоўнае трымценне.

- Ну, прывітанне, птушанятка маё.

Я сказаў гэтыя словы неяк па-даросламу, па-бацькоўску. Зусім не так, як іх прамаўляюць закаханыя юнакі.

- Дабрыдзень, Кастусь. - Яна не паднімала на мяне вачэй, глядзела на зробленую кратом купіну каля маіх ног і быццам чакала прысуду.

- Можа, мы прыселі б вунь на грудку?

Рытка, не ўзнімаючы вачэй, згодна хітнула галавой.

Грудок, і праўда, быццам бы прызначаўся для таго, каб на ім утульна сядзелася. Па той бок ад грушы ён пераходзіў у ямінку, і мы селі амаль як на лаўку, засцеленую гусінаю лапкаю, крываўнікам, жорсткаю грудавою травой.

- Рытка, я хачу сказаць... Ты носіш маё дзіця. Значыць... Значыць мы павінны пажаніцца. - Я ўважліва і сур'ёзна зірнуў на яе. І толькі зараз прыкмеціў глыбокі разрэз на яе сукенцы збоку.

Сукенка была не новая, але чысценькая і акуратная, нават сімпатычная. Вось толькі здорава выгаралая: ад зялёнага колеру амаль нічога не засталося. Я нават не здолеў вызначыць, які на ёй некалі быў малюнак. А вось нітка, якою Рытка падрубіла разрэзы, зелянела вельмі ярка. Значыць, яна зрабіла гэтыя разрэзы нядаўна, можа, нават учора. Зрабіла, у гэтым не было ніякага сумнення, спецыяльна для мяне. Помню, мяне яшчэ здзівіла, што яны, тыя разрэзы, былі аж занадта глыбокімі, амаль да пояса, і я міжволі падумаў, чаму з іх не вызіраюць трусікі.

Яна заўважыла мой позірк і паспрабавала неяк прыкрыць аголеныя бёдры, якія падаліся мне не такімі ўжо і кастлявымі, але ў яе нічога не атрымалася.

- Што? - схамянулася дзяўчына на мае словы.

- Ты згодна выйсці за мяне замуж?

Рытка колькі часу ўзіралася ў мяне, вывучала, ці не блазную, а тады прыхінулася да майго пляча ілбом і яе плечыкі сутаргава закалаціліся. Рытка плакала.

Мне трэба было б счакаць, пакуль яна супакоіцца, але я ў тую хвіліну таксама збянтэжыўся і таму перапытаў трэці раз:

- Ну што, згодна?

Замест адказу яна толькі хітнула галавой (гэты рух я адчуў сваёй рукою), шмарганула носам, выцерла даланёй шчаку. Праз хвілінку зірнула на мяне вільготнымі вачыма і прамовіла:

- А ты як думаеш?

- Думаю, што згодна.

- Ну, вядома ж, Кастуська. Я цябе так кахаю.

Тут і мне самы час быў пусціць скупую мужчынскую слязу. Але я стрымаўся.

Не ведаю, колькі часу мы маўчалі зноў, толькі прыкмеціў, што сонца, якое вызірала з-за сакавітай звонкай кроны вялізнай ліпы, паспела схавацца за ёю зусім. Я спытаў:

- Ты да доктара ездзіла?

- Не яшчэ. Скора паеду. - Рытка ўсхліпнула і, як мне падалося, насцярожылася.

- А адкуль уся вёска ведае, што ў цябе ад мяне дзіцёнак будзе?

- Як гэта ўся вёска ведае?

- Так. Мне ўчора сястра сказала.

- Адкуль жа ёй ведаць?

- Я і пытаю, адкуль?

- Я нічога нікому не казала.

У Рытчыных вачах чыталася шчырае здзіўленне, і я пачаў нават падумваць, ці не прагаварыўся ўчора ў сне. Але ж не, я ніколі не размаўляю ў сне.

- Я ўспомніла. - Рытка вінавата і нават спалохана, як баючыся ўдару, скасілася на мяне. - Я, гэта, калі адчула, што са мной нешта не тое, запыталася ў маткі. Яна мне патлумачыла, што да чаго, і яшчэ спытала, з кім магло здарыцца... Ну, сам ведаеш, што. Я і сказала, што з табою.

Я добра ведаў Рытчыну маці. Яна крыху дурнаватая і любіць закінуць за каўнер, як і бацька. Маты гне лацвей за любога мужыка. Калі яе зачапіць, будзе праклінаць на ўсю вёску тры дні. Паверыць Рытцы, што яе маці разнесла паведамленне пра цяжарнасць па ўсёй вёсцы, гэта тое самае, што назваць белае белым, а чорнае чорным.

Я ніколі не кпіў з гэтай жанчыны, але заўсёды недалюбліваў, а цяпер нават узненавідзеў. Рытку ж мне было шчыра шкада. Мне так хацелася, каб у яе жыцці было хоць трошачку болей святла.

## VI

Пакуль я «кахаўся» з Рыткаю, пакуль мы назіралі з ёю, як паважнецку няспешна апускаецца за высокую калгасную зернесушылку агромністае чырвонае сонца, дома ў мяне выспявала навальніца.

Пстрычка-сястра высачыла, з кім і дзе я баўлю час, і нават расказала маці, што Шчурова Рытка цяжарная ад мяне.

Калі б я адразу пасля такога паведамлення з'явіўся перад яе вачыма, яна, напэўна, забіла б мяне сваім цяжкім зашмальцаваным пярэднікам. Але я з'явіўся пазней, і маці біла мяне словамі:

- Я табе казала, каб не бачыла больш з гэтым шчуранём праціўным? Казала?

- Ну, казала.

- Не паслухаў мяне?

- ...

- То для цябе што маці кажа, што сабака брэша, адно і тое ж, га?

- Не, не адно і тое ж.

- Чаму ж тады не паслухаў мяне?

- Я і не хадзіў да яе.

- А грубая яна ад каго?

- Я на вяселлі тады напіўся і не помню нічога. А прачнуўся ў Шчуроў у хляве, на сене. Рытка сказала, што тады і... Ну, гэта самае...

Маці як бач змяніла тон і ўжо накідвалася больш не на мяне, а на Рытку.

- Не вер. Не вер, кажу табе, ёй. Маніць, як ёсць маніць, сучка. Ёй замуж свярбіць, дык і лезе без мыла, куды не трэба. Точна нічога не помніш?

- Кажу ж, не помню. Калі б помніў, хіба ж я...

- Такое нельга не помніць. Гэта табе не па-лёгкаму за хлеў схадзіць. Значыць - не было нічога. Успомніш маё слова - не грубая яна ніякая. А калі й грубая, то чаму ты бегаеш да яе, як прыручаны цюцька, чаму нос па зямлі валочыш, што я ажно пра хваробу падумала? Чаго ты мітусішся? Няхай яна думае. Мо не тваё гэта, мо хто іншы дабег. Адкуль табе ведаць? Э-эх, дурань! Яна цябе водзіць за нос, а ты, як той баран, і ходзіш следам. Ты ж хлопец, табе пра гэта не трэба думаць. Хлапечая справа вядома якая. Кінь і забудзь яе! Хай сабе гадуе на здароўе, хай выкручваецца, раз такая хітрая, раз сама падлезла.

- А калі ўсё ж маё? Да яе хлопцы і блізка не падыходзяць.

- Яшчэ раз кажу табе: калі і тваё, дык што з таго?! Сама вінаватая. Дый няхай паспрабуе хто дакажа, што тваё. Забудзь і ўсё тут.

- Не, мама. Калі маё, не пакіну.

- А Божачкі, трэба ж быць гэтакаму ўпартаму. Паспрабуй толькі мне яшчэ хоць раз спаткацца з гэтай выдрай нахабнай, я цябе і ў хату не пушчу. Ты бачыў, якую Гаткін крывуляка ў хату прывёў? Пастухом у калгасе, а жонку ўзяў і багатую, і паглядную. Яшчэ раз кажу табе: пойдзеш да Шчурыхі, так і знай - з хаты вытуру. От, скажы ты, парода дурнаватая...

І маці злосна забраскатала кастрюлямі.

«Даўся ёй гэты Гаткін пераростак...» - Я апусціўся на ўслончык, на якім маці звычайна чысціць бульбу, а бацька паліць і пыхкае ў расчыненыя дзверцы нізенька пасаджанай грубкі. Пасля матчыных слоў мне было пра што падумаць.

«Гм. Дурань. Не, мама, я не дурань! І дзіця тут ні пры чым. Калі б яго і не было, то пасля сустрэч з Рыткаю мне ўжо зрабіўся не абыякавы яе лёс... Тут нешта іншае, нейкая шкадоба, нібыта нехта топіцца ў багне, а ўсе стаяць чысценькія, чысценька апранутыя і баяцца лезці ў бруд ратаваць бедачыну, каб не запэцкацца. А табе здаецца, што калі ты не кінешся на дапамогу, то ніхто іншы гэтага не зробіць і чалавек захлынецца тванню.

А яна, і праўда, ў пагардлівых позірках людзей, у кпінах аднагодкаў, у здзеклівых мянушках усё адно як у той багне».

Я сядзеў на ўслончыку і, абшчаперыўшы рукамі галаву, пакутаваў. А ў той самы час людзі займаліся справамі куды важнейшымі.

Сусед ставіў зруб новай хаты, бабулькі і маладзіцы сядзелі на лаўках уздоўж адзінай на ўсю вёску вуліцы з кійкамі і пруцікамі і чакалі з пашы кароў, каб, загнаўшы ў хлеў, зараз жа выціснуць з іх усё малако, якое яны па травінцы збіралі цалюткі дзень (не выключана, што яны якраз гаварылі пра Рытку і яго, Кастуся), хто зграбаў, а хто падварушваў сена, далёка за брыгадным дваром, у процілеглым баку ад малінавага ляску, гулі камбайны, хтосьці лавіў, нібы карасёў у мылкай вадзе, агуркі пад густым шырокім лісцем, выбіраў у прыпол чырвоныя і зеленкаватыя памідоры, яшчэ нехта заўзята пілаваў бензапілою дровы, так што ажно ў хаце было чутно дрыготкае занудлівае выццё...

Кожны займаўся нейкай важнай, надзённай справай. Толькі я сядзеў і нічога не рабіў. Бо хіба можна назваць работаю нейкія там пакуты?..

Гэтак я меркаваў тады. Цяпер мае погляды некалькі памяняліся.

Не жадаючы заставацца ўбаку ад насычанага клопатамі вясковага жыцця, я ўсхапіўся і пачаў насіць з калодзежа ў выварку ваду, каб напілася карова, якая вось-вось вернецца з пашы.

Такім чынам я пакутаваў і працаваў адначасова.

Мне то карцела кінуць вядро і зараз жа бегчы да Рыткі за тлумачэннямі, каб яна гэтае ж хвіліны даказала мне: маё дзіця яна носіць ці чыё іншае і ці было ў нас што-небудзь увогуле, то хацелася нагаварыць брыдкасцяў маці, якая мяне не зразумела, то я гатовы быў раптам наогул сысці з хаты і ніколі сюды не вяртацца, то зноў на мяне навальвалася хваля пяшчоты, і мне хацелася шкадаваць і маці, і Рытку.

Я нават падаіў нашу пярэстую Зорачку. Выліў малако ў высокую бляшанку з кранікам і даўгім шкельцам-ілюмінатарам, а рэшту ў глечык. Глечык паставіў на падаконнік, сагнаўшы з агрызка салодкага яблыка рой мух. Мухі ўзвіліся нада мною, нібы карлікавыя крумкачы. Настрой зноў сапсаваўся. Я схапіў агрызак і шпурнуў у сенцы, у цэбар са свінячай мяшанкай.

Пасля апусціў «бляшанку» з малаком у глыбокі калодзеж, з якога патыхала ўсяленскім холадам. Я глядзеў уніз, у чорную прорву, дзе яшчэ разыходзіліся кругі, і адтуль, з гэтай круглай вільготнай шахты, якая дыхала свежасцю, на мяне быццам бы сыходзіла сіла Сусвету.

Супакоены і ўраўнаважаны, я вярнуўся ў хату, узяў кнігу, разлёгся з ёю на ўзмежку пад сліваю. Па тым, колькі вакол яе вытыркаецца з травы кволенькіх «слівянят», можна было меркаваць, што гэтае дрэва - маці-гераіня.

Я адгарнуў кнігу на тым месцы, адкуль вызірала замест закладкі бібліятэчная картка:

«Частка другая. Раздзел 19. Маргарыта.

За мной, мой чытач! Хто сказаў табе, што няма на свеце сапраўднага, вернага, вечнага кахання? Хай адрэжуць ілгуну яго мярзотны язык!»

Я закрыў кнігу. Нават яна напаміналаа мне пра Рытку, пра маю (мне ўжо здавалася, што яна мая, што толькі я магу быць адказным за яе далейшы лес) Маргарыту.

Можа, Рытка кахае мяне так, як Маргарыта кахала свайго майстра? Я задаваў сабе гэтае пытанне і адчуваў, што яно недарэчнае. Там нешта рамантычна-містычнае, а тут... тут нейкая беспрасветная проза жыцця. Найперш трэба разабрацца з самім сабою. Чаму Рытка заняла ў маім жыцці гэтулькі месца? Таму, што носіць маё дзіцё? Не, нічога не змянілася б, калі б і не было яго. А мо яшчэ і няма, можа, матка казала праўду. Тады, на вяселлі, яна зацікавіла мяне, бо самаю няшчаснаю была з усіх запрошаных дзяўчат. Цяпер, пасля гэтых сустрэч, пасля ўсяго, што я ведаю пра яе жыццё, пра яе пакуты, пра бясконцыя насмешкі й кпіны з яе ды ейных бацькоў, яна завалодала мною, самая непашэнтная ў нашай вёсцы. Пэўна, так яно і ёсць. Ну, не глыбокім жа разрэзам яна заманіла мяне ў свае сеці. Смех адзін з гэтых яе разрэзаў. Калі ўжо Анжэліка не змагла...

Я ўзгадаў Анжэліку, сваю аднакурсніцу, якая прыгажэйшая за ўсіх дзяўчат на курсе разам узятых.

Нябесна-светлая, з лёгкай, мілай усмешкай і такой жа лёгкай хадою, з пяшчотным і мяккім характарам, з фігуркаю, якой пазайздросціла б любая манекеншчыца... Мы заўсёды сядзелі разам за сталом у аўдыторыі. Я рабіў за яе ці дапамагаў рабіць практычныя работы, кантрольныя, курсавыя. А яна не саромелася цмокаць мяне ў шчаку проста на лекцыі, на што я адказваў замілаваным паглядам. То былі больш чым пацалункі: мне ўяўлялася, гэта анёл дакранаўся да маёй шчакі сваёй бязважкай мяккаю мантыяй, абдаючы ўсяго мяне нечым незямным.

Неяк мы сядзелі ўдваіх на ложку ў інтэрнацкім пакоі. Была ноч. Нашыя рукі спляліся. Вялізныя і грубыя з мяккімі і далікатнымі. Гэтымі ручанятамі яна абвіла маю шыю і пацягнула, упэўненая ў маёй згодзе, некуды ўніз, на дно, на ледзь акрэсленую пляму-падушку, якая свяцілася ў цемры. Што я сказаў тады? Я сказаў: «Анжэліка, давай пасядзім і памаўчым, іначай мы парушым прыгажосць». І мы сядзелі і

маўчалі. Мне здавалася, што большай блізкасці, чым такая, у людзей няма і быць не можа.

Не ведаю чаму, але цяпер мая казачнай прыгажосці Анжэліка зусім не займае і не хвалюе мяне. Можа, таму, што яна не пакутуе? Яна, відаць, тады проста хацела разлічыцца са мною за дапамогу? Але для мяне такой платы не існуе. Няхай бы яна навучылася адчуваць, калі я пакутую і тады прыходзіла і суцяшала. Хоць бы адной сваёй прысутнасцю. Мяне б гэта задаволіла.

Анжэліка на такое была не здольная. Яна так і не пасялілася ў маёй душы. А Рытка жыве ўва мне, як тады, увесну, жыло скрыўленае качаня.

## VII

І вось настаў дзень, калі я аб'явіў Рытцы, што ўрэшце ўгаварыў сваіх бацькоў, каб яны далі згоду на наш шлюб. І хоць гэтая згода суправаджалася некаторымі, выстаўленымі маткаю, умовамі, я не надаваў ім вялікага значэння.

А між тым Рытку гэтыя ўмовы вельмі ўстрывожылі. Асабліва адна: маці паабяцала даць сваё блаславенне толькі ў тым выпадку, калі дакладна ўпэўніцца, што Рытка цяжарная.

Гэтая наша размова адбывалася недзе напрыканцы жніўня, спякотнага і сухога ў тым годзе. Ад усюдыіснага сонца, якое знаходзіла людзей і засмажвала жыўцом нават у цяньку, паратунак можна было знайсці толькі ў вадзе. І мы амаль цалюткі дзень плёскаліся ў недалёкай сажалцы, якая па форме нагадвала ліст гарлачыка, але на водным люстэрку якой ніхто ніколі не бачыў ніводнага гарлача. Сажалка месцілася адразу ж за грудком, праз дарогу ад малінавага ляску.

На беразе я не адыходзіў ад Рыткі, а яна ад мяне. Яна не магла нікуды адысці, бо, па-праўдзе, не было куды - ва ўсёй вёсцы, як і па ўсім пляжы, ніводнай сяброўкі або сябра. Да ўсяго, адну яе мог хто хочаш пакрыўдзіць. А мне не хацелася нікуды адыходзіць. Мне прыемна было выконваць ролю Рытчынага ахоўніка. Як толькі мы заходзілі ў ваду і адплывалі далей ад берага, дзе я мог даць добрага нырца, я хаваўся пад вадой, колькі часу сядзеў на дне, а пасля ціха падкрадваўся да яе танюткіх ног, хапаў іх рукамі і цягнуў дзяўчыну на дно. Рытка брыкалася і нязлосна лаялася. Але амаль не смяялася, быццам бы яна зусім не ўмела радавацца. Хутчэй за ўсё, так яно і было. Я пырскаў на яе вадою, але яна не адказвала тым жа, адварочвалася і закрывала твар рукамі, моўчкі чакаючы, калі я перастану прыдурвацца. Мне не падабалася такая гульня ў адны

вароты, рукі апускаліся самі, хацелася хутчэй выбрацца на бераг. Следам за мною цягнулася Рытка.

На беразе я не-не дый кідаў позірк на яе жывот. Прайшло ўжо тры месяцы, нават крыху больш, а ён не тое што не надзімаўся, наадварот, ледзь не прыліпаў да хрыбетні.

У яе была фігура падлетка. Аб тым, што перада мною дзяўчына, можа, нават жанчына, нагадваў хіба толькі яе зялёны купальнік. Зрэшты, і купальнік таксама быў дзіцячы. А грудзей яна наогул магла і не закрываць. Там, дзе яны павінны быць, узвышаліся несур'ёзныя прышчыкі.

Калі мы ляжалі на попельным пяску каля маіх неахайна кінутых джынсавых шортаў і яе акуратна складзенай бляклай сукенкі з глыбокімі разрэзамі, я спытаў:

- Слухай, а табе не пашкодзіць купанне? Я недзе чуў, быццам цяжарным непажадана купацца. Вада, бачыш, якая брудная, і каровы сюды заходзяць.

- Дык жа спякота - не вытрываць.

- Ну так, спякота.

Я распарыўся, здавалася, расплыўся на пяску, як аладак на гарачай патэльні, і ўжо не здужаў павярнуць языком. Мы доўга маўчалі.

Я гладзеў у бясхмарнае неба, і яно здавалася мне абалонкай вялізнага яйка. А мы ляжалі недзе ў самай сярэдзіне гэтай бязмежнай блакітнай лупіны... Ляжалі маленькія, як кузачкі альбо пылінкі, такія нікчэмныя і бездапаможныя ў параўнанні з усёй гэтай неабсяжнай веліччу, і думкі нашыя былі гэтакія ж нікчэмныя і нязначныя. Прынамсі, для Сусвету, ды толькі не для нас.

Я думаў, як разабрацца з будучай жаніцьбай, вучобай ва ўніверсітэце, службай у войску. Яна думала пра сваё. Я хутка даведаўся, што яе трывожыла ў гэтыя хвіліны.

- Кастусь, ты не кінеш мяне, калі я зараз адкрыю адну тайну?

У позірку дзяўчыны было столькі жаху і прыніжанасці, што я паспяшаўся зараз жа супакоіць яе.

- Не, не кіну. Абяцаю.

- Кастусь, ты такі высакародны, такі прыгожы і добры, - я не паспяваў дзівіцца яе красамоўству. - Я ведаю, ты зразумееш мяне. Бо ты лепшы за іншых. Мне так падабаюцца твае твар і цела. Здаецца, нібы твар свеціцца нябесным святлом, а ў вачах больш блакіту і глыбіні, чым у небе. І ты такі дужы, у цябе моцныя і зграбныя, як у сапраўднага мужчыны, рукі...

- Рыта, ты трызніш. Не хачу я слухаць гэтую дурноту. Адкрывай лепш хутчэй сваю тайну.

- Кастусь, я... Я падманула цябе. Я сама не ведаю, як усё атрымалася. Разумееш? Яно неяк само па сабе. Божачкі, як жа мне сказаць? Ты праўда не пакінеш мяне?

- Сказаў жа, не пакіну.

- Я падманула цябе...

- Ну?

- Я не цяжарная ад цябе.

- А ад каго? - я вылупіў на яе затуманеныя стомаю вочы.

- Я наогул не цяжарная.

- Як гэта?

- Ну, так. Я зманіла табе.

- Зманіла? Як... Як жа ты магла, Рытка! - Я ўскочыў. Маю разняволенасць як рукой зняло. - Ты ж мяне на ўсю вёску абняславіла. Ты хоць разумееш, што нарабіла? А я яшчэ і шкадаваў? І матку не слухаў, а яна ж праўда казала: не вер - мана ўсё! Дык куды там, падманшчыцу слухаю, даю за нос сябе вадзіць...

- Кастуська, мілы, пачакай! - У яе голасе, набрынялых слязьмі вачах, ва ўсёй постаці, рухах было столькі мальбы, што мне раптам перахацелася крычаць і папракаць дзяўчыну. Яна нагадвала сціснутую спружыну, якая, калі я не выслухаю яе, так і застанецца сціснутай.

- Кастуська, я... Я тады, помніш, на вяселлі?.. Я з-за цябе розум страціла. Ты адабраў у мяне розум. І я хадзіла як ачмурэлая. І не магла ні есці, ні піць, а ўсё сачыла за табою. Ты піў і піў, захмялеў і вельмі весяліўся. І песні спяваў, і жартаваў, а пасля выйшаў за хату, прысеў, абапёршыся спінаю аб сцяну, і захроп. Ніхто не заўважыў, калі і куды ты пайшоў, а я высачыла. Я выскачыла адразу ж за табою і пачала паднімаць цябе. Але не падужала, ты цяжкі. Тады я раскатурхала цябе. Ты падняўся, і я павяла цябе, узяўшы пад руку, у хлеў. Ты ішоў з заплюшчанымі вачыма, пасля, у хляве, ледзь не ўпаў з драбін, але ж адолеў і іх. Я падаслала куртку, і ты бухнуўся на яе, як нежывы. І захроп. Я ляжала побач гадзіну ці дзве. Са мною рабілася нешта такое, чаго я ніколі да гэтага не зведвала. Твая кашуля вылезла са штаноў і адкрыла жывот. Ён мне свяціўся ў цемнаце. Я сцярожка пагладзіла яго, але тут жа чамусь спалохалася і паспяшала пакінуць цябе, пабегла ў хату. Кастуська, гэта я ўсё незнарок. Гэта як у сне. Кастуська, мілы, не кідай мяне, я ж трошачкі падабаюся табе, праўда (?), інача ты б не запрашаў мяне на танец?..

У гэты момант я не мог не хітнуць у знак згоды галавой і не прамовіць супакаяльнае: «Канешне, дзяўчынка мая». А Рытка ўсё не спынялася, усё гаварыла і гаварыла:

- Кастуська, я згіну без цябе. Мне абрыдлі і мае бацькі, і вёска. Калі ты адмовішся ад мяне, я ўтаплюся або яшчэ што з сабой зраблю. Матка з бацькам як зап'юць, мне хоць з хаты ўцякай. І абзываюцца, і таўкуць. А гаспадарка большая, чым у нармальных людзей - і карова, і свінні, і качкі, і куры, і індыкі... І ўсё на мне, усё на гэтых нядужых руках. Я на вуліцу баюся выходзіць, бо мне сорамна, бо з мяне ўсе смяюцца, паказваюць у мой бок пальцамі. А хіба ж я вінаватая, што ў мяне такія бацькі, што нарадзілі мяне такою кволаю... Кастуська, я ўсё зраблю, каб яшчэ больш табе спадабацца, толькі выцягні мяне з гэтага пекла.

Рытка яшчэ ніколі гэтак многа і захоплена не гаварыла. Звычайна яна была стрыманая, нават зануддівая, і ад яе заўсёды патыхала невылечнай, хранічнаю самотай. Я, чалавек упэўнены і жыццярадасны, адчуваў ад гэтага дыскамфорт. Але я ведаў Рытчына становішча, і ўсё спісваў на яго. Цяпер яе нібы падмянілі. І гэтаму былі важкія падставы: у гэты момант рашаўся яе далейшы лёс, рашалася пытанне жыцця і небыцця.

А Рытка ўсё плакалася:

- Цукар увесь у брагу ўкінулі. Чай няма чым засаладзіць. І чаю няма. За што мне яго купіць? Я то маліну, то чабрэц заварваю... Людзі вунь на камбайнах горы зерня зарабляюць, а мне скора не будзе што курам сыпнуць. Каб не зелле, свінні з голаду паздыхалі б. І на людзі мне няма ў чым выйсці. Іншая на маім месцы занепакоілася б, што не расце ні ўшыркі, ні ўгару, а я вунь ра-а-адая, бо магу нацягнуць на сябе школьную сукенку, якую яшчэ ў шостым класе апранала. Што б я іначай адзела?

Рытка ўсхліпнула, закрыла ручанятамі твар, і яе вострыя плечыкі сутаргава закалаціліся. Помню, я тады міжволі падумаў, што дакладна гэтак плачуць малыя хлапчукі, калі на іх нізашто накрычыш або адлупцуеш.

Пакуль яна плакала, я меў час уважліва агледзець сваю маленькую нявесту. Раней я неяк і не прыкмячаў, што яе кволыя пальчаняты пакрыты тоненькаю сетачкаю чорных нязмыўных трэшчынак (з кожным годам яны будуць глыбець і глыбець), што пазногці ў яе пагрызены, што да дрыготкага яе плечука прыляпілася, нібы абшыты аксамітам гузік, вялізная рудая радзімінка. Яна таксама ўздрыгвала. На левай назе, дзе яна пераходзіць у бядро, зелянеў

жахлівы, велічынёй з талерку, сіняк. Пазней Рытка расказала, што яе моцна сцебанула капытом карова...

- Кастуська, мілы, я вельмі баялася згубіць цябе. Мне ўвесь час здавалася, што калі згублю цябе, то згублю і сябе. Таму зманіла... Бог не хоча памагаць мне і ніколі не памагаў, хоць я і не заслужыла гэтакай абыякавасці з яго боку. Дзіцёнкам была бязгрэшнаю, але Бог усё адно адвярнуўся ад мяне. То чаму я павінна баяцца Яго? Не, я перад Богам меней грэшная, чым Ён перада мною. Я перад табою толькі грэшная, у цябе і прашу літасці і даравання. Ты ж даруеш мне, праўда, Кастуська? Ну, праўда, даруеш?

Я ніколькі не сумняваўся, што гэтым разам яна была шчырая са мною да апошняга слоўца. І калі ўва мне яшчэ заставалася якая дробачка злосці, гэтая шчырасць дарэшты выветрыла яе. Больш таго, яе спакутаваны выгляд нават расчуліў:

- Дарую. Супакойся.

Іншых слоў я не знайшоў. Ляжаў і глядзеў туды, дзе за вясковымі прысадамі пачыналася неба. Адтуль, з-за гэтых прысадаў, выпаўз маленькі бліскучы жучок. Пасля да слыху данеслася яго магутнае гудзенне. Жучок марудна, але настойліва пасоўваўся наперад, пакідаючы ззаду доўгі белы хвост і разразаючы вострым, як іголка, носам незварушную блакітную скарлупіну на дзве часткі. Мы, магчыма, ляжалі б, занятыя сабою і небам, яшчэ доўга, але ззаду мяне гукнуў суседаў малы. Размахваючы рукамі і захлынаючыся слінаю, ён расказаў, як агромністы карп павалок на сярэдзіну сажалкі ягоную вуду:

- Я зірнуў, а вудзільна па-а-аплыло. І я - за ім, па-а-сабачы. Схапіў. А яно вырвалася. А я нагамі да дна... А дна няма...

- Сядзі тут. Добра, што вырвалася, а то не ты карпа, а карп цябе злавіў бы.

Я ступіў у ваду. Ля самага берага пляскаўся мой аднагодка, ахрышчаны ў школе Кепкаю з-за прычоскі, якая і праўда нагадвала гэты распаўсюджаны ў вёсцы галаўны ўбор.

- Кепка, а ты чаму не памог?

- Я не даплыву туды, - і ён угнуў галаву, каб не атрымаць традыцыйнага плескача.

Вудзільна было ўжо ледзь не на сярэдзіне азярца. Яно тузалася, паднімалася таўсцейшым канцом угару, супакойвалася, зноў пачынала гарэзаваць.

Калі я, падплыўшы, плаўна пацягнуў вудзільна да берага, рыбіна чамусьці не ўпарцілася. Відаць, за гэтыя хвіліны яна добра прымарылася. Праўда, потым яна нібы апамяталася і ледзь не вырвала ў мяне з рук арэхавы прут. Я даў ёй паўзбрыкваць, пачакаў, пакуль

супакоіцца, і павалок далей. Вось я ўжо па жывот у вадзе, па калені, па лыткі. З вады вынырнула гарбатая чорная спіна. Карп віхлянуўся ўправа, затым улева, а тады перавярнуўся на бок і, нібы маторка, разразаючы і ўспеньваючы ваду, кінуўся па водмелі за мною наўздагон. Я асцярожна вывалак рыбіну на пясок, загадаў маломy, каб моцна трымаў вудзільна, а сам наматаў на руку леску паміж паплаўком і грузілам і павалок здабычу далей ад вады, на траву.

Вакол рыбіны сабраўся натоўп цікаўных. Яны цмокалі языкамі і зайздросцілі мне і маломy. Карп меў добрых паўметра і цягнуў ніяк не менш як на пяць кілаграмаў.

- Бяры, Косцік, сабе. Каб не ты, я і вуду страціў бы.

Я пасміхнуўся на тое, якім няўпэўненым голасам была зроблена прапанова, і адмовіўся.

- Засмажыш - прынясеш пакаштаваць.

Малога задаволіў мой адказ, і ён узяўся даставаць з вялізнага круглага рота рыбіны глыбока заселы кручок.

Тым часам Рытка збегала ў кусты і выйшла адтуль у сукенцы і з купальнікам у руках. Народ разышоўся хто-куды, і пляж зноў сціх.

Вяртаючыся ў вёску, я зірнуў на глыбокі разрэз Рытчынай сукенкі, з-пад якога вызірала белае, мала кранутае загарам сцягно, і пацікавіўся напаўжартам:

- Рытка, ты, гэта, зусім без?.. Ну, ты хіба зусім голая пад сукенкай?

Рытка засмяялася надзіва весела і разняволена (наогул, уся яна здавалася як ніколі лёгкаю і вольнаю) і падняла з майго боку выцвілы падол. Бядро апярэзваў тоненькі матузок, а тканіна закрывала толькі самае-самае.

Я збянтэжыўся. Не чакаў, што Рытка можа насіць такое - як у бессаромных фільмах артысткі.

- Для цябе, Кастусь, купіла. Знарок. Я, калі ў хаце заводзяцца грошы, частку прыхоўваю, каб старыя не ведалі. У мяне ёсць надзейная схованка - ніхто не знойдзе.

- Нашто табе збіраць грошы?

- Спачатку на чорны дзень збірала. Вось бачыш, спатрэбіліся, на трусікі адшчыкнула.

Я падумаў: «Дзівачка, што мне твае трусікі».

А яна шчабятала. Упершыню, колькі я з ёю сустракаўся, яе голас можна было назваць шчабятаннем. Відаць, выплакаўшыся і нагаварыўшыся, яна адчула палёгку. Нібыта нават папрыгажэла.

- А астатнія... - не супакойвалася мая ўзрушаная спадарожніца, - астатнія я берагу для нас з табою. Калі пажэнімся, тады і распарадзімся імі.

- Тады што, настане «чорны дзень»?

- Ды не, гэта я збірала на «чорны», а спатрэбяцца яны якраз на «светлы».

- Гм, стратэ-э-эг.

- А як жа. Грошы нам з табою ой як спатрэбяцца!

- Я пра гэта неяк і не думаў.

- А я толькі пра гэта і думаю.

Я тады не разумеў, што Рытка была прадстаўніцай зусім іншай, чым я, чалавечай пароды. Яе шчабятанне здавалася мне папросту наіўным і смешным, і я не звяртаў на гэта асаблівай увагі.

## VIII

Жнівень спаліў лета.

І яно знікала, як знікае ў вогнішчы ламачча.

1 верасня мне трэба было ехаць на вучобу. Але я не паехаў. І гэтаму, як мне здавалася тады, былі сур'ёзныя падставы.

Па-першае, мы з Рыткаю дамовіліся аб дні нашага шлюбу. Ён павінен адбыцца 29 верасня, і трэба было спешна рыхтавацца да вяселля.

Па-другое, Рытка, якая аказалася вельмі кемлівай і практычнай у пытаннях чыста жыццёвых, пераканала мяне, што для нашай будучай сям'і будзе лепш, калі я пакіну ўніверсітэт, уладкуюся ў адзіную ў нашым раёне будаўнічую арганізацыю, дзе працуе галоўным інжынерам яе далёкі сваяк і дзе можна атрымаць свой кут, а пасля войска паступлю на завочнае аддзяленне якога-небудзь будаўнічага або політэхнічнага інстытута і пры дапамозе сваяка, можа, выб'юся ў якое-небудзь начальства. Адным словам, перспектыву яна вымалявала перада мною простую, як усё геніяльнае, надзейную і выгодную з усіх бакоў.

Рытчын план задаволіў нават маю прыдзірлівую маці. Яно і праўда - што мяне чакае пасля філфака? Работа настаўніка? Цяжкая, няўдзячная, а галоўнае - яна не абяцала надзейнага прытулку. Праўда, як мне здавалася, я прырос да філфака сэрцам і душою, і раз'яднаць мяне з ім азначала рэзаць па жывому... Але мне ж трэба было думаць ужо не столькі пра сябе, як пра сям'ю. І я, перасіліўшы сябе, урэшце прыняў-такі Рытчыны правілы гульні. Будучы невыpraўным рамантыкам, бачыў я сябе добрым чараўніком, які

дапамагае пакрыўджаным, няшчасных робіць шчаслівымі, усталёўвае на зямлі справядлівасць.

Праўда, я не надта ўсведамляў, што раблю, дый не мог мераць свае ўчынкі тымі меркамі, якімі мераю іх цяпер. Занадта яны розныя, у юным узросце размытыя, зменлівыя, бясформныя, пра якія здагадваешся падсвядома, а ў сталасці - дакладна акрэсленыя, як рэальныя прадметы.

Была і трэцяя прычына, па якой я не паехаў працягваць вучобу. Яна мела прамое дачыненне да службы ў войску.

- Ну навошта мне зараз той універсітэт, - пераконваў я матку, - каб праз два месяцы пакінуць яго і пайсці ў войска? Адслужу, тады і працягну вучобу з другога курса, з самага пачатку. І да вяселля ж трэба неяк рыхтавацца.

Маці згаджалася. Толькі змірыцца з тым, што нягеглая Рытка будзе маёй жонкай, усё ж не магла, і цэлымі днямі хадзіла спахмурнелая і нервавалася з-за любой драбязы. І ўсё нагадвала мне пра Гатчынага хлопца, які ў сто разоў разумнейшы за мяне, бо ўзяў жонку багатую і прыгожую.

Я неўпрыкмет звыкся з гэтымі яе папрокамі і ўжо не звяртаў на іх ніякай увагі.

* * *

Мы згулялі з Рыткаю вяселле, я ўладкаваўся мулярам у будаўнічую арганізацыю, якая мела назву «Філіял будаўнічага ўпраўлення № 13». Нам адразу ж выдзелілі пакойчык з кухняю ў аднапавярховым драўляным доме-бараку, у якім жылі яшчэ дзве сям'і. Адслужыў два гады ў дэсантных войсках, паступіў у інжынерна-будаўнічы інстытут...

План маёй празарлівай палавіны дзейнічаў бездакорна.

## Частка другая.
## КАТЭДЖ

### IX

Жоўтая, з аранжавымі суквеццямі, штора ў адзіным нашым пакойчыку ўрачыста ўспыхнула. Гэтак жа ўрачыста ранішняе сонца, што вынырнула з-за суседняга двухпавярховіка, асвяціла новыя ярка-чырвоныя дываны на сцяне і падлозе, шафу з кнігамі і посудам за шклянымі дзверцамі, мяккі фатэль і Рытку ў ім, карціну на процілеглай ад акна сцяне, на якой маслам напісаны партрэт усёй нашай сям'і (мяне з тварам добранькага дзядзечкі, засяроджанай

Рыткі, паўтарагадовай Светкі ды пяцігадовага Сяргея. Светка смяялася і іскрылася вачамі, а Сяргей быў насуплены). Палатно пісаў мой сябра, мясцовы мастак.

Урачыстасць дапаўнялася бесклапотным дзіцячым смехам за сцяною, на кухні. Там наша малеча смакавала вішні, якіх Рытка налавіла ім у трохлітровым слоіку, з кампоту, цэлую міску.

Была нядзеля. Пагодлівая, асляпляльная, непаўторная лютаўская нядзеля.

Я рассунуў шторы, і на падлогу ўпалі цёплыя жоўтыя пліткі.

Рытка заварушылася, падабрала пад сябе ногі і цяпер ужо, здавалася, зусім урасла ў фатэль. Яна засяроджана габлявала пазногці тоненькім бліскучым напільнічкам, час ад часу выцягвала перад сабою руку, ацэньвала, што атрымліваецца. У вачах яе ўспыхвала нешта падобнае да натхнення, і яна яшчэ з большаю ахвотаю, падабраўшы вусны, шаргацела сваім няхітрым інструментам. Побач, на падлакотніку, ляжаў разяўлены футаральчык. З ягонай пашчы вызіралі нажнічкі, пінцэт, іншае манікюрнае начынне, і стаяла мініяцюрная бутэлечка з перламутравым лакам.

Назіраючы за Рыткаю, я міжволі прыгадаў дашчэнту з'едзеныя пазногцікі з наліплай на іх свінячай мешанню той, самотнай, зацкаванай Рыткі-падлетка і нечага расчуліўся, моўчкі радаваўся, што цяпер яна жыве не горш, а можа і лепш за сваіх насмешнікаў, што ўжо ніякае яна не «брыдкае качаня». Яе плечыкі і бёдры акругліліся, пасля родаў папаўнеў, пасвяжэў тварык. А пафарбаваныя ў каштанавы колер, распушаныя валасы даўно не выклікалі асацыяцый з паскубаным куранём.

- Ты ўсё прыгажэеш, Рытка. - Я сказаў тое, пра што думаў. - А мне нечага якраз прыгадаліся твае пагрызеныя пазногці...

- О, Божа, Кастусь. Ты думаеш пра мае пагрызеныя пазногці, а тым часам катэдж, які дзядзька Раман «прабіў» для нас, ужо выплывае з тваіх рук. Цяпер самому трэба паварушыцца. Ніколі не думала, што ты гэтакі... гэтакі... зацюканы...

Рытка і раней, бывала, злавалася на мяне, павышала голас. Але каб гэтак...

Даўся ёй гэты ненавісны катэдж.

За горадам, на грудку, наша арганізацыя вывела цэлую вуліцу мураваных двухпавярховікаў. З кацельнямі ў падвалах і балконамі.

Тры ці чатыры з іх павінны засяліць мы, будаўнікі.

Дамы былі размеркаваны да майго ўладкавання ў брыгаду. Гэта пасля дзядзька падкаціўся да начальства, і ў спісе на першачарговае атрыманне жылля з'явілася маё прозвішча. А прозвішча муляра

Булаха знікла. Яму патлумачылі, што, маўляў, адзінокі, можа сяк-так перабіцца і ў інтэрнаце. Ён крычаў, што ўжо дзесяць год чакае, але нікога не пераконваў. Сямейным, ды яшчэ маладым, да ўсяго, перспектыўным, найперш, і ўсё тут.

Булах сто разоў на дзень падыходзіў да мяне і плакаўся, што на катэдж у яго былі ўсе спадзяванні, што ён адразу ажаніўся б, а я ўсё перабіў, паламаў і без таго перакошанае жыццё.

Я ведаў, што ў Булаха ёсць жанчына, і што яны даўно жывуць як муж з жонкаю, толькі не распісаныя. Па чутках, яны і пасля засялення катэджа не збіраліся распісвацца, хоць ён і мае ад яе дзіця.

Я спачуваў Булаху. А сябе суцяшаў толькі тым, што да пераразмеркавання катэджаў не меў ніякага дачынення. Толькі хіба гэта суцяшэнне. Хто б ні размяркоўваў, галоўны віноўнік - я.

У гэты светлы дзень, аднак, не хацелася згадваць непрыемнае. Я нахіліўся над Рыткаю, падзьмуў на яе толькі што налакаваныя даўгія пахучыя пазногцікі.

- Супакойся, у нас яшчэ ўсё наперадзе. А для Булаха гэты катэдж - апошняя надзея. Разумееш?..

Я паспрабаваў цмокнуць яе ў шчаку, але Рытка адвярнулася, падставіла маім вуснам свае валасы.

- Я ўсё разумею. Але ж Булах, калі б ты быў на яго месцы, не падышоў бы да цябе і не сказаў: забірай, Кастуська, маю кватэру, яна табе больш патрэбна.

- Я і не казаў такое.

- Казаў ці не казаў, а Булах памагае ўжо вашым сталярам падлогі насцілаць.

- Памагае, бо мулярам работы цяпер няма. Не ён адзін памагае.

- І якраз на гэты дом яго паставілі?

- Што ж тут дзіўнага?

- Кастусь. - Рытка паспрабавала бразнуць аб падлогу нажнічкі, але тыя застралі на пальцы. - Ты або дурны, або здзекуешся з мяне.

Яна зашмаргнула маланку свайго манікюрнага футаральчыка, адапхнула мяне, задрабніла ружовымі шлепакамі да трэльяжа.

- Ён жа і надвячоркам грымае ў тым катэджы малатком.

- Ты сочыш за ім?

- Сачу. Бо мне не ўсё роўна, дзе будуць жыць мае дзеці. Усім даўным-даўно вядома, што катэдж забірае Булах, а ён упершыню чуе гэта ад жонкі.

- Ён і мне сто разоў казаў, што не саступіць. Але ж спіс не памяняўся.

- Што спіс? Ты, можа, калі і ордэр яму дадуць, калі і мэблю перацягне, на спіс будзеш зырыцца?

- Што ж мне, сілаю той катэдж адваёўваць? Ці хабар каму несці?

- А калі і так. Але ж ты ў нас правільны, маральны. У газетках, вунь, красуешся са сваёй мараллю. А хату хай Рытчын дзядзька «прабівае», няправільны, хабарнік... Во, дай дзецям жыллё, каб не душыліся ў гэтай каморы, калі такі разумнік. Дык ні правільна не можаш, ні няправільна. Што ты маўчыш? Як трэба пабароцца за сваё, то цябе няма.

На крык прыбеглі малыя. Рытка загадала ім збірацца на прагулку. Раней мы заўсёды прагульваліся разам. Цяпер яны пайшлі без мяне.

## X

Тры гады, не лічачы двух, праведзеных у войску, мы пражылі з Рыткаю душа ў душу.

Гэтыя тры гады праляцелі, як адзін дзень.

Я працаваў мулярам і завочна вучыўся ў інстытуце. Часам, калі прыходзіла натхненне, калі нешта моцна ўражвала, папісваў у газеты, або «газеткі», як называла іх Рытка... Тое, што магло стацца прафесіяй, ператварылася ў хоббі.

Рытка была надзіва ўвішная, гаспадарлівая, дарам што з шалапутнай сям'і. Я толькі ўставаў з ложка, а яна ўжо развешвала на двары перад акном бялізну, на кухні нешта апетытна шкварчэла - падаграваўся сняданак (Рытка спярша працавала, а пасля падрабляла прыбіральшчыцай у гарадской сталоўцы, часта прыносіла напакаваную прысмакамі - катлетамі, галубцамі, рыбаю - торбу). Я ўжо звыкся: сённяшняя страва ў яе ніколі не паўтара ўчарашнюю, а заўтрашняя не будзе падобная да сённяшняй.

Рытка ўпырхвала ў хату, свежая і расчырванелая ад ветру і ранішніх клопатаў, ставіла на стол ежу, паднімала, збірала ў садок дзяцей і ўручала іх, крыху сонных, але чысценькіх і гаманлівых, мне. Садок быў якраз па дарозе на маю працу.

Дворык каля нашай «трохсямейкі» займаў сотак пяць. Ён упіраўся ў абы-як збіты даўжэзны хляўчук з трыма перакошанымі чорнымі дзвярыма і быў страшэнна запушчаны. Якраз пасярэдзіне вялізнай бародаўкай узвышалася гара друзу. Кавалкі парослага імхом шыферу, цэглы, грудак бетону, шкла засталіся тут ад апошняга рамонту дараванага нам не надта зайздроснага, але ж свайго, жытла. Астатнюю прастору займалі густая і высокая, у рост чалавека, крапіва ды здзічэлы маліннік.

У першую ж пасля засялення вясну мы павыносілі смецце і палову дворыка Рытка заняла пад грады. Летам гэтыя грады буялі зелянінаю. Рытка ледзь паспявала марынаваць агуркі, памідоры, кабачкі, завальвала паграбок капустаю, моркваю, буракамі. Паграбка нават не хапала, і я пашырыў яго. Той самы Булах памагаў мне спачатку руйнаваць, а пасля мудраваць пад падлогаю новую сцяну.

Калі паспявалі сады, Рытка ўскоквала на ровар, імчала, абвешаная вёдрамі, у вёску. З лесу валакла чарніцы, маліну, грыбы... У выхадныя да яе далучаўся і я. Да першых замаразкаў мы запакоўвалі ўсё, што толькі можна было запакаваць у маленькай кухні і паграбку варэннямі, кампотамі, марынаваннямі, джэмамі. І ўсё ў Рыткі атрымлівалася смачнае. Мы амаль не траціліся на харчаванне. Наш рахунак у банку рос. Суседзі, нагледзеўшыся на Рытчыны поспехі, таксама спахапіліся, парабілі грады. Мы нават з-за іх пасварыліся: чаму гэта нам на адну сям'ю палова двара, а ім на дзве - столькі ж. Але Рытка не саступіла. Маўляў, калі б не я, вам і цяпер яшчэ крапіва вочы сляпіла б.

Мяне здзіўляла, што Рытка за клопатамі паспявала дагледзець і сябе, і малых, і мяне. Выбіраючыся на пагулянку ці проста на прагулку, апраналася так, што на яе зырыліся мужчыны. А я ў падабраным ёю гарнітуры таксама падабаўся сабе. Мы нават пачалі пагаворваць пра пакупку аўтамабіля.

Мяне ўсё гэта, праўда, не надта спакушала. Проста прыемна было назіраць, як маё «брыдкае качаня» на вачах ператвараецца ў гордую, задаволеную сабою і сваім жыццём, лябёдку. Я нават неяк накрэмзаў вершык, у якім добры садоўнік знайшоў на бясплодным пясчаніку змарнелую вішаньку, перасадзіў яе ў свой квітнеючы сад, даглядаў, яна ўстрапянулася, ажыла, увабралася ў белы вэлюм і пачаставала яго салодкімі пладамі.

Рытка маю пісаніну цярпела, але не цярпела сяброў.

Мастака, што маляваў наш сямейны партрэт, яна і да парога больш не падпусціць. Мала таго, што ў яго валасы сабраныя ў дзявочы хвосцік (гэта недаравальная вольнасць для нашага патрыярхальнага гарадка), дык ён яшчэ, падпіўшы, спрачаецца з Бібліяй, насміхаецца з мястэчковага святара, і наогул нічога святога няма для яго.

- ...Народ! - Ён ускідваў руку, заплюшчваў адно вока (тое было ўлетку, калі маляваў нас, а я надвячоркам частаваў яго на цеснай верандзе, паставіўшы пляшку і зеляніну з кілбасою на лаўку). - Народ не мудры, як ты пісаў. Глупства ты пішаш. Які там у цябе загаловак? «Не плюй у калодзеж, бо сам з яго піць будзеш»?

- Гэта ў рэдакцыі такі прыдумалі, - апраўдваўся я.
- Гэта народ прыдумаў, а не ў рэдакцыі...
- Прымаўка.
- Во, прымаўка. Дурная. Такая, як і народ. І паскудная, як народ. А што, калі піць з яго іншыя будуць, а не ты, то і пляваць можна, га? Чаму не прыдумалі так: «НЕ плюй у калодзеж, бо не адзін ты з яго піць будзеш»? Што, не так, га, не так?.. - І ён вытрошчваў на мяне адубелыя вочы. Праўда, як бач лагаднеў. - Ты, братка, пляваць не будзеш. Твая, можа, і будзе. А ты не. Але я вас усіх напішу. І ні капейкі не вазьму. Толькі з павагі да цябе. Нават калі і не прастаўляцьмеш. Налівай, ды пайду, бо тваю Рытку ўжо чэрці носяць.
Рытка гучна браскацела на кухні посудам.
Ад мяне ён звычайся цёгся ў бліжэйшую забягалаўку і там філасофстваваў далей. Абы з кім.
- Доўга яшчэ гэты алкаш будзе мардаваць нас, - заводзілася, калі той сыходзіў, Рытка, а я супакойваў, што не доўга, які дзень ці два.
Карціна ёй, аднак, спадабалася: «Псіх то псіх, а намаляваў, як жывых».
Часам яе сяброўкі мяне таксама раздражнялі.
Часцей за іншых забягала гаспадарская, прабіўная, уся ў клопатах маленькая кірпаносая Ніна. Яна ніколі не наведвалася з пустымі рукамі. Прынясе ў талерачцы самапечаных зайчыкаў, арэшкаў, кавалачак торта, усім параздае, мы пасмакуем, а яна:
- Ну, як?
Рытка, якая добра разбіраецца ў печыве, замест адказу распытвае:
- Крохкія. Ці не аточыны дабаўляла?
Або:
- Вой якая пухкая булачка. Дрожджы, мусіць, добрыя. Дзе ты ў такія ўкацілася?
Гаманы пра булачкі-пернікі ім хапіла б на вечар, але ж у абедзвюх было поўна іншых клопатаў. І Ніна, нешта дагаворваючы ўжо за дзвярыма, знікала разам з апусцелаю талеркаю ў руцэ.
Калі яны браліся перамываць некаму костачкі, я дэманстратыўна затыкаў пальцамі вушы.
- Суседа вашага, Рытка, бачыла. Учора вечарам. П'яняюшчы. Гляджу, сядзіць на тратуары. Чаго гэта, думаю. А ў яго цыгарэтка выпала з рук, дык сядзеў і лавіў на зямлі... А як лаяўся, як ён лаяўся.
- Вой, а як ён лаяўся дома. З-за сцяны ж усё-усё чутна. Як яна з ім жыве? Я і гадзіны не жыла б. Мой, вунь, без дазволу ні кроплі.

- Добра, што ў цябе паслушны. Маім не надта пакамандуеш. Нажарэцца невядома дзе, і раве, каб есці падавала. І каб не абы што. Каб яму ў горле застрала тое зелле праклятае.

- Твой п'е, ды з толкам. Не пашкодзіла, бачыш, гарэлка і чатыры пакоі адхапіць, і даміну будаваць у прыгарадзе. І вам на старасць будзе жытло, і дзецям. А мой слухаецца то слухаецца, а ні да чаго не здатны. Усё яго панукаць трэба. Катэдж паабяцалі, дык і той зараз во выхапяць з-пад носа. Лічы, на талерачцы паднеслі, толькі трымай мацней. Дык не, усё некага шкадуе. Вучыцца ў інстытуце, а хто яго, гэтакага зануду, хоць бы брыгадзірам, не кажучы ўжо пра інжынера, паставіць? Камандаваць жа зусім не здатны, не тое што твой. У кніжку ўтыкнецца і сядзіць, як пянёк...

І Рытка хіхікае ў далоні, зіркаючы гарэзліва на мяне.

- І так, Рытка, дрэнна, і гэтак, - таксама смяецца, гледзячы на мяне, хітрая Ніна. - А ўсё на нас, жанках, на нашым здароўі адбіваецца.

Мяне раздражняла Рытчына бястактнасць.Пры мне ды пляткарыць пра мяне ўсялякае глупства. Але ж Рытка скардзілася задаволеным тонам, а ва ўсёй яе паставе чыталася пачуццё ўласнай годнасці. Гэтага было дастаткова, каб супакоіцца: Рытцы добра, значыць, і мне таксама, бо, як ні круці, я падарыў ёй шчасце быць вось гэтакай, а не вясковай знэнджанай папялушкай. Астатняе - драбяза.

Да гэтай нашай кароткай сутычкі ў сонечны лютаўскі дзень я нат і не падазраваў, што Рытка здольна па-сапраўднаму крыўдаваць на мяне. Я знайшоў у яе голасе нават нотку пагарды. Упершыню за тры гады. Настаў час сур'ёзна падумаць пра нашыя адносіны, паспрабаваць нешта памяняць у сваіх паводзінах, каб застацца самім сабою ў сваіх і Рытчыных вачах. Але ў гэты дзень, калі Рытка бязлітасна адбрыла мяне, я не здолеў сабрацца з думкамі. Яны мільгацелі, круціліся, як пчаліны рой, і я дарэмна намагаўся ўтаймаваць-упарадкаваць іх.

## XI

Я яшчэ сядзеў на канапе, адкінуўшыся на спінку і сашчапіўшы на патыліцы рукі, як у хату ўвалілася ўсё маё гаманліва-няўрымслівае сямейства.

- Сяргей, распранайся ды сястрычцы памажы, - камандавала Рытка.

- Сама няхай распранаецца, - звонка ўпіраўся Сяргей.

- Ты мяне знаеш, Сяргей, я два разы не паўтараю.

Я вызірнуў на кухню, якая была адначасова і прыхожай, і калідорам.

Мой рослы белабрысы Сяргейка ўжо зваліў на крэсла паліто, шапку, цёплы шэры шарф і турзаў расчырванелую маленькую Светку, спрабуючы садраць з яе кажушок.

- Стой прама і не хістайся, - крычаў і турзаў яшчэ з большаю сілай, а яна быццам і не чула, шморгала носікам і рагатала. Турзанне смяшыла яе.

Рытка сядзела на табурэтцы, адкінуўшыся напалову на сцяну, а напалову на кухонны стол, прытрымлівала рукой пастаўленую на падлогу авоську. Яна толькі паспела расшпіліць свой навюткі заечы паўкажушок. Выпрастала ногі ў пацёртых джынсах, запраўленых у кароценькія, аздобленыя пушыстай аблямоўкай, бліскучыя боцікі на высокіх абцасах. Адпачывала, расчырванелая, як і малыя, прыхінуўшы да сцяны галаву пад чорнаю норкаваю «таблеткай».

- Вох, набегаліся то набегаліся, - прастагнала задаволена.

- Тата, мы на санках з горкі каталіся. А я ўпаў і па-акаціўся. Во, памуляй, які ў мяне гузак. - Сяргей ужо распрануў Светку і кінуў ейную адзежу на сваю.

Я прыбраў усё гэта на вешалку, памацаў ягоны лоб. Гузака не было. Была маленькая чырвоная плямінка.

- Да вяселля зажыве, - падбадзёрыла і сябе, і ўсіх нас, Рытка. - Унясеш, Кастусь, санкі ў хляўчук, бо ў мяне ўжо рукі адвальваюцца.

- ...А мы табе нештачка купілі, - Рытка па-змоўніцку, быццам вінілася за ранішняе, зірнула на мяне, калі я вярнуўся з хлеўчука, і схавала руку ў глыбокай торбе. Яна была ўжо распранутая, у тоўстым блакітна-шэрым швэдары, які паўніў яе. Малыя сцішыліся ў пакойчыку, які ўдзень быў залаю, а ноччу ператвараўся ў спальню. На стале ляжалі бохан хлеба, батон, пакет малака, два яркія аранжавыя апельсіны...

- Мне? - я зрабіў выгляд, што здзівіўся.

- Ага. Тваё любімае. - І яна асцярожна выцягнула з авоські белую, велічынёю з далоню, плітку лукуму, і гэтак жа асцярожна, каб не растрэсці лёгкую пудру на ёй, паклала на стол.

Я падышоў, пацалаваў Рытку ў яшчэ халодную крамяную шчаку.

- Хіба я дзіцё?

- Дзіцё. Яшчэ якое дзіцё. - І яна зноў усміхнулася. Гэтым разам неяк паблажліва, але не без хітрынкі. Павесіла на кручок між дзвярыма і вешалкаю авоську.

- Ты ж сабе нічога не купіла.

- Ты падзелішся лукумам, дзеці апельсінам... Падзелішся?

- Вядома.

Я адламаў кавалачак ліпкага белага месіва, паднёс да яе тоненькіх падфарбаваных вуснаў. Яна не ўтрымалася, чмыхнула носам, каб не засмяяцца. Салодкая пудра ўзвілася над маёй рукой, асела на яе, на рукаў чорнага спартовага касцюма, прасыпалася на падлогу.

Рытка гарэзліва войкнула, схапіла ротам ласунак і нібыта незнарок куснула мяне за палец. Я адхіснуўся.

- Ты хоць мяне не еш. Зірні, як пачырванеў твой укус.

Яна зноў засмяялася, схапіла маю руку, выцерла памаду на пальцы і... мы пацалаваліся. Яе вусны былі ліпкія і салодкія.

Рэштка дня праляцела як адна шчаслівая і светлая хвіліна. Я начыста забыўся пра нашу ранішнюю сутычку.

Вечарам, паласаваўшыся купленымі Рыткаю прысмакамі, мы паразгортвалі фатэлі, паклалі ў іх на чысценькую бялізну малечу, пасля разгарнулі канапу і палеглі самі. Разгорнутая, наша мяккая мэбля займала ўвесь пакой.

Рытчына аголенае цела абудзіла ўва мне такое ж моцнае жаданне, як і ў першыя месяцы пасля майго вяртання з войска. Тады яно тлумачылася, хутчэй за ўсё, не столькі Рытчынымі вартасцямі спакусніцы, колькі маёй двухгадовай адарванасцю ад жаночай ласкі, хаця Рытка ўжо тады прыкметна паправілася і ў ложку забывалася пра ўсялякі сорам, была гарачая і шчодрая на пяшчоты.

Пасля пераезду ў горад мы паводзілі сябе больш стрымана. Рытка зноў зацяжарала, пасля нарадзіла і была цалкам захоплена малымі, асабліва немаўляткам. Я ў першыя месяцы моцна стамляўся на працы, замярзаў на скразняках, але не хварэў! Відаць, выручала армейская загартоўка. Было, словам, не да любошчаў.

І вось тое амаль ужо забытае пачуццё, тая пажадлівая неўтаймаванасць вярнуліся якраз у гэты дзень, які яшчэ раніцаю, здавалася, нічога, акрамя непрыемнасцяў, не абяцаў.

Цяпер, пасля ўсяго, што адбылося між намі пазней, я часта думаю: ці тая нечаканапя абыходлівасць са мною была яе чарговай улоўкай, каб ласкаю падахвоціць мяне вырваць з Булахавых рук «нармальнае жытло», ці ўсё ж яна шчыра вінілася перада мною, таму што кахала? Звычайна схіляюся да апошняга. Я помню яе вочы. Яны наўрад ці манілі.

Зрэшты, жанчына - загадка. Рытчына закаханасць не перашкодзіла ёй, калі я цалаваў яе грудзі і плечы, шапнуць:

- Супакойся, дзеці пачуюць. Вось быў бы ў нас нармальны дом, і хавацца не трэбы было б. - Яна затрымала маю руку на сваім жываце.

- Ты не крыўдуй, што я гэтак табе назаляю. Я - маці. Мне хочацца, каб мае дзеці жылі не горш за іншых, не туліліся ў гэтай сабачай будцы. Дый мы маладыя, і нам патрэбен хоць які камфорт.

- Я разумею гэта не горш за цябе, - прамармытаў я ў самае Рытчына вуха, цмокнуў у шчаку, паспрабаваў вызваліць руку, каб песціць далей цёплае рухавае цела. Яна не адпусціла.

- Не, мілы, я так не магу. Давай спаць.

І яна таксама пацалавала мяне. У вусны. Ейныя былі гарачыя. Здавалася, яны прыліпалі да маіх.

Я быў узбуджаны і бедаваў, што доўга не змагу заснуць, але заснуў надзіва хутка. Затое ўсю ноч плялося ўсялякае глупства. Нібыта між яблынь у бацькоўскім садзе немаведама адкуль узяўся паветраны шар. Сад цвёў вялізнымі белымі суквеццямі, а на зямлі ляжалі пухкія гурбы снегу. Я бег па снезе да шара басанож, у адных трусах. Мне было горача. У карзіне пад шарам сядзела сімпатычная паветраная дзяўчына з рысамі твару той, філфакаўскай Анжэлікі, але нейкая святлейшая і нібыта бязважкая. Я згледзеў яе, калі ўжо наблізіўся да шара.

За мною беглі матка ў ватоўцы і валёнках і Рытка ў кароценькай летняй сукенцы. Матка крычала:

- Кастусь, вярніся, ты замерзнеш! Кастусь, не ўздумай ляцець, загінеш, загінеш...

Я азірнуўся. Матчыны вочы былі поўныя адчаю і разгубленасці. А Рытка стаяла ззаду знябожаная, па шчоках цяклі слёзы, на агаленыя плечыкі апускаліся вялізныя бухматыя сняжыны.

Мне зрабілася шкада іх, я нават ледзь не вярнуўся. Але да карзіны заставалася ўсяго некалькі крокаў, і я кінуўся да яе. Дзяўчына некуды знікла, а замест яе трапятаў яркімі крыльцамі матылёк. Я спудзіў яго, хапіўшыся за борт. Ён закружыў разам са сняжынкамі, таньчыў у паветры...

Матка крычала:

- Кастуська, вярніся на зямлю. А мой ты Кастуська, згінеш там, у халодным небе. Апусціся, сыночак, на зямлю, паглядзі, як тут хараша, нашто табе неба...

Яна плакала, галасіла, цягнула да мяне рукі, парэпаныя чорныя пальцы...

Раптам я ўжо быццам і не я, а матылёк. Мне лёгка. Я лётаю панад квяцістым лугам. Аднекуль мяне паклікаў дзявочы голас, і я ператварыўся ў сябе, у чалавека. Азірнуўся. Перада мною зіхцеў велічны палац, падобны да нашага катэджа, толькі непараўнальна большы. На сцежцы, што вяла да яго, стаяла Рытка. Яе нічым не

прыкрытае цела звівалася ў нейкім дзівосным усходнім танцы. Бёдры, жывот, грудзі, плечы, рукі, галава, нават зрэнкі ў вачах - усё круцілася, торгалася, вабіла да сябе сваёй загадкавасцю. Адплываючы ў танцы назад, да брамы, яна працягнула да мяну руку, падміргнула, нібыта запрашала ісці следам. У яе выцягнутай руцэ з'явілася нешта белае. Я падышоў бліжэй. Яна працягвала мне кавалачак лукуму. «Ці не сон гэта?» - падумаў я ў сне. А ўжо перада мною не Рытка і палац, а вялізная сетка-павуціна, пасярэдзіне якой сядзіць павук. А я нібыта зноўку не я, а матылёк, і лячу, не маючы сілы супыніцца ці куды звярнуць, проста ў гэтую сетку...

Плялося нешта яшчэ, але астатняе амаль не помнілася. Ранкам я пачуваў сябе не выспаным. Расказаў першы сон Рытцы (пра другі змаўчаў, каб не пакрыўдзіць). Яна заключыла: нядобра, калі сніцца адначасова снег і квецень. Каб часам на рабоце якіх непрыемнасцей не было.

Я ў сны не верыў, і Рытчыну перасцярогу пакінуў без увагі.

## XII

Калі снег сышоў і сонца падагрэла зямлю, я адпрасіўся на тыдзень з работы, паехаў у вёску. Трэба было памагчы бацькам ускапаць грады, паставіць цяплічку. Рытка да сваіх не ехала. Як толькі выбралася ў горад, яны перасталі трымаць свінчо, не стала ні качак, ні індыкоў. Па падворку адно разгульвалі некалькі нахабных галодных курэй, якія так і глядзелі, каб залезці ў чужы агарод...

На маё пытанне «Што парабляюць цесць з цешчаю?» бацька адмахнуўся кароткім:

- Ат, то п'юць, то пахмяляюцца.

Матка не вытрымала, завялася:

- От жа, двое п'яніц, а дачка бач якая талковая ды рабацяшчая. Добра, што нічога такога паганага ад іх не пераняла, іначай прапаў бы ты, Кастусь. І ў каго толькі такі нехлямяжы ўдаўся? - Яна зіркнула на бацьку. - Во які бэйбус вымахаў, а ўсё чужым розумам жывеш. Мусібыць, і катэдж ёй прыйдзецца выбіваць-выходжваць. Мужчына, а ў хаце жонка камандуе. Такая табе і трэба. Дарэмна я на яе нагаворвала. Маліцца трэба на такую. Праўда, - спахапілася, - што ў вас з тым катэджам?

- Пакуль нічога. Булах завіхаўся там. А цяпер усё сціхла. Ён у камандзіроўцы, у другім горадзе.

- То схадзіў бы да начальства, пакуль няма.

- Нашто хадзіць, калі і так усё ясна. У яго больш правоў...

- Хто цяпер на тыя правы глядзіць. Гэтак да пенсіі будзеш мучыцца. Цяпер, Кастусь, хто нахабнейшы, той і мае.

- Не магу я нахабна.

- Дурань. Можа, Рытка разумнейшая, прыдумае нешта.

У адказ я толькі цяжка ўздыхнуў. Дый што я мог сказаць у сваё апраўданне? Што не магу паступіць подла з чалавекам, які не перайшоў мне дарогу, а ўсяго толькі адстойвае тое, што яму належыць?

Але ж ні маці, ні Рытка, ні, відаць, усе навокал ніколі не лічылі і не лічаць гэта подласцю. Гэта звычайная барацьба, змаганне за лепшае жыццё. Булах на маім месцы таксама дамагаўся б, як дамагаецца цяпер. Гэта як на рынгу ці на вайне... За перамогу цябе ніхто не асудзіць.

Пра ўсё гэта я думаў-меркаваў ужо ноччу, будучы пад хмяльком, а адразу пасля непрыемнай размовы з маткаю бацька, каб неяк суцешыць мяне, прапанаваў узяць па грамульцы за сустрэчу.

- Бабу паслухай і зрабі ўсё наадварот. Не бяры ў галаву, сынок, жыццё мудрэйшае за нас. Пасоўвайся да стала, замочым твой прыезд.

- Што б вы рабілі без нас, баб, - не змаўчала, як заўсёды, маці. - Пра вас жа, мужыкоў, клапоцімся. Нам многа не трэба.

- То нясі шкварку, годзе языком мянташыць.

Пасля першай жа чаркі пацяплела. На душы таксама. Гарачая вячэра супакоіла, улагодзіла ўсіх.

Перад сном маці ўспомніла, што прыходзілі двое з майго класа, сказалі, нібыта шыхуецца ў школе сустрэча аднакласнікаў, але не запомніла дзень.

Спаць доўга не хацелася. Ляжаў, думаў, хмель кружыў галаву. Нечага наплылі думкі пра ненавісны катэдж. Балюча было ўзгадваць матчыны папрокі, бо не лічыў сябе вінаватым. Закарцела выліць хоць каму-небудзь сваю горыч. Але каму? Старыя ўжо храплі за сцяною. Падняўся. Знайшоў алавачак і паперу. Напісаў колькі радкоў. Перачытаў. Закрэсліў. Узбудзіўся. Вырашыў: не супакоюся, пакуль не паспавядаюся хоць бы перад папераю. Зноў нешта накрэмзаў і зноў перачытаў:

Прачнецца трывога ноччу,
І я ўскрыкну ад болю.
Час разарве аднойчы
Жыццё на астрог і волю.
Астрог - гэта ўсё няпраўды,

Падманаў сырая цемень.
Няма аніякай рады
Прабіць таўшчыню камення.
А там, за прутамі, ў небе
Стралою ластаўка ўеццa.
Мне добра ўсвядоміць трэба,
Дзе я на гэтым свеце.
Супакоіўся. Хутка і моцна заснуў.

Ранічкаю прaснуўся свежанькі (дарма што піў), працаваў з ахвотаю. За тры дні ўправіўся з агародам, з цяплічкаю, павыкідаў гной з-пад каровы...

У горад ехаў у добрым настроі. Рытцы вёз паляндвіцу, тлушч і запрашэнне на сустрэчу выпускнікоў, у рэдакцыю - вершык. Вершык ухвалілі і хутка надрукавалі, чым мяне вельмі парадавалі. Рытку ўзрадавала запрашэнне. Яна тады ж кінулася перабіраць свае ўборы. Толькі пашкадавала, што не паспеем да свята купіць машыну, каб «усе ад зайздрасці пападалі». Мяне забаўляла, як сур'ёзна Рытка ставілася да сваёй знешнасці. Павыцягвала з шафы сукенкі, касцюмы, парасkладвала на канапе, фатэлях, нават на тэлевізары. Стаяла, перабірала вачыма. Яе сур'ёзны выгляд мяне рассмяшыў.

- Што ты рагочаш? Няма чаго і апрануць.

- Як няма? Ды тут на ўсю вуліцу хопіць.

- Нічога ты не разумееш. У гэтай шаўковай я ўжо была на провадах, у шыфонавай мяне бачылі сто разоў у вёсцы, у гэтай таксама бачылі... Можа, во гэты, крэмавы?

- Апранай гэты. У ім ты, здаецца, яшчэ не ездзіла ў вёску.

- Не ездзіла то не ездзіла. Але ён не надта кідкі, няяркі.

- Затое элегантны.

- Быў элегантны. Цяпер быццам бы малаваты. А я хачу свабодны. Не, не буду апранаць яго. У мяне вунь ёсць яшчэ шоўкавы адрэз...

Выцягнула з антрэсолі адрэз.

- ... Праўда, малюнак яркі? І модны. Цяпер сама такія носяць.

- Што, пабяжыш шыць?

- Пабягу.

## XIII

На сустрэчу ў школу прыбылі амаль усе. Рытку мала хто пазнаваў. Яна была ў навюткім, пашытым сяброўкай модным гарнітуры: доўгай, пашыранай знізу «спадніцы» з «глыбокімі» разрэзамі, якія хаваліся ў раскошных складках, і гэткай жа яркай

жоўта-чырвона-чорна-сіняй кофтачцы. Зірнеш збоку: як ёсць гарадская пані: гордая, непрыступная, дагледжаная. Міжволі падумалася: калі б вось з гэтакай, цяперашняй Рыткай давялося знаёміцца, бадай, пабаяўся б і падысці, загаварыць.

Мы паселі за сталом разам, але на нейкі час нібыта адно на аднаго забыліся. Леваруч ад мяне прымасціўся сухенькі хваравіты настаўнік мовы і літаратуры Купрэевіч. Шмат хто баяўся яго нават пасля школы, гэтакі ён быў строгі на ўроках.

Рытка апынулася поруч з жонкаю аднакласніка. Яны як бач сышліся, хоць толькі што пазнаёміліся, нешта заўзята адна адной даводзілі.

- Вы з мужам так вылучаецесе між усімі, на вас прыемна глядзець, - пачуў краем вуха.

- Я такая шчаслівая, такая шчаслівая, Ганачка, - шчабятала Рытка. Нахілілася да суразмоўцы, зашаптала: - калі б у школе хто сказаў, што ў мяне такі муж будзе, у вочы плюнула б, падумала б, што цвеляць. І не марыла нават, і не гадала, што адхаплю таго, каго сама сабе выбрала. Такі ўжо харошы. І купляе мне ўсё, і кахае, шкадуе. Бацька родны ніколі гэтак не шкадаваў. Мы ўжо з ім і на машыну назбіралі, і катэдж, дасць Бог, да зімы заселім.

- У горадзе?

- Ага, у горадзе. Папіхаць, падганяць, праўда, трэба, - зашаптала яшчэ цішэй, у самае Ганчына вуха, і я ўжо не разбіраў яе слоў.

- А яны, мужыкі, усе такія, - адказала на яе шаптанне новая сяброўка. - Мужыкам што - адрабіў, выпіў з хлопцамі, прыйшоў, наеўся, і ў тэлевізар. А нам, жанкам, круціся, дагледзь і хату, і дзетак...

- Мой дык не п'е. - Рытка азірнулася на мяне. - А калі трэба, то і вып'е.

Мяне ахапіла нейкая пяшчота да Рыткі. Любіць, ганарыцца мною, а я, як матка казала, і праўда нейкі няўвішны, непрабіўны. Гэтая думка праскочыла мімаходзь і адразу сцёрлася. Нам ужо паналівалі, запрашалі выпіць.

Купрэевіч наліў сабе вішнёвага кампоту. Я зірнуў на яго запытальна.

- Адпіў сваё, Кастуська, - зразумеў ён мой позірк.

Тосты прамаўлялі дырэктар школы Макарый Іванавіч, настаўнікі, былыя вучні. Я таксама зрыфмаваў колькі слоў. Іх, здаецца, мала хто пачуў. Людзі падпілі і гаманілі, гаманілі... Кепка са сваёю школьнаю прычоскаю (ён аніколькі не змяніўся) абводзіў усіх невідушчымі вачыма, па твары гуляла крыху прыдуркаватая бяскрыўдная ўсмешка.

- Я, Кастусь, знарок сеў каля цябе, кхэ-гэ, - скубануў мяне за рукаў Купрэевіч. - Даўно, кхэ-гэ, пагаманіць хацеў.

У яго ў горле - высахлым, рэльефна праступала кожная жылка - нібы сядзеў склізкі камяк, які, каб сказаць слова, трэба было прабіваць крэктам.

- Чытаў я твой вершык, кхэ-гэ. Мусіць, усё тваё чытаў. Толькі ты нешта мала пішаш.

Я прамаўчаў, не ведаў, што адказаць.

- А я ведаў, што ты пісаць будзеш. Ведаў, калі ты во яшчэ такенькім быў. - Ён апусціў далонь ніжэй стала. - Можа, у другі клас пайшоў. Дык, гэта, ішоў неяк паўз ваш агарод, кхэ-гэ. Гляджу, сядзіш на ўзмежку, пяеш. Прыслухаўся. Ну, думаю, гэтак ладна сачыняе. Парадаваўся, што добры вучань да мяне прыйдзе. І не памыліўся. А дзе ты зараз, кхэ-гэ. Універсітэт скончыў?

- Перавёўся. У інжынерна-будаўнічы.

- У будаўнічы? Навошта, кхэ-гэ?

- Жыццё...

Хацеў сказаць нешта яшчэ ў сваё апраўданне, але патрэбных слоў не знайшоў.

- Жыццё, кажаш, кхэ-гэ. Ты пра жыццё мне не кажы. Малады яшчэ. А кім жа ты, кхэ-гэ, працуеш?

- Будаўніком. Мулярам.

- Будаўніком? Кхэ-гэ, а я ўжо думаў, дзе ў школе. Гэтакі, бачыш ты, франт...

- Гэта ўжо Рытчына заслуга.

- Вох упяклася мне твая Рытка ў школе, - шапнуў і па-старэчы закрактаў-засмяяўся ў насовачку. - Як ты падабаўся, гэтак яна душу вымала. А гаспадыня, відаць, добрая.

- Ага. Увішная, клапатлівая.

- Бачыў у ёй гэтую струнку, кхэ-гэ. А ты ўсё ж дарма ўніверсітэт кінуў. Вернешся яшчэ да свайго, але каб позна не было. Э-э, ды што там гаварыць, кхэ-гэ, выпі лепш, а то без цябе ўсё павыжлуктваюць. Толькі помні маё слова: не цагліну да цагліны, а слова да слова ты нарадзіўся падганяць.

Купрэевіч біў не ў брыво, а ў вока.

Узводзячы сцены дамоў, я нібыта замуроўваў, цагліна за цаглінай, сваю існасць. А ён узяў і адным махам разбурыў гэты мой незавершаны мур, агаліў тое, што балела, ныла недзе ў сярэдзіне.

Якраз у гэты момант на Купрэевіча накінулася матэматычка - вясёлая, распараная гарэлкай, смехам, застольным вэрхалам:

- Годзе вы ўжо тлуміць галаву Кастусю, нябось, не на ўроку.

Падняла чарку.

- Усе вунь якія вясёлыя, адно вы як на хаўтурах. Кастусь, чаго такі кіслы? А-ну, дзяўчаты, развесяліце гэтых нашых самотнікаў.

- Зараз я ім займуся. - Ганка, мажная кабета, перагнулася цераз Рытку, наліла мне.

Купрэвіч хітравата ўсміхаўся і крактаў у скамечаную насовачку.

Калі развіталіся, дырэктар, добра захмялелы, нязвыкла разняволены, пажадаў нам з Рыткаю хутчэй засяліць новае жытло і не забыцца на яго, калі будзем ладзіць уваходзіны.

- І кошку займейце... Кошка першаю павінна парог пераступіць.

* * *

- Усім так спадабаліся нашы марынаваныя грыбы. Ты заўважыў? Усё пазаставалася, а грыбы з'елі да адненькага.

Гэта былі першыя Рытчыны словы па-за святам, калі мы засталіся ўдвух на цёмнай вясковай вулачцы.

Я думаў пра іншае, пра Купрэевіча. Які, аднак, праніклівы чалавек. І які на ім быў старэнькі, пацёрты пінжак. Я тады ненавідзеў свой франтаваты гарнітур-троечку. Здавалася, менавіта ён выдаваў перад Купрэевічам маю бездапаможнасць.

Мне ўсё карцела адкрыцца Рытцы, выгаварыцца, памеркаваць разам з ёю, што мне рабіць далей, як знайсці сябе.

Калі ранічкаю наступнага дня ад бацькоў вярнуліся ў сваё ціхенькае, без звыклага дзіцячага звону, жытло і Рытка заспяшалася да сваякоў па дзяцей, я схапіў яе за руку, прыцягнуў да сябе... «Ну, вось і ўсё, зараз скажу ёй, што кідаю будоўлю, вяртаюся ва ўніверсітэт, буду настаўнічаць, пісаць... Карацей, рабіць тое, што мне даспадобы».

Рытка лёгка паддалася, можа, нават хацела, каб я затрымаў яе. Пэўна, падумала, што хачу пацалаваць, і пацалавала першаю.

- Я хачу цябе, - нечакана для сябе самога прамовіў зусім не тое, што круцілася на языку. Чаго-чаго, а блізкасці з ёю ў гэтыя хвіліны мне якраз не хацелася.

Яна ўзяла маю галаву ў далонькі, доўга ўзіралася ў мяне. Гэтак яна, пэўна, аглядала б салодка-сакавіты гарбуз перад тым, як з'есці. Сказала, нібы праспявала:

- А я з учарашняга вечара не дачакаюся, каб застацца ўдваіх, каб прытуліцца да цябе, каб нам доўга-доўга ніхто не мяшаў цешыцца.

Я, відаць, доўга стаяў у нерашучасці, і Рытка, не чакаючы, пакуль пачну дзейнічаць, сама пачала распранаць мяне. Заўсёды

акуратная, цяпер яна абы-як скідвала ў фатэль мае касцюм, гальштук, сарочку. Яе ўзбуджанасць перадалася і мне. Хутка мы забыліся на час, на дзяцей, на ўсё, акром сябе.

Пасля блізкасці ахвота пагаварыць не прайшла, але ўжо не хацелася быць такім катэгарычным. Мы ляжалі на канапе нічым не прыкрытыя, разамлелыя.

- Мусіць, праўду казаў на сустрэчы Купрэевіч. Не трэба было мне ні ўніверсітэт кідаць, ні мулярам уладкоўвацца. - Я нібыта разважаў уголас, гледзячы ў столь.

- Ён так і сказаў?

- Так і сказаў.

- Зусім здурэў стары. У чужую сям'ю лезе. На сябе няхай бы паглядзеў. Настаўнік, а апрануўся горш, чым мае алкаголікі. Канечне, пра іншых лёгка клапаціцца. А яго дзеці хто? Адна хвасты каровам круціць, другая трэцяга мужа памяняла.

- Прычым тут ягоныя дзеці.

Я нешта доўга і захоплена тлумачыў Рытцы, махаў рукамі, урэшце заблытаўся ва ўласных словах і змоўк.

- Ты сам не ведаеш, чаго хочаш, - абыякава адазвалася Рытка. Я зразумела толькі, што ты хацеў бы вярнуцца на свой філфак і працаваць настаўнікам. І гэта ўсё цябе так гняце?

- Так, гняце.

- Чаму ж ты раней нічога такога не казаў? Думаў, не зразумею? Няхай бы тады яшчэ, перад вяселлем, настаяў на сваім, я ўсё адно за цябе выйшла б.

Яна і цяпер верыла, што я кахаў яе і баяўся згубіць. Бадай, сапраўды баяўся, але зусім не так, як баяцца згубіць сваю абранніцу закаханыя.

- Тады я думаў не пра сябе, а пра цябе.

- А зараз ужо пра сябе думаеш?

- Купрэевіч развярэдзіў душу.

- Ён ведае, што табе трэба, лепш за цябе?

- Бадай, што і лепш.

- Кастусь! - Рытка ўсхапілася, яе маленькія грудзі гайдануліся перад самымі маімі вачамі. - Ведаеш, што... Вось выб'еш катэдж, купім машыну і... і к чорту гэтую кантору. Паступіш зноў у свой універсітэт. Можаш нават нідзе не працаваць. Хочаш - чытай, хочаш - пішы. А калі заманецца, папросішся панастаўнічаць.

Словы «філфак», «універсітэт» Рытка, падалося, вымаўляла неяк зняважліва, абавязкова дадаючы да іх вось гэтае прыніжальнае «свой». На першы погляд, яна паступала вялікадушна. З іншага ж

боку паводзіла сябе як гандлярка. Маўляў, ты нам - катэдж, я табе - цацачкі-філфакі.

Але што ж я ўсё-ткі хацеў пачуць ад яе? Можа, вось гэтае: к чорту той катэдж, рабі, як знаеш, абы каб я бачыла цябе шчаслівым.

Колькі хвілін мы маўчалі. Рытка прыўзнялася, зірнула на сцяну, на гадзіннік, падхапіася.

- Вой, абед ужо. Затлуміў ты мне галаву. Пабягу, малечу карміць пара. А ты тут папрыбірайся, добра?

Вярнулася хутка. Сяргейка з парога аб'явіў:

- Тата, а мы ў суботу ў госці пойдзем. Будзем мядовы торт есці.

- У суботу ў дзядзькі юбілей. Ён сыходзіць на пенсію, - Рытка была радасна ўзбуджаная. - Вой, нешта так па-а-ахне. Ты ўжо гатуеш абед? Дай я цябе пацалую.

Дзеці распрануліся і таксама кінуліся да мяне:

- І я пацалую.

- І я.

Светчыны рукі прыліплі да маіх валасоў.

- Ты што гэта з ліпкімі рукамі лезеш цалавацца? А-ну, памый ва ўмывальніку, - насварыўся.

- Гэта мне баба Марта смактунчыка дала.

- То і рукі, значыць, трэба пэцкаць. Куды мама глядзела?

Рытка пагнала малых на кухню, да ўмывальніка:

- Не гарэзуйце, тата наш сёння строгі.

- А чаму строгі? - Не сунімалася Светка.

- Бо яго злая муха ўкусіла.

- А дзе тая муха? Я заб'ю яе.

## XIV

Да сваякоў на юбілей Рытка апранула лёгкую вечаровую сукенку. У ёй яна выдавала некалькі вышэйшаю і нібы прасвечвалася. Да яе смуглявага твару пасаваў і колер: зеленавата-блакітны, з россыпамі бліскучых кропак. Праўда, з абутку пад гэты колер знайшліся толькі басаножкі. Рытка абула іх, крутнулася перада мною.

- Ну, як?

- Калі б ты выглядала не гэтак сексуальна, я сказаў бы: як анёл. Але ж на вуліцы халаднавата. Ніхто яшчэ ў басаножках не ходзіць.

- Тады я пайду ў боціках, а басаножкі ў хаце абую.

Рытка падскочыла да мяне, паправіла гальштук.

- Там, Кастусь, будуць і твой начальнік, і гарадское начальства. Дык ты будзь баявейшы, пагавары пра катэдж. Калі яшчэ такая магчымасць надарыцца. Можа, сёння ўсё і вырашыцца.

Напачатку ў кватэры Рытчынага сваяка было шмат мітусні. А Рытка дык наогул амаль не сядзела за сталом. Бегала, памагала цётцы. А найбольш круцілася каля майго шэфа. «Вам усяго дастае, Сцяпан Сцяпанавіч?» «Наце вам сурвэтку, Сцяпан Сцяпанавіч». Як толькі паяўлялася ў ягонай талерцы костка ці лупінка, як бач прыбірала, ставіла чысценькі посуд.

Крыху пазней з'явілася гарадское начальства ў асобе нейкага маладога «хлыста». Рытка гэтак жа заўзята завіхалася і каля яго.

- Твая? - шэф, каранасты, з цёмным, пабітым воспаю тварам, падміргнуў мне. - Шустрая, страказа. Малайчына.

«Хлыст» трымаўся неяк адасоблена. Ні з кім не загаворваў. На ўсіх пазіраў як бы звысоку. Пэўна, ганарлівец. Рытцы спачатку дзякаваў, калі ўвіхалася каля яго, а як падпіў - піў ён многа - перастаў.

Добра пад'еўшы і падпіўшы, госці запатрабавалі танцаў. Але ж у кватэры, на трэцім паверсе, не надта разыдзешся. Падаліся на вуліцу, стоўпіліся ля пад'езда. Знайшліся і гармонік, і гарманіст.

Рытка выскачыла ў басаножках. Вярнулася. Прыбегла ў боціках.

- А ты, Кастусь, схадзі наверх. Там шэф твой з дзядзькам адны сядзяць.

Зайсці ў кватэру я, аднак, не асмеліўся. Нешта як не пускала. Пастаяў на лесвічнай пляцоўцы, папаліў. Калі вярнуўся на вуліцу, Рытка кружылася з «хлыстом». Я не ведаў нават, як яго завуць. Дый навошта. Я не збіраўся з ім гаварыць. Таньчыць мне таксама не хацелася. Наогул, я ніяк не мог настроіць сябе на вясёлы лад. Прыхінуўся да нейкага слупа, зноў запаліў.

Гармонік сціх, і Рытка павяла да мяне «хлыста».

- Знаёмся, Кастусь: гэта Сяргей Сяргеевіч, харошы чалавек, - зірнула на яго гарэзліва, - і вялікі...

- Высокі, - падправіў той жартам.

- Вя-лі-кі. - Рытка залілася смехам. Я нават падумаў: ці не п'ная часам? Занадта порсткая. І ўсё не адпускала ягоную руку. - А гэта мой муж, Кастусь. У яго да вас адна маленькая, во таку-усенькая, - паказала вялікім і ўказальным пальцамі, нібы трымала імі нябачную гарошыну, - справа.

І знікла. Пабегла наверх.

«Хлыст» агледзеў мяне невідушчымі вачыма, па звычцы звысоку, хоць мы былі аднаго росту.

- А што, уласна, у вас за справа да мяне?

Ён звярнуўся неяк занадта афіцыйна.

- Ат, якая там справа, - я замяўся.

- А ўсё-ткі. - Ён нібы забыўся, што стаіць не ў сваім кабінеце, а я не на прыёме ў яго.

Прасіць? Прыніжацца?

Але ж я ніколі не прыніжаўся. Ні ў школе, ні пасля школы, ні ў войску. Мяне заўсёды хапала не толькі на тое, каб адстаяць свой гонар, але і заступіцца за слабейшых.

- Да цябе? - цяпер ужо я зірнуў на яго звысоку. - Да цябе ў мяне ніколі не будзе ніякіх спраў.

Нешта яшчэ казаў яму: што ў войску такія, як ён, чысцілі мае боты, што ён нікчэмны ганарлівец, што мне непрыемна не тое што гаварыць з ім, але і стаяць побач...

І адразу ж адышоў. Але не вытрымаў, азірнуўся: госці таньчылі, яны нічога не чулі, «хлыст» пасміхаўся, гледзячы ў мой бок. У руцэ ягонай, ля самых вуснаў, дымілася цыгарэта. Ён зусім не выглядаў пакрыўджаным. Хутчэй пераможцам.

Напэўна, пакрыўджаны выгляд у гэты момант меў я, хоць і імкнуўся трымацца з годнасцю.

Гэтак, з высока ўзнятай галавой, натапыраны, пакрочыў дахаты. Па дарозе зазірнуў у кавярню-забягалаўку, заказаў гарэлкі. Пасля аднекуль з'явіўся Аляксей, мастак. Здаецца, з ім мы таксама пілі і пра нешта горача спрачаліся.

* * *

Раніцою Рытка расказала, што я прыйшоў апоўначы гэтакі напіты, што яна распранала мяне і ледзь паклала ў ложак. Я нешта мармытаў пра «хлыста». Яна спытала, ці не з ім я гэтак напіўся. А я, аказваецца, адказаў сцвярджадна. З Рытчыных слоў я зразумеў, што «хлыст» таксама некуды знік з пагулянкі. І ўсе вырашылі, што мы адышліся, каб паталкаваць сам-насам, а затрымаліся, бо, можа, замочвалі дамову.

Рытка аж свяцілася ад радасці.

- З тваім начальнікам я ўжо ўсё ўладзіла. Зараз збегаю яшчэ да гэтага, як яго...

- Да «хлыста»?

- Ну, навошта ж гэтак груба?

Я знясілена махнуў рукою.

- Ты ляжы, адлежвайся. «Напрацаваўся» учора. Можа, піва прынесці? Галава не баліць?

Яна знікла гэтак хутка, што я не паспеў патлумачыць, дзе і з кім бавіў учарашні вечар.

Вярнулася з півам і прыемнаю весткаю.

- Ну, Кастусь, праз які тыдзень пойдзеш да свайго «хлыста» па ордэр. Як ты, ачомаўся? На, мо піва паможа?

У мяне і праўда шумела ў галаве. І ад учарашняй п'янкі, і ад здзіўлення, што ўсё гэтак абярнулася з катэджам.

Не маючы, што сказаць, моўчкі адкаркаваў піва, доўга піў з гарла. Адчуваў, як свяжэе ўсярэдзіне, як вяртаюцца сілы...

- Смачнае, - выдыхнуў, адарваўшыся ад паўлітэркі.

- Дзіва што. А «хлыст» прывітанне табе перадаваў. Пытаўся, як сябе пачуваеш. Сказаў, каб я берагла цябе. Чым ты яго гэтак улагодзіў? Між іншым, ён свежанькі, нібыта і не піў учора. А кампліментаў мне нагавары-ы-ыў...

* * *

«Хлыст» загадаў мне загадку, адгадаць якую аказалася справай няпростай. Ну чаму, чаму ён на маю знявагу адказаў іменна так, а не іначай? Чаму не прагнаў Рытку з кабінета, чаму не адмовіў у просьбе, не сказаў што-небудзь накшталт: «Няхай твой псіх спачатку навучыцца гаварыць з людзьмі»?

Можа, гэтак ён паказваў сваё вяршэнства нада мною, маўляў, глядзі, які я ўсемагутны і велікадушны, і які нікчэмны ты: я нават і не заўважыў, што ты там мне на пагулянцы прапішчаў...

А, можа, я і праўда спадабаўся яму? Тым, што не прынізіўся, адстаяў сваю годнасць, не прамяняў яе на выгоды. Але ж такія, як «хлыст», самі непераўзыдзеныя кан'юнктуршчыкі, і не бачаць у гэтым нічога заганнага.

А што, калі ордэр быў ягоным падарункам Рытцы, да якой займеў пэўныя сімпатыі, а можа нават і спадзяванні на ўзаемнасць, на больш блізкія адносіны?

Ці проста пашкадаваў? Чыста па-чалавечы.

Я заблытаўся не толькі ў гэтых пытаннях, але і ў самім сабе. Аднойчы (гэта здарылася, калі ішоў ад дэманстратыўна абыходлівага «хлыста» з заціснутым у руцэ ордэрам) наогул злавіў сябе на думцы, што ўжо не здольны адрозніць дабрыню ад зла, ветлівасць ад грубасці, высакароднасць ад подласці, узвышэнне ад прыніжэння...

## Частка трэцяя.
## МЕЛАНХОЛІЯ

### XV

У нейкую хвіліну я адчуў сябе лішнім у гэтым вялізным, ажно на чатыры прасторныя пакоі, не лічачы кухні, будынку. Лішнім і

вінаватым і перад Булахам, і перад Рыткай і, здавалася, перад усім светам.

Чаму? За што?

Гэтыя пытанні даймалі, калі аглядалі з Рыткаю новае жытло, якое пахла дрэвам і свежым цэментам. Тупалі па масіўным каменным ганку, правяралі нагамі, ці нідзе не прагінаецца, не рыпае белая гладзенькая падлога, краталі рукамі атынкаваныя сцены.

- Ладна скляпалі, як сабе, без недаробак. Толькі пафарбаваць ды паклеіць... - сказала Рытка.

Перад намі важна паходжваў вялізны пярэсты кот, цёрся аб жоўценькі вушак, пераходзіў з пакоя ў пакой, нешта вынюхваў, высочваў. Рытка такі пазычыла яго ў суседзяў і пусціла першым, як раіў дырэктар школы.

Яна, апранутая ў яркія майку і шорты, энергічна жэстыкулявала рукамі, шчабятала, іграла мімікай, твар яе свяціўся, нібыта па ім няспынна бегалі сонечныя зайчыкі.

- Тут мы паставім лядоўню, тут газавую пліту, тут мыйка будзе, - і да мяне: - Кастусь, табе падвесці трубы, газавую да акна, водаправод сюды, у кут. Так-так-так, - прыставіла да вуснаў указальны палец, - сюды шафкі павесім, сюды... Не, стол павінен тут стаяць, а лядоўня там, у кутку ля акна. А гэта што ў нас такое? Вой, здорава, шафка ў сцяне, ды якая прасторная, зірні, Кастусь...

У спальнях (дзіцячай і нашай) яна гэткім жа чынам жвава расстаўляла ложкі, шафы, тумбачкі, трэльяжы, развешвала дываны, люстэркі, карціны, у зале - сценку, тэлевізар, мяккую мэблю... Нарэшце заключыла:

- Так, у кухні ў нас усё будзе чырвонае, у зале карычневае, а ў спальнях зялёнае і ружовае.

Я моўчкі згаджаўся.

На вуліцы мне прадстаяла больш работы: загарадзіць падворак і гародчык, пасадзіць дрэўцы і кусты (Рытка размеціла, дзе будуць расці яблыні, дзе парэчкі і агрэст, дзе разбіць грады і газоны). За лета трэба было ўсё паспець зрабіць, каб зімою спакойна, з пачуццём выкананага абавязку і ва ўтульнасці адпачываць.

- Ты заўважыла, у якой прыгожай мясціне мы будзем жыць? - сказаў я.

Наш катэдж стаяў на самай ускраіне новай вуліцы. Гародчык агінаў невялічкі, але паўнаводны канал. За каналам зелянеў поплаў, а за поплавам клубіліся бязважкія аблачынкі бярозавага гаю на фоне цёмна-сіняй зубчатай сцяны старога бору. Сям-там асобныя бярозкі па адной ці купкамі павыбягалі на поплаў... І ўсё гэтае хараство

раскінулася крышачку ўнізе, як на далоні. Здаецца, збег бы туды, пагарэзаваў разам з бярозкамі, з рэдкім хмызняком. Канал перахоплены, нібы палец вузкім пярсцёнкам, невялічкім мосцікам з жоўтымі, яшчэ не пафарбаванымі драўлянымі парэнчамі. За мосцікам наша жоўтая, ад навезенага сюды пяску, вуліца ператвараецца ў выбоістую, яшчэ не падсыпаную светла-шэрую дарогу.

- Мне падабаецца, што наш дом - апошні. Такі краявід, - я захапляўся ўголас. - А неба, неба... Як тады, калі мы ляжалі з табой на пляжы, а нас падсмажвала сонца. Толькі тады яно было вышэй...

- Гэтае не горш пячэ, хоць і ніжэй.

- Майскае.

- Ага. Хай бы ўжо дожджык прайшоў. Паспець бы дзе-што пасадзіць у гародчыку.

- А здарава, што канал пад самай хатаю. Прыгожа. Наш дом - нібы абкапаны ірвом замак.

- Канава - добра. Будзе чым гародчык паліваць, дзе бялізну папаласкаць...

- Скажу Аляксею, каб напісаў гэты краявід. Павесім карціну на сцяне, разам з сямейным партрэтам.

- Няхай піша. Толькі не ў нашым доме. Я лепш заплачу яму, чым цярпець ягоныя выбрыкі, карміць і паіць яго.

- Нашто ты так?

- А, пайшоў ён.

У наступныя дні мы, скарыстоўваючы гарачае сухое надвор'е, фарбавалі падлогі, вокны, дзверы, клеілі сцены...

Пачуццё вінаватасці, наогул, любыя іншыя думкі не пра катэдж і прадстаячае перасяленне ў яго, павінна была б выцесніць загружанасць шматлікімі «наваселльнымі» клопатамі. Наадварот, гэтае пачуццё расло. Замест таго, каб радавацца добраму гняздзечку ў прыгожай мясціне, да самазабыцця захапіцца прыемнай работай, я еў сябе перажываннямі. А рабіў усё машынальна. Часам нават забываўся, што раблю.

Ледзь улоўнае шорганне пэндзля закалыхвала: ш-ш-шам шам, ш-ш-ам шам.

«Божа, што табе яшчэ трэба, Кастусь, - дакараў самога сябе, слізгаючы па падлозе вялікім пэндзлем. - У цябе ўжо ёсць усё, што трэба для жыцця. Рабі цяпер, што табе па душы. Рытка ж казала: выб'еш катэдж - рабі тады, што толькі ў галаву ўзбрыдзе. Мне і гэтага мала? Мала. Хочацца большага? Але чаго? Паразумення? Поўнага? Відаць, так. Знешне яно нібыта і ёсць. А вось калі па вялікаму

рахунку, шмат чаго не хапае для ўзаемнага шчасця. Наогул, я працягваю жыць для яе, цалкам ахвяруючы сабою. Я ператварыўся ў яе паслухмяны прыдатак: усім распараджаецца яна, а я толькі падпарадкоўваюся і выконваю. Няўжо яе гэта задавальняе? Ці яна нічога не разумее. Гм, выб'еш катэдж - рабі што хочаш. Якая геніяльная здзелка. Дзеці? Усё гэта дзеля дзяцей? Хіба яны былі б менш шчаслівыя... Ці не мог і я некалі заключыць з ёю здзелку, маўляў, пажанюся з табою, але з умоваю: ні ў які політэх паступаць не буду, скончу філфак і цалкам аддамся літаратуры, паэзіі... Усё роўна, чаму, проста літаратуры. І школе. Першаму і другому. Але ж хіба яна была супраць? Гэта я, я сам бяздумна спяшаўся выканаць яе прапанову. З ласкі, з дабрыні. Дзеля яе, якую бязмежна шкадаваў. Божа, я ператварыўся ў невыпраўнага меланхоліка. Я павінен сказаць ёй, што не кахаў і не кахаю яе. Што ажаніўся з ёю з жаласлівасці, з дабрыні. Усё трэба паставіць на свае месцы. Зраблю ёй бплюча? Так. Няхай. Затое здыму ўсе непаразуменні. Зірні, Кастусь, у каго ты ператварыўся? Ты - усяго толькі яе цень. Служка. Дадатак. Але ж ты свядома пайшоў на гэткае прыніжэнне, каб ашчаслівіць бядачку. Так, свядома, толькі яна ўжо ніякая не бядачка. Здаецца, мы паціху мяняемся (ці ўжо памяняліся?) ролямі. Толькі ці разумее гэта яна? Калі не разумее, то павінна ў рэште рэшт зразумець. Мы павінны паразумецца. Без гэтага яе шчасце ўсё адно не будзе поўным. Вялізны дом, дастатак, дагледжаныя мілыя дзеткі... Так, гэта шчасце, але яшчэ не поўнае. Гэта папросту норма жыцця. Як норма для жывёлы ці птушкі цёпленькае дупло, нара, гняздо, спадарожнік ці спадарожніца, дзеткі... Жывёлы не горш, нават лепш за людзей выконваюць свае бацькоўскія абавязкі. Але ж мы не жывёлы. Жывёлы не шукаюць скарбы, яны шукаюць толькі спажыву. А мы шукаем скарбы. Кожны свае: нехта - залаты злітак для сябе, нехта - для людзей, а для сябе іх залатую ўдзячнасць. Не, я ўсё-такі хранічны меланхолік. Калі-небудзь я абавязкова звар'яцею ад гэтай сваёй меланхоліі. Мне неадкладна трэба пагаварыць з ёю, іначай сапраўды звар'яцею.

А, можа, яна ўсё добра разумее, бачыць маё прыніжэнне, і ёй гэта падабаецца? Можа, пасля доўгага, даўжынёю ў цэлае дзяцінства, гібення, яна нарэшце атрымала асалоду вяршэства нада мною. Напэўна, яна бачыць, што я калі і не няшчасны, то і не шчаслівы. Чаму не кіне ўсё і не кінецца мне на дапамогу, як некалі кінуўся я? Гэта ж найвялікшае шчасце - ашчаслівіць іншага. Чаму не дапаможа мне пабудаваць маё, асабістае, уласна маё шчасце, якім я з юначай шчодрасцю падзяліўся з ёю? Можа, я ёй усё ж не дастаткова ясна растлумачыў, чаго дамагаюся ад яе? Здурнеў, здурнеў.

Для яе не існуе майго шчасця. Для мяне не існуе яе шчасця. У нас зусім рознае разуменне шчасця.

Гэтыя дзве фразы захацелася вывесці тлустымі чырвонымі літарамі на белай падлозе. Але, па-першае, ужо не ставала месца - я быў ля самага парога. А па-другое, гэта ж форменнае глупства. Нешта ўвесь час пад'юджвае мяне на дурную выхадку.

А, можа, не я ашчаслівіў яе, а яна сама сябе, з маёй дапамогай. Можа, я толькі прылада ў яе руках для пабудовы таго шчасця, пра якое з дзяцінства марыла, а не будаўнік гэтага шчасця. Бо ў маім разуменні яно, шчасце, месціцца недзе на ўзроўні пачуццяў, а не рэчаў...»

Я машынальна, як робат вылізваў пэндзлем з самага дна бляшанкі рэшткі фарбы.

Пах ацэтону ачмурыў настолькі, што ўжо не хацелася выбірацца на свежае паветра.

Гукі.

Гукі пераплята230іся, няпэўныя, незразумелыя, блыталіся ў галаве, і ўжо не разабраць было, ці то ўжо мае думкі агучваюцца ў затуманенай, здранцвелай галаве, ці абрыўкі слоў далятаюць аднекуль з вуліцы... Шамкае па падлозе пэндзаль.

- Шам-шам, шам, ш-ш-шам, шам...

- Нешта гняце... гняце, маркотны... маркотны...

- Сама што радавацца... Радавацца...

- Шчасце - вось. Што яшчэ трэба. Жыць і весяліцца. Весяліцца і жыць... Жыць... Шчасце...

- Ш-ш-шам шам, ш-ш-шам шам...

- Чым дагадзіць?.. Дагадзіць...

- Баюся... баюся... Нервовы... нервовы.

- Санаторый. Тэрмінова ў санаторый. Так... так...

- Жыць - у шчасці. Ратаваць - шчасце... Шчасце...

- Ш-ш-шам шам, ш-ш-шам шам...

Жоўтая пляміна ў небе звузілася да памераў сонца. Стракатая, як мазаіка ў калейдаскопе, пляміна раздваілася і звузілася да памераў дзвюх жаночых постацяў - Рытчынай і яшчэ нечай. Гэта сястра. Пстрычка. Ужо не пстрычка, а паўнацелая сур'ёзная дамачка. Так, менавіта дамачка, а не дама. Яны выплылі, яшчэ толькі выплываюць з сонечнага сувою.

- Вось ён які, ваш палац. Я зайздрошчу вам. Якое шчасце...

Шчасце...

У мяне яшчэ кружылася ў галаве.

- Кастусь, ты чаму такі знябожаны. Змарыўся? Здароў...

Сястра свяцілася ўсмешкаю, як сонца.

- Харомы дык харомы. Калі на ўваходзіны запросіце?

- Як перабярэмся, дык адразу, - замест мяне адказала Рытка. - Кастусь, падлогі гатовы?

- Амаль. Кроплі фарбы не хапіла.

- Кроплю пазычу ў суседзяў, у іх крышачку засталося. Усё адно высахне. Другую банку не пачынай.

Дагаворвала ўжо ад суседняга катэджа.

- Спёка, - я змахнуў з ілба рукавом пот, прысеў на каменны ганак.

- Спёка, - паўтарыла сястра. Ад яе веяла прахалодаю.

- У вёсцы была?

Сястра скончыла нейкі фінансавы інстытут і цяпер адбывала практыку ў другім горадзе. У банку.

- Ага. Папрыбірала. Маці хоча прыехаць, пабачыць. Яна ж таксама чакала гэтага катэджа. Радая. Усім расказвае, якія ў сына харомы.

- А ты?

- Што я? Я таксама радая...

- Я пытаюся, як табе там.

- А. Добра.

- Не знайшла шчэ сабе...

- Знайшла. - Сказала какетліва, нібыта падкінула гэтае слова. - Праўда, ён старэйшы. На сем год. Затое з кватэрай і машынай. І здар-ровы. Здаравейшы за цябе.

Кінула на мяне погляд-ацэнку:

- Ты наогул зрабіўся страшны. Звяў, схуднеў, сцягнуўся. Чым цябе Рытка корміць?

- О, корміць на ўбой.

- І маці трывожылася. Кажа, Кастуся пасля войска нібы хто падмяніў. Хлопцам быў: вясёлы, упэўнены, працавіты, за работу хапаўся без панукання... Цяпер нейкі задуменны, нерашучы, абыякавы... Гэта ёй Рытка нагаварыла. Дый сама не сляпая. Кажа, мо цябе Рытка і разбалавала. Сама ўсё цягне, ты і разляніўся. Цяпер у цябе і зусім не жыццё, а маліна. А ты нос павесіў...

- Ат, знайшла пра што гаварыць. У цябе здаравенны жаніх з кватэрай і машынай ёсць?

- Ёсць.

- А больш табе нічога і не трэба?

- А што я шчэ? Ён добры, пяшчотны, кахае мяне. Мы пасуем адно аднаму. Нават і па гараскопу ідэальная пара. Дзетак займеем,

выгадуем, забяспечым усім, каб не горш, чым іншыя, жылі. Што яшчэ?..

- Малайчына, пстрычка, - я зірнуў на яе весела, нават гарэзліва (ва ўсялякім разе, так мне падалося), тады абняў яе за шыю, прыціснуў да сябе. - Дай я ўляплю табе пстрычку.

Яна выслізнула, адскочыла.

- Зусім здзяцінеў, дурань дурны.

У прынесенай Рыткаю бляшанцы крыху боўталася фарбы.

- Хопіць?

Нягледзячы на гарачыню, Рытка, як і сястра, пахла свежасцю.

- Пабачым.

- Заканчвай, ды заўтра будзем перавозіцца. Булах заходзіў, казаў, каб выматаліся. Ён перасяляецца ў нашы апартаменты. Так і сказаў: «вымятайцеся, колькі ўжо вам займаць дзве хаты». А пасля, чуеш, Кастусь, пастаяў, нешта памяўся, і ведаеш, што сказаў. Кажа: «А мо і не жыць мне тут. Калі што са мною, сябе вініце». Напужаў.

Яны пераглянуліся з сястрою і абедзве пырснулі смехам.

- А калі і праўда? Грэх возьмем на сябе.

- Чорт яго не возьме. Будзе жыць. Ён ужо некалі накладаў на сябе рукі. Фокуснік. Помніш?

- А калі ўсё ж?

- Што табе да яго. Сябе глядзі. Высахнеш хутка на шчэпку. Вось зануда...

Яны зноў захіхікалі.

Зануда...

Яны пайшлі, угрузаючы кароценькімі абцасікамі ў свежанасыпаны жоўценькі пясочак. Рытка азірнулася:

- Упраўляйся ды прыходзь хутчэй. Смачненькім пачастую.

- Чакаем, - адазвалася і сястра.

* * *

Сонечны жаўток расцякаўся на пляскатай нізкай аблачыне. Гэта яшчэ не захад. Гэта прадвеснік заходу.

Я, зачараваны, сачыў за пералівамі фарбаў: аранжавай, крывава-чырвонай, сталёва-блакітнай, сіняй і глыбокай-глыбокай, як вочы дзіцяці...

А мне такі не пазбегнуць высвятлення адносінаў. Трэба жыць, а не рабіць выгляд, што жывеш. Вось толькі... Не для таго я падарыў ёй шчасце, каб пасля разбурыць яго. Я толькі спытаю: ёй патрэбен быў муж, саломінка, за якую толькі б учапіцца, а там ужо будаваць жыццё па свайму густу, ці ўсё ж патрэбен быў менавіта я...

Я пачну так: «Мне патрэбна была толькі ты, Рытка...» Я не парушу яе шчасця.

Жаўток праліўся за гарызонт.

## XVI

Высвятляць адносіны мне выпала толькі назаўтра. І не з Рыткаю, а з Булахам. Зрэшты, і з Рыткаю таксама. Толькі пазней. Перш чым перавозіцца, зайшоў праверыць, ці высахла падлога. Раніца была цёплая, значыць, і ноч таксама. Над канаваю віселі абрыўкі туману. Прыпарвала. Такая ноч не магла не высушыць. Не магла...

Пальцы злізгалі па гладкай паверхні. Калі націснуў, прыліплі, але адарваліся лёгка. На падлозе засталіся толькі запацелыя плямінкі - адбіткі пальцаў.

- Ранавата, яшчэ б дзянёк...

- Ага, ранавата...

- Што? - азірнуўся.

- Рана радуешся, кажу.

Вочы. Чырвоныя, з белымі камячкамі па кутках. І... дыхалі. Нянавісцю. З-за Булахавай галавы ўзыходзіла сонца. Як арэол. Як карма. Як...

Што табе?..

- Рады?

- Рады...

- Ну, ну...

- Што яшчэ...

- На касцях маіх... Дом гэты...

- Твае косці пры табе.

Па праўдзе, мне хацелася павінавацiцца. Але як. І... навошта.

- Так?

- Так.

- Глядзі, бо свае косці не збярэш.

- Гэта ўжо мае праблемы.

Булах ірвануўся, загроб пяцярнёй усю правую палову маёй сарочкі разам з рукавом, са ўсяе сілы тузануў, прыцягнуў да сябе:

- Хацеў не казаць табе. Думаў, чалавек ты. Але ўжо скажу: Рытка твая, а не ты, зарабіла гэты катэдж. Круціць яна з начальнікам гарадскім. З гэтым...

- З «хлыстом»?..

- Во, з гэтым, з даўжэзным, з жардзінаю... - Мы так і стаялі - твар у твар. Ён усё трымаў мяне за сарочку, якая ажно вылезла са штаноў, адкрыла жывот.

- Пусці.

Я адарваў ягоныя рукі ад сваёй вопраткі. Яны былі хоць і масіўныя, але слабыя, ватныя.

Відаць, Булаху падалося, што я намерваюся ўдарыць яго, адпомсціць за абразу, і ён абрушыў на мяне ўсю сілу ватнага свайго кулака. Я яшчэ ўбачыў ягоныя вочы. Бадай, злосці ў іх і не было. Была нейкая ўсеахопная роспач, разгубленасць, нямы крык аб дапамозе ў абрамленні сівой раскідзістай раслінnасці, глыбокіх рухомых раўчукоў, чырвоных беражкоў...

Уліп. Менавіта ўліп у падлогу, а не прыліп да яе.

Не надта балюча засмылела сківіца.

Любы нармальны чалавек, акрамя, хіба, апошняга баязліўца, пасля такога ўсхапіўся б і кінуўся бараніць свой гонар. Кажучы папросту - даў бы здачу.

Здачу...

Гм, пра здачу я тады нават і не падумаў. Мяне, разам з думкамі, праглынулі ягоныя вочы.

Вочы...

- Яшчэ?

- Дурны ты, Булах...

Я паспрабаваў адляпіцца. І адляпіўся. Лёгка. Як ліпучка ад ліпучкі. На падлозе застаўся адбітак кішэняў маіх джынсаў.

- Дурны ты...

- А што мне рабіць? Што мне рабіць? - Ён пытаўся.

Ён быў няшчасны, і я добра разумеў, чаму. Катэдж для яго - усё. Жыццё. Шчасце. Мара. Уявіце, што некаму дасталася ваша жыццё, шчасце, мара... Вы напэўна ўзненавідзелі б гэтага некага... Для мяне катэдж не быў ні першым, ні другім, ні трэцім... Маім жыццём было нешта іншае, яшчэ дакладна не акрэсленае. Маім жыццём было прадчуванне. Катэдж нават замінаў мне насалоджвацца гэтым прадчуваннем, а можа нават ператварыць яго ў рэальнасць. Па праўдзе, калі б я не быў гэтакі абыякавы да новага свайго жытла, я, напэўна, узненавідзеў бы яго.

Нейкае бязладнае яно, жыццё наша. Таму, хто просіць шчэпку, кладзе ў рукі бервяно, а хто просіць бервяно, нат і шчэпкай не адорыць.

Мне не хацелася даваць здачу. Хацелася абняць Булаха, сказаць яму нешта прыемнае, пагаманіць. Хацелася адказаць яму на яго пытанне. Хацелася, урэшце, прыняць ад яго яшчэ адзін удар і паляцець на бліскучую, як лёд, падлогу.

- Што мне рабіць?

- Стукні мяне.
- Што?
- Стукні мяне.
- Як?
- Так. Проста. Стукні.
- Ты здзекуешся з мяне.
- Ты ж прыйшоў біць мяне.
- Я сам не ведаю, чаго я прыйшоў.
- Але ж табе хочацца біць мяне.

Я бачыў, як рука яго тарганулася назад, як вялізны, што гіра, кулак прачарціў паўкруг (я паспеў бы пры жаданні дзесяць разоў злавіць яго, але жадання такога не ўзнікла) і балюча шмаргануў па скіўіцы каля самага вуха. Я, мусіць, на нейкі час страціў прытомнасць. Ачнуўся, распластаны на ліпкай падлозе, ад крыку.

- Людзі! Сюды! Забіваюць! Гад! Сволач! Каб у цябе рукі адсохлі. Людзі, людзі. Памажыце. Міліцыя! Міліцыю! У міліцыю пазваніце.

Адляпіўся гэтак жа лёгка, як і першы раз.

Рытка бегла да нас з даўжэзным дрынам.

- Біцца прыйшоў, ліхадзей пракляты. Я табе наб'юся. Кастусь, ты жывы? Людзі, сюды...

Некалькі чалавек і праўда павыходзілі са сваіх дамоў. Але не падыходзілі, стаялі ў нерашучасці, сачылі, што будзе далей. Следам за Рыткаю беглі толькі дзве незнаёмыя жанчыны.

- Я табе зараз раскрышу галаву гэтым дрынам.

Яна была ўжо зусім блізка.

- Бяжы, Булах. Яна заб'е цябе, - я паспрабаваў пасміхнуцца, але раптам моцна забалела скіўіца. - Ну і даў ты мне.

Булах развярнуўся, злавіў жэрдку, вырваў яе з Рытчыных рук, разламаў аб калена, шпурнуў палавінкі далей ад сябе, пайшоў. Моўчкі, не азіраючыся.

- Кастусь, - Рытка кінулася да мяне, - што ён з табою зрабіў. Бедненькі мой. Бездапаможненькі мой. Кроў. У цябе на вуснах кроў.

Яна ўзяла ў рукі маю галаву, уважліва агледзела, пацалавала ў лоб, у нос, у шчокі...

- Кастуська ты мой. Дажыўся, каб баба бараніла. Ну, нічога, людзі бачылі. Я такі засаджу яго на суткі, каб рукі не распускаў. Ён нічога не зламаў табе? Не? Сёння ж пойдзем у бальніцу, здымем пабоі. Ён нам за ўсё заплаціць.

- Не трэба, Рытка.

Я зноў паспрабаваў пасміхнуцца. І зноў ледзь не войкнуў ад рэзкага болю. Вывіхнуў, ці што?

- Што не трэба? Баліць?

- Не трэба ў міліцыю. І ў бальніцу таксама не трэба.

- Як гэта не трэба? Збіў чалавека, і не трэба? Не, я гэтага так не пакіну.

- Сказаў табе, не трэба. Цяпер у ім няма злосці. Ён і так пакараны.

- Не баюся я яго злосці. Няхай ён маёй баіцца.

- Ён і баіцца. Бач, як хутка даў стракача.

- Ага. Палку зламаў. Думала: ну, зараз як агрэе па спіне. Падлога высахла?

- Высахла. Зірні, ці не запэцканы я ззаду.

Агледзела:

- Не, чысты.

Падлога, тым не менш, захавала сляды нядаўняй экзекуцыі. На ёй двойчы адбіліся мае накладныя кішэні.

- Бач, што нарабіў.

- Засцелецца.

Засцелецца. Забудзецца. Ці забудзецца?

- Хадзем снедаць. Сонца вунь як высока. Хутка абедаць пара.

Жанчыны, што беглі за Рыткаю, некуды зніклі. Наша новая вуліца была бязлюднай.

- Хадзем, заўтра ўжо будзем перавозіцца.

## XVII

Якраз успомнілася Булахава: «Круціць яна з начальнікам гарадскім...»

Я ўважліва зірнуў на Рытку. Рытка? Круціць? Дурніца нейкая. Дзіўна, ні тады, калі слухаў Булаха, ні цяпер, калі ўспомніў яго словы, не адчуў аніякай рэўнасці. Ні на драбок. Можа, таму, што не мог сабе ўявіць Рытку здрадніцай. Не, гэта нейкае непаразуменне, нагавор. Гэта Булах знарок сказаў, каб пасварыць нас, адпомсціць, насаліць. А можа ў мяне не варухнулася ніякая рэўнасць па той простай прычыне, што я не кахаў Рытку. І, мабыць, ужо і не шкадаваў. Ва ўсялякім разе, так, як шкадаваў некалі тую, іншую, зацюканую Рытку. Я нават адчуў сябе лішнім у тым свеце, у якім жыла мая Рытка. Гэта занадта спрошчаны, крыху грубаваты ў сваёй прастаце, занадта рэальны, нават схематычны, загрувашчаны рэчамі, якія абмяжоўваюць кругагляд, заблытваюць позірк, чужы мне, нягледзячы на тое, што і я ў ім жыву, свет. Гэта не толькі Рытчын, але і Булахаў, і «хлыстоў», і сястрын, і нават матчын свет.

Я адчуў сябе бязмежна адзінокім сярод блізкіх і родных мне людзей.

Я ўсё-ткі звар'яцею. Гэтая меланхолія даесць мяне.

- Хадзем, заўтра ўжо будзем перавозіцца.

- Я ведаў, што дзеці нашы зараз у вёсцы, і ніхто не перашкодзіць нам высветліць адносіны, пагаварыць, расставіць усё на свае месцы, унесці ў наша сумеснае жыццё поўную яснасць.

Есці прыгатаваныя Рыткаю мінулагоднія грыбы са шкваркамі я не змог. Балела сківіца. Паеў рэдзенькага супу без хлеба. Папіў малака.

- Бедненькі. Пакутуеш. І я з табою пакутую. - Яна глядзела на мяне скрозь слёзы.

У яе позірку я прачытаў нешта новае: расчараванасць? Стомленасць?

- Ты пра што? Пра бойку?

- Пра ўсё...

Я падумаў: добра, што Рытка сама пачала гаворку. Лягчэй будзе і мне пачынаць.

Рытка лёгка кранула маю сківіцу:

- У цябе тут гузачок.

- Пройдзе. Не бяры ў галаву.

- А я лічыла - ты здаравейшы за яго. Ты ж вунь які дужы. Дэсантнік. Гэта я павінна бараніць цябе?

- Не трэба было бараніць. Самі неяк разабраліся б.

- Ага, чакаць, пакуль ён заб'е цябе?

- Я не даў бы яму забіць сябе. Я даў яму вызваліць злосць, што назбіралася ў ім.

- Навошта? Ты страціў павагу і перад ім, і перад іншымі...

- І перад табой?

Яна завагалася. Значыць, магла ўжо і не адказваць. Яе нерашучасць пры выбары адказу гаварыла сама за сябе. Да ўсяго, яшчэ і адказала няпэўна, двухсэнсоўна:

- А што я? Я - жонка...

- І мушу прымаць мужа такім, які ён ёсць? Так? - Я лічыў, што прадоўжыў яе адказ, сказаў тое, у чым яна не рашылася прызнацца.

- Я проста не думала пра гэта. Але ты нейкі не такі, якім павінен быць. Ты заўсёды быў упэўнены ў сабе і мне было лёгка і хораша з табой. Цяпер мне страшна.

- Страшна?

- Так, страшна. Я так марыла, каб побач са мною быў нехта, хто заўсёды прыйдзе на дапамогу, абароніць, захіне ад нягод і ліхадзеяў.

Мне так некалі не ставала гэтага. Цяпер тое, былое, пачуццё зноў вяртаецца да мяне. Ты, той, хто сваёй моцнай, упэўненай рукой зняў гэтае пачуццё, сам жа і вяртаеш яго мне. Ты не сёння, даўно ператварыўся ў слізняка. Але я не хацела даваць веры. Адганяла ад сябе ўсялякія думкі пра гэта. Цяпер ты сам даказаў, што не толькі мяне, сям'ю не здатны абараніць, але і сябе...

Яна праслязілася.

- Рытка, ты нічога не зразумела. Я бачыў яго вочы...

- Чые вочы?.. - Яе стомлены голас нібы дапаўняў пытанне, маўляў, Божа, чые яшчэ вочы, ты яшчэ хочаш нечым апраўдацца?

Але я і не збіраўся апраўдвацца. Мяне раздражняла тое, што Рытка не разумее мяне. Я проста хацеў, каб яна ведала праўду.

- Булахавы вочы. Я не мог ударыць чалавека, які глядзеў на мяне такімі вачыма. У іх былі роспач, пакута, зацкаванасць, асуджанасць. Не сумняваюся: яму баліць (і балела, калі біў) куды больш, чым мне. Па праўдзе, я хоць зараз саступіў бы яму гэты катэдж. Гэта яго жыццё. Разумееш? Гэта тое, чым ён жыў.

- Але ж гэта і маё, наша жыццё. У нас дзеці. Ты шкадуеш Булаха, а не сваіх дзяцей...

Я прыкмеціў: як толькі ў Рыткі канчаліся аргументы, каб адстаяць сваё, яна ўзбройвалася дзецьмі.

- Ты ж сам, сам падпойваў, улагоджваў Сяргея... - яна прыпынілася, і толькі праз паўзу дадала, - Сяргеевіча. - Яна ледзьве не назвала яго проста Сяргеем. У мяне варухнулася падазрэнне: што, калі Булах не маніў, калі ў яе і праўда з ім... нешта. - Чаму ж ты яму не сказаў: не трэба мне ваш катэдж, аддайце яго Булаху. Няхай бы яму сказаў. Але ты мне кажаш. Бо ведаеш, што я ўсё адно нікому нічога не аддам. Я ж не начальства. Ладна ў цябе ўсё атрымліваецца: і катэдж у руках, і рукі чысценькія. Ты, Рытка, уся ў брудзе, а я ні пры чым. Я вунь які сумленны. Каму яны патрэбны, гэтыя твае выкрутасы.

Выкрутасы.

Рытчыны словы і здзівілі, і расчаравалі, і разазлілі. Асабліва апошняя фраза. Атрымлівалася, чым больш шчырасці ўкладваў я ў свае словы, тым менш Рытка верыла мне, чым больш мы адкрываліся адно аднаму, тым шырэйшаю і глыбейшаю рабілася прорва між намі.

Але надзея знайсці паразуменне яшчэ цяплілася. Ды ўжо і цяжка было спыніць сябе.

- Рытка, ты павінна ведаць: я нікога не ўлагоджваў. На той пагулянцы мы пасварыліся з «хлыстом» і я пайшоў у піўнушку. Вось і ўсё.

Рытка крыва, з'едліва пасміхнулася. Яна не верыла мне. Яна так і сказала:

- Ты ўсё маніш. Навошта табе гэта трэба? Ты заўсёды абыходзіш піўнухі. Сяргей... - яна замялася. - Сяргей Сяргеевіч чаму, скажы на ласку, гэтакі быў лагодны і абыходлівы і з табой, і са мной. І зрабіў усё, каб мы як мага хутчэй атрымалі ордэр. Ты ж сам хадзіў за ордэрам. Нічога сабе, пасварыліся. Калі б ад сварак было гэтулькі карысці, я толькі тое і рабіла б, што з людзьмі грызлася...

- Але ж так усё і было.

Я раптам злавіў сябе на думцы, што апраўдваюся перад Рыткаю. І запнуўся. Чаго-чаго, а апраўдвацца, тым больш зараз, калі настроіўся на сур'ёзную гутарку, я не тое што не мог, але і не меў права.

У рэшце рэшт, хопіць прытварацца адно перад адным, што між намі ўсё гладка, усё нармальна. Рытка (яна даказала гэта ў чарговы раз), аказваецца, зусім не ведае мяне. Можа, гэтак ведаю і я яе, хоць яна і здаецца мне цалкам зразумелай. Мы павінны ведаць адно пра аднаго праўду. Гэта ж элементарна.

Праўду.

Я міжволі зірнуў на сябе як бы збоку, вачыма чалавека, які фіксуе адно знешнія праявы майго жыцця і на іх падставе выбудоўвае ўласнае меркаванне пра мяне. Спачатку, атрымліваецца, мяне жэніць на сабе небарака Рытка. Першае падзенне ў вачах назіральніка. Пасля яна забірае мяне з універсітэта і вымушае паступіць у будаўнічы інстытут. Другое падзенне. Выбівае катэдж, з-за якога мяне збівае не надта каб паважаны ў калектыве чалавек, а я нават не супраціўляюся. Напэўна, таму, што баязлівец. Трэцяе падзенне. Рытка (жанчына!) уратоўвае мяне ад хулігана. Зноў падзенне.

Напэўна, я ўпаў і працягваю падаць у вачах многіх, хто - хоча ён таго ці не хоча - выпадкова ці знарок назірае за нашым з Рыткаю жыццём.

Гэтая ўяўная праўда, за якой хаваецца, як за сямю замкамі, праўда чыстая, паўстала перада мной ва ўсёй сваёй пачварнасці і бязлітаснасці. Я ажно застагнаў. Уголас.

Рытка, якая прыбірала са стала, спынілася з талеркай і анучкай у руках:

- Што, так моцна баліць? Ты ўвесь збялеў.

- Баліць.

- Каб пералому не было. Зараз жа сходзім у бальніцу.

- Якая бальніца. Не сківаца ў мяне баліць.

- А што?

- Ужо нічога. Сядзь лепш. Мы не дагаварылі з табой.

- Што яшчэ гаварыць. Ты чысты, я запэцканая. Ты праўдалюбец, я хітрунка. - Яна сцерла са стала хлебныя крохі, кінула ў сметніцу, стала ў нерашучасці: хапіцца яшчэ за якую работу ці ўсё ж сесці, пагаварыць. - Я згодна. Мне ўсё роўна.

- Рытка.

- Ну што ты ўсё дамагаешся ад мяне. Я ж сказала: я - дрэнь, ты - харошы... Ты гэта хацеў пачуць?

Яна ўсё стаяла ў нерашучасці. Я таксама ўстаў, адышоўся да акна, каб не гэтак балюча ўпіваўся ў мяне яе калючы позірк.

- Ты ўсё ж выслухай мяне. Думаю, я не пакрыўджу цябе, калі скажу, што не кахаў цябе. Ты, напэўна, і сама гэта ведала, ці, можа, адчувала. Я ажаніўся толькі таму, што пашкадаваў цябе. Я і цяпер шкадую, але табе ўжо такое маё шкадаванне не трэба, табе патрэбна іншае шкадаванне. Не падумай, я не раскайваюся. Я паступіў бы гэтак і цяпер, і, напэўна, праз дзесяць год. Згадзіся, табе патрэбна была мая дапамога. А мне, відаць, патрэбна была ты. Можа, без цябе я не адчуваў бы гэткай паўнаты жыцця, не адчуваў бы сваёй значнасці, патрэбнасці на гэтым свеце.

Замест кахання нас звязала нешта іншае, але не адно і тое ж. Я з юначай безагляднасцю ахвяраваў табе ўсяго сябе, цалкам, разам... з марай. Я не думаў пра будучыню. Але мая мара не адпускае мяне. А цяпер я зразумеў і яшчэ адно: усё, што я мог зрабіць для цябе, я ўжо зрабіў. Мы разам выбудоўвалі, выкрышталізоўвалі з кожнага наступнага дня тваю мару. Але мара, аказваецца, бясконцая. Яна паглынае. Варта да яе наблізіцца, як яна хапае цябе за рукі і цягне некуды далей, абяцаючы ўсё новыя і новыя, усё больш і больш прывабныя скарбы. І не дае табе спыніцца. І ты, ашчасліўлены мараю, імкнешся да ўсё большага і большага шчасця. Раней я не разумеў гэтага. Я быў занадта малады. Цяпер, калі зразумеў, мне зрабілася страшна. Я стаміўся. Я баюся звар'яцець ад гэтай бясконцай і абрыдлай мне гонкі.

Рытка, пакуль я захоплена гаварыў, апусцілася на крэсла, падперла кулачком галаву, глядзела на мяне соннымі, прыплюшчанымі вачыма. Нібыта я расказваў ёй перад сном казку, каб закалыхаць яе.

Я працягваў, блытаючыся ў сваім шматслоўі, атрымліваючы асалоду ад таго, што яна слухае і маўчыць. У мяне нават варухнулася надзея, што мы нарэшце можам паразумецца.

- Мы маглі б... Калі б... У нас не магло, не можа быць агульнага на дваіх шчасця. Як і агульнай на дваіх мары. Я не ведаю, ці былі б мы шчаслівейшыя, калі б я павёў цябе да сваёй мары. Але каб такое сталася, я павінен вярнуць тваю павагу да сябе. Нават болей, я

павінен закахаць цябе ў сябе. Я павінен зрабіцца для цябе нават болей, чым проста мужам, проста каханым. Бадай, ужо гэта адно і ёсць шчасце. Толькі ці магчыма такое? Шчаслівы, я таксама кахаў бы цябе. І вярнуў бы сабе сваю ўпэўненасць. У намаляванай тваім уяўленнем карціне агульнага нашага шчасця я гэткі ж непадобны на сябе, як непадобныя чалавек і манекен. Я - сапраўды - выглядаў бы чужым сярод намаляванага табою. Я не ўпісваюся ў тваю мару, у якой усё занадта простае і занадта зразумелае. Як не пасавалі б сціплыя, някідкія, лясныя ці лугавыя кветачкі да ярка-бухматых крыклівых прымітыўных кветак на зашклёных карцінах, якіх поўна ў вясковых хатах. Першыя - загадкавасць, непаўторнасць (кожная непадобна адна да адной, па-свойму прыгожая), свежасць, жыццё, натуральнасць... Другія - фарба, шкло, палатно, рамкі... Аднастайнасць...

У тваім жыцці я заўсёды буду нікчэмнасцю. Не тое, што... «хлыст».

Апошняе сказалася неяк знячэўку, нечакана...

Я гэтак хацеў быць зразумелым, нібыта ўжо і сам ператварыўся ў гэтае жаданне. Хацеў, каб мае словы былі не проста словамі, а самім нашым жыццём, ва ўсёй яго паўнаце. Хацеў, каб яны пранікалі як мага глыбей у Рытчыну свядомасць, яе сэрца, каб Рытка пасля маёй споведзі зірнула нарэшце на мяне іншымі вачыма, не замглёнымі аніякімі ўмоўнасцямі. Я захапіўся, і, відаць, не прыкмеціў, што з мяне суцэльным патокам выліваюцца агульныя фразы, як абгортка, тлумачэнне, разжоўванне таго, што яна павінна была пачуць. Я расказаў тое, што было «за кадрам», але не паказаў сам кадр. Паказаў сутнасць. Але ў тэорыі. Калі б Рытка не была прыбіральшчыцай, пасудамыйкай, непераўзыдзенай хатняй гаспадыняй, ёй, напэўна, няцяжка было б убачыць і сам «кадр». Хаця... Яна досыць праніклівая, кемлівая. Але яна ўсё ж іменна прыбіральшчыца, пасудамыйка, хатняя гаспадыня па сутнасці сваёй, па складу свайго светаўспрымання. Тады я, карыстаючыся Рытчыным маўчаннем (яна нібыта і не дыхала, а ў вачах не чыталася хоць якога-кольвек пачуцця, застыла), дадаў:

- Рытка, я вяртаюся на філфак, пакуль не позна, кідаю - зараз жа, сёння, заўтра, к чорту яе - будоўлю, і... Еду, еду неадкладна... Яны прымуць мяне. Я ж быў выдатнікам. Дый інстытуцкія адзнакі не горшыя. Трэба пазбіраць дакументы. Я сёння ж пачну збіраць дакументы. Толькі...

Я зноў уважліва паглядзеў на Рытку. Яна па-ранейшаму захоўвала паўнейшы спакой. Нібы заснула з адкрытымі вачамі. Хіба толькі крыху збялела.

- Толькі я вельмі не хацеў бы, каб ты думала, што я патрабую ад цябе гэткую плату за катэдж. Я проста больш не магу так жыць.

Жыць...

І наступіла нейкая ненатуральная, сціснутая, выбухованебяспечная - прынамсі, так мне тады падалося - цішыня.

Цішыня...

У ёй яшчэ лунала рэха майго голасу.

Рытка сядзела нерухомая. Яе кулачок па-ранейшаму абыякава падпіраў галаву.

Праз нейкі час з цішыні выплыла ціканне гадзінніка, які вісеў над сталом. Ён паказваў палову на дванаццатую.

## XVIII

Калі я ўжо затрывожыўся, што Рытка, можа, прапусціла міма вушэй маю споведзь, адзіную маю надзею на паразуменне, яна варухнулася.

- Ты страшны чалавек, Кастусь. - Гэтую фразу яна прамовіла спакойна, проста, нібыта паведаміла, што сёння на абед будзе тое і тое: звычайная, без сюрпрызаў, ежа.

Прызнацца, я чакаў ад Рыткі любога адказу. Але каб гэтак.

- Я і праўда не ведала цябе да гэтай хвіліны. - Яна глыбокадумна перасмыкнула вуснамі, затрымала на мне пранізлівы погляд.

- А ведаеш, з цябе атрымаўся б неблагі святар. Я нават заслухалася тваёй пропаведдзю. Не разумею толькі, навошта ты мне ўсё гэта казаў. Я была пра цябе лепшага меркавання. Ты патрабуеш ад мяне занадта многа. Па-твойму, з сённяшняга дня я павінна маліцца на ц ябе, як на святога? Ён, бачыце, кветачка, ён высока, а ты, Рытка, чарвяк зямны, які точыць зямлю і гэтым шчаслівы. Вой, забылася, кветачку ж падточвае, і тая, бедная, вяне. Усё я разумею, не такая дурная, як ты лічыш. І ведаю: на цябе не тое што маліцца, цябе і паважаць няма за што. Сапраўдны мужчына ніколі не сказаў бы таго, што сказаў мне ты. Ты не паспавядацца, ты як найбалючай укусіць мяне рашыў. І такі ўкусіў. Я ж верыла табе, верыла, верыла! - Паўтарала, нібы стагнала. - І цяпер веру, толькі не сённяшняму, а таму, юнаму, шчыраму, такому міламу Кастусю, па якім даўно ўжо сумую. Я чакала цябе, як Бога. Вось тады я сапраўды з радасцю малілася б на цябе. Ты прыходзіў і забіраў мае няўпэўненасць, нерашучасць, страх... Няпраўда, ты кахаў мяне. Я ніколі не забуду той

час: так, як ты тады, паводзяць сябе толькі закаханыя. Але ж ваша, мужчынскае, каханне недаўгавечнае. Гэта нават навукай даказана. Таму мяне і не здзівіла тваё прызнанне. Хаця, ты мог і зманіць, каб зрабіць мне балюча. За што? Усяго толькі за тое, што нешта ў тваім жыцці атрымалася не па-твойму. Гэта занадта жорстка. Тысячы, мільёны мужоў аднойчы перастаюць кахаць сваіх жонак. Але калі нехта з іх і прызнаецца ў гэтым, дык не «мудрае», як ты, а так і гаворыць: «Я раскахаў цябе». Але табе аказалася мала і гэтага. Ну навошта, навошта табе хочацца мучыць мяне? Што табе яшчэ ад мяне трэба. Я ж сказала: выб'еш катэдж - кідай работу, вяртайся на свой філфак, калі ўжо жыць без яго не можаш. Ты мог бы зрабіць усё гэта без абраз, спакойна. Але ты не забыўся нават папікнуць мяне Сяргеем...

Цяпер ужо яна нарэшце назвала яго проста Сяргеем. Па імені.

- Калі ты разыграў гэтую сцэну з-за рэўнасці, дык ведай: якім бы ты ні быў мне агідным, я ніколі не здраджу табе, пакуль ты мой муж. Цяпер мне абсалютна ўсё роўна, раўнуеш ты мяне ці не раўнуеш, бо я таксама не кахаю цябе. Раней я пра гэта не думала, а таму не ведаю, калі знікла гэтае пачуццё. Затое я дакладна ведаю: цяпер яго няма. Як ведаю, што ты і толькі ты разбіў маё каханне. Я магла б зрабіцца палюбоўніцай Сяргея (ён гэтага чакае), але ніколі не буду ёю. Толькі не таму, што паважаю цябе, а таму, што паважаю сябе. Ты ні пры чым.

Ты ні пры чым.

Рытка гаварыла пра нашыя адносіны, бадай, тое ж, што і я. Толькі па-свойму. Яна так і не зразумела мяне, прыняла маю споведзь (пропаведзь - гм, дадумалася) за абразу. Але ж без гэтай, няхай непрыемнай для яе, праўды я нічога ёй не сказаў бы. Я хацеў толькі аднаго - паразумення. А атрымаў крыўду і... здачу.

Я скрывіўся, як ад зубнога болю.

- Рытка, ты мяне не так зразумела. - Я яшчэ хапаўся за надзею, як тапелец хапаецца за саломінку.

- Правільна я цябе зразумела. Ты нават час для высвятлення адносін разлічыў як нельга лепш. Калі ўжо катэдж у тваіх руках. Раней трэба было аддаваць яго Булаху.

- Я і раней казаў. Ты ведаеш гэта.

- Ты мне казаў. А не Булаху. Не свайму начальніку. Не Сяргею. Мне - загадзя ведаючы, што я буду супраць. Бо ты і сам, калі б я табе прапанавала тое ж самае, быў бы супраць. Любы нармальны чалавек, нават і святы, не даў бы сцвярджальны адказ. Дык вось: ты не толькі ведаў, што я выкажуся супраць, але і сам хацеў гэтага. Табе трэба было іншае: прынізіць мяне, маўляў, глядзі, якая ты зайздросная,

скварная, дробязная... Адным словам, нядобрая. І які я высакародны, шчодры... Святы, дый толькі. І святы - і з катэджам! Табе чамусьці пазарэз трэба выглядаць лепшым за іншых, хоць пастукі твае не лепшыя, а можа нават яшчэ і горшыя. Як я пагляджу, ты проста памешаны на гэтай сваёй надакучлівай ідэі. Яно, гэтае тваё хваравітае імкненне выглядаць лепшым, губіць, псуе цябе. У рэшце рэшт з-за яго ты выглядаеш, ды не выглядаеш нават, а робішся яшчэ горшым: вартым жалю, наіўным, нават агідным, невыносным. І чаго табе ўсё няймецца? Чаму не хочаш быць самім сабою? Мне зусім не патрэбны гэтыя твае... крыўлянні, бо я ведаю цябе сапраўднага.

- Ты якраз не ведаеш мяне сапраўднага. - Я падскочыў да яе, схапіў за руку, відаць, моцна, бо яна войкнула і пачала адмахвацца. Я не адразу ўцяміў, што не гавару, а крычу ёй: - Што ты вярзеш!? Ты зусім, зусім не ведаеш мяне! Ты не маеш права!..

Яна такі вырвала сваю руку з маёй. Адскочыла да дзвярэй. І ўжо адтуль, трымаючыся за клямку:

- Так і знай, Кастусь, паднімеш руку - цярпець не буду. Як бач загрыміш у мяне...

Увесь яе рашучы, натапыраны выгляд, шырока раскрытыя вочкі, надрывісты голас пацвярджалі - гэта не пустыя словы, яна выканае абяцанне.

У мяне ніколі не ўзнікала жадання не тое што ўдарыць, але і пакрыўдзіць Рытку. Натуральна, не было яго і цяпер. І вось з'явілася. Пасля гэтай яе абразлівай для мяне пагрозы. Я нават фізічна адчуў, што ледзь стрымліваю сябе, каб не схапіць яе за плечы і добра такі патрэсці, каб выцерусіць, вытрэсці з яе галавы падобную брыдоту. Але я стрымаў сябе.

- Ну што яшчэ за дзікунства, - прастагнаў у адказ. Адразу ж адчуў сябе страшэнна стомленым, апусціўся ў крэсла, аблакаціўся аб стол і абхапіў рукамі галаву.

Дзікунства.

Што ж цяпер? Трэба на нешта рашацца, нешта рабіць. Прызнаўшыся Рытцы, што не кахаў і не кахаю яе, я, тым не менш, зноў востра адчуў, што яна як бы частка мяне самога. Я ўсё яшчэ быў упэўнены, што патрэбны ёй. Толькі не такі, якім яна мяне бачыць, а які я ёсць насамрэч. Шкада, што яна сама гэтага не разумее і, па ўсім, не хоча разумець. Страшна было нават падумаць, што паміж намі ўсё скончана. Ці скончыцца. Бадай, яна патрэбна была мне не менш, чым я ёй. Нас з'ядноўвалі ў адно цэлае не толькі дзеці. Калі б іх і не было, растанне з ёю азначала б тое самае, што рэзаць па жывому. Што азначае апошняе, разумее, пэўна, кожны: гэта боль, пакуты... Гэтае

наша непаразуменне цягнулася, нягледзячы на тое, што мы як бы і не заўважалі яго, столькі часу, колькі мы жылі з Рыткаю сумесным жыццём. Непаразуменне не штучнае, а натуральнае, якое, тым не менш, вельмі лёгка зняць. Для гэтага патрабавалася дробязь: усяго толькі ўвайсці ў становішча адно аднаго. Што да мяне, то я ўваходзіў у яе становішча пачынаючы ажно з таго далёкага ракавога для нас абодвух вяселля. Уваходзіў, пакуль не адчуў, што гэтага мала, што патрэбен і яе крок насустрач мне. Здавалася б, гэта так проста - усяго толькі зразумець, увайсці ў становішча. Гэта лягчэй, чым пераставіць з месца на месца крэсла, чым проста ўстаць з гэтага крэсла. Няма аніякай патрэбы варухнуць хоць бы адным мускулам. Толькі зразумець... Зразумець...

Відаць, Рытцы лягчэй было перастравіць у хаце ўсю мэблю, перарабіць шмат іншай работы, чым дайсці вось да гэтага простага і лёгкага: зразумець. І я не знаходзіў, чым яшчэ можна перайначыць яе стаўленне да мяне.

Рытка ўсё яшчэ не рашалася адысці ад дзвярэй.

- Ты што, сапраўды думаеш, што я магу ўдарыцьь цябе?

- Нічога я не думаю.

- Але ж ты ледзь не ўцякла ад мяне на вуліцу.

- Бо я не збіраюся чакаць, пакуль ударыш. Гэта Булаха, здаровага мужыка, ты і пальцам не зачапіў. А я не Булах - мяне не цяжка пабіць, слабую жанчыну. Толькі не на тую нарваўся. Запомні раз і назаўсёды: я не дам сябе ў крыўду, ніколі, што б там ні было.

- І ты яшчэ даказваеш, што ведаеш мяне. Божа, як ты толькі магла да такога даўмецца. Я ніколі, ні пры якіх абставінах не ўдару цябе. Так што можаш расслабіцца і адысці ад дзвярэй.

Я запэўніваў не толькі яе, але нібыта і сябе.

- Рытка, - я пастараўся, каб мой голас быў як мага спакайнейшы, - калі мы збіраемся і надалей жыць разам...

- На што ты намякаеш? - перапыніла яна, папраўляючы пышную прычоску і прысядаючы да мяне за стол, якраз насупраць.

Стол перагавораў, дый толькі.

- Я не намякаю. Проста калі мы збіраемся жыць разам, то жыццё гэтае павінна быць абодвум у радасць.

- Чацвярым.

- Так, чацвярым, прабач. Гэтая гутарка раззлавала і цябе, і мяне. На жаль, мы так і не паразумеліся. Але калі ўжо жыць вось так, не паважаючы адно аднаго - лепей наогул не жыць разам. Хоць гэтага ніхто і не жадае: ні я, ні ты, ні, тым больш, нашыя дзеці.

- Хітрун жа ты, Кастусь. - Рытка нібыта пасвятлела. - Нагаварыў бочку арыштантаў, і зноў назад, у кусты… Усё добра, давайце жыць дружна. І гэта пасля таго, як выліў на мяне гэтулькі бруду.

- Па-мойму, ты адрэагавала дастойна. Але што ты хацела гэтым сказаць? Ты не хочаш згоды?

- Будзем жыць, як і жылі. Што мы зменім? Гэтыя твае пошукі згод, паразуменняў... Пустое… Нікому яно ўсё непатрэбна. От, жыві проста. Бо як пачынаеш мудрыць - бачыш, што атрымліваецца.

- Усё, Рытка, - я такі ўзарваўся, стукнуў кулаком па стале. - Калі ўжо не хочаш мяне зразумець, дык хаця б не вучы. Божа, калі ты... Калі вы ўсе паразумнееце…

Яе позірк зноў насцярожыўся. Я падумаў: варта мне зараз варухнуцца, зрабіць выгляд, што ўстаю, яна як бач зноў апынецца ля дзвярэй, ушчаперыцца за клямку. Ад усяго гэтага мне зрабілася горка і смешна.

- Вось і паразумейся з табой, - сказала Рытка. - Калі ты гэткі разумнік, а ўсе вакол дурныя.

- Прычым тут разумнік, прычым дурныя! Ну што ты зводзіш усё да аднаго і таго ж, - я вымушаў сябе гаварыць спакойна, але, відаць, мяне выдавалі дрыжачыя вусны і нецярплівы пагляд. - Я ні разу за ўсё жыццё не сказаў, што разумнейшы за іншых. Дый не лічу сябе такім. Я не лепшы, я - іншы. Але дзеля цябе, дзеля твайго шчасця прытвараўся такім, як усе. І вось цяпер, - я разрываў словы, нібы першакласнік склады, каб падкрэсліць важнасць кожнага слова, - калі адчуў, што ўжо не маю сіл прытварацца, вырашыў пагаварыць, каб ты ведала, што са мною адбываецца і чаму, і каб гэтая перамена ўва мне не шакіравала цябе, не застала цябе знянацку. Я хачу масціць свой шлях для сваёй мары, бо ў нас з табою шляхі і мары розныя. І калі ты не збіраешся памагаць мне, як памагаў табе я, дык хаця не замінай. Зразумей - гэта не дзівацтва і не выбрык - і не замінай.

- Я ніколі і не замінала табе будаваць, ці як ты там кажаш, масціць нейкі свой шлях. Я проста жыла, як жывуць усе людзі. Гэта не я, ты сам сябе стрымліваў, бо баяўся адказнасці...

- За што - адказнасці?

- Вядома за што: за гэты самы свой шлях. Праўду ты сказаў, прытвараўся. Так лягчэй. Калі б ты рабіў усё па-свойму, то і адказваў бы за тое, што робіш: перад сабою, перада мною, перад дзецьмі, перад людзьмі... Але ты і работу, і адказнасць пераклаў на мае плечы. І яшчэ папракаеш...

- Гэта не папрок, Рытка. Гэта споведзь. Ты ўсё правільна рабіла...

- Але не па-твойму.

- Так, не па-моойму, але ты ў гэтым не вінаватая...

- Дзякуй і за гэта...

- Не блазнуй, Рытка. Няўжо мы для таго пачыналі размову, каб вось гэтак недарэчна скончыць яе?

Рытка стомлена маўчала. Бачна было, што ёй надакучыла гэтая пустая балбатня. Яна апусціла галаву і нецярпліва церабіла кутасікі абруса. З цішыні зноў выплыла ціканне гадзінніка. Зірнула на стрэлкі:

- Божа, абедаць пара. Мы прабалбаталі з табою амаль тры гадзіны.

- Мы позна паснедалі.

Мне не хацелася на гэтым спыняць гаворку. Прадчуваў: калі зараз не знойдзем хоць якое паразуменне, то ўжо не знойдзем яго ніколі. Але ці можна знайсці тое паразуменне ўсяго за некалькі гадзін, калі яго не было ніколі.

Ні-ко-лі.

Я ажно схамянуўся.

Рытка заклапочана зірнула на мяне.

- Табе трэба адпачыць, Кастусь. Паспі. Альбо спачатку мо паясі, а тады ўжо паспіш? Што мы зменім? Будзем жыць, як жылі. Не горш, чым хто іншы, жывем.

Яна ўжо намерылася рушыць да пліты, каб падагрэць абед, але я спыніў:

- Я не буду есці. Калі хочаш, падагравай толькі сабе.

- Як хочаш.

Рытка зноў знерухомела за сталом.

Будзем жыць, як жылі. Як? Не кахаючы? А, можа, я ўсё-ткі кахаю яе? Можа, у мяне гэтакае адмысловае каханне? Можа, і яна толькі са злосці сказала, што не кахае, і не ўсё яшчэ страчана? Можа, гэта часовае расчараванне. У жанчын пачуцці хутка змяняюцца.

За што ж яна мяне пакахала? Што моцны, вясёлы, упэўнены... Маўляў, такі і пракорміць, і абароніць... А тут... самой трэба і карміць, і бараніць. А калі пачну яшчэ і жыццё ўскладняць рознымі там фантазіямі ды капрызамі, то і пакутаваць. Пакутаваць нібыта і з-за мяне, але ў той жа час і з-за сваёй абмежаванасці. Нібыта знаходзіцца ў якойсьці скарлупіне, і яе, гэтую скарлупіну, анічым не прабіць (відаць, яна прабіваецца толькі знутры), каб шырэй зірнула на свет.

Нарэшце я прамовіў:

- Не, Рытка, я не хачу жыць так, як жылі.

Рытка каторы раз цяжка, знясілена ўздыхнула:

- Што ты надумаў?

- Не ведаю, але...

- Вось так заўсёды. Ты ніколі не ведаў, што табе трэба. Звыкся, што я ўсё за цябе рашаю. Чакаеш, пакуль скажу: вяртайся на філфак свой, уладкоўвайся ў школу, напішы вершык... Дык вяртайся, уладкоўвайся, пішы... Рабі, што хочаш, толькі адчапіся ад мяне... Я, можа, таксама стамілася ўсё рашаць за цябе. І адказваць за цябе.

Як нешта падняло мяне з крэсла. Хацелася крыкнуць: « Ну чаму, чаму ты не скажаш, што ўсё адно будзеш кахаць мяне, што хочаш бачыць мяне шчаслівым, што паможаш мне знайсці сябе ў гэтым жыцці...» Але я не крыкнуў. Крычалі, відаць, толькі мае вочы, бо Рытка таксама ўскочыла і насцярожылася.

Я рашуча ступіў да дзвярэй.

- Куды ты? Такі...

- Пайду. Нап'юся... - адказаў ужо ад дзвярэй.

- Гэта адзінае, на што вы, мужчыны, па-сапраўднаму здатныя. Хоць прычашыся, - пачуў наўздагон і ўжо канчаткова рашыў, як адрэзаў: нап'юся.

## Частка чацвертая.
## БЫЛО ЦІ НЕ БЫЛО...

### XIX

Здаецца, гэтага не было. Ці было?

Карчма «Пад плітамі». Ці атэль «Пад плітамі»?

Чаму ў галаве круціцца гэтая назва? Раней я ніколі не чуў яе.

Прахалода. Склеп тут, ці што?

Пад нагамі зазвінела-забраскатала. Пляшкі, ці які чорт?

Пляшкі з-пад «чарніла» і «белай» стаялі і ляжалі паўсюль на халоднай, даўно не меценай каменнай падлозе. Старая падзёртая канапа, засцеленая засаленай коўдрай няпэўнага колеру. Я спаў на ёй? Засланы газетамі стол. Што там? Агульны сшытак з павыдзіранымі старонкамі, аловак, недапітая пляшка «чарніла», вышчарбленая чарка, кавалачак сала, паўцыбуліны, сухарык, чэрап-попельніца з мноствам скурчаных «бычкоў», надарваны пачак з-пад танных цыгарэт, агарак тоўстай васковай свечкі, запалкі, зэдлік. Пад сталом пляшкі. Над сталом вузенькае запавуціненае акенца. Над галавою свеціцца прымацаваная да аголенага провада груша. Па кутках - пляшкі. Сцены падпіраюць карціны. Няскончаныя. Адна нібыта знаёмая. Недзе я ўжо бачыў такі пейзаж: на пярэднім плане рачулка, за ёю зялёны з яркімі плямінкамі кветак поплаў, за поплавам (Божа, якое тут усё знаёмае) бязважкія светлыя аблачыны бярозавага гаю на фоне цёмна-сіняй зубчатай сцяны старога бору. Асобныя бярозкі па

адной ці купкамі павыбягалі на поплаў... Кружацца... Гарэзуюць... Дзе ж я ўсё гэта бачыў? І які змрочны прытулак.

Пад сталом між пляшак пакамечаныя лісты: белыя плямы на чорнай палітры. Відаць, з агульнага сшытка. Што яшчэ за сшытак такі? Зараз зірнем, што гэта за сшытак. Колькі лістоў спісаны няроўным размашыстым почыркам. Амаль усё напісанае густа пакрэслена. Божа, гэта ж мой почырк. Калі я ўсё гэта напісаў? І мае крэсленні. Толькі я гэтак крэслю: віхлястымі спружынамі. А загаловак не мой. Чысценькі, не пакрэслены. «Шчасце ў падарунак» - нібы выразаны з газеты і наклеены сюды. «І настаў час, калі я безнадзейна заблытаўся ў сабе».

Гм.

«Я нібыта развучыўся адрозніваць дабрыню ад зла, высакароднасць ад подласці, узвышэнне ад прыніжэння...»

Гм.

«Каб не страціць чалавечае аблічча...»

Якраз у гэты момант на вочы трапіўся асколак люстэрка. З яго пазіраў нябрыты счарнелы твар і зусім чужыя стомленыя вочы пасярод цёмных плямін. Нібыта той, што ў люстэрку, быў у акулярах з таніраванымі шклінамі.

Аблічча дык аблічча. Гэта яшчэ не той свет? Дзе я? Хто я? Што са мною? Аловак. Дзе аловак? Мне трэба ўспамінаць алоўкам. Чаму? Хто сказаў? Здаецца, нехта казаў, што я павінен успамінаць алоўкам.

Толькі б не збіцца...

Не збіцца...

* * *

- Майстар, вы робіце поспехі. Калі вы гэтакім тэмпам будзеце пісаць і далей, то рызыкуеце патрапіць у спіс самых пладавітых пісьменнікаў. За вамі не паспявацьме машыністка. Але чаму вы не нумаруеце старонкі?

Майстар? Пісьменнікаў? Што за д'ябальшчына.

На стале з'явілася поўная, яшчэ не адкаркаваная, пляшка «чарніла».

- О-о, я бачу, вы і гэтую не дапілі. Я пакідаў на пахмелле.

- Хто ты?

- Я? Люцыпар, вядома.

- Ты здорава нагадваеш мне аднаго майго сябра. Мастака. Яго завуць Аляксеем.

- Можаш называць мяне Аляксеем. У мяне шмат імёнаў. А я ўжо, барані Божа, падумаў, што ты памяшаўся, не пазнаеш.

- Дзе мы, Люцыпар? Нешта я ніяк не дапетру.

- У маім царстве, дарагі мой белетрыст.

- У пекле, ці што?

- Ну, калі гэтае сімпатычнае жытло нельга назваць раем, тады няхай будзе пекла. Я ж табе ўжо казаў: гэта мая карчма «Пад плітамі». Даруй, цяпер ужо гатэль «Пад плітамі». Пра яго ведаюць абраныя. Так што можаш быць спакойны: непажаданы госць цябе тут не патрывожыць.

- Скажы мне, Люцыпар, дзе я яшчэ мог бачыць вось гэтую карціну, што вунь ля той сцяны?

- Тую, з бярозкамі?

- Так.

- Э-э, ды ў цябе, я бачу, дах усё ж «паехаў». Гэтую карціну я дапісваў учора, але не дапісаў. Па тваёй просьбе, між іншым, узяўся за яе.

- Па маёй? Гм. Нічога не разумею.

- Значыць, я недарэмна трывожыўся. У цябе сапраўды ў галаве «заскокі». Трэба лячыцца. І табе, і мне. Давай, разлівай. Пахмелімся, то галава як бач прасвятлее.

- Я не п'ю «чарніла». Мяне ванітуе ад яго.

- Учора нешта не ванітавала. Крычаў: «яшчэ, яшчэ віна»... Лісты вунь са сшытка павырываў, пакамечыў... Хацеў спаліць, ды я адабраў запалкі. Так што не дуры: чым захварэў, тым і лячыся.

- Угаварыў ты мяне, Люцыпар.

- Ды не называй ты мяне ўжо Люцыпарам. Заві Аляксеем. Прычапіўся: Люцыпар-Люцыпар... Ну, бярэм.

- Што б ты рабіў без гэтага Люцыпара. Так і сядзеў бы ў сваёй Маргарыты пад каблуком. Майстар. Гэ-гэ. Ну, нічога. Дапішаш, я прарэцэнзую. Як ніяк, старэйшы, кумекаю дзе-што ў гэтым. А тады адпарым цябе, сашкрабем з цябе ўсялякую шчэць, начэпім убранне з іголачкі, гальштук, і...

Махнуў рукою некуды ў ваконца.

- ...І ў сталіцу, прамым ходам. Здамо пляшкі, купім табе білет. Пасля яшчэ кнігі твае буду афармляць, папомніш маё слова.

Здаецца, гэтага не было. Ці было?

Дзяўчына. Была ці не была?

Яна заўсёды прыходзіла рана-раненька, калі яшчэ ўсе, напэўна, спалі. І я спаў - вітаў у аблоках цыгарэтнага дыму, звыкшыся са смуродам.

Яна ціхенька садзілася на зэдлік ля стала, брала мой сшытак і чытала. А пасля перапісвала прыгожым почыркам у тоўсты альбом з

вялікімі неразграфаванымі лістамі. Радкі ў яе атрымліваліся раўнюткія, як пад лінейку. Як ёй удавалася гэтак роўна і чыста пісаць?

Яна - мастачка-практыкантка. Малюе кінаафішы.

Яна зусім не падобная на Аляксея. Сур'ёзная, хоць і маладзенькая. Практычная, гаспадарская, хоць і творчага племені. Заўсёды прыносіла з сабою нешта гарачае (суп, боршч ці бульён) у літровым слоіку, часам кефір, булачку...

Як яны сябравалі?

Мы з ёю амаль не размаўлялі. І сыходзіла яна гэтак жа ціхенька, на цыпках, як і паяўлялася. Як добры прывід, як анёл-ахоўнік. Здавалася, варта мне загаварыць з ёю, як празрыстыя адносіны між намі замутнеюць.

Я не загаворваў.

Калі сядаў за стол, яна клала перада мною агульны сшытак і глядзела запытальна. Не было ў гэтым яе маладым чыстым паглядзе, у вялізных прыгожых вачах ні пакорлівасці, ні вяршэнства. Проста цікаўнасць. У руках дзяўчына трымала самапіску і абгорнуты белым ватманам альбом. Яна звычайна перапісвала, паклаўшы альбом на калені альбо на дошчачкі, якіх тут было досыць. Магла б перапісваць і на стале, месца хапала, але, відаць, не наважвалася. А я не прапаноўваў. Проста маўчаў.

Я вырываў са сшытка колькі лістоў. Бывала, лісты ірваліся няроўна, трэшчына збочвала і раздзірала тэкст. Тады твар дзяўчыны крывіўся, моршчыўся, як ад невыноснай пакуты ці болю. Я крыху звысоку і паблажліва ўсміхаўся, маўляў, эх ты, акуратыстка, і падаваў ёй парваныя лісты. Яна схілялася над чарнавіком і чыставіком, і засяроджаны тварык яе засланяўся, нібы шторкамі, доўгімі шаўкавістымі пасмамі.

Аднойчы яна не вытрымала, першаю падала голас:

- Чмыхнуў вецер, і па падворку закружыўся рой парашуцікаў-дзьмухаўцоў, якія насцярожылі і качку, і квактуху. А малеча бегала і лавіла іх...

Яна прачытала гэтыя радкі і захіхікала, засмяялася, як маленькае дзіця. Відаць, уявіла карцінку. Мяне гэты смех на нейкі час збіў з думкі, і я нават узлаваўся, але зрабіў выгляд, што нічога не пачуў.

Ёй, відаць, спадабалася цытаваць:

- Скрыўленасць засталася, але цяпер яна не перашкаджала качаняці есці, піць, рухацца, развівацца і хутка расці... Гм... А людзям душэўшая скрыўленасць таксама не перашкаджае...

Я ўжо кінуў на дзяўчыну раздражнёны пагляд, і яна замаўчала.

Але праз нейкі час зноў не ўтрымалася:

- Можа, Рытка кахае мяне так, як Маргарыта кахала свайго майстра?

Праўда, чытала ўжо ціха-ціхенька.

- Там нешта рамантычна-містычнае, а тут...

Уздыхнула. Падперла кулачком з заціснутай у пальцах асадкай галаву. Задумалася.

На мяне хваляю накацілася нейкая пяшчота да яе, зрабілася няёмка за сваё раздражненне. Калі ў пальцах зашамацела чарговая цыгарка, спытаў:

- Можна... запаліць?

Я не пазнаў свой голас. Нібыта ён, як і твар, зарос шчэццю, і драпаў па горле.

- Вы ж увесь час паліце, не просячы на тое дазволу.

У яе голасе было чыстае, без прымесяў дакору ці незадаволенасці, здзіўленне.

- Прабач.

- Што Вы... Мне нават прыемна: дым, падвал, рукапіс... І я... Гэта так рамантычна.

Здаецца, гэтага не было. Ці было?

## Мурашнік

«Як людзі.., як мой народ».
Алесь Наварыч

Чалавек ужо і не думаў, і не гадаў, што мурашнік, які вырас ля самай лясной сцяжынкі, выжыве, адродзіцца. Некалі ён быў такі маленькі, што не закрываў нават напаўструхлага пянька. Але паступова рудая варушлівая горка большала, спачатку яна падабрала пад сябе пянёк, а пасля пачала няспешна прыцярушваць збіты на ток падзол - светла-шэрую стужку між травы і ігліцы.

Па сцежцы людзі хадзілі не часта, хоць і бывалі дні, калі сноўдалі адзін за другім: то пехатою, то на роварах, а то і на матацыклах.

Тым часам мурашнік рос. Дробненькія, але дужыя і ўпартыя стварэнні з усяго наваколля безупынна сцягвалі сюды патрэбны будаўнічы матэрыял, і да восені горка заняла ўсю сцяжыну.

- Дурніцы, - скрушна схіліў галаву чалавек у форменнай апратцы з дубовым лісцем на пятліцах. - Што ж вы, гіцлі, лепшага месца не знайшлі, га? Чорт матацыклам як шмаргане, ад вашага дома адно ашмоцце і застанецца.

Чалавек прыпаў на адно калена, схіліўся:

- Ну, чаго ты тузаешся? А бач жа, якое ўпартае. Ледзь здужае, а пнецца. Дзіва, такое бервянішча. Каб у цябе хто спытаў - для чаго стараешся? Для жыцця, можа? Не, скажу я вам, не для жыцця, а каб зараза якая ўсё гэта параскідала і прабачэння не папрасіла. Папомніце маё слова.

Мураш трымаў перад сабою разоў у пяць большую за яго трэсачку, тузаўся то ў адзін, то ў другі бок, упіраўся то задам, то перадам, але, здавалася, не пасоўваўся ні на крок. Зрэшты, такое ўражанне было падманлівым - праз хвіліну чалавек зноў глядзеў сабе пад ногі, туды, дзе толькі што поркалася няшчаснае насякомае, і не ўбачыў яго. Светлая трэсачка варушылася каля самага падножжа рудога конуса.

- Бач, ледзь варушацца, а работа спорыцца. - Мужчына неяк спачувальна ці то вінавата пасміхнуўся і падаўся прэч.

Што ні дзень - мурашнік большаў. Ён ужо перагарадзіў сцежку, і калі ехаць па ёй не зварочваючы, лінія праходжання колаў размясцілася б зусім блізка да вяршыні конуса. Ва ўсе бакі ад мурашніка працягнуліся крывымі, нібы карані дрэў, стужачкамі прыкметныя здалёк мурашыныя сцяжыны. А людзі пачалі вытоптваць па адным з яго бакоў дугу, змяняць форму свайго ляснога тратуара. Пройдуцца, абмі-

наючы перашкоду, прыгнуць траву, уціснуць у зямлю якую ламачыну, адфутболяць да бліжэйшай хвоі сухую і таму растапыраную, як злы індзюк, шышку, спатыкнуцца аб схаваны ў яшчэ зусім слаба вытаптанай траве тоўсты смаляны корань, тупнуць нагой, страсаючы мураша - і абхадны шлях пазначаны. А тыдзень-другі зацішку зноў зацягвае дугу зялёна-рудым дываном.

Мурашоў, праўда, нічога, акром сваёй справы, не хвалявала - ні людзі, ні іх сцежка, ні што б там ні было. Яны нібыта заведзеныя цягнулі і цягнулі да горкі-хаты ўсялякае лясное смецце ды пажыткі - зялёных вусеняў, чорных жучкоў, белых тлустых лічынак.

Аднаго разу на мурашоў неспадзеўкі абрушылася бяда. Яна мела выгляд вузкіх веласіпедных колаў з чорнымі пакрышкамі і бліскучымі нікеляванымі абадамі і гарластых няўрымслівых падшыванцаў. Першы - рабы і ўскудлачаны - угледзеў наперадзе перашкоду і набраў разгон, каб не завязнуць у рыхлай горцы. Паляцелі пырскі лёгкага друзу. След у след за сваім нячэсаным атаманам пралядеў, тузаючы педалі, каб затармазіць, другі. Трэці імчаў крыху воддаль. Ён паспеў зарыентавацца, прытармазіў і абагнуў разрэзанае на дзве амаль роўныя паловы жытло мурашоў. Чацвертым ехала малое і замурзанае. Яно вісела, падобнае да малпы, пад рамаю і неяк ухітралася круціць босымі, чорнымі парэпанымі нагамі скрыўленыя педалі. Адолець мурашнік яно не паздужала і мякка апусцілася на яго левую палову. Заенчыла. Грабянула задубелымі падэшвамі тое, што па крупіцах, гадамі збіралі маленькія будаўнікі, дый саміх будаўнікоў таксама, адскочыла, абабіла падгорнутыя да лытак калашыны, пачало пад смех старэйшых выцягваць ровар, руйнуючы жалезнаю рамаю правую палову конуса.

Калі б нехта ў гэты час пільна зірнуў на дол, то ўгледзеў бы, што параскіданыя мурашы не раздумвалі, як весці сябе пасля вялікай катастрофы, а хапаліся за бліжэйшы кавалачак галінкі ці то за якую трэсачку і, нібыта нічога не здарылася, цягнулі да горкі. Нібыта ніхто і не наязджаў на іхняе жытло, ніхто іх не раскідваў, не здзекваўся.

- А божачкі... Ну, што я вам казаў. Ай што нарабілі, сволачы праклятыя. Казаў жа, казаў я вам - не будзе вам тут жыцця. - Стары з дубовым лісцем на пятліцах ці то радаваўся, што яго папярэджанне было разумным, трапным, ці бедаваў? Але тое, што спачуваў мурашам - гэта без сумненняў. Ён схадзіў па сякеру, вырубаў і затачыў чатыры бярозавыя слупкі, убіў іх вакол мурашніка, пасля пакараваў восем танклявых альховых жардзінак, прыбіў да слупоў. Атрымалася агароджа.

Прайшоў час. Той самы чалавек, толькі пастарэлы і ў цывільнай апратцы, наведаўся да мурашніка і як узгледзеў яго - знямеў. Больш ад здзіўлення, што жытло ўпартых цягавітых насякомых не толькі вярнула сабе правільную форму конуса, але і прыкметна пабольшала і сваёю вяршыняю даставала яму да пояса, чым ад абурэння, што агародка з гэтага боку аказалася паламанай, і канцы ўсіх чатырох палавінак жэрдзяў хаваліся ў мурашніку. Памеркаваўшы, што веласіпеду жэрдку не адолець, бо яна яшчэ зусім здаровая, высахлая да звону, а аўтамабілі тут не ездзяць, стары зрабіў вывад: «На матацыкле, паршывец, улез». Ён ужо намерыўся выцягнуць абломкі, ды спахапіўся: «Ці варта зноў варушыць адбудаваную другім разам хату?» Пакінуў як ёсць. А перад тым, як пайсці, сказаў:

- Мусіць, сам Бог даў вам тут месца для жыцця, і ён жа наказаў вам пакутаваць. Значыць, я тут ніякім не магу быць ні памочнікам, ні дарадцай. Усё лёс. Усё лёс, дарагія мае...

Пасля гэтага ў старога было яшчэ дзве сустрэчы з мурашнікам. Першая - праз год. Тады чалавек праслязіўся, бо ўбачыў, што горка зноў здорава пацярпела. На гэты раз сур'ёзна - не дакажа ні ровар, ні матацыкл. Хату мурашоў прыціснуў да зямлі шырокім колам трактар, пакінуўшы на зямлі след пратэктара - малюнак доўгай, бясконца доўгай ёлкі. Зніклі і слупы, і жэрдкі. Адно валяліся наўкол рэшткі таго, што нядаўна называлася агароджаю. Стары сабраў іх і кінуў пад хвою. Пасля моўчкі пастаяў, павярнуўся, цяжка ўздыхаючы, і паплёўся па сцежцы...

Другая, апошняя сустрэча чалавека, што насіў некалі вопратку з дубовым лісцем на пятліцах, з мурашамі адбылася незадоўга да ягонай смерці. Адзіны слупок, які ўцалеў ад наезду трактара, цяпер ледзь вытыркаўся з горкі-хаты. Яна зноўку мела правільную форму конуса і вырасла настолькі, што вяршыня раўнялася з плячыма чалавека. А дуга, што некалі то паяўлялася, то знікала па адным з бакоў горкі, цяпер злілася са сцежкаю, быццам бы апошняя ўсё жыццё была скрыўленаю ў гэтым месцы.

Чалавеку падалося, што знішчыць або хоць бы спыніць мурашоў наогул не пад сілу аніякай трасцы, і што гэтае іхняе зацятае баруканне на сваіх выпаленых уласнымі пякучымі выдзяленнямі пуцявінах можа прывесці да небяспекі - аднойчы мурашнік пахавае пад сабою ўвесь навакольны хвойнік.

Стары падумаў, што мурашы сваёю абыякавасцю і да зла, і да дабра, якія чыніць ім чалавек, дэманструюць сваю пагарду да апошняга. І ён размахнуўся сваім пружыністым моцным кіем, які змайстраваў сабе са ствала старога ядлоўца і без якога ўжо не здужаў

хадзіць, і апусціў яго на маленькіх ганарліўцаў, што мітусіліся пад нагамі. Некалькі мурашоў брыкнулі на спіну, патузаліся, паварушылі лапкамі, перавярнуліся, знайшлі кожны свой груз і, нібыта нічога не здарылася, заспяшаліся да свайго жытла.

## Ёрчыкаў слуп

Спачатку людзі не верылі, што Ёрчык, гэтакі гаспадарлівы мужык, няхай сабе і дзікаваты, ды зусім з глузду з'ехаў. І калі ніхто ў вёсцы ўжо не сумняваўся ў тым, пачалі людзі дзіваку розум устаўляць:

- Апамятайся,- казалі яму.- Пашкадуй дзяцей, жонку пашкадуй. Яна ж у цябе залатая. Да таго ўжо цярплівая, што іншай такой і ў свеце не знайсці. Што ты за дурату ў галаву ўзяў? Мёртвых не паднімеш - пра жывых думаць трэба. А ты ўсё дабро на вецер пускаеш.

Ёрчык жа толькі слухаў ды пасміхаўся ў пажаўцелыя вусы, а пасля гаварыў:

- Глядзіце, колькі вас. Процьма. Не злічыць. І ўсе вы пра жывых думаеце. А некаму ж трэба і пра мёртвых. Во, праз дарогу ад маёй хаты старыя могілкі. Зайдзіце ды гляньце - там крыжы палеглі на зямлю і тлеюць, а ўзгорачкі магільныя ямкамі сталі. І гаспадарaць там вецер ды крумкачы. Закапалі і забыліся - пра жывых думаем. І я пра жывых думаў некалі, а цяпер - пра мёртвых. Чаму? Не ведаю. Мусіць, так трэба. І адгаворваць мяне - пустое. Ідзіце і займайцеся сваім, а я - сваім.

Так ён адказваў кожнаму. І ўсе вярталіся ад яго ні з чым. А потым і зусім хадзіць пераcталі, адно са спачуваннем ківалі галовамі.

Жонка спачатку была спакойная, потым здзіўлена пытала:

- Нашто табе столькі камення? Чаму ты аддаў усе грошы на цэглу? Тут хопіць на дзесяць дамоў.

- Людзі страцілі памяць, і мне трэба яе адбудаваць.

- Хіба ж памяць робіцца з камення? - яшчэ больш дзівілася жонка.

- Камень - самы трывалы з усяго, што стварыла прырода.

- Чаму ж якраз табе ўздумалася брацца за гэта? Няхай бы ўсе разам альбо нехта іншы.

- Не магу сказаць, бо і сам не ведаю. Упэўнены, што нікуды ад свайго не дзенуся. Трэба, і ўсё тут.

Жонка адыходзіла, а пасля плакала каля мурзатага прыпечка, моўчкі пазірала, як муж, заняўшы ўвесь агарод, выкладае на ім нешта агромністае і круглае. Знізу ён устрончыў у зямлю велізарныя валуны.

Унутр клаў на цвёрды каменны падмурак цэглу, белую і чырвоную - якая траплялася пад рукі, змацоўваючы ўсё гэта цэментам. Работа ішла марудна. За паўмесяца адолеў метры два, не болей. Але наперадзе - усё лета і восень. А можа, нават яшчэ і зіма, калі будзе цёплая. Ды шмат жа яшчэ і гадоў наперадзе.

І Ёрчык будаваў, надрываючыся, а жонка ўсё плакала, дзяцей шкадавала.

Калі чалавек пачаў выносіць з хаты і прадаваць самыя дарагія рэчы, ад вопраткі да шафы, жонка не вытрымала і з'ехала з малымі некуды далёка - да сваякоў. Яна думала пра жывых, пра сваіх дзетак, і нічога іншага зрабіць не магла.

Вось такою атрымалася ў мяне прыказка. А сама казка, канешне ж, яшчэ наперадзе.

* * *

Вёска, дзе жыў дзікаваты Ёрчык, называлася Чыргі. Яго хата стаяла якраз на ўездзе або на выездзе - гэта ўжо з якога боку ехаць. Счарнелая, з аблезлымі аканіцамі, сіратліва глядзела яна на дарогу, на здзічэлы лес, які быў нядаўна могілкамі. У спальні каля печы стаяў вялікі драўляны ложак, пад акном - куфар, у зале - стол і на кухні таксама стол. І ўсё самаробнае. Маленькі абразок вісеў у зале пад столлю - якраз насупраць дзвярэй. Нават ціканне гадзінніка, што запаўняе звычайна кожнае жытло і нагадвае людзям, што час няўмольна бяжыць і трэба спяшацца нешта рабіць, тут змянілася нуднаю цішынёю. Быццам бы і не жытло гэта зусім, а вялізная труна.

Але ж і тут, у гэтай хаце, неўзабаве пачалі з'яўляцца, хоць і зрэдку, госці. Хто? Звычайныя вясковыя п'яніцы, якія нарэшце знайшлі сабе добры прытулак, дзе можна было спакойна асушыць пляшку ды яшчэ й пагаманіць. Ніхто не лаецца, ніхто не зыркае нядобрым або насмешлівым вокам.

- Ты, Ёра, дурнаваты нейкі. На халеру гробіш сябе гэтай сваёй дурнатою. Я дык ужо, ясна, кончаны чалавек. Алкаш. Але нат з мяне людзі не смяюцца так, як з цябе, - развражаў ахрыплы ад «Беламору», з чырвонымі вачыма і адубелым тварам стары Лявон, адстаўляючы ў кут пустую бутэльку. - На чорта табе здалася гэтая камяніца. Так глянуць, то быццам ты і пры сваім розуме. І ладна ўсё ў цябе атрымліваецца. А нашто, каму яно патрэбна - ну ніяк не дапетру...

Ёрчык таксама піў. Чалавек жа, а не анёл які. Але нямнога, каб не страціць памяці. А мірыўся ён з гасцямі толькі таму, што вечарамі станавілася маркотна на душы. П'яніцы ж былі найлепшай кампаніяй - не пагарджалі. І гаварылі шчыра. Нечым ён з імі раднiўся.

- Вось ты мне скажы, Ёрчык, як жа ты харчавацца будзеш? Цалюткі дзень сваю камяніцу правіш, а прыйдзеш у хату - нічога не зварана. Была жонка - і боршч быў, і бліны, і яечня... Не, як сабе хочаш, а ты ўсё ж дурнаваты.

- А ты што, жывеш, каб есці, ці ясі, каб жыць? - пачынаў тады сваю філасофію Ёрчык. - Бліны-ы, бо-о-оршч. А я сала напруся, бульбы звару альбо супчыку грыбнога (у мяне мех грыбоў у запечку вісіць), і нічога больш не трэба.

- Скуль жа ў цябе тое сала? І бульбу ты не садзіш.

- А я дзежачку чалавеку скляпаю, ён і прынясе ладны кавалак. Другую - і бульбы мех ёсць. А пчолы, думаеш, нашто ў мяне? Ведаеш, які цяперака мёд дарагі. Во табе і заробак. Пакуль рукі мне служаць - не прападу.

- Ведаю, рукі ў цябе залатыя. А вось у мазгах клёпак не стае. Бач, да чаго дажыўся - жонка з дзецьмі з хаты ўцякла. Няўжо не шкода?

- Шчэ як шкода, Лявон. Часам і заплачу ў закутку. Але што зробіш, калі такі лёс мне выпаў?

А ранкам Ёрчык выносіў з хаты вялізную шуфлю, вёдры, розныя жалязякі і браўся за справу. Найперш ён напаўняў каменнем вёдры, прывязваў да іх вяроўкі, другім канцом якіх абвязваўся сам, і па жалезных прутах, што тырчэлі ў сцяне, як па лесвіцы, узлазіў наверх. Цяпер ён быў ужо вышэй нават яблынь і самых высокіх грушаў. Глядзеў уніз, і людзі здаваліся яму кузуркамі. Пазіраў без аніякай цікаўнасці, як гоняць пастухі кароў, як сноўдаюць па вуліцы яго суседзі.

«І ўсё ім нешта трэба, - думаў ён. - Круцяцца, круцяцца, як тыя вавёркі, нажываюць дабро... А навошта, каб хто іх спытаў? Яны і самі не ведаюць. А пасля паўміраюць, і ніхто пра іх не ўспомніць. Дык каму патрэбна такое жыццё! Але што мне да іх. Яны жывыя. А мне трэба думаць пра мёртвых. Мусіць жа, я для гэтага і на свет нарадзіўся».

І Ёрчык цягаў наверх цяжкія вёдры з каменнем. Бывала, наведваўся хто-небудзь з тых, хто любіў гасцяваць у яго вечаркам. А часцей за ўсіх - Бронь. Зверху яго пазнаць гэтак жа лёгка, як і з зямлі, - па вялізнай бліскучай лысіне. Ён часам, калі бываў на падпітку, падзываў да сябе хлапчукоў і паказваў фокусы.

- Хочаце, выму вока? - казаў ён.

- Ыгы, - адкрывалі тыя раты.

І ён сапраўды вымаў пальцамі правае вока і даваў яго здзіўленым гледачам. Вока аглядалі, мацалі рукамі... Малыя былі вельмі задаволеныя.

Вока ж тое было шкляное. Пратэз. Сапраўднае ён страціў недзе пад Берлінам на передавой.

Дык вось ён, гэты Бронь, падыходзіў да Ёрчыкавай камяніцы і крычаў:

- Памагай Бог, ахмэлак ты прыдуркаваты.

- Казаў Бог, каб і ты памог, аблуда аднавокая,- чулася з вышыні.

- Спускай сюды свае збаны!..

І ў адказ чулася бразганне вёдраў па каменнай сцяне. А праз хвіліну-другую ўжо чулася задыханае і з'едлівае «віра-віра...». Такім жа чынам падымалася гліна, пясок, цэмент і ўсё астатняе. Часам Бронь працаваў разам з Ёрчыкам да самага вечара.

Быў ён тут і за карэктара, выпраўляў памылкі. Справа ў тым, што «стваральнік памяці» цэглу клаў не абы-як, а выкладаў з яе прозвішчы нябожчыкаў. Для літар браў белыя цагліны, астатнюю прастору запаўняў камянямі, чырвонай цэглай.

Атрымалася прыгожа. Знізу сцяну апярэзваў надпіс, буйнейшы за астатнія: «Гэта памяць усім, хто калі-небудзь жыў у вёсцы Чыргі». А вышэй ішлі прозвішчы. Многа - сотні прозвішчаў. Хоць і вёсачка ж, здаецца, невялічкая.

А сцяна - нібы брук. Гэтак ладна падабраны камяні.

- Слухай, верхалаз, а як жа з тымі, хто яшчэ жывы? - мантыляецца ўнізе кудлатая чупрына Сліўкі, суседа праз тры хаты. - Хто іх у тваю «памяць» упіша? Што яны, горшыя за памерлых?

- А от, - смяецца з вышыні Ёрчык, - знойдзецца ж нехта іншы, заменіць мяне.

- А як не?

- Знойдзецца, не хвалюйся. Дзівакоў ва ўсе часы не бракавала.

- Ну, а як усё ж не заменіць?

- Ну не заменіць, дык што ж. Значыць, будзе як будзе.

- А-а, значыць, не дадумаў ты нешта. Калі памяць, то ўсім павінна быць памяць.

- Можа, ты дадумаеш. У цябе галава вунь якая вялізная. А яшчэ з чупрынаю - дык о-о-о!..

- На чорта мне яе ўсялякай лухтой забіваць. Хопіць на вёску і аднаго дурня.

І Сліўка садзіўся на перакулены вазок, паліў. А пасля, як і Бронь, запаўняў вёдры каменнем, глінаю ды пяском...

Так і будаваў «мясцовую памяць» дзікаваты Ёрчык. Ішоў год за годам. За гэты час памёр не адзін жыхар Чыргоў, бо жылі тут амаль адны толькі старыя. Ці не ў кожнай хаце ўжо карысталіся Ёрчыкавымі дзежкамі. І мёдам ласаваліся амаль усе. А пасля «стваральнік памяці» памёр, паспеўшы ў апошнія дні жыцця выкласці на самай вышыні сваё прозвішча і імя.

* * *

З таго часу мінаў не год і нават не дзесяцігоддзе. Памерлі дзеці тых, хто быў аднагодкам Ёрчыка. Могілкі зараслі лесам. А на месцы вёскі раскінулася поле. Нішто ўжо не нагадвала пра тое, што некалі тут густа цвілі вішні ды яблыні, бегала па вуліцы шчабятлівая малеча, мітусіліся заклапочаныя людзі.

Толькі пярэсты ад шматлікіх прозвішчаў слуп непарушна ўзвышаўся над маўклівай бязмежнай роўняддзю. І калі нехта праязджаў непадалёку па дарозе, абавязкова звяртаў на яго ўвагу і задзіраў галаву. А пасля тлумачыў каму-небудзь з тых, хто ўпершыню ў гэтых мясцінах:

- Калісьці тут стаяла вёска Чыргі, а ў ёй жыў нейкі дзівак (яго прозвішча выкладзена, кажуць, на самым версе і адсюль не бачна), які ўзвёў гэтую камяніцу. Будаваў памяць, хе-хе.

- Гм, і сапраўды. Атрымалася памяць... Ці ж не праўда?

Людзі пацiскалі плячыма і думалі пра сваё. Можа, пра жывых.

## Нічога не здарылася

Моцны ўдар у пругкую шыбу змусіў пасажыраў аўтобуса здрыгануцца. Усе зірнулі на мужчыну, які сядзеў ля залепленага снежным сейвам акна. Чалавек увесь сцяўся, на яго бляклым інтэлігентным твары выразна праступіў страх.

Але ўжо праз якую хвіліну людзі забыліся на спалоханага мужчыну. Нат калі пасажыраў неўзабаве і папрасілі б узгадаць ягоную знешнасць, наўрад ці хто здолеў бы сказаць што-небудзь пэўнае.

На каленях чалавека ляжаў старэнькі скураны дыпламат аранжавага колеру. На ім - худыя кісці рук з даўгімі вузлаватымі пальцамі.

...Толькі калі аўтобус мінуў наступны прыпынак, чалавек адважыўся зірнуць праз шкло на сіратлівую вуліцу. Якраз перад ягоным тварам бялела на шыбіне снежная пляма. Відаць, нехта хацеў пацешыцца. А можа, тое было зроблена наўмысна, каб лішні раз

напомніць, што яго не збіраюцца пакідаць у спакоі і будуць дапякаць яшчэ доўга.

Натуральна, сам па сабе выпадак трывогі ў пасажыра не выклікаў бы. Але гэтаму папярэднічалі падзеі, успаміны пра якія выводзілі яго з раўнавагі. На вуліцы тэмпература была плюсавая, і сплюжаная снежка паціху расцякалася вадзянымі пасмачкамі.

Гэтак і ў людзей: памрэ нехта - спачатку пра яго памятаюць, пасля гэтая памяць паціху сціраецца і, нарэшце, знікае зусім. Быццам і не жыў чалавек на зямлі.

Чыста інтэлігенцкі роздум - ні больш ні менш. Ды яшчэ прыпраўлены меланхоліяй.

Але што, што ўсё ж здарылася? Чаму звычайная снежка выклікала ў ім цэлую плойму ўспамінаў і разваг, чаму яна напалохала яго? Напэўна ж, не без прычыны. Прычына ёсць. Яна простая. А можа, і не вельмі. Паспрабуй разбярыся...

* * *

Мужчыну, які спалохаўся снежкі, супрацоўнікі рэдакцыі звалі Максімавічам, дома - суседзі і сваякі - Максімам; свае артыкулы ён падпісваў так: «М.Шагалевіч». Або ставіў псеўданім «М.Максімаў» - проста і без выкрутасаў, якіх ён саромеўся.

...Быў першы дзень вясны. Пра гэта сведчылі хіба што лісты календароў. На вуліцы ж яшчэ панавала зіма. Ляжаў досыць тоўсты пласт снегу і дзьмуў такі сцюдзёны вецер, што калі б гэты снег не быў мокрым, ніяк без завеі не абышлося б.

Шагалевіч на канечным прыпынку саскочыў з аўтобуса апошнім. Людзі хутка паразбягаліся хто-куды, а ён яшчэ крыху пастаяў, калі шалёны парыў ветру апёк твар, схамянуўся. Бляклыя вочы пасвятлелі, вусны варухнуліся - вецер падхапіў ледзь чутную фразу: «Ат, ёсць у жыцці і радасць, не адно толькі гора». Выраз жа твару быццам бы дадаваў: шчасце ўжо ў тым, што я жыву, бачу дамы, раўнюткія шыхты таполяў, кармушкі для птушак, адчуваю дотык ветру, іду, баючыся паслізнуцца і ўпасці.

Ён правёрыў дзіравыя кішэні - ці ўсё там на месцы: пакратаў кашалёк, скамячыў праязны квіток і выкінуў яго ў сметніцу, пальчаткі... А вось адной пальчаткі не было. Азірнуўся - нідзе не відно. Подбегам вярнуўся да аўтобуса (на канечным ён стаіць доўга), падышоў да свайго месца, дзе сядзеў і, убачыўшы патрэбную рэч, уздыхнуў з палёгкай.

* * *

«Чортава сямейка. Трэба ж было звязацца з ёю. Тут у сабе паспрабуй разбярыся, не тое што ў чужой сям'і. Дык жа - павучаць палез».

Шагалевіч жыў адзін - сям'і не завёў, часу не было - на чужыя праблемы патраціў. Адчыніўшы халадзільнік, дастаў яйка, адламіў кавалачак нарачанскага сыру, пачаў есці.

На ім быў цёмны, паношаны гарнітур, блакітная сарочка і сіні гальштук.

«А ўсё ж... Як трэба было зрабіць?.. Але давай, Максіме, пракруцім з самага пачатку... Злашчасны недарэка-скаржнік завітаў да Івана Іванавіча. І той стары мудрэц адфутболіў яго да мяне: маўляў, Максімавіч якраз займаецца сацыяльнай абаронай асобы, ён і разбярэцца. Але ж якая тут сацыяльная абарона, калі гаворка - пра абарону ад уласнай жонкі. Ды пойдзем далей. Госць паведаміў, што пакуль ён ляжаў у бальніцы, жонка павывозіла з хаты ўсё дашчэнту і падала на развод. Плакаўся: з ім паступілі вельмі жорстка, несправядліва. Здаецца, я вагаўся, ці брацца за гэтую справу, але ён вельмі прасіў. Ды яшчэ й быццам бы незнарок падхваліў - сказаў, што сам ён ніколі не дадумаўся б прыйсці ў рэдакцыю - сябры па палаце параілі, запэўніўшы, што няма больш справядлівай інстанцыі за газету. І ён здаўся. Пайшоў па суседзях, пагаварыў з цесцем, сустрэўся з жонкаю. І сапраўды, нават родны бацька тае нахабніцы характарызаваў майго наведвальніка як чалавека гаспадарлівага і працавітага. Пра яе ж, былую афіцыянтку рэстарана, якая паўгода таму падпала пад скарачэнне і дагэтулуь нідзе не ўладкавалася, гаварылі толькі дрэннае: і выпіць не супраць, і паліць, і з кампаніямі сумніцельнымі водзіцца. Карацей, склалася ўражанне, быццам яна для сямейнага жыцця зусім непрыдатная. І гэта пацвердзілася пад час сустрэчы з самою віноўніцаю. Сімпатычная, хоць і паўнаватая, бландзінка; яна нават і не збіралася апраўдвацца. «Няхай пабегае, патрасецца, дробязнік смярдзючы», - зласліва ўсміхнулася і абыякава махнула рукой, тым самым даючы зразумець, што размова скончана».

Максім Максімавіч запаліў.

«Я пачаў ужо рабіць накіды да артыкула, як раптам пазваніў скаржнік і, паўтарыўшы разоў дзесяць слова «прабач», папрасіў нічога не пісаць. Але чаму? Аказалася, хутка адбудзецца суд і ягоную маёмасць вернуць. Як і трэба было чакаць, маёмасць яму вярнулі, хоць і не ўсю. Што ж да артыкула, дык ён, нягледзячы ні на што, з'явіўся і меў вялікі поспех.

У свой адрас я пачуў нямала кампліментаў, прычым не толькі ад сваіх знаёмых. Але ў дзень выхаду газеты быў і званок зусім іншага кшталту. Нехта на другім канцы провада зласліва прасіпеў: «Слухай мяне, вырадак. Ты сёння дахаты не дойдзеш». І я, азіраючыся, краўся да свайго дома па завуголлях. На наступны дзень званок паўтарыўся: «Дарэмна хаваешся, мярзотнік, ад нас не ўцячэш».

Максім Максімавіч сядзеў нерухома. А ў попельніцы курчыліся ў недарэчных позах тры свежыя акуркі.

«Гэты другі званок быў учора. А сёння - снежка ў акно. Гэтак моцна саданула, быццам атрымаў добрую аплявуху. Каго ж я пакрыўдзіў сваім артыкулам?.. Ведама - яе. А голас жа ў трубцы быў мужчынскі. І снежку гэтак моцна ўляпіць у шкло сваёй выпешчанаю ручкай яна не змагла б. Затое змаглі тыя боўдзілы, з кім яна вадзіла кампанію.

Значыць, помсцяць за яе. І калі так, дык гэта яшчэ не самае страшнае. Куды страшней, калі я, пішучы артыкул, выпусціў з-пад увагі нейкую важную акалічнасць, нечага не ўлічыў. Можа, занадта мелка капнуў праблему і гэтым самым незаслужана пакрыўдзіў гераіню артыкула? Відаць, так яно і ёсць. Тут усё вельмі проста... Як жа я адразу не дапяў: яна, гэтая ветраная афіцыянтачка, і не думала займацца мужавай маёмасцю. Не мяшочніца яна, не «анучніца», як ахрысціў яе ў атрыкуле. Натура не тая, склад розуму іншы. Ёй проста закарцела правучыць свайго мужа, які, з яе пункту гледжання, калоціцца над кожнаю капейчынай, кожнаю анучай... Эх, ёлупень, не дапяў. А цяпер во расплачвайся. І правільна. Так мне і трэба».

Вынесшы сабе прысуд, Максім Максімавіч з нейкай нават палёгкаю пакінуў кухню. І якраз у гэты момант яго запыніў званок у дзверы. «Ну, вось і развязка... Усё складваецца, як ён таго і чакаў... На ўсялякі выпадак зірнуў у вочка. «Го-о, ды гэта наш Васька Тупаў!» Крыху расчараваўшыся, што расплата зноў адкладваецца, паспяшаўся адчыніць дзверы.

- Заходзь, намеснік рэдактара па фотаілюстрацыях плюс заўгар. (Васіль працаваў у рэдакцыі фотакорам і на паўстаўкі вадзіцелем «Нівы», быў хлопцам у дошку сваім, і з яго пасад любілі пакпіць.)

- О, ты ўжо і апрануты. А я думаў, чакаць давядзецца. Пайшлі хутчэй. Шэф пасылае нас на разборку адной справы.

- Дык жа субота.

- Хіба першы раз?

- Іду.

Калі яны ўжо імчалі на старэнькай «Ніве» некуды на ўскраіну горада, Васіль хітра, па-змоўніцку зірнуў на Шагалевіча і чамусьці ні з таго ні з сяго зарагатаў.

- Здурнеў.

- Ты чаму такі бледны? Мо хто напалохаў, вунь твар як выцягнуўся.

- Э-эх, братка, сам я сябе і напалохаў. - Вырашыў выгаварыцца - мо лягчэй стане.

- Як гэта?

- Памятаеш пазаўчарашні артыкул пра развод?

- Ну. Пытаеш яшчэ.

- Не разабраўся я там да канца - дроў наламаў. Цяпер во нехта расплатай пагражае.

- Па тэлефоне?

- Угу. А ты скуль ведаеш?

- Казалі, што дахаты не дойдзеш?.. - Тут Васіль не ўтрываў і зноў зайшоўся ад смеху. Рагатаў так, што ажно слёзы нагарнуліся на вочы. - Турак ты дурнаваты. Дубіна. Ну-у, з табой не засумуеш. Цырк на дроце. Анекдот. Гэта ж, гы-гы-гы, я... У-га-га, гэта ж я званіў табе...

Ён смяяўся яшчэ вельмі доўга, а Максім Максімавіч ажно скамянеў. Нарэшце да яго вярнулася мова:

- Не хлусі, не твой голас быў. Я добра памятаю.

- То адкуль тады я ведаю, што табе казалі па тэлефоне?

- І праўда, адкуль?

- Кажу ж - сам я і гаварыў.

- А голас?

- Што голас. Я насовачкаю мікрафон прыкрыў - і ўся музыка.

Максім Максімавіч павярнуў люстэрка, што вісела над галавой, і паглядзеўся ў яго. «Няўжо так нічога і не здарылася?.. Няўжо ўсе мае трывогі, пакуты - пустыя?» А ўголас сказаў:

- Не можа таго быць, каб нічога не здарылася. Ну ніяк не можа быць...

## Фантазія на тэму кахання

- Хачу, каб мы сталі з табою адным цэлым, - сказаў Ён.

- І каб у нас былі маленькія шчабятунчыкі, - удакладніла Яна.

- Хачу, каб яны былі падобныя да цябе і мяне, - засмяяўся ён.

- Вой, я ўзлятаю, - ускрыкнула Яна. І пачала птушкаю, распасцёршы рукі, узнімацца над ім, кружляць над бярозавым гаем, што знізу здаваўся бялюткім, а зверху - пухната-зялёным.

- Якая прыгажосцьь, - пачулася з вышыні. - Які тут мяккі і цёплы вецер. Ляці да мяне.

Ён паспрабаваў уявіць, што шугае аж да самых зорак, і ад страху заплюшчыў вочы. Але расплюшчыў іх і ўбачыў над сабою вяршыні бяроз і Яе, маленькую, сярод агромністых белых аблокаў. Яна кружляла і рабілася ўсё меншаю.

- Я не магу ўзляцець, - крыкнуў Ён.

Але Яна, мусіць, не пачула, бо не адгукнулася.

- Ха-ха, - зноў засерабрыўся звонкі смех: Яна, склаўшы за плячыма маленькія крылцы, плаўна прызямлілася. Па празрыстай шлюбнай сукенцы бруіўся бялюткі, бялейшы за ствалы бяроз, вэлюм, а споверх - вяночак з жоўтых дзьмухаўцоў і сініх валошак.

- Адкуль ты ўзяла такое хараство? - здзівіўся Ён.

- Адтуль, - паказала Яна рукою ў блакітную вышыню. - Двое маленькіх анёлаў звілі мне вяночак. Іншыя выпралі з аблокаў нітку і выткалі вэлюм і сукенку.

- А крылы?

- Крылы падараваў мне самы старэйшы анёл.

- А кветкі адкуль? Ім рана яшчэ цвісці.

- О-о! На небе столькі кветак!.. Там вольна дыхаецца... Ляці са мною, і ты ўбачыш усё на свае вочы.

- Я спрабаваў, але не змог адарвацца ад зямлі.

- Тады даганяй мяне.

І Яна ўзвілася, нібы матылёк, да вершалін бяроз, шуганула ўніз і пабегла сярод белых ствалоў па блакітным дыване пралесак.

- Тут, на зямлі, я абавязкова даганю цябе. - Ён кінуўся следам. Яна бясшумна мільгацела сярод бярозак, то знікаючы, то зноў з'яўляючыся зусім у іншым месцы, і ўсё смяялася, не ведаючы стомы. Яна вырастала перад ім як з-пад зямлі, абсыпала цэлым сукветам зорачак-пралесак і знікала зноў. Ён спыніўся, каб аддыхацца.

- Дзе ты, мая каханая? - паклікаў. І ў гэты час пяшчотныя ручаняты закрылі Яму вочы і зноў пачуўся смех. Ён таксама ўсміхнуўся, ды так лагодна, што суровы твар Яго стаў добрым-добрым. Яна ўхапіла Яго за руку і замахала сваімі крылцамі.

- Я таксама лячу-у-у, - азваўся Ён з вышыні, не адчуваючы ніякага страху.

Яны ляцелі праз вёскі. Людзі гаварылі: «Гэта анёлы...» І хутчэй жагналіся і ўспаміналі Бога.

А калі надыходзіла ноч, Ён і Яна ўзнімаліся высока-высока. Там, у вышыні, усё тыя ж руплівыя анёлы клалі іх на мяккую бялюткую аблачыну, акрывалі вытканай з цёплага ветрыку і сонечных промняў коўдраю, гралі на старых залачоных арфах. І яны засыналі, закалыханыя чароўнымі самотнымі гукамі.

## Чорная вавёрка

Маё далёкае-далёкае дзяцінства непарыўна звязана з лесам. Я гойсаў з такімі ж дзікаватымі падшыванцамі, як і сам, па непралазных гушчарах, па дрэвах, нібы малпа, палохаючы казуль, лісіц ды зайцоў, якіх было тады процьма. Мы вазамі вазілі з лесу грыбы і кошыкамі лавілі рыбу ў лясных балоцістых сажалках, сябравалі з бабрамі, кармілі хлебам і чарвякамі птушанят у гнёздах і яшчэ паспявалі з дня ў дзень пасвіць чараду кароў.

Аднаго разу, загнаўшы свой паслухмяны і памяркоўны статак у чарамшаннік, мы (гэта значыць, я, Колька Сымонькаў ды яшчэ двое меншых за нас падшыванцаў, якія ніякай ролі ў маёй гісторыі не адыгралі) распалілі невялічкае вогнішча, пагулялі з ножыкам (хто прайграваў, той зубамі выцягваў з зямлі моцна ўбіты калочак), дасталі з кішэні некалькі бульбін і загарнулі іх у гарачыя вугольчыкі, пасля малыя нашукалі рыжыкаў, і мы падсмажылі іх разам з салам, нанізаўшы на лазовыя пруткі. Паснедалі, паразлягаліся, выставіўшы ўверх жываты (балазе, каровы хадзілі побач і добра чутно было, як храбусціць, рвецца ў іх моцных зубах жорсткая лясная трава). І тут я заўважыў на адной з высачэзных і галюткіх да самай вяршыні асін дупло, а ў ім вастранькую чорную мордачку - рухавую і надта ж цікаўную.

- Глядзіце, - паказаў я мурзатым ад вугалля, тлушчу і абгарэлай бульбы пальцам на дупло, - вавёрка. Чорная вавёрка.

- Чорных вавёрак не бывае, - запярэчыў нехта з малых, калі галава звярка вытыркнулася зноў.

А вось і бываюць, не здаваўся я. Чырвоныя жывуць на хвоях, а чорныя - на асінах.- Цяпер мне аж сорамна, что я - дзіцё лесу, аказваецца, так мала ведаў пра яго насельнікаў. Але спішам гэта на ўзрост.

Колька не ўлазіў у нашую спрэчку, толькі павёў вачыма на вершаліну асіны, зноў заплюшчыў іх і працягваў драмаць, закінуўшы нагу на нагу і насунуўшы на нос кепку.

Мяне разабрала цікаўнасць.

- Палезу, - рашуча сказаў сябрукам.

- Не залезеш. Высока і сучкоў няма.

- Затое ў мяне рэмень ёсць.

З дапамогай гэтай вельмі карыснай ва ўсіх адносінах штукі я досыць хутка дабраўся да малюсенькага дупла. Пачаў запіхваць усярэдзіну руку і ледзь-ледзь прасунуў. Там намуляў нешта мяккае, цёплае і дрыготкае. «Ага, вось ты дзе». Зараз жа схапіў яго, і разам са звярком рука сама выскачыла з вузенькага лаза (можа, так думаю цяпер, ад страху, які падвойваў сілу). Дзіўна, але ў сваёй хаце звярок не кусаўся, а тут ушчаперыўся ў кончык пальца і ледзь не прапароў навылёт. Я прыціснуў яго да нагі, але ён як бач пракусіў мае дзіравыя нагавіцы. Заенчыўшы ад болю, я, зусім не разумеючы, што раблю, кінуў зубастае стварэнне на зямлю.

Пасля гэтага вырашыў праверыць, ці не засталіся ў дупле маленькія вавёрчаняты. Іх аказалася двое. Але гэтыя былі не страшныя. І я злез, паклаўшы іх за пазуху.

Кінуты мною звярок ляжаў на мяккім травяным дыване мёртвы.

- Мусіць, ад страху акачурыўся? Прама на ляту, - выказалі здагадку малыя.

Я падарыў ім свае малюсенькія пушыстыя трафеі, забінтаваў рану на пальцы палосачкаю тканіны, адарванаю ад анучы, у якую было загорнула сала, а Сымонькаў Колька дастаў з кішэні складанчык, і мы ўсе разам абступілі звярка. Вельмі ж карцела дазнацца, што ў яго там за вантробы, у гэтага малога і доўгага чорнага драпежніка. Але як толькі чэрава пад лязом разышлося, хуценька пазатыкалі насы.

- Бэ-э, які смярдзючы, - завылі малыя.

- Ф-фэ, гадасць нейкая, - скрывіўся Колька і шпурнуў знэнджанага звярка ў карчы. Але яго як бач знюхаў сабака - наш верны пастушок Ваўчок, і Сымонька падвесіў маю чорную вавёрку, да якой я страціў усялякую цікавасць, на сучок далей ад кастра.

На гэтым і завяршылася б адна са шматлікіх гісторый майго дзяцінства, і вы ніколі не даведаліся б пра яе (бо цікавага, а тым больш надзвычайнага ў ёй вельмі мала), калі б праз цэлых сем гадоў не падарыў мне лёс яе працяг. Здарылася гэта нечакана, калі з памяці пачалі ўжо сплываць паціху малюнкі дзяцінства.

Быў адзін такі вечар, калі я наважыўся правесці з танцулек Сымонькаву Ярыну - старэйшую Колеву сястру (тады ён быў ужо ў войску, а я збіраўся адправіцца за ім услед толькі вясною). Не хачу перад вамі хваліцца, але што было, тое было. Правесці Ярыну дахаты лічылася ў нас вялікім гонарам нават для хлопцаў старэйшых, не тое што для мяне - кавалера саплівага. Толькі так ужо неяк атрымалася: я запрасіў яе на вальс, і ў той момант, калі мы кружыліся (прабачце - таўкліся) у цеснай хаце сярод іншых пар, я папрасіў у яе дазволу

правесці дахаты. Яна адразу ж згадзілася, і гэта было дзіва з дзіваў. Я ледзь дачакаўся, пакуль гармaністы схаваюць у футаралы свае галасістыя інструменты і не зводзіў з яе цнатлівых закаханых вачэй.

Ярына была ў белай, размаляванай дробненькімі кветачкамі, сукенцы, у боціках, якія цяпер, ведама ж, сілаю не прымусіў бы насіць ні адну дзяўчыну, але якія тады лічыліся сапраўднаю раскошай (такіх не было ні ў адной яе сяброўкі, і ўсе танцавалі ў чаравіках), а валасы яна сабрала ў вялізны, як круглы бохан, гугель. Ярына была як выспеленая вішанька. Здавалася - яшчэ год-два, і пераспее.

З хаты мы выходзілі апошнімі, і я з прагнасцю назіраў, як грацыёзна яна накідвае на рухавую мілую галоўку квяцістую «марыканськую» хустачку, стараватае, але гожае паліто з бліскучым чорным каўнерыкам - бадай, самым багатым яе ўпрыгожаннем.

- О-о, які хвайны каўнер. З куніцы хіба? - мне трэба было нешта сказаць, каб яна не думала, што ў мяне ад шчасця заняло мову.

- Ага, з куніцы, - ганарліва пацвердзіла яна.

І ўжо калі мы выкаціліся на блакітную і рыпучую ад снегу і моцнага марозу сцежку, яна расказала тое, што пачула ад бацькі. Гэта была тая самая гісторыя, якую я расказаў вам вышэй. Толькі не было ў ёй мяне (ці то Колька, расказваючы бацьку, знарок не ўпамянуў маё імя, ці бацька забыўся, хто тады лазіў на асіну), а быў зусім кароценькі працяг. Ды вы ўжо і самі, напэўна, здагадаліся, які ён. Надвячоркам Колька, які добра ведаў, што гэта была ніякая не чорная вавёрка, а каштоўны футравы звярок, збегаў на тое месца, зняў мёртвую куніцу з сучка, а бацька - прызнаны ў акрузе майстар па вырабе скур, зрабіў з яе гэткі ладны каўнерык.

Ярына ж свой расказ завяршыла так:

- Той дурань, мусіць, і цяпер яшчэ думае, што на свеце існуюць чорныя вавёркі, - і залілася вясёлым, зусім не з'едлівым смехам.

Я кранўў тады футра, што абляпіла яе шыйку, і рука мая быццам зноў правалілася ў тое ненавіснае дупло: гэткае ж мяккае і цёплае, быццам бы гэта жывая «чорная вавёрка». Я хацеў сказаць ёй, што дурань той несусветны стаіць зараз перад ёю, але ж занадта блізка апынуліся нашы твары, і мы моўчкі пацалаваліся. Для мяне той пацалунак быў першы ў жыцці, і я разгубіўся, пачаў хаваць вочы, а яна, пэўна ж, цалаваная, і не раз (няхай прабачыць мне мая жонка за гэтыя словы), толькі гарэзліва засмяялася і штурханула мяне ў пушыстую гурбу.

- Ну што ты за кавалер такі, нясмелы зусім. Заечая твая душоначка.

І яна навалілася на мяне, пачала закідваць снегам. Ён калоў і апякаў твар, але затое ўзбадзёрыў, ажывіў, і я, загробшы Ярыну ў абярэмак, перакуліў яе цераз сябе, насеў зверху і, назіраючы, як растаюць на расчырванелым, свежым далікатным тварыку халодныя крышталікі, хутчэй выдыхнуў (баяўся, што пасля ўжо не асмелюся):

- Гэта ж я той дурань, які лічыў куніцу чорнай вавёркай, - і хутчэй, баючыся, што ад гэтых слоў яна зніякавее, дадаў: - Але я вельмі рады, што яна дасталася табе.

Ярына не зніякавела. Не той характер. Ды ўсё ж не змоўчала. Калі мы ўразвалачку падыходзілі да яе хаты, прапанавала:

- Мне нешта не па сабе. З табой так паскудна абышоўся мой брат. Лепш я аддам табе гэты каўнер. Ён жа твой. Ты ж калісьці нацярпеўся з-за яго.

- Што ж, - адказаў я, - няхай будзе мой. Але я дару яго табе. Гэта мой табе падарунак.

- Не, гэта занадта дарагі падарунак. Я не прыму яго.

- Тады давай пажэнімся, і ён стане нашым, - выпаліў я і зарагатаў, бо калі б не зрабіў гэтага, то згарэў бы ад сораму пасля такой дзёрзкасці.

- А-а-а, бач ты які - ціхо-о-оня. Куды завярнуў, - закаціла яна чарнюткія свае вочы. - А ўсё-такі праўду кажуць, што ў ціхім балоце ды чэрці водзяцца. Ідзі ўжо, жа-а-аніх.

Пасля таго вечара мы пачалі сустракацца часта. Гэты небам пасланы каўнер бы́ццам бы зрадніў нас. Ёй, мусіць, няёмка было адмаўляцца ад маёй кампаніі (хоць я на два з паловай гады маладзейшы за Ярыну), а можа, як яна і цяпер яшчэ мне даказвае, наадварот, сустрэча са мной заўсёды была жаданай для яе, і ў рэшце рэшт мы пажаніліся. Перад самым маім адыходам на службу.

Цяпер у нас трое дарослых дзяцей і ўнукі. Мы ні разу за ўсё сумеснае жыццё не пасварыліся (паспрабавалі б вы ў чым-небудзь з ёю не пагадзіцца, я тады з вас пасмяяўся б), а каўнер той з «чорнай вавёркі» і цяпер яшчэ тлее пацíху ў цыратовым мяшочку. Рэліквія.

Ну, а Мікола Сымонькаў - загадчык бойні ў нарыхтоўчай канторы, мусіць, і да гэтага часу думае, што я нічога не ведаю пра яго фокус-марокус. А мо і забыўся ўжо - колькі ж гадкоў мінула. Толькі я не крыўдую. Я ўдзячны яму, і вы ведаеце, за што. Можа, прачытае калі гэтыя радкі, дык няхай ведае - дараваў я яму той грэх.

## Шчаслівая ты, Ленка

У самым цэнтры студэнцкага пакойчыка-кубіка звіваецца на гарачых сілікатных цаглінах вогненная гадзюка - спіраль самаробнага абагравальніка, змудраванага мужчынскай паловай тэхнікумаўскага інтэрната. Карыстацца ім, канечне ж, катэгарычна забаронена, але адчыніце знянацку любыя дзверы ў гэтым шматпавярховым каменным вуллі, і рэдка ў каго вы не ўбачыце падобнага прыстасавання.

- Хіба выключым, дзеўкі, а ну ж праверка?

- Няхай Ленка сагрэецца, змерзла ж, мусіць.

- Ага. Хай пагарыць трошку, і праўда - закалела.

Са сцен на дзяўчат натхнёна пазіраюць, седзячы адзін на адным, як рабацінне на твары, вядомыя артысты, спартсмены і проста прыгожыя мужчыны. З імі не так самотна, тым больш цяпер, калі ўсе дома - усе тры сяброўкі, уся сямейка.

Наташа Весялова. Яе прычоска ў студэнцкіх колах называецца «я ўпала з сенавала...» Успёршыся з нагамі на ложак, дзяўчына напамінае квактуху. У яе руках - злучаныя кавалачкам лескі бліскучыя няўлоўныя спіцы, па баках на дзягастым чырвоным пакрывале два вялізныя яйкі - клубкі тоўстай шэрай ніткі.

- Якая ты шчаслівая, Ленка. Столькі хлопцаў закаханы ў цябе. А гэты, што ўчора падвозіў нас на «Волзе»... Як ён глядзеў на цябе. Ах, трапіўся б мне такі, з'ела б, здаецца. Прыгожы. Праўда, Рыта?

- Мыгы. - Рыта (па мянушцы «Мышка») на імгненне падняла далёка не сімпатычную, хоць і ветлівую, вострую мордачку з доўгім гарбатым носам і працягвала чысціць пазногці чорнаю невідзімкаю.

- А што ён казаў табе?.. Ну, тады ж, калі папрасіў затрымацца?

- Ён назначыў мне спатканне.

- Гэта ж была зараз на спатканні з ім?

- Вядома, - Ленка задаволена, усім сваім выглядам паказваючы перавагу над сяброўкамі, усміхнулася, захінулася ў тоўстую коўдру і падсела бліжэй да агню, бо ўжо была ў адной толькі доўгай і бялюткай ільняной сарочцы ды мяккіх з кутасікамі шлепаках. Ускалыхнутае паветра падняло з падлогі некалькі пясчынак і апусціла іх на распаленыя спіралі. Трэснулі і рассыпаліся іскрынкі.

У Ленкі было не вельмі прыгожае прозвішча - Карпуніна. Хлопцы, што вучыліся на адным з ёю курсе, неаднойчы спрабавалі да гэтай стройненькай светлавалосай прыгажуні, у цёмных вачах якой нястомна бегалі вясёлыя неўтаймоўныя чорцікі, якую-небудзь мянушку, для чаго абавязкова скарыстоўвалі немілагучнае прозвішча. Спачатку прыдумалі «Карпуха». Не прыжылося. Пасля - «Карпуша».

Тое ж самае. Былі яшчэ «Карпуня», «Карпіха». Але з'еды шчыравалі дарэмна. Яе па-ранейшаму клікалі Ленкаю. Гэтае імя было заадно і мянушкаю дзяўчыны.

- Вой, я ж забылася. Ленка. Мы торт сёння купілі. Рытка, нясі хутчэй. І гарбаткі падагрэй. Трэба ж, забылася зусім.

- Не ўставай, Рыта. Я не галодная.

- У рэстаране з ім была? Вот так жаніх.

-Ён заказваў для мяне музыку. І мы доўга танцавалі...

- І пілі віно?

- Не, я не захацела.

- А я б не адмаўлялася. Я знарок захмялела б, каб гэты сімпацюля хоць крыху паняньчыўся са мною. У мяне вочы заплюшчваюцца, калі ўяўляю, што ён побач.

- А я сказала, што больш не хачу з ім сустракацца.

- Здурэла? Чаму гэта?

- І сама не ведаю. От сказалася неяк знянацку, і ўсё. Ды што тут шкадаваць. Колькі іх яшчэ трапіцца на шляху.

- На тваім дык канечне. Але ж ён такі... Такі прыгожы. І з машынаю. Гэта яго легкавік?

- Яго.

- Не, не згодна з табою. Такі, можа, раз у жыцці трапляецца. Эх, мне б яго. Ні за што не адпусціла б. Вось учапілася б рукамі, і трымала б усё жыццё.

- Ай хопіць пра гэта. Давайце лепей спаць. Позна ж, а заўтра залік. Трэба са свежай галавою ўстаць.

- То лажымася. А ведаеш, я б, мусіць, цэлую ноч не спала пасля такога спаткання. Што ні кажы, а ты, Ленка, шчаслівая. Вось толькі мы з Рыткаю няшчасныя. Што ні кажы...

Ленка захуталася з галавою, уздрыгваючы і курчачыся ад дотыку халодных жорсткіх прасцін. Намуляла малюсенькім акуратным мязінцам, на якім шчымеў нацёрты туфелькамі вадзянік, халодную паверхню нікеляванай ножкі студэнцкага ложка, адчувала, што шчыменне хутка заціхае. «Наташка кладзе ў тумбачку сваё вязанне. Хаваюць пад ложак бляху з пакладзенымі на яе гарачымі цаглінамі». Думаць ёй не хочацца, і Ленка сочыць за сяброўкамі. «Расцілаюць ложкі. У Рыткі зноў заела маланка. Колькі хвілін яна павалтузіцца з ёю і зніме майстарку праз галаву. Так і ёсць. Пстрыкнуў выключальнік і рыпнулі спружыны. Усё - цішыня». Цяпер фіксаваць няма чаго і мусіш успамінаць праведзены ненавісны вечар. Ленка адарвала вадзянік ад металу, ён зашчымеў зноў, але не так моцна. Пад коўдраю

назбіралася цяпла, і па целе расплылася асалода. Ногі, стомленыя доўгаю хадой, прыемна нылі - адпачывалі.

Яны дамовіліся спаткацца на возеры. Каля кабін на пляжы. Іх там усяго дзве, аблезлыя і спісаныя рознай дурнотай, нібы старонкі чарнавога сшытка. На месцы яна была яшчэ завідна. Толькі-толькі вечарэла. Прайшлася туды-сюды, спрабуючы супакоіць сэрца, узрушанае чаканнем надзвычайнага (так яна лічыла) спаткання. Сэрца з кожнай хвілінай шчымела ўсё болей і болей. Але ён не паяўляўся. Не расхінуў вялізнай і халодна-слізкай шырмы змроку, не асляпіў яе светлаю адкрытаю ўсмешкай. Ён такі пяшчотны, прыемна датыкацца да яго, стройнага, падцягнутага і свежага. Але адкуль яна ведае гэта? Адчувае. Жанчына, няхай сабе і дзяўчына, умее на адлегласці адчуваць такія рэчы.

Ленка на хвіліну ачнулася ад успаміну, вярнулася ў цёплы ложак. І адразу ж адчула: нешта пашчыпвае ў далонях. Распраміла іх і зразумела, што занадта моцна сціснула кулачкі. Ажно ўпіліся ў мяккія далонькі доўгія востранькія пазногці, дагледжаныя і акуратна палакаваныя.

«Якая ж я дурная». У змроку яна ўбачыла нейкую постаць і, забыўшыся на годнасць, пабегла. Да яго. І гэта была яна - прыгажуня, за якою табунамі хадзілі хлопцы. Яна так спяшалася, што не заўважыла нейкай патарчакі і зачапілася нагой. Добра яшчэ - паспела выцягнуць рукі наперад, таму не расцягнулася на вільготным жоўтым пяску. Устала, абабіла далоні, пабегла зноў. Няўжо гэта была яна? Так - яна. А замест яго стаяў пабелены слуп з нейкаю шыльдачкаю наверсе. За ім вымалёўвалася нешта яшчэ. Рушыла туды і ўбачыла спартыўныя снарады: турнік, валейбольную сетку. Вярнулася да кабін, якія вечар ператварыў у цёмныя плямы, прайшлася ў процілеглы бок. Дайшла да прышчастых валуноў, хацела прысесці, але холад адагнаў гэтае жаданне. Відаць, яна хадзіла доўга, хоць і не зважала на час. Яна ні разу не зірнула на свой малюсенькі гадзіннічак, прымацаваны да рукі тонкім пазалочаным прутком. Толькі ў інтэрнаце дайшло, што правяла на возеры больш за пяць гадзін. Пад халодным вільготным ветрам.

Яна паправіла падушку і адчула пад шчакою холад. Мокрая? «Калі ж я паспела выліць столькі слёз?»

...Ноччу Ленцы прысніўся сон. Стаіць яна, прыціснуўшы галавою тоненькую палосачку гальштука да ягоных грудзей, і чуе знекуль прыцішанае Наташчына: «Шчаслівая ты, Ленка».

## Смех

На слове «смех...» я спатыкнуўся. Мая аповесць пра каханне ўжо не здавалася мне яркаю і прывабліваю. Далей пісаць не было ніякага жадання. І ўсё з-за аднаго слова. Я спытаў у самога сябе: «Як паўздзейнічае яно на людзей? Што скажа чытачу?» І адказ напрошваўся самы несуцяшальны. Ад адной толькі думкі, што чытач прапусціць яго без увагі, слізгане позіркам і забудзе, па маёй скуры прабегліся непрыемныя халодныя мурашы. Гэта ж яно, адно-адзінае слоўца, павінна ўвабраць у сябе цэлую эпоху ў маім падсвядомым жыцці, а значыць і ў жыцці галоўнага героя. Нейкай мяжы паміж мною і ім няма і быць не можа. Дык як жа можна так вольна з ім абыходзіцца?

Праз хісткую празрыстую фіранку лёгкага цыгарэтнага дыму пазіраю на спісаны неахайным почыркам і густа пакрэслены аркуш паперы, учытваюся ў апошні сказ:

«Нечакана мне ўспомніўся той мярзотны смех...» І ўсё. Я збіраўся растлумачыць чытачу, што гэта быў за смех і чаму ён мярзотны, усяго ў некалькіх сказах, і на гэтым скончыць свой не тое каб нудны, хутчэй наадварот - дынамічны і цікавы, але цалкам выдуманы, штучны па сваёй сутнасці, твор.

Адкуль жа ведаць таму, для каго я рыпеў пяром, што гэта быў за смех? Калі ўжо пісаць вось так, то лепей наогул не ўспамінаць слова «смех». Або зноў перажыць яго і звязаныя з ім цяжкія ўспаміны разам з чытачом. Праўда, не ў гэтым творы. Нельга ўплятаць гэтую жывую іскрынку ў амярцвелую тканіну аповесці.

У сваім узрушэнні я крыху ачмурэў. Чорныя гарбылі-штыкетнікі літар апошняга сказа прыліплі да даўжэзных, на шырыню ліста, жэрдак. Мае рукі пацягнуліся да спісанага стосіка паперы. Пачуўся прыглушаны трэск, нібы па ім прашамацелі доўгія звілістыя маланкі. Перад вачыма замільгацелі абрыўкі слоў і словазлучэнняў: «хлусня... рымай, які ёсць... я не ўпісваюся ў гэта квітнеючае нава... наогул... нейкі...». Быццам слоўны калейдаскоп на хвіліну крутнуўся перад вачыма. Ён жа ацверазіў: чорт... Што я раблю? Заўтра апошні дзень здачы аповесці. Што я скажу ў рэдакцыі, дзе чакаюць яе і пакінулі па маёй просьбе месца ў часопісе?

Але парваныя лісты раскіданы на стале і падлозе, і зваротнага шляху няма.

Так. Усё. Я пішу аповед, і будзь што будзе. Не хачу думаць пра публікаванне, бо ёсць нешта і больш важнае. Каму патрэбен гэты

востры, але нацягнуты і выдуманы сюжэт, гэтыя стэрыльныя героі, уся гэта, сказаць па-простаму, хлусня.

«Нечакана мне ўспомніўся той мярзотны смех». Няхай гэты сказ будзе пачаткам новага твора і пачаткам крутога павароту ў маёй творчасці. «Гэты смех адклаўся ў маім успаміне - выразна, асязальна, усё адно як вылеплены перад вачыма з чалавечай плоці, - можа, якую хвіліну. У маім рэальным жыцці цяпер нічога не звязана ні з ім, ні з тым (дакладней - з тою), каму ён належаў. Але пачуцці ў свядомасці выклікаў тыя ж, што і калісьці: здзіўленне, крыўду, безвыходнасць, нарэшце - амярзенне. Я занадта любіў і люблю сябе, каб адчуць сваю нікчэмнасць і ў нечым вінаваціць сябе. Не, я хутчэй згаджуся з непаўнацэннасцю некага іншага і лепш буду лічыць вінаватаю яе».

Моцна зацягнуўшыся вільготаю «космасінай», я пачаў да драбніц успамінаць тую злашчасную, але непазбежную сустрэчу.

«Мы не бачыліся больш за год. Я ніяк не мог вырвацца з падмаскоўя, дзе праходзіў практыку...» Кім працаваў? Хіба так важна, кім я працаваў - аграномам, настаўнікам ці медыкам? Прычым тут прафесія, калі размова ідзе пра рэчы больш важныя.

«...Але я пісаў ёй гарачыя лісты, у якіх нічога не ўтойваў ад сваёй каханай, нават прыгоды з іншымі жанчынамі. Іх, гэтыя прыгоды, я лічыў нечым дробязным і нязначным у параўнанні з тым усеабдымным і хвалюючым пачуццём, якое адчуваў да Святланы». Так, я назваў яе сапраўднае імя. А мог бы паставіць і любое іншае. І гэта нічога не змяніла б у маім аповедзе, бо імя, як і мая прафесія, тут зусім не маюць ніякага значэння. «Я быў упэўнены, што яна адчувае тое ж самае і таму добра разумее мяне. А значыць, і не стане крыўдаваць. Тое ж, што яе пісьмы былі пазбаўлены ўсялякага пачуцця, тлумачыў выключна сціпласцю дзяўчыны...»

Я адкідваў ліст за лістом, не спыняючыся ў сваёй апантанасці. Але хутка схамянуўся: што гэта я баюся падступіцца да самага галоўнага. Усё падрыхтоўваю, падрыхтоўваю да яго сябе і чытача, хаджу навокал ды побач. У куток стала лёг яшчэ адзін спісаны ліст. Краем вока я прыкмеціў, што не закрэсліў на ім ніводнага сказа і нават слова. Зараз, зараз я падступлюся да самага галоўнага. Яшчэ якіх пару абзацаў, яшчэ паўстароначкі, і ўсё. «...На абцягнутым аголенаю раннімі восеньскімі халадамі вінаграднай лазою ганку мяне сустрэла Святланіна маці. Захутаная ў тоўстую рудую хустку з кутасамі, здаровая чырванашчокая кабета.

- Чаго прыпёрся, - адно буркнула на маё прывітанне. - Света замуж збіраецца. Не замінай ёй.

Мая радасць ад прадчування хуткай сустрэчы імгненна знікла і яе месца заняла трывога, жаданне хутчэй збегці адсюль, але рука ўжо цягнулася да клямкі...»

Ну, дай Божа цвёрдасці і вытрымкі, цяпер галоўнае. Так, самае-самае... Я адкіну цырымонію сустрэчы, тыя нязначныя фразы, якія не датычацца тэмы, бо патрэбна сутнасць, іначай і гэты рукапіс ператворыцца ў ашмоцце. Праўда, пра Святлану колькі слоў усё ж скажу. «Яна не змянілася. Шыракаваты бледны твар з добра прыкметнымі скуламі, апраўлены доўгімі і раўнюткімі белымі валасамі, найперш мог запомніцца выпадковаму сустрэчнаму вельмі выразнымі вялізнымі вачыма і цёмна-карычневага колеру вуснамі, таксама выразнымі і тугімі. Можна было падумаць, што выкананы яны з цвёрдай гумы, калі б так лёгка не расцягваліся. Датыкаючыся да іх, я заўсёды здзіўляўся, што на самой справе яны вельмі мяккія, рухавыя і цёплыя.

Цяпер мне і ў галаву не магло прыйсці яшчэ раз праверыць пасля доўгага развітання іх пяшчоту, бо было зусім не да гэтага.

- Прыгожая ты, Светка. Ды толькі... - Я разгубіўся і толькі моцна сціснуў у руцэ лёгкую спартыўную шапачку-пеўніка, седзячы насупраць яе.

- ...Ды толькі тваім маскоўскім дзявіцам не роўня? Ты гэта хацеў сказаць? - Яна гаварыла спакойна, і толькі вочы пазіралі на мяне з пагардай або нават гідлівасцю. Іншага пачуцця я ў іх не знайшоў.

- Прычым тут дзявіцы. Я ж нікога апроч цябе ніколі не кахаў і кахаць не...

- У-у-у... - яна згарнула свае вусны ў тонкую мускулістую трубачку. - Вы толькі зірніце, што за франт. Госпадзі ты божа мой. Увесь у фірме.., ха-ха, нібы ў дзярме. Дзевак там цягаеш, ды яшчэ й мне прыехаў тут галаву дурыць...

- Ты не зразумела мяне. Ні з кім нічога сур'ёзнага...

- А тут і разумець няма чаго. - Яна не хацела слухаць. - Распуснік і здраднік... «Любая Светка. Учора мы няблага павесяліліся. Да мяне ў госці прыходзілі сябар Юра і Каця з Насцяю - мясцовыя дзяўчаты. А ў думках я, ведай, увесь час быў з табою», - прадэкламавала яна радкі аднаго з маіх лістоў са з'едліва-ўзнёслай іроніяй і дадала. - Думаеш, не бачу, што насмешку строіш з мяне. Але цяпер мне ўсё роўна. Можаш валіць адсюль.

- А ты. Ты не здраджвала мне? - узгарэўся я, хоць і адчуваў, што цяпер адзіным шансам паправіць нашыя адносіны можа быць толькі памяркоўнасць.

- Я?

- Ты, ты.
- Я не.
- Ніколі?
- Ніколі.
- А хто згадзіўся выйсці замуж за...
- За каго?
- Ці не ўсё роўна. Я ведаю, за каго.
- Ну, згадзілася. Але якая ж тут здрада. Я з ім нават і не цалавалася, не тое што...

У гэты самы момант, перапыніўшы дзяўчыну, я сказаў ёй тое, што выклікала ў яе не проста смех - прыступ смеху.

- Тое, што ў мяне былі нейкія там сувязі з іншымі жанчынамі, наогул не варта прымаць да ўвагі пры высвятленні нашых адносін. Яны не пакінулі ў маім сэрцы нават самага дробнага следу. Гэта нельга назваць нават захапленнем. Ведаеш, у жыцці ўсякае бывае, а мы ж усе жывыя людзі. Я і не баяўся табе расказваць пра ўсё, што са мною здаралася, бо заўсёды адчуваў сябе чыстым прад табою. З кім бы я ні быў, маё сэрца належала табе. Пра гэта я не забываўся ні на хвіліну. А ты... Ты аддала сваё сэрца другому і яшчэ сцвярджаеш, што не здрадзіла мне. Няўжо ты не разумееш, што гэта і ёсць здрада. Няхай бы ты сабе цалавалася з ім, сябравала, але ў думках была са мною, я не сказаў бы і слова. Бо не само дзеянне ёсць здрада, а тое, да чаго імкнешся ў сваёй свядомасці. Я імкнуўся да цябе, заўсёды імкнуўся. Ты - да яго. Іначай не прыняла б такога рашэння. Разумееш...

Яна не разумела. Гэта было бачна па вачах - пустых і ўедлівых. Колькі хвілін яны ўсё з той жа гідлівай абыякавасцю глядзелі на мяне, як на пачвару, а пасля прыжмурыліся, здалося - атупелі, і дзяўчына зайшлася ад смеху.

- Ой, не магу... Ой, памру зараз... Трымайце мяне восем чалавек...

Смех у яе быў звонкі, залівісты, быццам абудзіліся раптам тысячы малюсенькіх званочкаў. Яны бязлітасна галасілі пад самым вухам, не давалі апамятацца, аглушалі. У гэты момант я адчуў, што больш не кахаю яе. Каханне растварылася ў звоне, як раствараецца цукар у гарачай гарбаце, і свядомасць мая затуманілася нянавісцю. Толькі нянавісць гэтая была звязана ўжо не з каханнем. Яна - ад таго, што мяне не разумеюць і не хочуць зразумець. Мяне лічаць зусім не такім, які я ёсць. Яе смех - гэта рэшткі болю, які яна аддае мне. Але ж я ніколі не жадаў прычыніць боль ні ёй, ні каму б там ні было. Толькі цяпер ужо нічога не дакажаш і не растлумачыш. Для яе я назаўсёды

застануся здраднікам, а яна - для мяне. Хоць кожны са свайго боку чысцюткі як кропля расы. Мы маглі б, маглі б знайсці паразуменне. Толькі цяпер ужо позна. Яна выліла праз гэты ідыёцкі смех увесь свой боль, а я згубіў у ім сваё каханне. Мы глядзім адзін на аднаго кожны з вышыні свайго ўласнага разумення непагрэшнасці, і бачым адзін аднаго недзе ўнізе. Я разумею гэта і лічу сябе меней вінаватым, яна - не разумее, і таму, відаць, лічыць сябе не вінаватаю зусім...»

З таго вар'яцкага дня, дарагі чытач, прайшло нямала гадоў. Сваю гісторыю я расказваў шмат разоў знаёмым і незнаёмым (па натуры я чалавек балбатлівы), і ўсе найперш вінавацілі мяне. Таму я зрабіў вывад, што мае погляды на жыццё яўна адрозніваюцца ад поглядаў большасці, а можа, і ўсіх людзей. Я змірыўся з гэтым, але маё самалюбства не дазваляе мне адчуць сябе горшым за іншых. Я толькі хачу, каб, прачытаўшы гэтую споведзь, вы зразумелі, чаму я раптам, не завяршыўшы аповед, адкінуў ручку, пацягнуўся ўзмакрэлаю аж да кончыкаў пальцаў рукою па цыгарэту, хоць толькі што струшчыў у попельніцы бычок і адчуваў у горле непрыемную горыч ад доўгага смалення, глыбока зацягнуўся і адкінуўся на спінку крэсла, заплюшчыў вочы і забыўся пра ўсё на свеце.

Мне захацелася, каб мяне зразумеў хоць адзін чалавек.

## Партрэт

Стаўровіч вельмі шкадаваў, што забыўся прыхапіць цыгарэты. Ён заўсёды што-небудзь забываўся, бо па прыродзе сваёй быў чалавекам мітуслівым і не сабраным. Праўда, зацятым курцом яго ніхто са знаёмых назваць не мог. Закурваў, толькі калі вельмі расчульваўся, а гэта з ім здаралася з кожным годам усё радзей і радзей.

Цяпер, калі, здавалася, найлепей было б адкінуць лішнія, а тым больш гнятлівыя думкі і аддацца працы, яны - гэтыя думкі - навалiліся на яго з такою сілаю, быццам бы вырашылі ў адзін момант дагнаць прапушчанае. І тут яму закарцела моцна зацягнуцца хоць бы самай смярдзючай цыгарэткай. Стаўровіч ажно матнуў галавой і прыцмокнуў - дома ў шуфлядзе стала ляжаў, вабіў да сябе непачаты пачак ягоных любімых, балгарскіх...

Стаўровіч ніяк не мог зразумець, чым выкліканы гэты раптоўны наплыў меланхоліі, і ў рэшце рэшт падазраваў толькі аднаго віноўніка - ім, напэўна, быў стары восеньскі парк, які агортваў яго залаціста-рудой, з прымессю чырвона-барвовых плямін завірухай, гудзеў і

стагнаў пад парывамі ветру галасамі ўпрыгожаных вялізнымі зорачкамі-лістамі клёнаў, жылістых скрыпучых вязаў, мускулістых прысадзістых дубоў, удумліва-інтэлігентных ясеняў...

Парк, трэба меркаваць, быў некалі дужа прыгожай, дагледжанай чалавечымі рукамі і чалавечым імкненнем да дасканаласці мясцінаю. А з часам ён як бы распалавініўся. Тая яго частка, што ўваходзіла ў рысу горада, выглядала больш-менш прыстойна: алея вымашчана бетоннымі прастакутнікамі сучаснага ўзору, па вечарах яе асвятлялі некалькі мігатлівых клюшак-ліхтароў, а на аблезлых сініх лаўках часта з'яўляліся маладыя пары. У гарачы летні дзень, дый у асенні, калі сонечна, іх маленькія квяцістыя постаці прыемна ўпісваліся ў велічны стракаты пейзаж.

Стаўровіч спыніўся са сваім цяжкаватым мальбертам у той палове парку, якая ў рысу горада не ўваходзіла і выгляд мела занядбаны да здзічэласці. Само ж месца, дзе ён стаяў перад чыстым бялюткім палатном і нервова пакусваў кончык тоненькага пэндзліка, праз некалькі дзесяткаў крокаў межавала з мігатліва-серабрыстаю стужкаю рэчкі, густым кустоўем арэшніку, вербалозу, а дзе-нідзе і някідкай, сарамліва-знябожанай крушыны.

Аднойчы, даўно, мастак трапіў сюды і прыкмеціў стары напаўразбураны мур. Тады даў сабе слова вярнуцца ў гэты забыты Богам і людзьмі кут і ўпрыгожыць выявамі таямнічых рэшткаў некалі грознай каменнай сцяны сваю чарговую карціну. Ён ніколькі не сумняваўся, што пейзаж у яго атрымаецца на славу. З некаторага часу ён наогул развучыўся пісаць дрэнныя рэчы, якія пасля саромеўся б выстаўляць у мастацкіх салонах.

Праўда, было ў гэтым яго трывалым, працяглым поспеху адно «але» (нібы закансерваваны да пары да часу вірус у жывым арганізме), якое цяпер быццам бы і без прычыны раптам балюча пранізала свядомасць і выклікала цэлую плойму пачуццяў, схіліла да пакутлівага роздуму.

Аднойчы Стаўровіч знайшоў у кнізе водгукаў на сваю чарговую выставу запіс, які тады хоць і не прыняў розумам, бо ледзь паспяваў адказваць на віншаванні і быў на сёмым небе ад шчасця, ды які ўсё ж пакінуў на сэрцы не проста бяскрыўдны след, а небяспечны, калі яго зачапіць, шрам. Цяпер шрам неспадзеўкі азваўся вострым болем.

«Шаноўны спадар Стаўровіч, - помніцца, гэтак пачынаўся запіс. - Да Вашых карцін камар носа не падточыць, выкананы па ўсіх законах жывапісання. Адразу бачна - тэхніка, майстэрства адточаны да дасканаласці. Толькі глядзець Вашыя карціны не хочацца. Не

грэюць і не студзяць. А чаму - не ведаю. Яны ж досыць эмацыянальныя...»

Раней, калі ён толькі-толькі ўбіраўся ў сілу і пачынаў бачыць сябе асобаю ў мастацтве, гэты водгук неяк зацёрся, згубіўся ў лабірынтах свядомасці, забыўся за шматлікімі творчымі ды гаспадарчымі клопатамі, а цяпер вось усплыў, нібыта які няпрошаны госць. Памяць сэрца аказалася такі мацнейшаю за памяць розуму.

Каб неяк упарадкаваць думкі, канчаткова вызначыць для сябе, ці такая ўжо істотная тая тонка паднесеная заўвага, Стаўровіч вярнуўся ва ўспамінах да пачатку творчасці. Пакорпаўшыся ў памяці, выцягнуў адтуль адзін эпізод, і чым больш думаў пра яго, тым мацнела ў ім перакананасць, што згубіў нешта важнае не толькі ў творчасці, але і ў жыцці яшчэ тады, калі рабіў першыя крокі ў якасці мастака.

Дробка за дробкаю, Стаўровіч паслядоўна рэстаўрыраваў тую частку пражытага, якая павінна была дапамагчы адказаць на пытанне: наколькі рацыянальны і апраўданы злашчасны запіс у кнізе водгукаў?

Так. Быў час, калі Стаўровіч умеў плакаць. Гэты факт ніяк нельга абмінаць, бо ён можа стацца тым грунтам, ад якога трэба адштурхнуцца, каб знайсці адказ. Тады, калі ён яшчэ ўмеў плакаць, яму прыснілася прыгажосць. Па квяцістым лузе, дакладна такім, як каля хаты ягоных бацькоў, адно ярчэйшым і багацейшым на кветкі, да яго бегла зусім юная, свежая, як вецер, светлавалосая (валасы хвалямі ўздымаліся за плячыма), у лёгкай беласнежнай сукенцы, раскінуўшы для абдымкаў гуткія, што пруткі, рукі (так ён падумаў у сне) дзяўчына. Яна звонка-звонка смяялася, радая сустрэчы з ім, не толькі целам, але і вачыма мкнулася да яго, ды толькі чамусці ніяк не магла наблізіцца. Наадварот, з кожнай хвілінай усё аддалялася і аддалялася. Бегла да яго і ў той жа час няўмольна аддалялася. А можа гэта ён, ператварыўшыся ў парасонік-дзьмухаўца, адносіўся ад яе ветрам. Калі прачнуўся і пачаў да драбніц успамінаць тое, што прымроілася, па шчаках пабеглі гарачыя ручаінкі. О, які ён быў тады шчаслівы. Няўжо толькі з-за таго, што ўмеў плакаць?

Неўзабаве ў яго атрымалася цудоўная карціна. Яна таксама была падобная на сон. Узіраешся ў яе, і здаецца, - дзяўчына, што бяжыць па лузе, і праўда аддаляецца, а не набліжаецца да цябе. І яшчэ што цікава, твар яе напамінаў мастаку твар жонкі, які, праўда, прыкметна патлусцеў за гады сумеснага жыцця, дый сама яна пакруглела і можна было чакаць, што неўзабаве нехта вострый на язычок абавязкова абзаве яе торбаю. А можа ён сам прыдумаў тую

падобнасць, бо жонка нічога такога не прыкмеціла, толькі буркнула, маўляў, малюеш усякіх прастытутак, лепш бы хатаю заняўся... (Цяпер, калі збіраўся ў парк, зноў не ўтрымалася, каб не папракнуць: «Ты знарок сыходзіш куды-небудзь лайдакаваць, калі дома свет работы...»).

З той карціны, якую так і назваў - «Сон», і пачалося ягонае прызнанне як мастака.

Дзякуючы карціне Стаўровіч адчуў сваю моц і грунтоўна заняўся тэхнікаю малявання, бо быў напалову самавучкай. Хацеў дасягнуць дасканаласці, і, здаецца, дабіўся зайздроснага поспеху: пэндзлік у ягоных руках адчуў сябе гэтак упэўнена, быццам быў жывы...

Аддаючыся год за годам любімай працы, бадай, і не адыходзячы ад мальберта, Стаўровіч зусім не заўважыў, што развучыўся проста, па-чалавечы, з дзіцячай уражлівасцю глядзець на свет. І карціны згубілі тое важнае, што не дасць ніякая тэхніка. А можа прычына ў тым, што пасля той карціны ён занадта заўзята заняўся сваёю персонаю, і хоць шмат прыдбаў праз гэта, усё ж нешта і страціў. Ці, што таксама верагодна, жонка сваёю жалезабетоннай непрабіваемасцю вынішчыла ў ім дзіцячую чысціню думак, непасрэднасць, шчырую ўражлівасць?

Як бы там ні было, цяпер Стаўровіч у поўнай разгубленасці стаяў перад чыстым палатном, круціў заціснуты ў зубах танюткі пэндзлік. Пісаць пейзаж з мурам, расшчэпленым ствалом вяза, золатам восені і срэбрам ракі, якое ўпарта прабівалася праз густую сетку кустоўя, расхацелася канчаткова.

Ён раскаркаваў паўлітэрку ліманаду, што засталася ў дарожнай сумцы ад папярэдняга паходу на аб'ект, і толькі паспеў адчуць прыемнае пашчыпванне ў горле, як нібыта з-пад зямлі вырасла жанчына. Яна мела спіты твар, скуласты, азызлы, а замест румянцу на шчоках праступалі барвовыя плямы. Плечы як у мужчыны, рукі шырокія, пазногці на закарэлых пальцах цёмна-жоўтыя ад частага смалення.

- Мужык, - яна абвяла Стаўровіча няўцямным, з хмяльною паволокаю, поглядам. - Я пачакаю на той лаўцы, пакуль ты дап'еш, і вазьму ў цябе бутэльку. Ага?

- Ага, - абыякава згадзіўся Стаўровіч.

Жанчына ўселася на лаўку. Да яе падбег руды паскубаны сабака, абнюхаў парваную спадніцу, сеў каля нагі, якою яна нязлосна, а таму, відаць, не балюча таўханула яго.

Перад вачыма мастака сядзелі два бадзягі, і Стаўровіч злавіў сябе на думцы, што яны вельмі падобныя адно да аднаго. Нармальны

чалавек, можа, на яго месцы паспяшаўся б хутчэй рэціравацца, знікнуць, буркнуўшы пад нос нешта накшталт «два боты - пара», а Стаўровіч паставіў на спарахнелы пянёк недапітую бутэльку, запэцкаў фарбамі і без таго густа заплямленую палітру, і над белым палатном хутка і ўпэўнена замільгацелі старыя, выпрабаваныя на дзесятках карцін пэндзлікі.

- Мужык, ну што, дапіў? - гукнула жанчына, працягваючы абаякава штурхаць сабаку ў аблезлы бок брудным гумавіком. - Га? Не дапіў? То дапівай, колькі чакаць цябе. Што? Памалюеш, а тады?.. Ты што, мастак? Ого. То памалюй, а я паліць буду... - і жанчына дастала з кішэні ватоўкі ёмісты, яшчэ не памяты бела-блакітны пачак «беламору», задыміла густа, як паравоз. А Стаўровіч усё завіхаўся над палатном, страціўшы пачуццё часу, а хутчэй за ўсё і пачуццё рэальнасці. І нават не заўважыў, што работа ішла як ніколі хутка і ладна.

Хвіліны ператварыліся ў гадзіны, а мастак, які б павінен даўно адчуць у руках і нагах стому ад працяглай напругі, нястомна тыцкаў пэндзлікамі ў палітру, нешта выводзіў імі на палатне, засяроджана пакусваючы вусны.

Жанчына аказалася цярплівай. Яна, ведама ж, не была ў палоне творчага экстазу, як Стаўровіч, а таму адчувала і час, і, наколькі дазваляў прытуплены хмелем розум, рэальнасць. Але гадзіна за гадзінаю сумленна чакала, не падганяючы болей і наогул не чапляючыся да мастака. Толькі раз-пораз кідала на яго няўцямны пагляд, доўга таропілася на ссутуленую вуглаватую постаць, быццам бы імкнучыся зразумець, чаму ён так доўга не дапівае ліманад. Адначасова жанчына высмыкала з кішэні беленькія трубачкі, гучна дзьмула ў іх, пасля твар засланяўся густым кудлатым дымам, а яшчэ крыху пазней пад нагамі большала яшчэ на адзін акурак. Толькі калі блакітна-белы пачак у кішэні ватоўкі апусцеў і быў злоўлены на ляту ўчэпістай галінкай шыпшыны, мужчынская постаць у жаночай спадніцы варухнулася, адкінула нагою рудога бадзягу на раскіслую чорную сцежку, пасунулася, ляпаючы шырокімі халявамі, да бутэлькі.

Стаўровіч ускінуў галаву і незадаволена-запытальна зірнуў на жанчыну. Тая спачатку сумелася, пашукала вачыма сабаку, нібыта ён мог яе падтрымаць, падбадзёрыць, заўважыла яго, і ўжо крыху з большай упэўненасцю ў голасе працягвала:

- Мужык, у мяне, бач ты, папяросы кончыліся... Адненькую, ага?

- Няма, дома засталіся, - ляпнуў Стаўровіч сябе па сцёгнах, шчыра шкадуючы, што не мае чым дапамагчы ні ёй, ні сабе. Хаця яму ўжо быццам бы і расхацелася паліць.

- То давай дапівай ды пасуну ў краму бутэльчыну. Або я дап'ю, калі не здужаеш. Яна каўтанула сліну, пасоўваючыся бліжэй да мастака. Мабыць, ад палення перасохла ў горле і самы час быў прамачыць яго хоць ліманадам.

- Бутэлькі не хопіць нават на «беламор»!.

- Ага, адной не хопіць. У мяне во шчэ адна, - жанчына ляпнула сябе даланёй па кішэні.

Стаўровіч усміхнуўся, глынуў з бутэлькі і працягнуў ёй рэшту.

Асушыўшы пасудзіну, жанчына шмарганула па вуснах зацёганым рукавом, крактанула, са словамі «Ну, і што ты тут намалякаў?» зайшла за мальберт, ажыла, павесялела.

- О-о-о, то ты праўда мастак. Гэта ж мо мяне намаляваў? Ты бачыш, а якая прыгожая. У мяне дома картачка ёсць, то там я копія во як тут - і маладзенькая, і пекная во такая, і ў белым... Хочаш, прынясу пакажу?

- Не, не хачу.

Жанчына доўга ўзіралася ў амаль завершаную кацiну, і па нейкай адной ёй вядомай прычыне (можа, занадта напружвала вочы, а мо наплылі разам з успамінамі шчымлівыя пачуцці) беражкі яе павекаў пачырванелі, заблішчалі. З карціны на яе... Не, не на яе, а некуды ўдалеч глядзела натхнёным позіркам статная дагледжаная маладзіца. Яна сядзела на беласнежнай лаўцы, паклаўшы адну руку на яе спінку, а другою вітаючы некага далёкага, і ледзь улоўна ўсміхалася поўненькімі, сакавітымі вуснамі. Усё яе цела, твар, адкрытыя далікатныя рукі, здавалася, дыхалі свежасцю і жыццём. Пад нагамі прыгажуні згарнуўся калачыкам выкармлены дварняк, рыжая шорстка якога ажно свяцілася, нібы пафарбаваная бліскучымі сонечнымі промнямі. І ўсё гэта - на фоне гіганцкага асенняга парку і разбуранага, хоць і захаваўшага былую веліч, мура.

- От, бачыш, бываюць жа такія людзі. Гэтак цябе намалякае, што здаецца, глядзела б і глядзела. Ну, проста вачэй не адвесці. А я і праўда была такою, ага. Не думай, што маню. Я картачку магу...

Жанчына змоўкла, нейкая сіла прыдушыла ў ёй голас. Яна ціхенька абышла мальберт і пайшла. Відаць, у бліжэйшую краму па «беламор».

Тым часам сонца ўжо збіралася запаліць далягляд за блізкімі ствалами і далёкімі кронамі. Вецер неўпрыкмет сціх, і парк ад гэтага быццам бы пасур'ёзнеў. Дрэвы, здавалася, выраслі ўдвая, выцягнуліся, і стаялі самотныя і гордыя, нібы гіганцкія дзіды. Яшчэ якая гадзіна, і ў вечаровым паўзмроку яны будуць выглядаць пагрозліва.

Стаўровіч правёў нечаканую натуршчыцу паглядам, зірнуў на карціну, вакол сябе, угару, на схіленыя над галавой цёмныя вершаліны, адышоў колькі крокаў ад недапісанага партрэта, нарэшце паваліўся на мяккі дыван з толькі што апалых лісцяў і пажухлай травы, ляжаў і ўзіраўся ў ціхае-ціхае вечаровае неба. Цёплыя ручаінкі прабеглі па скронях, заблыталіся ў валасах, прыемна казытнулі вуха.

Парк засяроджана сачыў за чалавекам, маўчаў, баючыся парушыць ягоны шчаслівы спакой.

## У цягніку

Са мною ў цягніку ехалі двое - Цягун Толік і Касцюк Васіль. Яны мне ніякія не сябрукі. Так - знаёмыя. Толіка, праўда, ведаю даўно, яшчэ са школы. Ён мяне ў камсамол прымаў. Памятаю, у тых, хто ўжо атрымаў чырвоную кніжачку, я пытаўся: «Хто прымае? Што за чалавек такі?» І чуў у адказ: «Ды Цягун нейкі. Ачкарык. Даўжэзны такі і худы, што саломінка. А па статуце ганяе, па ордэнах, па з'ездах, ажно пакуль з цябе халодны пот не пырсне». Я тады здзіўляўся сваёй празорлівасці: якраз такім, доўгім і ў акулярах, я і ўявіў яго адразу, як толькі пачуў прозвішча Цягун. Бывае ж такое, калі прозвішча падказвае, які выгляд мае яго носьбіт.

Нягледзячы на свае выключныя акуратнасць і прынцыповасць, ён усё ж не ўзняўся вышэй інструктара райкома камсамола. Затое неўзабаве ўзначаліў раённае таварыства «Веды». Толькі і гэтую «канторку» хутка скарацілі. Зноў вярнуўся ў камсамол (дакладней, проста самол), але ўжо асобаю незалежнай - дырэктарам малога прадпрыемства «Ікар» пры РК.

Насіў ён звычайна светла-карычневую троечку (на гэты раз таксама быў у ёй), яна вельмі пасавала да крыху святлейшых за вопратку валасоў і бледнага твару Цягуна. Шкельцы акуляраў абавязкова мелі форму закругленых па рагах прастакутнікаў, а рукі нязменна, як толькі ён уставаў з сядзення, хаваліся ў адпрасаваных да бляску нагавіцах з вострымі, нібы лязо, кантамі. Ні даць ні ўзяць - правінцыйны арыстакрат. Нават манера весці размову ў гэтага франта мала чым адрознівалася ад яго знешнасці. Такая ж гладкая, хоць часцей за ўсё пустая. Каб дайсці да сэнсу таго, што ён кажа, трэба добра паблытацца паміж шматлікімі да месца і не да месца ўстаўленымі - «так сказать», «в принципе», «в общем», «имеется в виду»...

Толік ехаў у Менск дамаўляцца з нейкім не то лекарам, не то шаптуном, каб той наведаўся ў раён і правёў там свае сеансы. Падобныя дамовы - клопат яго малога прадпрыемства.

Для Васіля Менск - толькі пачатак шляху. Адтуль ён на самалёце памчыць у далёкую Цюменскую вобласць, дзе чакаюць яго сябры па вахце, марозны дух і высозныя нафтаздабываючыя вышкі. Васіль, калі няма на стале пляшкі, не вельмі з табою пагамоніць. Ён лепш уткне свой круглы, нібы мячык, твар у газету.

Мяне заўсёды разбірае смех, калі гляджу на Васілёў твар. Выліты калабок. Нават рот пры ўсмешцы расцягваецца гэтак жа шырока і задзірыста, як у казачнага калабка на дзіцячых малюнках. І падстрыжаны ён заўсёды да кароткіх валасоў. А непаслухмяны віхор спераду сведчыць пра далёка не мяккі характар нашага суседа.

- Ат, ёлкі, як начытаешся гэтых газет, і жыць страшна робіцца. - Васіль усміхаецца аднымі толькі вуснамі, расцягваючы іх ці не да самых вушэй. - На, інтэлігенцыя, зірні, што пішуць.

Толік разгортвае пярэста-хрусткую газету, праводзіць па ёй позіркам праз тоўстыя выгнутыя лінзы ўдоўж і ўпоперак, а пасля засяроджваецца і, палічыўшы, што знайшоў цікавае, чытае сваім занудлівым голасам:

- Хотите знать истину?

- Га? - ускідвае галаву Васіль.

- Я не табе. Тут загаловак такі.

І Толік працягвае далей:

- Обратитесь к откровению Граля «В свете истины». Так называется книга, презентация которой состоялась... Так-так-так. Во Дворце искусств... Гм, гм. В форме лекций... Существует ли свобода воли...

- Ты не тое чытаеш. Знайшоў глупства нейкае. - Васіль незласліва хмурыць шараватыя, як цыгарэтны попел, бровы. - Там, на апошняй, пра вампіраў ёсць. І пра бацькоў, якія дзецьмі гандлююць. І яшчэ пра адну маці. Яна немаўля прыдушыла. Сваё. А на першай - пра крадзяжы і забойствы.

- Да лямпачкі мне твае крадзяжы. Нам трэба шукаць сэнс жыцця, шукаць адказ на пытанне, хто мы такія і для чаго існуем на свеце. Няўжо гэта меней цікава, чым нейкія выдуманыя вампіры?

- А-а, ідзі ты... Чыстаплюй вашывы... - Васілёва галава паварочваецца да нас стрыжанай патыліцай, а Толік працягвае крыху цішэй, часам збіваючыся на незразумелае балбатанне сабе пад нос:

- ...Это не религиозное учение. Но... Базируется на наследии Иисуса Христа... Не на наследии его... последователей. Это не одно и то же... Откуда знал тот, кто пятьдесят лет назад умер, что

произойдет сегодня... Автор Абд-ру-шин... Сын света... Черпает свои познания из чистейших и высочайших источников.

- Во даюць. - Не мяняючы паставы, Васіль крутнуў галавою. - І прыдумаюць жа такое.

- Если вы тоже захотели узнать истину, пожалуйста, обращайтесь к откровению Граля. Оно уже появилось в магазинах.

- Шчэ чаго не хапала, на розную ерунду траціцца. За гэтую сваю ісціну яны, напэўна, тры шкуры здзяруць. От жа дармаеды. Што толькі не прыдумаюць, абы не працаваць, а грошы лапатаю заграбаць.

Мне надакучыла лаянка ды пустая балбатня хлопцаў, і я ўзяў са століка Толеву кніжку. У ёй пісалася нешта пра мараль, этыку, культуру.

Адна нудота, і вырашыў выйсці ў праход, што падзяляе салон і тамбур. Балазе наш плацкарт быў апошні і лёгка было юркнуць за дзверы, схавацца ад спрэчак.

У праходзе я досыць утульна размясціўся на пласцікавым вечку скрыні для смецця, дастаў з падоранага сябруком на дарогу пачка «астмы» (там мы любілі называць «Астру») пляскатую цыгарэту, з асалодаю пацягнуў гаркавы дымок. Але паглыбіцца ў роздум не паспеў. З'явіўся госць. І я б не сказаў, што жаданы. Гэта быў хлопец гадоў семнаццаці з доўгімі чорнымі пэйсамі і адвіслай ніжняй губою. Крыху згорблены.

- Чувак, - ён нахабна разваліўся побач і крыва, адным толькі кутком вуснаў, усміхнуўся, быццам паказваючы сваю ўладу нада мною, - забэніць дай.

Я насцярожыўся і пачаў пакрысе злавацца. Каму ж падабаюцца такія выхадкі? Да таго ж свядомасць пранізала думка, што ён, напэўна, не адзін у цягніку. Хутчэй за ўсё тут цэлая банда. Але працягнуць цыгарэту мяне змусіў не страх (ён калі і быў, дык у самы першы момант), а цікаўнасць: што ж будзе далей?

- Шчэ адну дай, калі не жадзён. - Ён нахіліўся, і на мяне патыхнула перагарам.

Я працягнуў яму яшчэ тры цыгарэты.

- Не. Што ты. Дзве хопіць.

- Бяры-бяры, у мяне многа, - усміхаючыся, я падумаў, што новы знаёмы не такі ўжо і дзялок, якога выпінае з сябе.

- Слухай, а ты мне білет свой не пазычыш? Далёка едзеш?

- Да Менска.

- То пазыч. Я ў Баранавічах выскачу, а білет вярну.

- О-о-о, брат, у такую далячынь выбраўся, а білет у касе не ўзяў...

- Разумееш, я не збіраўся нікуды ехаць. Ускочыў у першы ж цягнік, які трапіўся на вочы.

Хлопец усеўся побач са мною, чыркнуў запалкай. Закашляўся і колькі разоў плюнуў сабе пад ногі:

- У Пінску больш не з'яўлюся. Сучары, яны, пэўна ж, хацелі падставіць мяне, толькі я не такі дурны, каб не заўважыць гэтага.

Ён зноў плюнуў, толькі ўжо не на падлогу, а перад сабою.

- Ведаеш, мой стары - мент, маёр міліцыі. Я яго цярпець не магу. Мусар паганы. Сёння ён прагнаў мяне з хаты і сказаў, каб на яго вочы больш не трапляўся. Х-хэ. У труне я бачыў яго... І старую, і ўсіх... Пляваў я на ўсіх з высокага слупа.

- А маці кім працуе?

- На-астаўніца, - з'едліва скрывіўся ён і дадаў: - Я ведаю, чаму яны прагналі мяне. Каб не няславіў іх перад людзьмі і, галоўнае, на працы. Ну і трасца з імі. Пражыву і сам. Мне яны яшчэ больш абрыдлі.

У гэты час дзверы ў наш праход адчыніліся, і мы падабралі ногі. Васіль і Толік усё яшчэ спрачаліся. Я ўлавіў колькі слоў.

- Ты кажаш, - даносіўся хрыплаваты голас Васіля, - што ў жыцці нічога не адбываецца выпадкова? Калі чалавек пакутуе, значыць, гэтыя пакуты заслужаныя?..

Дзверы клацнулі, і мы зноў засталіся сам-насам.

- Я пайшоў да дзяўчыны ў інтэрнат. Каб ты ведаў, якая дзяўчына! Таня. Адна яна мяне разумее. А там якраз мае карашкі: мы з імі на вакзале грошы сшыбаем, пакой адзін грабанулі, дзверы высадзілі. Маг узялі, шмоткі. Цяпер, калі што, мяне падставяць. Людзі ж бачылі мяне там. А пасадзіць мяне, што два пальцы аб асфальт. Я ж судзімы. У Баранавічах сядзеў. У цюразе хацелі пеўнем зрабіць. Ды не на таго нарваліся. Увесь сіні хадзіў, месяцамі свяціў ліхтарамі, а нат і не падумаў здавацца. На канцы я іх бачыў.

- Та-ак, - пашкадаваў я хлопца. - Цяпер табе не пазайздросціш. Слухай, а калі б табе выпала мажлівасць уладкавацца на працу і пачаць новае жыццё, згадзіўся б?

- А-а-й, - выдыхнуў вяла мой субяседнік. - Якое новае жыццё? Хадзіў я, прасіўся, а як толькі даведаюцца, што судзімы, - усё, крыж. Не, я чхаў на гэтых таўстазадых.

- А што ж ты збіраешся рабіць у Баранавічах?

- Не ведаю. Там у мяне пару карашкоў ёсць. Мне цяпер адна дарога: у цюрагу альбо на той свет. Дык ты, гэта, білет мне дасі?

- У гэтым цягніку ты не возьмеш тое, што табе трэба, ні ў аднаго пасажыра, бо ўсе квіткі ў правадніцы.

Недзе ў падсвядомасці маёй гэтыя словы прагучалі так, што, маўляў, у гэтым цягніку ты ні ў каго не знойдзеш спагады, бо яна закратавана падазронасцю і перасцярогай.

- Калі ты не супраць, я дам табе параду. - Я сапраўды шчыра хацеў дапамагчы хлопцу. - Мне здаецца, што табе лепш за ўсё было б даехаць да Лунінца, зайсці ў міліцыю і там расказаць усё, што ты расказаў мне. І папрасіць у іх дапамогі. Думаю, цябе ўсё ж зразумеюць. А з былымі сябрамі табе лепш не бачыцца зусім.

- Не-е. Да мянтоў не пайду. Хопіць з мяне іхняй дапамогі.

- Ты не спяшайся. Я табе пра сябе раскажу.

І я пачаў расказваць яму гісторыю, якую пачуў ад свайго добрага знаёмага. Дакладней, прысвоіў тое, што здарылася з ім у юнацтве. Плёў, быццам ездзіў некалі ў Карэлію паступаць у мараходку. Там па нейкай прычыне не прынялі. Але адступацца не хацеў і дахаты не вяртаўся. Жыў на вакзале. Без капейкі ў кішэні. Згаладаўся. Толькі ваду з-пад крана хлабыстаў.

- Дык вось, - працягваў я, - аднойчы падыходзіць да мяне барыга, а з ім яшчэ чалавек пяць. Той барыга стары быў, увесь у татуіроўках. Давай грошы, кажа. Расказаў я ім, што сам тыдзень галадаю. Тады яны адышлі і праз якія паўгадзіны вярнуліся з пончыкамі, катлетамі... Віна налілі. Захмялеўшы ад ста грамаў, я заладзіў: мужыкі, паеду з вамі, куды вы, туды і я. Тады стары (ён быў за пахана) сказаў: «Калі пойдзеш з намі - загубіш сабе жыццё. Ідзі лепш у міліцыю, раскажы там усё, скажы, што прыехаў з Беларусі, і ўсё ўладзіцца». На развітанне ж ён паклаў мне ў руку дваццацьпятку. Я зрабіў так, як параіў барыга. І праўда, як у ваду глядзеў ён, спраўдзіліся ягоныя словы. Так што...

- Вой, мне пара, - схамянуўся хлопец.

Цягнік прыцішваў хаду. За акном праплыў, міргнуўшы жоўтымі вочкамі-вокнамі, будыначак вясковай станцыі.

- Ты ж да Баранавіч...

- Ды ну іх. Кантралёр наскочыць, а ў мяне грошай на штраф няма.

- Я як жа ты... Я дам табе грошы.

- Не трэба. Ён ужо адчыняў дзверы. Але раптам вярнуўся, падаў руку. - Дзякуй табе, чувак. Бывай.

Колькі хвілін пастаяўшы ля акна і паназіраўшы, як аддаляецца ў сіратлівым святле адзінокага вулічнага ліхтара цёмна-зялёная спартыўная шапачка над згорбленымі плячыма, я рушыў да дзвярэй. Мне карцела расказаць хутчэй пра выпадковую, але ў нечым

сімвалічную гутарку з хлопцам, сваім спадарожнікам. Толькі не паспеў я раскрыць рот, як Васіль астудзіў мяне:

- Чулі, чулі мы ўсё. Можаш не расказваць. Ты з ім выпадкова не цалаваўся, добрая твая душа? А можа, і праўда нядрэнны быў, хто яго там разбярэ, - сказаў быццам пра нябожчыка.

- Правер кішэні. Ён у цябе нічога не спёр? - у голасе Толіка была іронія.

Гэтая абыякавасць здзівіла мяне і збянтэжыла. Гаварыць адразу ж перахацелася. Я падняўся і выйшаў у халодны грукатлівы тамбур. За брудным шклом дзвярэй праплывалі зацягнутыя цёмна-сіняю сеткаю вечара тэлеграфныя слупы, рэдкія дрэвы, светлячкі далёкіх паселішчаў.

З гэтага моманту мне ненавісным стала Толікава шуканне сэнсу жыцця. То было не сапраўднае шуканне, а ўсяго толькі шырма, за якою цёпла і ўтульна жывецца. Ненавідзеў я і Васілёву грубую прастакаватасць. Відаць, і гэта таксама шырма, абалонка, за якою можна жыць у адноснай бяспецы. Заставалася толькі згадзіцца з невядомым аўтарам, у якога некалі прачытаў: «сумленнасць і велікадушша і праўда церпяць урон ад развіцця разумення каштоўнасці жыцця і ўласнасці». Церпяць жа. А ці добра гэта, ці так павінна быць, хто вызначыць? Пакуль будзем думаць, той зусім юны небарака павісне на суку ў якім-небудзь лясочку паміж Пінскам і Лунінцом. І мы спішам гэта на лёс.

Я зноў зірнуў у акно. Вось яно - жыццё. Гэтая цемрадзь з раскіданымі там-сям плямінамі святла, цягнік, Толік і Васіль, бадзяга, у якога я нават не спытаўся імя, нарэшце - я. Усё гэта - звычайнае, добрае і не вельмі радаснае чалавечае жыццё. І няма чаго тут мудрыць.

А сэрца ўсё ж не на месцы. От жа...

## Вар'ят

Чалавек стаяў у падземным пераходзе і падпіраў прамавугольнік аблямаванай шэрым каменнем калоны, якая падзяляла паток на «туды» і «сюды». Ён нікога не чакаў. Проста стаяў і няспешна лузгаў чорныя падсмажаныя сланечнікі. Даставаў з кішэні старэнькага драпавага паліто маленькае мурзатае зярнятка, кідаў у рот, апусціўшы і без таго адвіслую непаслухмяную сківіцу, доўга калашмаціў яго задубелым ад бясконцай працы языком і пасля выціскаў вільготныя лупінкі. Яны слізгалі па зацяганым да бляску

лацкане, вялізных чорных гузіках, перашытых, відаць, з ватоўкі, што адслужыла свой век, апускаліся, нарэшце, на калісьці чорныя, а цяпер проста брудныя чаравікі. Дзве лупінкі-лодачкі, якія нядаўна былі адным цэлым, зачапіліся за шчарбіну верхняга гузіка і цяпер свяціліся бялюткай сярэдзінкай, целяпаючыся на цяжкім, моцна набрынялым халоднаю вулічнаю імжою скразняку.

Чалавек нікога не цікавіў, і ніхто з прахожых, аблітых светлаю глазураю неонавага святла, не цікавіў яго. Ён нават ні на каго не глядзеў, а яго абыякавыя вочы таропіліся пад ногі ды на абутак людзей. Перад ім быццам разгортвалася цэлая энцыклапедыя... Не, не ног - чалавечых характараў. І лёсаў. Ён не ўзнімаў галаву, бо абавязкова заблытаўся б у сваім тонкім, хоць нікому і не патрэбным, аналізе. А хутчэй за ўсё баяўся глядзець на людзей...

Ногі шоргалі і цокалі, чаўкалі і праносіліся бязгучна. За салдацкімі чаравікамі падскоквалі высокія шпількі на бліскучых металічных набойках, мільгацелі гумовікі самых розных колераў. Насустрач несліся вострыя насы туфляў і ботаў, тупарылыя або з загнутымі аж наверх падэшвамі насы красовак.

«Якія бялюткія (ну, рыхтык снег). Як яму ўдаецца не выпацкаць іх у такую слоту? Чыстыя нават падэшвы. Звычайна абутак мяняе сваю форму ад формы нагі, скасабочыцца ці выпнецца ад якой-небудзь косткі. Гэтыя ж - быццам толькі што з вітрыны камерцыйнай крамы і тупаюць самі, нават не моршчацца. Ды яшчэ й без почырку: не падскокваюць, не драбняць і не запавольваюць крок, не адводзяць насы ў бакі і не крывалапяць».

Чалавек ледзь прыкметна моршчыцца: «Так, мусіць, выглядае безаблічнасць». І ён асмельваецца прыўзняць на хвіліну белы да сінявы твар, які ніколі не ведаў галення. «Хутка гаспадар гэтых чысценькіх красовак прычыніць за сабою дзверы ўласнай кватэры, не прынёсшы з вуліцы ні бруду, ні ўражанняў. Ён уважліва агледзіць пустымі вачыма абутак, павыцірае на ім плямінкі, якія, можа, шукае праз павелічальнае шкло, яшчэ раз агледзіць, як любімы твор мастацтва, і акуратна паставіць у кут. Пасля разважліва пройдзе па чысценькай хаце, абстаўленай калі не багата, то без анічога лішняга. Затым уключыць музыку і апусціцца ў крэсла, утаропіўшыся ў столь. Гэта чалавек добра вядомай мне пароды: такія ніколі не выходзяць у дождж на вуліцу без парасона і не ездзяць без талона ў гарадскім транспарце. Салага... Мамін сыночак... Ён і ў пяцьдзесят гадоў будзе маміным пестуном. Можа, зірнуўшы на мае чаравікі, ён нават і не пагідзіўся б, бо яму на ўсё і на ўсіх наплюваць».

Чалавек выціснуў наступную порцыю лупінак, а набеглы вецер-скразнячок адкінуў іх на якія паўметра ўбок, акурат пад ногі прахожых. «Перасмажаныя, халера на іх. Толькі пальцы запэцкаў. Во якія страшныя. І вусны, напэўна, такія ж...» Але вусны былі чыстыя. Вільготныя, яны блішчалі, нібыта налакаваныя, і гэта рабіла яго доўгі твар яшчэ больш непрыемным.

Чалавек злавіў сябе на думцы, што прыйшоў сюды зусім не для таго, каб назіраць за людзьмі, а тым больш за іх абуткам. Проста сярод вялікай колькасці людзей ён заўсёды адчуваў сябе адзінокім. Яшчэ больш адзінокім, чым калі заставаўся сам-насам. А ён нічога так моцна не любіў, як адзіноту. Яна была яго шчасцем, і толькі ў адзіноце ён адчуваў, што жыве, адчуваў ход жыцця і быў свядомым яго ўдзельнікам. Рэчы, што знаходзіліся побач, адразу ж асвятляліся яго пачуццямі і набывалі пэўны сэнс, яны нібы прасілі чалавека заўважаць і прызнаваць іх неабходнасць. Лічыцца з імі.

Чалавек прыйшоў сюды, каб пабыць у адзіноце. І ён сапраўды адчуваў сябе самотным. Адзінокім сярод дзесяткаў і сотняў ботаў, ног, характараў. Спачатку ён разглядаў іх (ногі) проста так... Не тое што ад няма чаго рабіць, а хутчэй, каб падкрэсліць сваю адзіноту, нагнаць паболей самоты і адчуць у ёй асалоду. Асалоду ад усведамлення свайго існавання. Але тупат і шорганне быццам наэлектрызоўвалі...

Калі зусім блізка і з цяжарам прасунуліся няўклюдныя гумовікі, чалавеку захацелася ўбачыць іх уладальніцу голаю. «Якою яна, мабыць, выглядае брыдкаю, калі распранецца. Сунецца, што тая качка. Можа, яна ніколі не распранецца пры кім-небудзь. Ногі - нібы ласты. Таму яна і хавае іх у боты, каб ніхто не ўбачыў. Калі б гэтыя ногі наступілі на мяне, я, мусіць, ніколі ўжо не падняўся б».

Чалавеку здалося, што ўвесь сустрэчны натоўп ног скіраваўся на яго і зараз затопча. «Нават вось гэтыя маленькія чырвоныя боцікі-капыткі на стройненькіх ножках-верацёнах - яны таксама будуць таптаць мяне.

У гэтых ботах, напэўна, чысценькія ружовыя пальчыкі з пакрытымі лакам малюсенькімі пазногцікамі».

Раней, калі ён думаў пра такія рэчы, адразу з'яўлялася жаданне. Яму хацелася цалавацьь дзявочыя рукі і плечы. Нічога такога цяпер чалавек не адчуваў. Якое можа быць жаданне да абцягнутага мясам і скураю, няхай сабе і прыгожага з вягляду, шкілета. Чым яе косці адрозніваюцца ад касцей той няўклюднай качкі? Яны ж аднолькавыя. «Гідота. Яна радуецца, што ўсе бачаць яе дарагі абутак. А хіба ж можна такому радавацца? Хіба для гэтага Ўсявышні надзяліў людзей розумам, якога не знойдзеш ні ў адной жывой істоты на зямлі?

Навошта ім гэты розум? Хапіла б такога, як у малпы. Можа, людзі і ёсць малпы. Толькі больш жорсткія, хітрыя і цынічныя».

Чалавек каторы ўжо раз адчуў, што ненавідзіць людзей. «Самая горшая, самая брыдкая істота, якая толькі ёсць на зямлі, - гэта чалавек. Прырода надзяліла яго розумам, свядомасцю, інтэлектам. Для чаго? Няўжо толькі для таго, каб ён мог прыдбаць чаравікі, якімі закрывае свае ногі ад вачэй сабе падобных?

Бедныя, бедныя людзі. Яны думаюць, што ботамі схаваюць ногі. Наіўныя. Каго цікавяць іх ногі? Каго цікавяць іх пальцы, пазногці, лыткі і пяты? Небаракі. Яны нават і не падазраюць, што, закрываючы плоць, адчыняюць сваё нутро, адкрываюць нешта патаемнае са сваёй натуры. Кожная маршчына на іх абутку, кожная пляма, драпінка або нават колер і фасон гавораць пра чалавека амаль што ўсё».

Натоўп плыў і плыў. Але ніхто яго не затоптваў. Некрануты заставаўся нават дыванок, што саткаўся сам па сабе з лупінак і абляпіў яго шэрыя ад высахлай гразі чаравікі, неахайна сцягнутыя белымі матузамі. Чалавеку прымроілася, што людзі рухаюцца не «туды-сюды», а па замкнёным коле.

«Я ўсё зразумеў. Гэта такі ў іх дзікунскі танец. Перш чым прыкончыць мяне, яны будуць доўга танцаваць вакол. А пасля накінуцца і будуць таптаць, баючыся згубіць або парваць свой паганы абутак. А я не баюся страціць нават сваё жыццё, бо я не такі, як яны. Я не магу жыць разам з імі, таму нехта з нас павінен памерці.

Чаму ж я раней адносіўся да людзей як да сваіх братоў і не мог зразумець, што чалавек - гэта не што іншае, як згустак звярынай плоці і эгаізму.

Калісьці я думаў, што чым большую чалавек займае пасаду, тым ён разумнейшы, адказнейшы, і тым больш яго трэба паважаць. Але ўсё гэта - лухта. Яны - эгаісты. Чалавеку надакучыла насіць абутак са штучнай скуры, і ён дамагаецца, каб пасада дазваляла яму насіць з натуральнай, ды яшчэ самай лепшай. Усё вельмі проста. І палітыкі, і прэзідэнты думаюць найперш не пра сваю дзяржаву і народ, а пра самыя лепшыя і самыя дасканалыя туфлі».

Зусім побач прашумела доўгая чорная мантыя. Паветра ўскалыхнулася, і шалупінне, нібы спалоханая вераб'іная чарада, адляцела ад самых ног чалавека. Дыванок змяніў форму з амаль што правільнага паўкруга на няправільны, абрэзаны з аднаго боку.

«Святар. Гэта прайшоў святар. Сур'ёзны і нават суровы. Я толькі адзін раз быў у царкве - у дзяцінстве. Але я часта бачыў святароў па тэлевізары: яны чытаюць казанне або разважаюць пра душу. Таму я ведаю, што ўсе яны на адзін твар. А тады, у дзяцінстве, я бачыў, як

людзі неслі ў царкву хлеб, віно, кілбасу. Дзіўна, але мяне не цікавілі ні залачоныя кандэлябры і рамкі, ні каляровыя малюнкі з выявамі святых на сценах і нават на столі, ні дзіўны пах, які браўся невядома адкуль. Мяне, блазнюка, цікавіла, чаму гэта людзі нясуць сюды, у такую вялізную, багатую і таямнічую пабудову пітво і ежу. І яшчэ, прыкмеціў, грошы. Запытаўся пра гэта ў маці, а тая толькі засмяялася і сказала вельмі проста:

- Так павялося, сынок. Так патрэбна.

Я тады дзіцячым розумам падумаў: ці то нясуць усё таму, што месца гэтае - велічнае, святое, ці гмах гэты пабудавалі і панаставілі ў ім залачоных рэчаў ды намалявалі шмат прыгожых карцін для таго, каб сюды неслі кілбасы».

Ён адчуваў, што тут не ўсё так проста, і ўсё ж непрыязнасць да святароў засталася назаўсёды. Хоць яны п'юць і ядуць як і ўсе, і плоць іх як ува ўсіх людзей, і ёсць у іх на пальцах ног пазногці, і жаданні ў іх таксама чалавечыя. Дык нашто ж гэты ўвесь маскарад? Няўжо каб браць, каб нешта браць для сябе? Як бяруць жабракі ці пагарэльцы, што амаль з дня ў дзень шныраць па кватэрах, просяць міласціну. Дык яны хоць не прыкідваюцца: прыходзяць і кажуць, каб даў ім што-небудзь паесці, грошай або анучу якую. Ён даў бы ім многа, ды ў самога нічога няма. Хлеб ды сала. Але цяпер ён іх таксама ненавідзіць. Як і ўсіх людзей. Бо яны бяруць, бяруць, бяруць. Ён любіць толькі вар'ятаў. Гэтым мілым істотам зусім нічога не патрэбна. Яны калі што і просяць або бяруць, то не свядома, а, хутчэй, інстынктыўна. Тыя, што называюць сябе нармальнымі, таму і пазбаўляюцца ад іх, таму і хаваюць іх у бальніцы-турмы, каб не нагадвалі ім лішні раз, што ногі зусім не абавязкова хаваць у боты і зусім не абавязкова разумнічаць, каб жыць і быць шчаслівымі.

Вочы чалавека раптам загарэліся, і чырвоныя беражкі павекаў сталі вільготныя.

«Адкуль ты ўзяўся, хлопчык?»

Перад ім стаяў хлапчук гадоў дзесяці ў насунутай на самыя вочы вялізнай вельветавай кепцы, расцягнуўшы вусны да самых вушэй, сушыў дзёсны, бо быў шчарбаты.

- Дзядзька, дай семак, - сказаў ён, гулліва паводзячы вачамі і варушачы мускульчыкамі свайго рабога і непрыемнага твару.

Чалавек дастаў з зашмальцаванай кішэні поўную жменю семак і напоўніў прыгаршчы малога. І ўсё нешта казаў, хоць і не чуў сваіх слоў.

А хлопец бяздумна ўсміхаўся і не слухаў яго. І чалавеку гэта падабалася. Яму ж ніхто не патрэбны, як нікому не патрэбны і ён.

Але хутка чалавек устрапянуўся, быццам нешта ўзгадаў, і схапіўся за галаву. «Я такі ж, як і ўсе людзі. Малы ўзрадаваўся. Усмешка на ўвесь шчарбаты рот. Яму я хацеў зрабіць прыемнае. Яму. Не сабе. То чаму я радуюся яго дурнаватай усмешцы? Я ж зрабіў прыемнае самому сабе. Я такі ж эгаіст, як і ўсе людзі. Але я не хачу быць падобны да іх».

І ён схапіў хлопца за рукаў, павалок у канец тунеля і знік у кволым сонечным святле, прыкрытым празрыстай шэра-блакітнаю фіранкай халоднай восеньскай імжы.

Застаўшыся без гаспадара, лёгкі чорна-белы дыванок з шалупіння пачаў паціху раскідвацца. Лупінкі адносіліся ўсё далей і далей ад калоны ветрам і падэшвамі прахожых. Праз хвіліну на гэтым месцы варушылася ўсяго некалькі лодачак, некаторыя ў лужынах-кроплях, прынесеных нагамі з вуліцы.

А ў гэты час чалавек, моцна сціскаючы хлапечую руку, цягнуў яго на прыдарожнае ўзвышша, дзе маўкліва раскінулася невядома калі распачатая будоўля. Здалёк здавалася, што ён трымае ў руцэ чорны пусты мяшок: такая вялізная і бясформенная была ў малога куртка.

- Дзядзька, а чаму вы цягнеце мяне на гэтую гару? - хлопец узняў галаву, і яго ўсмешка здалася чалавеку яшчэ больш ідыёцкаю, чым была: ад холаду яшчэ больш скрывілася.

- Хачу табе нешта сказаць.

- Там лепш сказалі б, а то вымакнем як цюцькі.

- Ты хто такі будзеш? - запытаўся чалавек, калі яны апынуліся сярод будаўнічага друзу і параскіданага ламачча, нешта вышукваючы каля пакладзеных у штабелі бетонных перакрыццяў.

- Не ведаю, чалавек, мусіць. Толькі неданошаны.

- Чаму неданошаны?

- Бацькі так казалі. Яны мяне праз гэта і з хаты вытурылі. Называлі чмыром. А чаму вы мне не гаворыце тое нешта?

- Зараз, зараз скажу. Вось толькі... - Чалавек запнуўся, нешта знайшоўшы сярод скінутых у кучу шэрых дошак-апалубак, пабітых чырвоных цаглін і цюкоў шклаваты, падобных да скручаных вагонных матрацаў. Выпрастаўся, трымаючы ў руцэ з паўметра пругкага і досыць тоўстага сталёвага дроту, і твар яго пасвятлеў, быццам выслізнула з-за хмараў бляклае, размытае вільгаццю сонца.

Яны стаялі адзін насупраць аднаго: малы, узняўшы галаву і працягваючы ўсміхацца, і дарослы, згорбіўшыся і падстаўляючы выцвілую белую патыліцу вострым, як іголачкі, кропелькам. Ён думаў, што хлапчукова ўсмешка цяпер якраз да месца.

- Я не сказаў ты табе ані слова, калі б ты мог зразумець мяне. Я зусім не хачу, каб мяне хто-небудзь разумеў. Але ты - дурань і таму маеш права не толькі слухаць, але і бачыць тое, што разумнаму бачыць не дазволена. Так, не дазволена, бо ён мае звычай ва ўсё ўмешвацца і замінаць іншым рабіць тое, што ён лічыць непатрэбным ці шкодным. Калісьці я таксама быў такі, як і ўсе. Меў пасаду, вялізную кватэру, прыгожую жонку, любіў хаваць сваё цела ў чысценькія кашулі, а ногі - у цёплыя і модныя чаравікі. Я пасміхоўваўся з таго, што людзям падабалася мая знешнасць. Яны ж не ведалі, якое ў мяне непрыгожае, нават брыдкае, бляклае і безвалосае цела і якія доўгія і касцістыя пальцы на нагах. Аднойчы нешта са мною здарылася, і я пачаў бачыць зусім не тое, што трэба. Мне здавалася, што людзі, якія заходзяць у мой кабінет, заводзяць не дзелавыя размовы, а абзываюцца самымі зневажальнымі словамі, не ляпаюць далонямі па маім плячы, а імкнуцца сарваць пінжак, усю вопратку і пасмяяцца з майго няскладнага цела, не ўсміхаюцца, а вышчэрваюцца, не падпісваюць дзелавыя паперы, а малююць у іх карыкатуры пра мяне. Тады я накідваўся на іх, ірваў паперы і выкідваў сваіх крыўдзіцеляў за дзверы. Мяне звольнілі. Але гэта не дапамагло маёй хваробе. Калі жонка схілялася нада мной у пасцелі, каб пацалаваць, я ўскокваў, бо мне здавалася, што яна вось-вось уп'ецца зубамі ў мае вусны, нос, сківаіцу. І не проста ўкусіць... Я пайшоў з хаты і палюбіў адзіноту. А каб атрымліваць ад яе сапраўдную асалоду, ішоў туды, дзе шмат людзей, якія на мяне не зважаюць. Такія - яны для мяне не вельмі страшныя. Але на твары я ўсё роўна стараюся не глядзець - так спакайней.

Цяпер я вырашыў... Мяне змусілі гэтыя бяздушныя і жорсткія істоты зрабіць гэты крок. Бо калі не зраблю, яны выцягнуць з гэтага цела (і ён зірнуў на сваё беднае паліто, быццам хацеў позіркам пранізаць яго) мяне, і вызваленае месца зойме нехта іншы, падобны да іх. Такога гвалту я не сцярплю. Ніхто не мае права распараджацца маім целам і маім розумам, бо яны мае, а не іхнія, як і гэтае паліто. Хіба я хацеў калі-небудзь перарабляць іх на свой лад?

Карацей кажучы, я рашыўся. Глядзі, але нічога не спрабуй зразумець, бо табе гэта не пад сілу і зусім не патрэбна табе.

Чалавек задраў галаву і зірнуў у неба. Зрэнкі раптам шырока раскрыліся і памутнелі, як мутнее мылкая лужына ў навальніцу. Пасля спыніў свой позірк на хлапчуку, утаропіўся ў яго зашклянелымі вачыма, але ідыёцкай усмешкі не ўбачыў, як не ўбачыў бетоннага шкілета будучага будынка, захінутага ў анямелую шэрань горада, самотнай бясколернай далячыні...

Чалавек ужо не цікавіў хлапчука, і той збег уніз, паплёўся да лаўкі на аўтобусным прыпынку. Пад драўляным навесікам тут смаліў цыгарэту элегантны з выгляду, высокі малады чалавек.

- Дзядзька, там нейкі мужык забіўся. Ён мне семак даў, - сказаў малы, адкрыўшы ўсмешкаю шчарбаты рот і паказваючы поўную жменю семак сланечніку.

- Дзе забіўся?

- Во, на гары.

* * *

Першы снег асвятліў і без таго не цёмны бальнічны пакой. Чалавек расплюшчыў вочы, асцярожна азірнуўся вакол сябе. «Белыя капюшоны і такія ж халаты. Можа, гэта той свет?»

- Ну што, брат, ажыў? Даў ты нам клопату. Усе кішкі дротам перапароў. Цыравалі, што тыя панчохі. Цяпер сто гадоў будзеш жыць... Калі не зап'еш, канечне...

Словы ўспрымаліся чалавекам як цынічная, спапяляючая насмешка. «Бандыты, яны пазбавілі мяне права распараджацца сабою, і ўсё каб парадаваць сябе, наталіць сваё ненажэрнае самалюбства. Ахвяравалі мною дзеля сваёй хвілiннай уцехі».

- Ненавіджу вас. Як жа я вас не-на...

Чалавек асунуўся, і галава яго на вачах у здзіўленых эскулапаў знясілена адкінулася на белую падушку.

А ў гэты час у падземным пераходзе падпіраў аблямаваную шэрым каменем калону хлапчук у нацягнутай на вочы вялізнай вельветавай кепцы і лускаў чорныя семкі, час ад часу адорваючы прахожых сваёю ідыёцкай шчарбатаю ўсмешкай.

## Мухамор

Пра тое, што вёсачка яшчэ жыве, ліпее, і нават пусціла малады парастак, сведчыць новы, жоўты, нібы сонца, вялізны дом, які годна высіцца па-над дзесяткам згорбленых, счарнелых, увагнаных у зямлю падслепаватых хатак. Спарахнелы пянёк, бывае, таксама выстрэльвае свежанькім немаўляткам-дрэўцам.

Паселішча ўжо невядома колькі - не адзін дзесятак - год ва ўладзе страшнага праклёну. Закінутае, забытае Богам і людзьмі, зараслае быльнягом, а дзе-нідзе ўжо і кустоўем, вербалозам. Адно слова - неперспектыўнае. Горшага праклёну, бадай, і не прыдумаеш.

Тыя, на каго было пастаўлена ракавае таўро, з ім і дажываюць тут свой век. Хто нарадзіўся пасля, уцякалі ад праклёну ў гарады, жылі па дзесяць, дваццаць а хто і болей гадоў у цесных інтэрнатах, дзе трэба займаць чаргу да газавай пліты, каб згатаваць ежу, але ў вёсачку, на прастор, на волю не вярталіся і нават думаць не думалі ні пра якое вяртанне.

Адзін Герасім Грыб не зважаў ні на якія змены, як гусак ваду, абтрос з сябе і таўро, і праклён, нікуды не з'ехаў, хоць і меў такую магчымасць, а цяпер во і сыноў не адпусціў ад сябе, выбудаваў старэйшаму - жанатаму - сапраўдны палац, толькі што драўляны, у якім месца - на тры сям'і. А калі трэба будзе, сказаў, то і малодшым (двайм блізнюкам-аднагодкам) пастаўлю гэткія ж. Яго дом, таксама добротны, не цесны, хоць ужо і стары, стаіць побач, у некалькіх метрах.

Герасіма, як і ўсё яго сямейства, местачкоўцы за свайго не прызнаюць, не любяць, калі не сказаць, ненавідзяць. Як некалі не любілі, абыходзілі бокам яго бацькоў - цяпер ужо нябожчыкаў.

Як ставіліся людзі да Герасіма, гэткую і мянушку яму прыдумалі. Абразлівую - Мухамор. Балазе, яна якраз дапасоўвалася да прозвішча. Зрэшты, калі толкам разабрацца, то мухамор, можа, яшчэ карыснейшы грыб, чым той жа ўсімі паважаны баравік ці, скажам, падасінавік. Варта толькі занядужыць чалавеку - бегма бяжыць у лес па чырвонае з белымі кропачкамі лякарства. Шмат ад якіх хвароб яно ўратоўвае. Бадай, кожны местачковец ім хоць раз, ды карыстаўся: ці то націраўся, ці прымочкі рабіў, ці адвар прымаў... Аптэку дзе-хто з тутэйшых і ў вочы ніколі не бачыў. Іншая справа, што з гэтым ваўчаком (так у вёсцы называюць усе ядавітыя грыбы) трэба быць вельмі абачлівым, інача і не прыкмеціш, як атруцішся, і ці выжывеш яшчэ. Як бы яно ні было, якім бы карысным ні быў мухамор, а мянушка такая, вядома ж, не красіць. Гэта добра разумелі і тыя, хто яе прыдумаў, і тыя, хто падхапіў абразу. У рэшце рэшт яна гэтак трывала прыклеілася, што аднойчы, калі Герасім зайшоў у калгасную кантору атрымаць грошы, у ведамасці замест сапраўднага свайго прозвішча прачытаў: «Мухамор...» Маладая касірка і не падазравала, што гэта мянушка. Ей і ў галаве не было пакрыўдзіць чалавека. Ды ад гневу, як ні апраўдвалася, не ўберагласся. Герасім трос перад акенцам сінімі ад наколак кулакамі, пырскаў слінай, гразіўся паскардзіцца «куды следуе», абазваў напалоханае дзяўчо «дзярмом саплівым», нарэшце заявіў, што нагі яго ў канторы больш не будзе, што гэтыя капейкі няхай яны самі жаруць ды задушацца імі...

Герасім не быў калгаснікам, ніколі ў калгасе не працаваў, правіў адно сваю вялізную гаспадарку, а гэта нейк угаварыў брыгадзір

параскрываць бурты з бульбаю, бо ўжо зусім няма каму працаваць, адны пенсіянеры нямоглыя, і ён, абмацюкаўшы і ўладу, і калгас, і ўсіх, каго толькі ўспомніў з былога і цяперашняга савецкага начальства, чамусьці здаўся (пастарэў, ці што, раней як бач даў бы ад варот паварот), завіхаўся ля буртоў дні тры. Жанчыны, што перабіралі бульбу, пасля казалі, што рабіў за цэлую брыгаду, толькі што не смяшыў іх, як іншыя мужыкі, якія больш анекдоты травяць ды «чарнілам» абпіваюцца. І вось - удзячнасць: і абазвалі, абразілі, і грошай налічылі - нібы сабаку костку кінулі.

Колькі людзі помняць Герасіма, ён ніколі ні з кім не вітаўся, не загаворваў, не меў ніякіх агульных спраў. Нібыта і не заўважаў нікога. Ніхто ніколі не бачыў яго без якой-небудзь прылады ў руках. Калі ідзе па вуліцы, дык абавязкова або з віламі, або з рыдлёўкай, або з сякерай... Хоць якую дошчачку, ды прыхопіць з сабою, валачэ дахаты. Людзі на світанні яшчэ толькі праціраюць зрэнкі, а ён ужо тупае каля шматлікіх, вялікіх і малых, хлявоў. Пасмейваюцца, маўляў, Мухамор, відаць, і ноччу не спіць, бо калі б ні прасnуўся, ён у любы час на нагах. Напэўна, гэты жарт быў не такім ужо і далёкім ад праўды. Колькі разоў то адзін, то другі вясковец, па нейкай прычыне сярод ночы апынуўшыся на двары, прыкмячалі незразумелы рух на Герасімавым падворку. Няйначай нешта краў, бо што яшчэ можна рабіць апоўначы. Дый адкуль у яго гэтулькі сена, саломы (дзесятак стажкоў высяцца за гумном, а яшчэ ж і свірны поўныя), мукі, камбікорму, што выкормлівае штогод па пяць-шэсць вепрукоў, трымае прыгажуна-каня, дзве каровы, цялят... Плоймы гусей вытоптваюць ваколіцы, курэй, па ўсім, яны і самі не ведаюць, колькі. А калгас жа яму і адной соткі сенакосу не дае, як і салому таксама не выдзяляе. Сее, праўда, сваё жыта. Ды колькі там яго. Во толькі нядаўна пачаў займаць суседнія агароды, тыя, што ўжо колькі год нават не пад пустазеллем - дзірваном пакрыліся. Пры жывых гаспадынях, бо гаспадары большасцю следам за моладдзю заспяшаліся пакінуць неперспектыўную вёску, адбегчы хоць на кіламетр, на гэткія ж неперспектыўныя, зарослыя акацыяй ды бярозамі, могілкі, на якіх большая частка крыжоў пачарнелі, скасабочыліся, а самыя старыя пападалі і сатлелі.

Нямоглыя бабулькі самі не здужалі ні ўскапаць грады, ні, тым больш, узараць агарод і пасля з вясны да зімы гарбаціцца на ім, таму дамовіцца з імі на арэнду зямлі было няцяжка. Герасім адшчыкваў кожнай на пражыццё бульбачкі, мукі, прывозіў ім з сяла ці з горада хлеб і крупы... Праўда, рабіў усё гэта без усялякага імпэту, неахвотна. Нібы пад прымусам. Ад каго сыходзіў той прымус - ад Бога, уласнага

сумлення, вясковага ладу жыцця, у які, нягледзячы на сваю адасобленасць ад усіх, урос плоццю і крывёю, ці, можа, інстынкт самазахавання дыктаваў свае ўмовы? Хутчэй за ўсё апошняе кіравала Грыбам-Мухаморам, бо з сумленнем у яго нічога агульнага не было, пэўна, ажно з саплівага маленства. Старэйшыя людзі помняць, як ён, ледзь навучыўшыся гаварыць, абзываў усіх, хто праходзіў паўз іх плот. Бывала, стаіць галюткі, белабрысы, і гарлае:

- Дулань, дулань, дулань…

І язык паказвае. Калі хто рабіў выгляд, што хоча злавіць яго, каб пакараць, уцякаў, мільгаючы мурзатым ад наліплага пяску азадкам. З глыбіні двара даносілася ўсё тое ж:

- Дулань, дулань...

Нібыта іншых слоў і не ведаў.

Часам у прахожага ляцелі каменьчыкі, камячкі гразі.

Калі падрос, украў у суседа яйкі. Цэлы дзесятак. Выбраў, не пабаяўся, з-пад квактухі. Пачаў разбіваць, а там птушаняты. Некаторыя жывыя, варушыліся. Яны яго і выдалі.

- Гэта не хлопец, а нейкае чарцяня, - крычаў сусед і цягаў малога за вушы. А з таго, як з гуся вада. Вырваўся, адбег, і зноў за сваё: «Дурань, дурань...» Адно што ўжо «р» выгаворваў правільна, цвёрда.

Гэткім і запомніўся Герасім вяскоўцам. «Увесь у старых Грыбоў», - ківалі яны пры выпадку адно аднаму і скрушна галовы схілялі.

Старыя Грыбы. Нейкія непрыступныя былі. Як ні ўгаворвалі іх, як ні змушалі, чым ні пагражалі - не пайшлі ў калгас. Засталіся аднаасобнікамі, хоць і не былі, здавалася, багацеямі. Каня, праўда, мелі, ды ўсялякі інвентар: плугі, бораны, сошкі, косы, вілы рознай даўжыні, граблі, сякеры, невялічкі млын, сячкарню... Усё гэта было настроена так, што, здавалася, толькі зачапі, само будзе касіць, калоць, грэбці, складваць...

У гэтым сямействе невядома з якога пакалення павялося, што жанчына ў хаце, не раўнуючы, як рабыня. Яна мае права толькі працаваць і ўвогуле рабіць то, што скажа гаспадар. Не дай Бог, згатуе не надта смачную ежу або тае ежы будзе малавата. Тады бяжы куды вочы глядзяць, хавайся па суседзях або дзе ў хмызняку, пакуль не пройдзе гаспадароў гнеў, іначай і зубы паляцяць, і костачкі затрашчаць. Было, гэтак адлупцаваў сваю Параску, што тая тры тыдні ў бальніцы праваялялася. На другі дзень пасля тае бурнай разборкі на падворку з'явіўся малады сухаваты дзяцюк з рудым чубам і цёмнымі жвавымі вочкамі, у міліцэйскай форме - участковы. Наслухаўшыся ад людзей пра Герасімаву скваппнасць, пра тое, што ён, напэўна, нячысты на руку, міліцыянт, перш чым пастукацца ў хату,

прайшоўся па падворку, зазірнуў у хлявы... За гэтым заняткам і застаў яго Герасім. Ён злосна бліснуў вачыма, са словамі «не смей тут гаспадаром хадзіць, я тут гаспадар» хапіўся за першае, што трапілася пад руку, за вілы-трайчакі. І, доўга не вагаючыся, кінуў у няпрошанага візіцёра. Той спрытна ўскінуў руку, адбіў добротную, бліскучую, з гладзенькім, адпаліраваным шурпатымі даланямі тронкам сялянскую прыладу. Адно што руку, якраз правую, абдзёр ледзь не да касці, і не меў сілы выцягнуць ёю з кабуры пісталет. Але зброя і не спатрэбілася. Герасім сказаў: «Не бойся, болей не зачаплю. Што, параніўся? Распраніся ды абмыйся во каля калодзежа, а я бінт прынясу». Міліцыянт пасля дзівіўся перад сябрамі: во сіла ў голасе Мухаморавым, што нават ён, службовец, паслухаўся, распрануўся, хоць гэта і было небяспечна.

Герасіма тым часам пасадзілі на два з паловаю гады. За напад на супрацоўніка міліцыі маглі і болей уляпіць, ды, кажуць, некаму даў хабар, адкруціўся, выклапатаў мінімум. А як вярнуўся ўвесь у наколках, пасвяжэлы, распаўнелы - відаць, няблага на «зоне» жылося, адпачываў, набіраўся сіл для гаспадарчых клопатаў - дык яшчэ больш стаў здзекавацца з жонкі. Няйначай, яшчэ больш агрубеў, пасуравеў у турме. Прывучыў: лясне пяцярнёй па назе, гаспадыня тут як тут. Нібы цюцька. Ён тады загады аддае. Праўда, і сам цягне, як вол. Але ж і здароўе ў яго - на траіх. А тут - шчэпка. Ды болей сохне. Гэтак пакутавала Герасімава матка, а цяпер і жонка пакутуе. Затое калі на якое свята ў царкву ні на пагулянку выходзяць, яна гэткае ўбранне апранае, што ўсе раты раскрываюць. І гэткая пекная, статная, толькі што ціхмяная, маўклівая, няўсмешлівая. Сын таксама ўзяў ціхенькую, мяккую (ляпі з яе што хочаш, нібы з гліны) дзяўчыну з суседняй вёскі. Ажаніўся рана - толькі-толькі першы пушок над верхняю губою прабіўся.

Гэтак і жывуць тутэйшыя куркулі Грыбы, перадаючы ў спадчыну ад старэйшых да маладзейшых нажытае дабро, звычкі, характар, цягавітасць ды славу нядобрую.

Калі яшчэ ні ў каго з вяскоўцаў не было ўласнага аўтамабіля, Герасім прыгнаў (зноў-такі невядома адкуль) навюткую «Ніву». Тады на такой машыне нават калгасны старшыня не ездзіў, задавальняўся гарбатым зялёным УАЗам-«козлікам». Цяпер на падворку красуюцца і маленькі трактарык-трапястунчык, і грузавік, і бліскучы перламутравы «Мерседэс». Бывала, падвязе каго, падбярэ па дарозе з райцэнтра да вёсачкі. Натуральна, чалавек пачынае дзякаваць, «спасібкаць». Тады Герасім кідае ў бок пасажыра цяжкі пагляд і з пагардаю выціскае:

- «Спасіба» у карман не пакладзеш.

Або:

- «Спасіба» замного, хапіла б і рубля.

Калі чалавек працягвае грошы, бярэ іх моўчкі і на спадарожніка нат не зірне.

Ніхто ніколі не звяртаўся да Грыбоў з якою просьбаю ці справаю. Адпужваў сам выгляд сядзібы: высокі, нейкі змрочны, пацямнелы ад часу нефарбаваны, толькі пацягнуты аліфаю, плот, масіўныя рыпучыя вароты і веснічкі, якія, толькі крані іх, нібыта незадаволена, па-старэчы крэкчуць: «ну-у, што-о табе-е трэ-э-эба ту-у-ут?» У двары часам падае грамавы голас вялізны лахматы ваўкадаў. Раней Грыбы чамусьці сабак не заводзілі, мо не хацелі лішніх расходаў, бо лічыць капейку яны вой як умеюць, а гэта апошнія гады тры-чатыры, адразу ж, як купілі «Мерседэс», прывялі знекуль унушальных памераў шчанюка. Цяпер ён ростам з добрае цяля: скочыць на плечы - не ўстанеш, у шыю ўчэпіцца - і не хрыпнеш.

Новы дом, праўда, не такі змрочны. Жоўценькі, абшыты светлаю хваёвай шалёўкай. Дах бляшаны. У сонечныя дні бляха блішчыць, асляпляе, нібы гэта не звычайны дах, а царкоўны купал.

Нечым гэты дом падобны да церамка. Высокі, на два, ды яшчэ з дадаткам-паддашкам, паверхі.

Змрочны паркан нагадвае гэткага ж панурага, няўсмішлівага, смуглявага гаспадара. Стаіць, бывала, ля веснічак - і нібы зліваецца і колерам нічым такім не адметнага твару, і настроем з непрыступнаю драўлянаю сцяною штыкетніку. І пазірае спадылба на свет. Што ў тым позірку - ці пагарда да ўсяго і ўсіх, ці звычайная чорная пустата, ці якое іншае, няйначай, нядобрае, пачуццё - паспрабуй здагадацца. А хутчэй за ўсё ён проста абмазгоўвае чарговую нейкую справу. Можа, задумаў яшчэ што збудаваць або прыдбаць у гаспадарку, хоць, здаецца, чаго ім яшчэ не хапае. Але ж натура... Не дае яна супакоіцца, сядзець склаўшы рукі. Можа, Грыб-Мухамор якраз у гэты час прыкідвае, дзе, у якім найвыгаднейшым месцы паставіць харомы наступным двум сынам, што ірвуцца, як і ўся моладзь, у горад, але іх моцна трымае на гэтай зямлі бацькава цвёрдае, цвярдзейшае за любыя ланцугі, слова.

Усе ў вёсцы помняць, як прыходзіла да яго пасля выпускных экзаменаў дырэктар школы ды ўгаворвала, каб адпусціў сваіх блізнюкоў у інстытут. Маўляў, старэйшага трымаеш тут у глухмені, дык хоць малодшыя няхай у людзі выбіваюцца. У іх светлыя галовы, добрыя веды, выдатныя адзнакі ў атэстаце...

- Што-о-о! - крычаў Герасім на ўсё невялічкае паселішча, бо размова вельмі хутка перакінулася з хаты на вулачку. - Да гэтых басякоў гарадскіх, у нішчымніцу, у бязладдзе... Усіх ужо паадрывалі ад зямлі, і маіх хочаце адарваць? Не бываць гэтаму.

Сказаў, як адрэзаў. Яшчэ і паўшчуваў бедную настаўніцу:

- Надта вы ўсе вучоныя. Развялося вас - працаваць няма каму. Думаеце, не ведаю: не мае сыны вам патрэбны, а каб адрапартаваць, маўляў, з нашай школы во колькі вучняў у інстытуты папаступалі. Падбрэхачы праклятыя.

І грымнуў цяжкімі веснічкамі.

- Мухамора не перапрэш... О-о-о...

- Не бярыце ў галаву, вы ж ведаеце, што гэта за свіння.

- Усім ужо ён як тая костка ў горле...

Гэтак спачувалі дырэктарцы бабулі, што выйшлі на крык. А акрамя іх, старэнькіх, нямоглых, пакручаных жыццём і працаю, ды гэтага куркуля-злыдня, нікога болей у вёсцы і не засталося.

Церам светлы і годны за парканом - як ёсць старэйшы сын Герасімаў. Рослы, светлавалосы, з адкрытым паглядам і гэткаю ж адкрытай, хіба толькі занадта самаўпэўненай, усмешкай. Віктар не ўмеў абразіць, але і не падпускаў блізка да сябе ні старэйшых, ні маладзейшых, ні аднагодкаў. Пра яго казалі: «О-о-о, гэты ведае сабе цану». Аднак адносіліся да яго цярпіма, нібыта нават і паважалі.

Віктар, калі маленькі быў, любіў з цацачнымі машынкамі бавіцца. Колькі ні вазіў іх бацька з горада, усе разбіраў да апошняга вінціка, бывала, што і збіраў нанава і нават вазіў імі пясочак, пілавінне, трэскі... Рана, мо яшчэ ў пятым класе, сеў за руль сапраўднай дарослай «Нівы», а следам і грузавіка, трактара. Старшакласнікам ужо разбіраў і збураў маторы. Улетку цэлымі днямі корпаўся то ў машынах, то ў трактары. Мурзаты, але ўсё адно нейкі светлы. Нібыта і не Герасімаў, не Мухаморавага роду-племені.

Добра, што якраз на яго патрапіла суседка, што бацька быў у ад'ездзе. Прыбегла, завохкала, слязу пусціла: «Гэта ж памірае стары, каб як у бальніцу яго. Хто ж яшчэ выручыць». Тэлефона ў вёсцы няма, а калі б і быў, дык бабуля не ведае, што гэта за апарат такі. Віктар адвёз. Стары працягнуў яшчэ які гадок, болей не падужаў. Суседка і за гэта ўдзячна маладому Грыбу. Прыбегла: «А мой ты сыночак, а мой ты спасіцель. Выручыў раз, выручы і другі. Адмучыўся ж мой небарака. Каб як яго з бальніцы забраць. Ды, можа, і труну памаглі б збіць. Хоць якую. У вас жа, Грыбоў, рукі залатыя, вам гэта раз плюнуць.»

Герасім таксама падышоў, паслухаў.

- Вот жа, скажы ты, - крутануў з'едліва галавою. - Як так то Мухаморы, а як прыперла, то ўжо Грыбы, рукі залатыя...

- Было, Гераська, каюся. Ды што ж мы будзем благое ўспамінаць. Тут такое нарабілася, такая бяда-гора... Няўжо ж не паможаце? Няма ж больш каму...

- А калгас?.. Ты ж у калгасе рабіла.

- Ці ж мне, старой, хадзіць па тых канторах. Далёка. Дый часу няма. Я заплачу, назбірала, во, на чорны дзень...

Яна працягнула чысценькую насовачку, з якой вызіралі паперкі-грошы.

- Ну, пакажы, што ў цябе там за багацце. Цьфу, а не грошы. На, схавай і нікому не паказвай.

- Дык, што ж мне... Як жа я... Памёр жа... Бяда, вой якая бяда, людцы мілыя... Як скажу каму, што не паслухаліся, вас жа ўся дзярэўна пракляне...

- А няхай сабе праклінае, мо яшчэ больш пабагацеем. Вы мяне, напэўна, даўно ўжо праклялі, бо ўсё багацею і багацею. А вось тыя, хто праклінае, звычайна бяднеюць. Вось я і думаю, чаго гэта вы ўсе такія бедныя? - Герасім ядавіта ўхмыльнууся.

- Нелюдзі, во хто вы. Казалі, вой казалі мне людзі, не ідзі да Мухамора, бо толькі наплачашся. А я яшчэ і заступалася: не, яны цяпера не такія, Віцька во як добра выручыў... Божа ж ты мой Божа, што ж гэта робіцца на свеце, што ж мне цяпер, а дзе ж мне раду шука-а-аць... - суседка пачала ўжо галасіць.

Гэтак, галосячы, яна бразнула клямкай. Свіснулі дзверы.

- Чакай, каза старая. - У Герасіма голас такі, што аслухацца ніяк немагчыма. Хоць, здавалася б, і не гучны, наадварот, прыцішаны. - Зараз хлопцы труну саб'юць. Я пакажу ім, як гэта робіцца. Ёсць тут у мяне колькі дошак. І сухенькіх, і габляваных. Шыхую на новы хляўчук...

- Ды хоць якіх...

- Заадно ўжо і крыжык трэба рабіць. Крыж сам саб'ю - учора толькі бруском нарэзаў. Ды з'ездзіце, чуеш, Віця, на ГАЗіку.

- Дай вам Бог здароўечка, - суседка ажно рукі заломвала, не знаходзячы, што сказаць і як аддзячыць. - Чула маё сэрца, што не адмовіце. Бачыць Гасподзь усявышні...

- А-а, пра Госпада ўспомніла, - абарваў Герасім. - Ты мне пра Госпада не кажы. Я ўсё сваё жыццё святы ў царкве святкаваў, і дзеці мае гэтак святкуюць. А вы, калі былі маладзейшыя, у лесе, на маёўках на гарэлку маліліся. Бязбожнікі, во хто вы. Дзяцей сваіх хоць бы хрысціцца навучылі, а то гэтак і паразбрыдаліся па свеце без анічога

святога ў душы. Пралетарыяты зас…я. На бацькоў сваіх пазабываліся, як мухі якія ці кузакі. Мае хлопцы хай толькі не памоляцца хоць бы раз на дзень, я ім тады...

- Ці ж табе не ведаць, што не засталося ў мяне нікога. Быў адзін сын, дык і таго забілі. Іначай я да цябе зараз не бегла б, ён сам усё зрабіў бы.

- Як жа, зрабіў бы. Ён жа ў цябе нічога цяжэйшага за чарку і ў руках не трымаў. Чаму ж ён не прыязджаў бульбу памагчы пасадзіць, грады ўскапаць...

Суседка сцялася і толькі вінавата ўсхліпвала. Герасім таксама замаўчаў, нешта нібы падказала, што не варта дабіваць старую сваёю праўдаю.

- Дык, значыць, пабягу шыхавацца. - Яна зноў хапілася за клямку.

- Бяжы-бяжы, праз якую хвіліну паедзеце.

- А як жа гэта? - жанчына паказала вачыма на неахайна складзеную насоўку. - Мо ўзяў бы, колькі ўжо е...

- Пакінь сабе смецце гэтае. Якой закусі ў горадзе накупляеш.

На пахаванне сабралася ўся вёсачка. Клыпалі за труною з дзесятак бабулек у чорных хустках ды некалькі аброслых сівою шчэццю дзядкоў. Гаманілі гэтак жа размерана-сцішана, як і ішлі. Хто пра нябожчыка, які і жыў цяжка, і паміраў таксама доўга, пакутліва, хто пра тое, што і ім скора побач з ім у жоўценькім пясочку ляжаць, і ці хто пахавае яшчэ па-людску, а найчасцей слова «Грыб» прамаўлялася. Праўда, шэптам, каб не пачуў Герасім з сынамі - яны неслі труну, жонка, якая згубілася ў нешматлікай працэсіі.

- Кажуць, Грыбы і труну, і крыж змудравалі...

- Дый ладна зрабілі, не абы з рук.

- Дык жа Грыбы...

- А хто ж яшчэ зробіць, як не яны.

- Яны ж і харч далі, каб было што на стол паставіць.

- Грошай, кажуць, пазычылі...

- Ды не, якія грошы. Што яна сама купіла, а што яны прынеслі.

- І гарэлка нібыта іхняя. Хоць паспытаю Грыбавай самагонкі.

- А што ім гарэлка. Бровар, вунь, дзень і ноч куродыміць. Некуды возяць і возяць гэтае зелле. Флягамі, сама бачыла. Няйначай, прадаюць. Адкуль, думаеце, у іх гэтулькі багацця? З зямлі? На зямлі хіба горб заробіш, а не багацце.

- От, і добра, што зарабляюць. Хоць хаўтуры па-людску спраўляем.

- Што праўда то праўда.

Чамусьці ніхто так ні разу і не назваў Грыбоў Мухаморамі. Нібыта і забыліся на мянушку, якую яшчэ нядаўна гэтак смакавалі.

Гэтае пахаванне, гора, раздзеленае на ўсіх вяскоўцаў, нібы зрадніла людзей з Грыбамі. Бабулькі ішлі да Герасіма або яго сыноў ужо без усялякага страху, і прасілі прывезці з горада лекі, звазіць у бальніцу або да знахара, купіць цукру, запалак, узараць гародчык, а яны за гэта восенню памогуць яму бульбу выкапаць.

Нават незварушны, незгаворлівы Герасім не ўстаяў-такі перад націскам. Абы паказаў слабінку, паддаўся аднойчы на ўгаворы. Давялося і вазіць, і прывозіць, і купляць, і араць... Нярэдка за ўсё тое ж «спасіба», ад якога кішэня не рабілася паўнейшай.

Праўда, часам узрываўся. Гэта здаралася тады, калі якая-небудзь старая прасіла заната катэгарычна, нібыта ён абавязаны ёй. Як жа, усіх возіць да доктара, а яе, бачыце, не вязе. Ды яе, можа, першую павінен везці, у яе сын «у Аганістане геройску загінуў», медалі, калі трэба, можа прад'явіць...

- А-а-а, вы гэтак загаварылі, - вырачаў тады зрэнкі неўпрыкмет пастарэлы, напалову ўжо сівы, Герасім. - Дык во вам, во вам, - круціў крэпкія, што каменныя, дулі з накрэсленымі на іх сінімі літарамі-наколкамі. - Калі паважаць не ўмееце, дык хоць на калені ўпасці змажыце. На калені, сказаў! - крык зрываўся на хрып, па куточках вуснаў кіпела пена.

Бабулька хрысцілася і ніяк не магла ўцяміць, што ж гэта робіцца і чым такім яна правінілася. Мо жартуе? Але ж не, рукі во як калоцяцца, як у псіха.

- Я твайго сына на смерць не пасылаў, што ты мне падтыкаеш ім. Сваіх во ледзь адкупіў ад службы. Няхай цябе твая парцея возіць да доктара.

Упасці на калені ён, аднак, не даваў. Злосна буркне: «Ідзі, заеду», - і адвернецца, зоймецца якою справаю, паказваючы тым самым, што размова скончана.

Аднаго дня ў вёсачцы з'явіўся карэспандэнт. Даўгавязы, расхрыстаны юнак з сумкай-папкаю на плячы. Ён выскачыў з маціцовай «Волгі», закінуў, віхлянуўшы галавою, на плечы даўгія светлыя валасы, паправіў іх рукою, агледзеўся. Пакуль з машыны выварочваўся салідны дзядзька ў акулярах, беласнежнай накрухмаленай сарочцы і пры гальштуку, хлапец спрытна выцягнуў з папкі блакнот і нешта хуценька запісаў.

Пасля яны стаялі пасярод вуліцы, пра нешта заўзята гаварылі, смяяліся, зноў гаварылі. Пры гэтым ачкасты ўсё паказваў рукою ў бок Герасімавай сядзібы. Бабулі сачылі за незнаёмцамі з-за маленькіх

ваконных шыбін, меркавалі: хто гэта можа быць? У адным яны не сумняваліся: начальства.

Тым часам візіцёры зайшлі ў адну, другую хату, а калі рушылі да Герасімавага маёнтка, дзе-хто нават выскачыў на падворак, вызіраў з-за крывых кійкоў-штыкецін, напружваў старэчы зрок, каб як лепш разгледзець гасцей.

Мінула гадзіна, за ёю яшчэ невядома колькі часу, а начальства ад Грыбаў усё не выходзіла. Наадварот, да іх плоту падрулiла і прыпаркавалася, нібы прыклеілася, «Волга».

На вулачцы неўпрыкмет сабралася купка людзей. Тыя, хто бачыў гасцей толькі здалёку, абступілі тых, да каго начальства заходзіла ў хату. Усім было цікава, пра што яны гаварылі, чым цікавіліся.

У гэтым вэрхале цяжка было нешта разабраць. Бабулі шмат балбаталі, але слабы ўжо старэчы слых мала што ўлоўліваў. Усе добра засвоілі толькі некалькі слоў, якія і часцей паўтараліся, і гучней вымаўляліся: Герасім, Грыб... Нехта кінуў у натоўпік, нібы запалку ў стажок, здагадку, што начальства, хутчэй за ўсё, прыехала раскулачваць вясковага багацея. «Колькі вяровачцы ні віцца...» - казалі адны. «Як з намі і здароўкацца не хацеў, ніхто не бачыў, а як цяпер памагае, як чалавекам стаў, дык, бачыш ты, прыпёрліся, ужо ён ім мяшае,» - абураліся іншыя. «Гэта ж, відаць, і хату адбяруць, і машыны...» «Што хочаш могуць забраць, і кароў з хлява выведуць, як некалі ў нас павыводзілі». Бабулькі дагаманіліся да таго, што трэба неяк ратаваць Грыбоў. «Калі і праўда заграбуць, хто нам тады паможа, хто ў апошні шлях правядзе».

Пярэсты гаманлівы натоўпік як стаяў, гэтак і рушыў да Грыбавай сядзібы. Самая смелая адчыніла рыпучыя веснічкі, праціснулася ў іх, задрабніла да высокага, з парэнчамі, ганка. І толькі тады згледзела ў глыбіні шырокага, прасторнага двара, каля жоўтай і шэрай горак пяску і шчэбеню, людзей. Яны - і белая сарочка, і валасаты, і Герасім з сынамі ды жонкай - сядзелі за даўгім - вясельным - сталом, на якім стаялі ўсялякія закускі, пляшка.

Жанчына разгубілася. Ісці ў хату ўжо не мела сэнсу, падыходзіць да стала было неяк боязна, павярнуць назад таксама няёмка - яе згледзелі.

- Вы к каму, - азваўся той, што ў акулярах і белай сарочцы.

- Ды да мяне яна, - як заўсёды незадаволена прабурчэў Герасім. - Мо што спытаць хоча. Яны тут часцяком...

- Ну, калі ўжо прыйшлі, дык, калі ласка, просім да стала. - Ачкасты ішоў да яе, голас у яго быў упэўнена-задаволены, твар раздабрэлы, пэўна,ад добрай гарэлкі і яшчэ лепшай (ад стала несла

тушанай індычкаю) ежы. - Дазвольце прадставіцца: замясціцель кіраўніка раённай уласці. Пасядзіце з намі, раскажыце, во, карэспандэнту, як вы тут жывяце, як маецеся, бо гаспадар гэтай хаты больш нас слухае, чым сам гаворыць. У цэнтральную газетку патрапіце, можна сказаць, у гісторыю. Прадставіцель са сталіцы хоча мацяр'ял пра неперспектыўную вёску напісаць. Ён думаў, што вы ўжо тут зусім ніякія, здзічэлі, а тут во якія малайцы жывуць. Га (як вас завуць?), ці ж не малайцы? Во дык захалусця, во дык жызня.

## БАРАВЫ МЁД

У гэты дзень Алёна чакала гасцей. Праўда, прыйсці яны павінны пасля абеду, і жанчына не спяшалася падымацца з цёплай пасцелі. У нядзелю заўсёды хочацца паляжаць лішнюю гадзіну, адчуваючы, як адпачывае ад будзённых клопатаў цела.

Вокны ў спальні зацягнуты блакітна-ружовымі шторамі, і пакой пытанае ў лёгкім паўзмроку. Алёна пацягнулася, выгнулася ў ложку і соладка пазяхнула. Падхапіла з тумбачкі, што прыляпілася збоку, кніжку, але тут жа адкінула яе, бо раптам закарцела глытнуць кавы. Маленькія ружовыя ножкі схаваліся ў мяккія тапачкі-шлёпкі і панеслі яе на кухню. Пасля - у ванную, дзе яна, пакуль грэўся чайнік, абліваласяя летняю вадою.

Каву Алёна гатуе адмыслова, з пенаю. Спачатку робіць кашку з цукру, кавы і некалькіх кропляў вады, а пасля ўжо залівае ўсё гэта кіпнем. П'е, стоячы ля акна, прыкрыўшы галюткае і мокрае пасля душу цела махровым белавата-блакітным халацікам. Адсюль, з пятага паверха, ёй бачна ўсё, што робіцца ў двары. Але цікавага тут амаль ніколі нічога не адбываецца. Сядзяць на лаўцы перад самым пад'ездам бабулі, якія, здаецца, нават на ноч не пакідаюць гэтага месца. Дзіцячую пляцоўку ўжо запоўнілі малыя (калі яна са сваёй кватэры назірае за дзецьмі, у яе чамусьці заўсёды шчыміць у грудзях). Сусед, якога яна ведае толькі ў твар, корпаецца ў багажніку «Волгі», нібы кот у сметніку. І ўсё гэта выглядае сумна і няўтульна. Мо жа, віною таму восень, а можа, - і яна сама, яе адзінота, якая часам радуе, а часам і прыгнятае.

Пульхнаватыя вучны нячутна адсёрбваюць чорны дымны напітак. Алёна адварочваецца ад акна, каб не глядзець на абрыдлую восеньскую шэрань, і светлая кухня падбадзёрвае. Яна сама падбірала ўсё яе начыненне і, здаецца, зрабіла гэта нядрэнна. На светленькім з карычневым адценнем лінолеуме стаіць белая мэбля, а

такія ж шафкі вісяць на сценах, абкладзеных зноў жа светла-карычневай пліткаю. Усё тут на сваім месцы. І ўсё чысценькае, бліскучае, як у аптэцы.

Алёна нядаўна вярнулася з-за мяжы, з Гішпаніі, дзе праходзіла практыку па медыцыне. З-за вучобы яна не паспела стварыць сям'ю, затое звіла сабе ўтульнае гняздзечка непадалёку ад цэнтра горада. Але цяпер, калі, здавалася, ва ўсім поўны дастатак, на душы было пуста, нечага не хапала. Гадзіннік паказаў палову адзінаццатай.

Апоўдні на стале ўжо ўзвышаліся крышталёвыя графіны з гарэлкаю і морсам, бутэлька ананасавага лікёру, якія ажно свеціцца знутры, побач вельмі прыгожыя і бліскучыя бакалы. Цэнтральнае месца займала запечаная ў маянэзе, вельмі апетытная крамяная качка, унутры якой дымілася рассыпчатая грэчневая каша, мядовы водар ад якой разыходзіўся па ўсёй кватэры. Нават салаты ды розныя вінегрэты былі зроблены як сапраўдныя творы мастацтва: зверху іх упрыгожвалі лілеі з яечнага бялку, аранжавыя кветкі са скрылікаў варанай морквы, зялёныя гарошынкі, нават мухаморчыкі ўсё з тых жа яек і лупінак ад кансерваваных памідораў.

Каб не сядзець без справы ў чаканні, Алёна праверыла свой манікюр, колькі разоў шарганула па пазногцях малюсенькім напільнічкам, глянула ў люстэрка, праверыла макіяж на твары... Зрэшты, які макіяж - трошачкі падчарніла і без таго выразныя вейкі, падфарбавала і выразней акрэсліла вусны і на гэтым спынілася. Доўгія льняныя валасы, якія лёгка перасыпаюцца на галаве, не чапала. Вырашыла: так лепш.

Якраз, калі ўжо не знаходзіла, чым заняць сябе, запішчаў званок. Падхапілася з раскошнай канапы, зашчоўкала замкамі ўваходных дзвярэй.

...Перад ёю стаяў зусім нечспадзяваны госць. Салдацкая выцвілая шапка з падвязанымі вушамі, новая чорная куфайка і зялёныя армейскія галіфэ, запраўленыя ў начышчаныя да бляску, але ўжо заляпаныя граззю хромавыя боты. Зморшчаны абветраны твар. У здаровых мясістых руках, хоць сам і маленькі, палатняныя сумкі. Глядзеў ён узрадавана і ніякавата.

- Тата? Ну...

Ледзь не сказала: «Ты не знайшоў лепшага часу, каб заявіцца сюды». Але добра - стрымалася. Як жа бацьку такое сказаць. Ехаў немавед адкуль. Даўно не бачыліся.

- ...Не стой, заходзь хутчэй.

Кожны бацькаў крок пакідаў за сабою цёмныя брудныя плямы. Алёна змірылася з гэтым: «Нічога, падатру».

- О-о-о, - на кухні стары ажно вылупіў вочы, зірнуўшы на стол. - Жывеш, гэта, як каралева ангельская. Любата. Мо жджэш каго? То я не забаўлюся. Пакладу, што прывёз, дый на цягнік хутчэй. Якраз праз паўтары гадзіны адбывае.

Алёна змоўчала. Трэба было прапанаваць адпачыць з дарогі, пераначаваць, але нешта заняло мову. Вось-вось павінны завітаць госці - асобы важнецкія, пры салідных пасадах... Што тады скажаш ім? І не пагаворым толкам.

На стале ўжо няма куды што паставіць, але паўлітровы слоік знайшоў сабе месца сярод экзатычных страў. Ён ніяк не пасаваў да іх, бо быў пакрыты пылам і выразна бачыліся адбіткі пальцаў, замест крышкі ж нацягнута цёмная цырата, перахопленая чорнаю гумкаю з веласіпеднай камеры.

- Гэта табе лякарства - баравы мёд. Ты ім вельмі не раскідвайся. Як часам горла забаліць, тады возьмеш колькі лыжак. Ты хоць і доктар, а лекі вашыя толькі сэрца псуюць, а гэта - і вылечыць, і сэрца на месца ўправіць. Баравы мёд - не роўня якому іншаму.

Бацька выцягнуў з-пад стала табурэтку, другую, паклаў на іх астатнія гасцінцы: ладны кус свежаніны, тонкага з праслойкаю сала (яна любіць такое), хатнія кілбасы, дамашняе масла.

- Памятаеш чорную вялізную карову? Гэта ад яе. Старая - а малака дае процьму, ды якога тлустага. От і не здаём усё. А цяпер і цялушка яе даганяе. Клопатна з імі.

Трохлітровы слоік малака бацька паставіў на падлогу - месца на табурэтках не хапіла.

Па светлым бліскучым ліналеуме расплылася чырвоная лужына, якая папаўнялася новымі кроплямі. Гэта растала мяса, закручанае ў газеціну.

Алёна пачала спрытненька пакаваць усё гэта ў халадзільнік, хоць той быў далёка не пусты.

- О-о-о, донька, гэта ж у цябе такія даўжэнныя пазногці-пазюры. - Бацька назіраў за яе рухамі з-пад цяжкіх прыплюшчаных павекаў. - Гэта вам трэба так на рабоце? А як жа ж ты з імі гатуеш ежу альбо мыеш бялізну?

Яна толькі ўсміхнулася на яго смешныя пытанні:

- Як ужо атрымліваецца.

- Ну, я бачу, усё ў цябе тут добра. Дык і сэрца маё будзе на месцы, на душы спакайней.

- А ў вас што там?..

- І мы паціху варушымся. Аднаго кабанчыка яшчэ да Каляд трымаем. Авечкі ёсць, дык зараз нітак напралі, мо якіх бабін пяць ці

шэсць. Табе калі трэба - бяры. Трускалак тую плантацыю, што за хлявом, перааараў - пасохлі зусім, і ягадкі малюсенькія сталі. Пенсія ў нас дай Бог, а яшчэ за малако капейку даюць, ды кампенсацыю, ды грабавыя, ды за трускалкі летам крыху ўтаўклі. Во, і з нас хапае, шчэ й табе прывёз.

Бацька так і стаяў паўсагнуты над табурэткамі, трымаючы перад сабою сумкі. Не выпрамляючыся, палез у кішэню, дастаў хусцінку.

- Не, тата, грошы мне не трэба. У мяне іх таксама досыць. Купілі б сабе што.

- А што нам трэба? Хапае ж усяго.

- Ну, шапку добрую купіў бы ці паліто.

- Э-э-э, донька, каб людзі смяяліся. Не, я ўжо так датэпаю, - і стары паклаў на слоік з мёдам некалькі свежанькіх «зубрыкаў». - Бяры, бо пакрыўджуся.

Бацька замітусіўся, заспяшаўся да дзвярэй.

- Пара мне, Алёначка, лепш крыху пачакаць на вакзале, чым спазніцца. Прыязджай, калі будзе час, у нас добра, вольна. Спачнеш, сырадойчыкам адап'ешся.

Дзверы шчоўкнулі, і ў пакоі зноў запанавала адзінота. З табурэтак ужо ўсё было прыбрана, і толькі запэцканы слоік баравога мёду паміж крышталю ды фарфору выглядаў чужым, быццам жабрак сярод важных паноў. Алёна памкнулася прыбраць яго хутчэй на балкон, але рука на паўдарозе спынілася. На нейкае імгненне ў памяці ўсплыло яе далёкае дзяцінства. Вось бацька едзе на ровары ў лаўку, а яна, малюсенькая, сядзіць у кошыку на багажніку. Сядзіць і гарлае песенькі: «Мяне маці біла-біла, пасадзіла на масту. Мяне куры ісклявалі, патаму я не расту». Іншы раз Алёна толькі пасмяялася б з такога ўспаміну, з сябе - такой смешнай у дзяцінстве, але зараз яна раптам кінулася да акна. Ды толькі вочы ўжо заплылі вільгаццю, і нічога не было бачна. Тады ўхапіла паліто, зноў павесіла яго, накінула на адно плячо вятроўку і выскачыла за дзверы.

- Алёначка-мілёначка, а вось і мы, - перад ёю стаяла ўся запрошаная кампанія - гэткі гурт у раскошных футрах ды натуральнай скуры, з выпешчанымі тварамі, з гарой ярка размаляваных пакункаў, скрынак, пакетаў. І над усім гэтым - водар дарагой французскай парфумы.

Алёна нешта прастагнала ў адказ, кранула пальцамі лоб і задрабніла, зацокала ўніз па лесвіцы, быццам нікога і не заўважыла...

* * *

Вечар наваліўся на горад знянацку, і вулічныя ліхтары пачалі ўпарта змагацца з цемраю. Выхадныя сплывалі. Людзі весяліліся, стараючыся не думаць пра яшчэ адзін клопатны тыдзень. Прымасціўшыся на лаўцы ў зале адпачынку чыгуначнага вакзала, драмаў стары ў чысценькім галіфэ і хромавых ботах. А на пятым паверсе ў адной з гарадскіх кватэр звінеў вясёлы смех і п'яныя галасы прапаноўвалі доўгія мудрагелістыя тосты. На стале ж так і стаяў непрыбраны запылены слоік бацькавага мёду.

## ЯНКАЎ СОН

«Сход! Сход! Сход! Усе на сход! Дзынь-дзынь-дзынь», - заклікае званочак дзятву ў самы вялікі клас. І вось усе сабраліся і дырэктар пачаў:

- Сёння, шаноўныя вучні, вам трэба зрабіць важны выбар. Мы з году ў год выслухоўваем вашыя скаргі на тое, што ў праграме навучання шмат лішняга, незразумелага і непатрэбнага. Асабліва гэта датычыцца літаратуры. Таму сёння і правядзем галасаванне па гэтай дысцыпліне. Астатнія пакуль на парадак дня ставіць не будзем. Давайце вызначымся з вамі, якіх пісьменнікаў выкінуць з праграмы, якіх пакінуць, а якіх уключыць у яе».

Пакуль Янка кумекаў-меркаваў, каго ж можна выкінуць з праграмы, першым ускочыў з лаўкі несусветны двоечнік з бандыцкімі замашкамі Пятрок Шыпулька, які за сем гадоў вучобы ні разу не падняў на ўроку рукі.

- А што тут рашаць, - рубануў з-за вуха гэты завугольны аўтарытэт, якога Янка больш за ўсіх у класе баяўся за яго нахабства і помслівы характар. - Усіх, каторыя цяперака ў праграме, трэба вытурыць прэч на які глухі сметнік, а замест іх... Замест іх... Ну, як яго... Гэтага... Ну...

- Забыўся, - хіхікнуў нехта ззаду і прыкрыў галаву рукамі. Але не ўбярогся. Шыпулька таўшчэзнай хрэстаматыяй з усяго маху агрэў насмешніка па карку.

- Мо Чэйза? - шапнуў бяскрыўдны Петракоў сябрук Шурык.

- Якога Чэйза, прыдурак. Трэба гэтага, ну, Жоржа... Жоржа...

- Жорж Санд? - Дык то не ён, а яна. Жорж Санд - жанчына, - здагадалася прыгажуня з восьмага класа па імені Жанна.

- А ну вас, ідыёты! - незадаволена махнуў рукою Шыпулька і сеў.

- А чаму б і Чэйза не ўвесці? Чым нейкімі там Дастаеўскім альбо Гогалем мазгі задурваць, якія пішуць адно, а трэба падразумяваць нешта зусім іншае, дык лепей Чэйза. Там усё зразумела і цікава, - загулі адразу некалькі галасоў, а Янка сядзеў і маўчаў, бо ні Чэйза, ні Жорж Санд не чытаў, затое захопліваўся якраз Дастаеўскім ды Гогалем.

- Ну, а акрамя дэтэктываў? - паставіў пытанне дырэктар.

- Фантастыку!

- Якую?

- Любую!

- Цікавую!

- І прыгоды!

- І Тарзана яшчэ, Тарзана!

- Кнігі з серыі жахаў. Я ад іх мле-е-е-ю.

- А пра ка-ха-а-анне? - праспявала надта ж сентыментальным голасам яшчэ адна школьная прыгажуня Віка, якая з восьмага класа бегала на танцулькі і валачылася за хлопцамі. Жанна падтрымала сяброўку і ўдакладніла:

- Ма-до-о-онну-у-у.

Янка не верыў вачам. Тыя, хто на ўроках сядзеў, як тыя мышы пад дзеркачом, тут паказалі гэтакі спрыт, што Янку зрабілася страшна. Паспрабуй скажы што супраць, калі ўсе гэтак настроены. З іншага боку, Янку вельмі шкада стала тых мілых, разумных і добрых пісьменнікаў, якіх паспеў моцна палюбіць.

Калі вэрхал крышачку сціх, ён такі асмеліўся падняць руку. Яго маленькая, як у дзяўчынкі, далонька прыцягнула ўвагу ўсіх. Ведама ж, круглы выдатнік, вундэркінд. Кожнаму цікава, што ж скажа ён?

- Даруйце, - нясмела пачаў Янка, - я не чытаў ні Крысці, ні Чэйза. Тарзана чытаў, і прыгодніцкія кнігі, і фантастыку. Я думаю, навошта ўключаць у праграму Тарзана, яго і так усе прачытаюць. А я дзве першыя кніжкі прагартаў і выкінуў, нічога для душы не знайшоў (сход нягучна зашумеў). Прыгоды і фантастыка таксама розныя ёсць, дык трэба выбраць такія, каб яны рабілі нас лепшымі. Іх можна дадаць да праграмных твораў, а выкідваць нічога не трэба. Хіба ж можна выкінуць Купалу ды Коласа, ці Змітрака Бядулю, ці Кузьму Чорнага, ці, вунь, Някрасава, Лерман...

Тут левая шчака Янкі моцна запякла і ён ажно прысеў. З вачэй пырснулі слёзы. Гэта Шыпулька стрэльнуў у яго з маленькай рагаткі. Нехта, па прыкладзе Петрака, агрэў яго партфелем па спіне. А пасля невядома колькі дужых рук запхнулі Янку пад лаўку.

Хлопец яшчэ пачуў, як нейкая дзяўчынка запішчала: «Што вы робіце, што ён такога сказаў, ён жа правільна...» і, войкнуўшы, заплакала. Відаць, нехта балюча тузануў яе за касу.

- Мы што, будзем слухацца гэтага плаксівага слізняка, га? - Грымеў на ўвесь клас Шыпулька, які раптам адчуў у сабе нечуваную сілу. - Давайце галасуйма, бо зараз як...

Янка высунуў з-пад парты галаву і спалохана круціў ёю вакол сябе. За тое, каб выкінуць з праграмы ўсіх пісьменнікаў, якія былі ў ёй, і ўвесці ў яе прапанаваных Жорж Санд, Чэйза, Агату Крысці ды іншых, падняўся лес рук. У хлопца зайшлося сэрца.

- Шыпулька! - крыкнуў, не чуючы і не помнячы сябе ад хвалявання, Янка. - Калі зараз вы прамяняеце Талстога на Чэйза, а Кузьму Чорнага на Крысці, я ніколі больш не дам вам спісваць хатнія заданні. Ні па хіміі, ні па матэматыцы, ні па...

- Ха, напалохаў. - Шыпулька абыякава-задаволена скрывіўся і паказаў цераз плячо вялікім пальцам на крыху смешнага ў сваёй рашучасці, натапыранага Янку. - Атрымаеш у патыліцу, дык дасі. Нікуды не дзенешся.

- Паміраць буду, а не дам. - Увесь Янкаў выгляд пацвярджаў, што і напраўду не дасць.

- Не дасі, і не трэба. Мы прагаласуем яшчэ і за замену гэтых прадметаў іншымі, дзе не трэба ўрокаў рабіць. - Шыпулька пераможна зірнуў на клас: - Ну што, суркі, хто за замену?

Супраць прагаласавалі ўсяго па некалькі чалавек з кожнага класа. З Янкавага, восьмага, трое: Мікола, які хоць вучыўся слабавата, але заўсёды быў сур'ёзны і да яго не чапляўся нават Пятрок, і яшчэ дзве кандыдаткі ў выдатніцы. Яны ўсё марылі дагнаць па вучобе Янку і па-добраму зайздросцілі яму. Зайздросцілі і паважалі. Янка ніколі не выхваляўся сваім розумам, быў сціплым. Чаму ж яго не паважаць. Спісваць ён таксама нікому не шкадаваў. Таму яго, як і Міколу, і дзяўчат-выдатніц, вельмі здзіўляла: чаму тыя, каго Янка часцей за ўсё выручаў, хто часцей за ўсіх карыстаўся ягонымі дабрынёй і працаю, цяпер аднесліся да яго з найбольшай жорсткасцю. А цяпер з рагаткі па ім, сапляком абазвалі, ранцам агрэлі, у каршэнь натаўклі?..

Хлопцу закарцела запратэставаць зноў. Адкуль толькі бралася тая смеласць. Нічога, што галасаванне ўжо запратакаліравана, што цягнік, як той казаў, адышоў. Зараз ён дасць ім разгон, пацягае за чупрыну Петрака, дасць па шыі яшчэ каму...

Але што гэта? Янка намагаецца ўстаць, а быццам стопудовая гіра цягне яго ўніз. Хоча закрычаць, а з горла вырываецца адно толькі

шыпенне, як у гусака. Ён яшчэ больш высільваецца, напружваецца, колькі ёсць сілы, і... вочы міжволі расплюшчваюцца.

Янка азіраецца і пачынае смяяцца, задаволены тым, што гэта быў усяго толькі сон. Самы звычайны, няхай сабе і жудасны, сон. Ён ускоквае з ложка, узбрыквае, як тое жарабя, і доўга-доўга гарлае на ўсю хату:

- Ура, гэта сон! Ура, гэта сон!

Ура? Гэта сон?

## СІНІЧКІ-МІРАТВОРЦЫ

Якая зноў іх злосная муха ўкусіла пасярод зімы?

Маленькая Каця сачыла з-за разгорнутай кнігі то за сінічкамі ў акне - яны так гарэзліва мітусіліся ў бярозавай кроне, то за бацькамі. Бацькі таксама мітусіліся, але па-даросламу.

- Ах, так! - сказала мама.

- І ніяк іначай, - стаяў на сваім тата.

Вось так і сварацца цэлы ранак. Зусім забыліся на сваю дзяўчынку.

Калі бацькі змоўклі, па хаце вольна расплыліся жаласлівыя гукі скрыпкі. Радыё, відаць, таксама сачыла за сваркаю адным сваім вочкам-бубачкай са сцяны, з-пад зялёнага і доўгага, як ліяны, веццячка традэсканцыі, і плакала-плакала, аж разрывалася. Але вось яно змоўкла, зрабілася ціха-ціха, аж чутно было, як за акном перацінькваюцца-перамаўляюцца сінічкі. Пасля загаварыў строгім голасам дзядзька-дыктар. Ён расказваў пра вайну, некалькі разоў паўтарыў слова «міратворцы». Каці надта ж спадабалася гэтае слова, і яна спытала:

- Тата, а хто такія міратворцы?

- Гэта, дачушка, такія салдаты. Калі недзе вайна, яны прыходзяць і спыняюць тую вайну.

- А, гэта як дарослыя спыняюць бойку паміж хлопцамі, якія нешта не падзялілі, - здагадалася Каця.

- Амаль што, - крутнуў галавой бацька.

- А навошта людзі ваююць?

- Бо дурныя.

- І злосныя, праўда?

- Ага, злосныя, - усміхнуўся тата.

- А вы з мамай таксама ваюеце, калі сварыцеся? - не супакойвалася Каця.

- Мы?.. - Бацька адразу і не знайшоўся што адказаць.

- Вось бачыш, ужо і дзіця заўважае, што паміж намі нешта не тое. І ўсё з-за тваёй упартасці, - гукнула матуля з кухні і забразгала посудам.

- Гэта я ўпарты? Гэта ж ты ўпартая! - Бацька рушыў на кухню.

«Ну вось, зараз яны зноў будуць спрачацца», - уздыхнула Каця.

У гэты час адна сінічка сарвалася з бярозавай галінкі, мільганула каля самага акна, села на падаконне, паскакала па ім, смешна круцячы аж занадта жвавай пярэстай, з акулярамі, галоўкай і гэтак жа нечакана пырхнула, знікла.

«Відаць, ежу шукае», - пашкадавала сінічку дзяўчынка.

- Чакайце, гарэзы, я памагу вам. - Раптам яна ўскочыла з крэсла, закрыла кнігу. - Пасля дачытаю, яшчэ ж уся субота наперадзе.

Каця выцягнула з-пад ложка вялізную скрынку з цацкамі, пакорпалася ў ёй, дастала аднекуль з глыбіні скрыначку з-пад цукерак, адчыніла яе.

- Будзеш кармушкай? - спыталася. І, нібы пачуўшы ў адказ «буду», гарэзліва засмяялася.

Падумаўшы-памеркаваўшы, Каця дастала з мамінай шуфляды ў вялікай шафе клубок тоўстых нітак і вялізную іголку, прышыла па кутах скрыначкі па нітцы, звязала іх, усе чатыры, уверсе. Падставіла пад акно крэсла, залезла па ім на шырокі падаконнік, звесіла сваю лёгенькую кармушку з фортачкі на вуліцу, на холад, прышпіліла звязаныя ніткі некалькімі канцылярскімі кнопкамі. Вось і гатова кармушка. Толькі трэба нешта насыпаць у яе. Сінічкі вунь як цікуюць з бярозкі, слінкі, пэўна, глытаюць.

На кухню ісці не хацелася. Там бацькі, чутно, усё яшчэ сварацца.

«Вой, у мяне ж цэлая булачка са школьнага абеду засталася», - успомніла Каця. Яна хуценька адкрыла партфель, дастала з самага дна загорнутую ў паперу булачку. Падсохлая, яна лёгка крышылася. Хуценька скрышыла ўсю. Атрымалася цэлая гара. Каця зноў залезла на падаконнік і высыпала смачную горку ў сваю скрыначку-кармушку.

Ледзь паспела дзяўчынка адысці ад акна, як жэўжыкі-птушачкі ўжо тут як тут. Падляціць жаўтагрудае белашчокае рухавенькае стварэнне, сядзе на самы край кармушкі, схопіць крошку і ўцякае на сваю галінку.

- Тата! Мама! - паклікала Каця.

- Што, дачушка, што нарабілася?

Відаць, яна крыкнула занадта гучна, і бацькі напалохаліся, падумалі, ці не парэзала іх дзяўчынка пальчык.

- Паглядзіце! - І Каця паказала на кармушку. Яна ведала - бацькі надта любяць птушак. Аднойчы тата вылечыў дома параненую галку і пасля адпусціў яе. А матуля дапамагала яму.

Скрыначка, аднак, сіратліва вісела за акном. Відаць, Каця ўсіх птушак крыкам распалохала. Ну, каб хоць адненькая прыляцела. І вось дачакалася. Цэлую чародку. Птушкі пачалі дурыцца, зганяць адна адну з кармушкі. Відаць, наеліся і цяпер, сытыя, забаўляліся.

- Вой, якія харошанькія! - Матуля аж у ладкі пляснула.

Бацька маўчаў, але Каця прыкмеціла, што і яго хмуры твар пасвятлеў.

Тым часам да кармушкі падляцела сівагаловая галка, залапатала цёмнымі крыламі, сінічкі пырснулі ва ўсе бакі.

- Зараз яна перакуліць кармушку, і ўсё высыплецца, - спалохалася мама.

- Нічога, з зямлі пазбіраюць, - супакоіў яе тата.

Але галка, відаць, скеміла, што на лёгкую каробачку сесці ёй не ўдасца, і паляцела на дах. За акном зноў замітусіліся няўрымслівыя жоўтыя камячкі.

- Чакайце, я зараз, - бацька падняў угару ўказальны палец, маўляў, я таксама прыдумаў нешта.

Праз хвіліну ён вярнуўся з кавалачкам сала, які вісеў на доўгай нітцы.

- Сінічкі сала любяць.

Ён смешна забраўся на падаконнік і павесіў побач з кармушкай сала.

Сінічка як бач павесілася на яго, учапіўшыся з-пад нізу кіпцюрыкамі і ўпёршыся ў аконнае шкло раздвоеным пругкім хвосцікам. Яна з такім смакам дзяўбла сала, што матуля сказала:

- Так смачна есць, аж самой захацелася. Хадзем снедаць. Я пакармлю вас найсмачнейшымі ў свеце аладкамі.

- А рэшту птушкам аддамо, - прапанавала Каця.

Матуля прыцягнула да сябе дачушку, абняла:

- Сонейка ты наша.

Кацярына ўсміхнулася і сапраўды стала падобная на сонейка: круглатварая, светлавалосая і ўскудлачаная.

Тата абняў матулю. І атрымалася, што яны ўсе абняліся.

- Вы памірыліся? - Хітра зіркнула Каця знізу адным прыжмураным вочкам, нібы гэта была не маленькая дзяўчынка, а вялікая сініца.

- Памірыліся, - хорам адказалі тата і мама.

- Значыць, гэта не простыя сінічкі, а сінічкі-міратворцы, - заключыла дзяўчынка.

І яны ўсе разам засмяяліся і пайшлі есці найсмачнейшыя ў свеце аладкі.

## БЕЛЫ КРЭМЕНЬ

Я жывы яшчэ. Я жывы.

Яму хацелася крычаць, галасіць па сабе, як па нябожчыку. Ён і крычаў, і галасіў, толькі што моўчкі.

...У руках спрытна мільгала сякерка. Удар - і сухое, счарнелае ад часу паленца раскалвалася, яшчэ ўдар - і раскалваліся палавінкі. Каля самай топкі металічнага дзіркаватага кормазапарніка, перарobленага ў самагонны апарат, расла, большала горка чорных і жоўтых, смалянейшых, шчэпак. Час ад часу дзверцы топкі прачыняліся, агонь як бач аблізваў і паглынаў падкінутыя дроўцы, а сякера ўсё цюкала ды цюкала.

Петрык сядзеў насупраць топкі на паштовай фанернай скрынцы і звыклымі рухамі распраўляўся з круглячкамі. Маленькі, а ў прыцемку і зусім нейкі дробны, ён дужа выдаваў на падлетка, адно што зусім не па-дзіцячы пыхкаў цыгаркай, якую трымаў куточкам тонкіх самкнутых вуснаў. Галаву нахіліў убок. Пэўна, каб дым не еў вачэй. З ноздраў сачыліся два квёлыя ядавітыя белыя струменьчыкі, расплываліся, гайдаліся празрыстымі хвалямі-воблачкамі, узнімаліся, ужо ледзь заўважныя, угару, пад столь, дзе разам з дымным вэлюмам гайдалася мноствам малюсенькіх гамачкоў чорнае павуцінне.

Вось ён дакалоў апошняе паленца, падкарміў агонь, туды ж, у топку, шпурнуў акурак, падняўся, пакруціў калаўрот над вечкам апарата, каб не прыгарэла брага, праверыў пальцам ваду ў карыце з утопленаю ў ёй пакручанаю спружынаю-трубачкаю, узяў вядро, пачаў літровым слоікам пераліваць у яго з карыта. Вынес цёплую ваду і прынёс халоднай. Тады зноў выйшаў з буданчыка, агледзеўся, зашпіліў прасторную целагрэйку, паправіў на галаве чорную вязаную шапачку-пеўніка. Знерухомеў на якое імгненне. Ціша і цямрэча. Ані агеньчыку ў чым-небудзь акне, ані сабачага брэху. Ноч. Вёска спіць. Адно ў хмарным небе мігцяць некалькі цьмяных зорак. Халаднавата.

- Ат. Скажы ты...

І не заўважыў, як загаварыў сам з сабою ўголас.

- Ат. Ну, што ўжо тут... Як тут...

Думкі блыталіся, а словы блыталіся яшчэ больш. Нейкая ўсяленская трывога сядзела ў грудзіне. Цяжкая, незварушная, што камень. Сэрца ірвалася некуды, да нечага светлага і велічнага. Аднак, прыдушанае каменем, як ён сам гэтаю магільнаю цішшу і моракам, здаецца, не здужала хоць бы варухнуцца, не тое што ўзляцець. І толькі смылела, траціла энергію адно на змаганне з цяжарам, каб зусім не расплішчыцца на аладку.

Цяжар з'явіўся не адразу - спакваля. У старэйшых класах ён зрабіўся амаль невыносным. Гэта быў якраз той узрост, калі яшчэ не надта задумваешся пра жыццё, аднак ужо не-не дый спрабуеш унікнуць, што дзеецца навакол, і што такое варушыцца там, усярэдзіне, у глыбіні самога сябе.

З-за хмары тым часам выплыла нязвыкла вялікае белае вока поўні, і зрабілася відно, як у вечаровым горадзе. Высвецілася, акрэслілася прыгорбленая хата ў некалькіх кроках адсюль, бліснулі халадком шыбіны. Воддаль купкамі яблынь, груш, высокіх акацый і ніжэйшых ліп пазначыліся суседнія, па-хутаранску адасобленыя адна ад адной, сядзібы, нават можна было згледзець крыж на недалёкім скрыжаванні дарог з белаю плямінаю-ручніком на ім. Адна з гэтых дарог павілася ў вялікае сяло. Туды ён бегаў нядаўна ў школу, а цяпер, гэтыя некалькі дзён, што мінуліся пасля вяртання з горада, ездзіць на ровары ў краму па хлеб і цукар. Другая - у недалёкім лесе згубілася.

Пераступіў з нагі на нагу. Зашамацела пад кірзавымі ботамі даўно апалае чорнае лісце. Чакае не дачакаецца яно снегу.

Позірк спыніўся на светлай пляміне пад шэраю пенаблочнаю сцяною буданчыка. Крэмень... Вялізны - велічынёю з ладную авечку - белы крэмень. Гарбаты, абрысамі дужа падобны да зубра.

- Ляжыш?.. Ну-ну. Ат, скажы ты...

Гэты крэмень ляжыць тут, колькі ён сябе помніць. Матка некалі казала, ляжаў, як тут яшчэ і сядзібы іхняе не было. Трэба ж, ніхто не зачапіў яго, калі будаваліся. Нат і з месца не скранулі. Ці то паленаваліся, ці не зважалі на яго, ці ўбачылі ў ім які добры знак, ідала-ахоўніка. Зрэшты, гэта ўжо ён, Петрык, прыдумаў для крамянёвай глыбы таямнічае - язычніцкае - прызначэнне: ідал-ахоўнік. Адным сваім - цямнейшым, нібы абсыпаным попелам - бокам крэмень пазірае якраз на падворак чорнымі паглыбленнямі-вачыма. Калі добра прыгледзецца, можна прыкмеціць крыху ніжэй скрыўлены і неверагодна шырокі, з мноствам малых і вялікіх ноздраў, нос, яшчэ больш скрыўлены, нібыта застыглы ў дзікунскай усмешцы, рот. Ён пазначаны брудна-жоўтым колерам, якога, праўда, досыць паўсюль

на гладзенькім каменным целе. Пры жаданні можна знайсці хутчэй конскія, чым чалавечыя, вушы, трэшчыны-бровы... Аднак тут ужо павінна памагаць вачам і фантазія.

Некалі хацеў Петрык перавезці дзіва-крэмень у школьны музей (ён шчыра верыў у тое, што гэта сапраўдны ідал старажытных продкаў), аднак дарослыя толькі пасмяяліся з яго, маўляў, у ваколіцах поўна меншых крамянёў, (так многа, што нават яго вёсачку назвалі Малыя Крамяні, а сяло ў двух-трох кіламетрах адсюль - Вялікія Крамяні). І кожны на некага ці нешта падобны. А гэты хіба толькі кранам і паднімеш. Ён жа палову маленькага школьнага музея зойме, пазакрывае іржавыя гільзы, рулі кулямёта і аўтамата, штыхі, асколкі мін, сабраныя ў ваколіцах... А ніхто і не падумаў, што, можа, памеры - найбольшая вартасць глыбы. Нідзе ж больш крамянёўцы такога велікана не бачылі. Неяк, даўно, заязджалі да іх карэспандэнты, фатаграфавалі крэмень з усіх бакоў, казалі, што гэта ўнікальная знаходка, што такога болей нідзе няма, змервалі яго і рукамі, і знойдзеным на падворку абрыўкам матузка, дзівіліся пляскатаму светламу боку, бо яшчэ не бачылі ў сваім жыцці белых, няхай сабе і не цалкам, крэменяў. Цікава, друкаваліся дзе тыя здымкі ці не?

- Э-хе-хе... Крэмень-крэмень, - хацеў сказаць «бялееш», а сказалася «бяльмо». - Бяльмо ты, во хто... - Сказалася, нібы пра жывую істоту. - Ляжыш без толку.

Петрык сцепянуўся ці то ад холаду, ці з нейкае ўнутранае прычыны, крэкнуў па-старэчы, шуснуў у дрывотню насупраць, накідаў на руку лёгкіх сухіх паленцаў, вярнуўся ў цёплы закураны буданчык... Зноў замільгала-задрабніла ў паўзмроку сякерка, затрашчалі круглячкі, задыміла ў самкнутых вуснах цыгарка...

Ат, і што ты за ахова такая? Можа, гэта д'ябальскі ідал, падкінуты старажытнымі продкамі? Падкідваюць жа людзі адно аднаму загавораныя вузельчыкі, урабляюць паскудства. А тут... Самі ж на вузельчыку-камені і пасяліліся. І пайшло-паехала. Маці казала, пакуль не пабудаваліся тут, усё ў іх ішло як мае быць. Дзесяць год пражылі ў дзеда з бабаю мірна і пяшчотна. І як будаваліся, усё ў іх ладзілася. Бывала, праўда, што і пасварацца, і бацька кіне інструмент ды адыдзе за бярвенні, пыхкае махоркай. Але ж як бач святлее, дабрэе. Ужо ў новай хаце нарадзіўся ён, Петрык. Запозненны, Першы і апошні ў сям'і. Слабенькі задаўся, хварэў, ледзь акрыяў.

Каб не матчыны ўспаміны, і не ведаў бы, што бацька быў некалі гэткім жа добрым, як шмат якія іншыя - клапатлівыя - бацькі. А ён колькі ні напружваў сваю ўласную памяць, не знаходзіў у ёй таго светлага, што было ў матчыных словах.

Петрык ускінуў галаву, пабегаў вачыма па чорнай запавуцінелай столі, нібы хацеў там нешта прачытаць.

- Ат. Чаму ж не было...

Быў жа, быў адзін такі светлы дзень, калі бацька прыехаў аднекуль цвярозы. Прывёз яму, Петрыку, нейкай дзіўнай смакаты: паламаную на дробныя кавалачкі салодкую плітку з арэхамі. Цвёрдая, аж балелі зубы, як еў, а спыніцца ўсё ніяк не мог, хацелася запакаваць ёю ўвесь рот. Бацька пагладзіў яго па галаве, спытаў, што прынёс са школы. Петрык тады якраз адхапіў тройку. Бацька, аднак, не накрычаў і не набіў. Што значыць цвярозы.

Петрык ад узрушэння ажно перастаў цюкаць, знерухомеў на імгненне, адляпіў ад вуснаў прысохлы акурак, падзьмуў на яго дымам, шпурнуў у бок дзвярэй. Чырвоная зорачка прашыла паўзмрок і стаілася, затухаючы, ля парожка.

Калі падрос, калі пераваліла яму за чортаву дзюжыну, тады толькі зразумеў: бацька хворы. Сябры падказалі, што ён, калі некуды знікаў, не ў камандзіроўкі ездзіў, а лячыцца ад алкагалізму. І тое смакоцце прывёз яму, вяртаючыся з чарговага лячэння, якое, аднак, усё ляцела кату пад хвост.

...І вось гэты камень у грудзях. Спачатку не заўважаў яго, не хацеў заўважаць, не разумеў, што гэта надоўга. Дый наваліўся ён неяк неўпрыкмет. Гэтаксама неўпрыкмет прыходзіла здагадка і пра матуліну хваробу, тую самую, якая адолела здаравяка-бацьку. Навучыўшыся адрозніваць п'янага чалавека ад цвярозага, ужо не здзіўляўся, чаму гэта яны, нібы звар'яцелыя, забіваюць адно аднаго да крыві, да пасінення. Забіваюць чым папала: штыкецінай, чыгунком, кулакамі... Яшчэ больш здзіўляла тое, што бацькі заставаліся жывыя. Раніцою як ні ў чым не бывала матка будзіла яго, карміла вялізным, на ўсю патэльню, таркаванцам, праводзіла ў школу. Як яна ні захіналася тоўстаю рудою хусткай-апінянкай, пацёкі, драпіны, сінякі на твары цяжка было не згледзець. Яны былі паўсюль: на ілбе, носе і пераноссі, шчоках, губах і барадзе. Бацька ў такі час альбо спаў у запеччы, альбо некуды знікаў, каб вярнуцца ці то позна ўвечары, ці - і такое здаралася часцей - праз некалькі дзён. Маці, як прыходзіў са школы, ужо чаплялася плячыма за вушакі, прасіла, каб сам выцягнуў дзе-што з печы, бо ёй «нешта нездаровіцца», завальвалася на покуць...

Ва ўсім гэтым ён жыў, і, трэба ж, не надта браў да галавы, у якой ганьбе меў няшчасце нарадзіцца і расці. Досыць было сваіх, дзіцячых, клопатаў. Яны паглыналі ўсяго, разам з думкамі. Нейкі час свет для яго сышоўся на буданчыку-шалашы, які збіў-сплёў з дошак ды галля высока на дубе, што красаваўся над бліжэйшым узлескам.

Так высока, што не надта і прыкмеціш з зямлі. Затое ён адтуль бачыў усё, што дзеецца навокал. Як на далоні пад ім квітнела ўвесну, зелянела цэлае лета і ірдзелася ўвосень вось гэтая, родная і ненавісная, сядзіба, абы-як абнесеная крывулякамі-жэрдкамі. Адтуль, з вышыні, нават высокі плячысты бацька здаваўся дробненькім і зусім не страшным. Ён аж млеў ад асалоды ў сваім зацішным утульным жытле, мог сядзець там цалюткі дзень без аніякага занятку. Альбо чытаў прыгоды ці фантастыку. Украў быў у бацькі некалькі беламорын і ўпершыню паспрабаваў па-даросламу зацягнуцца. Закашляўся, цёк слязьмі. Ды не кінуў куродыміць, пыхкаў і пыхкаў. І тое было для яго важным заняткам, забірала ўсю ўвагу. Нават радаваўся, што нікому надта не патрэбен, хоць начуй тут, хоць лятуй. Мабыць жа, і начаваў бы, калі б пад вечар не адольвалі страх і голад.

І вось зляцеў Пятрок са свайго высознага гнязда-схованкі, расправіў крылы, скінуў, як самалёт бомбу, цяжкі камень, прызямліўся на брукаванку ў незнаёмым велічным горадзе, падхапіла яго людская рака, паплыў з усімі па прасторным праспекце, асляплены мноствам яркіх палотнішчаў, размаляваных белым па чырвонаму, а чырвоным па беламу...

...Звягнулі дзверы.

- Заснуў ты тут, ці што?

Прахапіўся. Няўжо і праўда задрамаў? Сякерка ў адной руцэ, паленца ў другой. А карак як скамянеў: галавы не ўзняць. Спаў-такі. Сагнуўся крукам над дровамі - не разагнуцца.

- Заснуў, кажу, ці што? - Бацька паўтарыў гучней.

- Мае быць, заснуў. - У горле запяршыла, адказ атрымаўся прыглушаны. Цюкнуў па круглячку сякеркай, раскалоў яго, кінуў долу, адчыніў дзверцы топкі - там ужо дагаралі, то схопліваючыся квёлым агеньчыкам, то гаснучы, галавешкі - падкінуў шчэпак. Яны ўспыхнулі, што салома.

- Цурчыць?

- Мае быць... - У горле пяршыла, голас дрыжэў.

- От, заладзіў: мае быць, мае быць. Зараз паглядзім, што тут у нас, гэ-кхэ-гэ, нацубрылася.

Бацька быў у адной майцы і споднiках. Толькі на плечы накінуў стары аблезлы кажушок. Нейкі нязвыкла худы (а які быў крутаплечы ды крутагруды), старая майка звесілася анучай, агаліла высахлую грудзіну, згамталася складкамі на жываце. На некалі паўнаватым, самаўпэўненым твары чарнелі парослыя густою шчэццю шчокі. Трэба ж, толькі зараз прыкмеціў гэткую перамену ў бацькавым абліччы. Пэўна, таму, што тут яе, перамену, падкрэслівалі цемра, морак.

- От, бляха, у цябе ж ужо поўны слоік, на зямлю цячэ. Давай хуценька якую пасудзіну, бо... Самагоншчык хрэнаў. Ну!

Петрык ледзь разагнуў здранцвелыя ногі, падаў бацьку літровік, якім выбіраў нядаўна з карыта ваду. Танюткі струменьчык звонка забарабаніў аб шкляное гулкае дно.

Бацька крыху праспаўся, быў цвярозы, і таму хутка суцішыў злосць. Ён асцярожна, каб не разліць, перанёс паўнюткі трохлітровы слоік на загрувашчаны нейкаю старызнай дашчаны стол, адарваў ад газеты шматок, абмакнуў у гарэлку, чыркнуў запалкай. Блакітнае полымя палезла аж на пальцы. Выхаплены з цемры азызлы твар на хвілінку нібы расправіўся, пагладчэў, вочы задаволена бліснулі і патухлі, як толькі агеньчык згас.

- Спірт, а не гарэлка. Маладзец. Аднак жа і нагнаў бы ты, каб не я. Вой і бедны быў бы ў мяне... - Цяпер у бацькавым голасе злосці як і не было. Ён падставіў пад хабаток на земляную падлогу (добра, што земляная, не відно, колькі разлілося) большы слоік, літровік паднёс да керасінкі, ад якой, што праўда, святла было не болей, чым ад дзірак у топцы, ускалыхнуў яго: - А гэтую мы зараз паспытаем, ці часам не прыпаліў ты яе? - панюхаў: - не, кажысь, добрая.

Ён зняў з кручка на сцяне стограмоўку, дзьмухнуў у яе, наліў палову, падняў слоік, нешта прыкінуў сам сабе, даліў яшчэ крыху, моўчкі каўтануў, крэкнуў, і толькі тады выцягнуў з кішэні скарынку ды зморшчаны салёны гурок. Занюхаў. Паклаў на стол, на газетку.

- Бяры і ты глыні. Зарабіў. Ды глядзі, не спі болей. Ён апаражніў слоік: «Бач ты, як роўна падзяліў. Ну, бяры-бяры, смялей, а то нейкі ні рыба ні мяса. Не бойся, яна не пякучая - хлебная».

Сапраўды, гарэлка не апякла, а сагрэла. Адзін глыток, а па целе ўжо расплыліся лагода і цяпло.

- То, кажаш, пагналі цябе з інсцятута? - бацька зацягнуўся цыгаркай.

Памаўчалі.

- Даміцінгаваўся, маць тваю...

Петрыку не хацелася адказваць. Гэта ж з-за яго, алкаша беспрабуднага, з-за іх абодвух збег ён у горад, каб не вяртацца сюды да канца вучобы, а мо і болей, аж пакуль не ўладкуецца на добрую працу ды не разбагацее. Сорам, ганьба, камень у грудзях, іх камень, пагналі яго далей адсюль. Гэта ён, Петрык, павінен, калі ўжо на тое, дакараць бацькоў. Але ж маўчаў, цярпеў. І во дамаўчаўся.

- От жа, скажы ты, смаркач нейкі - а і той міцінгаваць лезе. Што ўжо ты там згубіў, дзяроўня дурная.

- Ды не міцінгаваў я, што ты прычапіўся.

- За што ж цябе, за тройкі ці мо за двойкі вытурылі, га? То чаго было лезці не ў сваё. Пастулаў бы, вунь, у хабзарню, калі кацялок не варыць.

- Я ж казаў: выйшлі з хлопцамі паглядзець на мітынг. А там міліцыя. Як ужо ўсе разыходзіліся, пачалі хапаць тых мітынгоўшчыкаў. Я не ўцякаў. Я ж ні прычым быў. Але схапілі, пратакол склалі...

- Ні пры чым, ні пры чым. Не можа быць, каб проста так узялі дый заарыштавалі. Мо п'яны быў. Мяне цвярозага ні разу яшчэ і пальцам не зачапілі. П'янага, дык і лупцавалі, і на суткі саджалі. І правільна. Парадак ёсць парадак.

Петрык ужо шкадаваў, што загаварыў з бацькам. І не проста загаварыў, а нібы апраўдваўся. Хоць ён проста хацеў давесці праўду. Ды ўсё роўна нічога яму не дакажаш. Нашто было вяртацца сюды? Але ж куды яшчэ яму падацца, адзін жа адзінюткі ва ўсім белым свеце. Па праўдзе, у той дзень, якраз выхадны, ён-такі быў нападпітку. Выпілі з хлопцамі на чацвярых паўлітэрак «белай», пайшлі паназіраць, што робіцца на мітынгу. Пасля ён неўпрыкмет змяшаўся з натоўпам, згубіў сябрукоў. Мітынгоўшчыкі акурат разыходзіліся, цяжка было разабраць, дзе ён і куды можна сігануць. Недзе зусім блізка луналі над галовамі бела-чырвона-белыя палотнішчы. А пасля ў паперы, перададзенай у дэканат яго геаграфічнага факультэта, было пазначана: затрыманы ў нецвярозым стане, брыдкасловіў... Калі шчыра, дык і вучыўся ён слабавата, ніжэй сярэдзінкі, хоць і зубрыў да пацямнення ўваччу... Праз год, лічыў, узаб'ецца і на пяцёркі, развітаецца назаўжды з траякамі. І вось на табе, адлічылі...

- Дык, значыць, надумаў паступаць зноў?

- Надумаў, а што?

- Ты мне не штокай. Расштокаўся, бляха. Калі табе трэба ехаць?

- Хутка.

- Калі гэта хутка?

- Праз тыдзень. На падрыхтоўчае трэба спачатку. А мо аднаўлюся. Буду прасіцца.

- Во і прасіся, калі галавы няма. А пакуль паедзеш, будзеш чамергес ціснуць. У нас заказ. Людзі харошыя падкінулі прыработак. Яны заплацяць. Усе грошы - табе. Бяры і едзь к чорту, паступай. І не рабі больш так, як тады зрабіў. Нікому нічога не сказаў, збег, панімаеш, знік. Ты вось нас з маткаю цураешся, я ж бачу, а мы хоць і п'яніцы, ды разумнейшыя за цябе, жыць умеем. Без нас, бач, усё адно не абышоўся. Разумнік. Ну, давай яшчэ па ядзінай.

Ён дастаў аднекуль з-пад стала, з-за перакрыжаваных негабляваных ножак закаркаваную паперай недапітую пляшку - «Бачыш ты,

стаіць, не знайшла старая», - наліў поўную стограмоўку, залпам выпіў, занюхаў рэштаю гурка, наліў яму, Петрыку…

- Вышэй нос, студэнт. - Бацька, бачна было, захмялеў. - Ды глядзі тут, як набяжыць гэтая, падстаўляй яшчэ адну і ўсё, больш не тапі, няхай паціху гасне. Ранкам старая разбярэцца.

Ён прыкурыў, і чырвоны агеньчык знік за дзвярыма.

Пасля другой чаркі Петрык ажывіўся, шпарчэй зацюкаў сякераю. Дакалоў апошняе паленца, паддаў жару, выцягнуў з топкі танчэйшую шчэпку, падкурыў ад яе, падумаў, што, можа, дарма ён гэтак часта дыміць, і піць, мабыць жа, не трэба было. І так мала піў. А пасля адлічэння з інстытута і зусім завязаў. Напэўна, таму і захмялеў гэтак хутка. А мо і добра, што сцебануў. Хоць развесяліўся. Можа, хоць не так будуць даймаць успаміны-перажыванні. Адпачывай, душа, гуляй. Да абеду адсыпацьмемся, а з абеду - за кнігі. І... вучыцца, вучыццца ды яшчэ раз вучыцца. Мы ўсім дакажам, хто такі Петрык. Зайздросціць будуць яшчэ. Скажуць, бачыш ты, Петрык у людзі выбіўся, дарам што бацькі алкашы, бач, які малайчына. І не трэба будзе ехаць дадому альбо з домы хаваючыся.

Ат, а чаго хавацца. Не злодзей жа і не злачынца, каб хавацца. А бацькі... Ну, што там бацькі... Яны - адно, ён - другое...

Аднак ужо камень навальваўся з новаю сілаю.

- От, скажы ты...

Скуль ты ўзяўся? Як скінуць гэту чортаву навалу? Які ж то клас быў? Восьмы? Дзевяты? Ах, як рэзанула тады чыёсьці: «Пі. Племя алкашоўскае. Куды табе дзявацца: бацькі п'юць, і ты піць будзеш... Глядзіце, - звяртаўся той, ужо і забыўся, хто, да хлопцаў, - яшчэ і крывіцца». Гэта быў восьмы клас, хлопцы ўжо ладна выпівалі, а яго як адрэзала. Залёг за кнігі: не, я не здамся, я дакажу, дакажу. Збягаў да слабенькай ужо, добрай, аж салодкай, як каштэлі ў яе гародчыку, бабулі Хрысціны, і вучыў-вучыў. Тады ўжо дапяў, што інакш няма яму ходу ў белы свет. Заходзіў да бабы Хрысці і бацька, прасіў грошай, а яго, сына, нібы і не заўважаў. Сядзіць сабе за сталом, і хай сабе сядзіць. Акурат тады дайшло, які ён чужы ў сям'і, і камень налёг на сэрца ўсім сваім непераможным цяжарам.

І быў-ныў той камень доўга, аж пакуль не прызямліўся на брукаванку ў вялікім нядродным горадзе. І цяжка было зрабіцца гэтаму гораду сваім. І не стаў ім, аднак там, між муроў і зіхоткасці людской, дзявочай, электрычнай і яшчэ невядома якой, неспазнанай, таямнічай, адпусціла - сэрца вольна лётала-гуляла па-над паднебнымі дахамі і шпілямі.

- От жа, эх-хе-хе...

Светлае адлятала, адлятала...

Смяяліся з яго і там. Смяяліся, як ён выгаворваў няправільна «шчыкалада», «цюкеркі»... Так яго і празвалі - «цюкерка». Няхай бы і смяяліся, абзывалі, але смяяліся дзяўчаты - здзекліва, пагардліва... Ну, і смяяліся, і добра... Затое камень... Пра камень у грудзях забыўся і не ўспамінаў. Эх-ге-хе, цюкерка-шчыкалада...

Пятрок падкінуў у топку апошнія шчэпкі.

- Кхэ-ге-е...

Варухнуў плячыма. Камень сядзеў. Ці то ў падплеччы, ці ў грудзіне. Аднекуль зверху ціснуў, і моцна ціснуў на сэрца. Ат, бляха... Памяняў слоік. Наліў з поўнага ў стограмоўку. «Ат, к чорту камень». Перакуліў. Занюхаў скарынкай. Пацяплела. Ат, гуляй, душа, згінь, камянюка праклятая. Выйшаў на двор. Вецер узяўся, кідаў вохлае лісце. Цёплы ветрык, як і не зімовы. Дуб, як ты там? Цямнела над узлескам цёмная пляма. «Эх, дуб ты мой, хата мая». Зачапіўся за нешта цвёрдае. «А-а, гэта ты, крэмень мой. Ну-ну». Бялеў, свяціўся белым, абцясаным волатам-векам, бокам, крэмень. Абняў яго. «Волат мой, зубр, зубрышча. Ану, пабораемся. Я зварухну, зварухну цябе». Крэмень, аднак, як урос. «Ух ты, вернідуб». Вярнуўся ў буданчык, пастаяў. «Ух-х». Перакуліў яшчэ стограмоўку. Занюхаў. Прыслухаўся. Не, камень сядзеў, як і сядзеў на сэрцы. Ціснуў, пракляты. Петрыку здалося, што калі ён зварухне, перакуліць крэмень пад сцяною, то скіне яго і з сэрца. «Ух-х. Я цябе...». Наліў яшчэ адну і зноў выпіў. «Ух-х, глядзі ў мяне...» Выйшаў, падчапіў рукамі з-пад нізу, напружыўся: «Гэ-эх-гэ-кхэ-гэ». Ну і камянюка, ну і глыба, халера. Адышоў. Агледзеў крэмень. «Во, цюкерка-шчыкалада». Прыгледзеўся. Уваччу плыло. Эге, ты не зубр, ты карта. Ну, як ёсць карта. Беларусь. Як на далоні. Во тут - тыцнуў пальцам пасярэдзіне - я вучыўся. А вось тут - тыцнуў крыху ніжэй - ганю самагон. Агледзеўся, хацеў да некага звярнуцца, каб пахваліцца адкрыццём, але вакол былі цемра і вецер. І чорнае лісце то ўзлятала, то апускалася долу, шамацела. Поўня зноў выйшла з-за хмар, і крэмень-карта, здалося, аж заблішчэў. Заімжыла. Твар пацёк халодным потам. Камень сядзеў на сэрцы, і так карцела яго зварухнуць, зараз жа, адным махам вылузнуцца з-пад цяжару. «Ну, цюкерка-шчыкалада, ух-х, я цябе...» Падчапіў крэмень рукамі і з новаю сілаю ўзяўся перакульваць-варушыць яго. Здалося, нават і зварухнуў, і так хацелася, каб хто памог, каб яшчэ хоць адзін чалавек. Ды не, няма нікога. «Ну, чакай, я зараз, ух, я цябе». Уварваўся ў буданчык, перакуліў яшчэ стограмоўку, выскачыў. Памуляў пад целагрэйкай. Не, камень сядзеў па-ранейшаму ёмка. Хоць ужо зрабілася горача. Мо і дарма піў. Цвярозаму лягчэй было б, з розумам

падышоў бы. Крутануў галавою. І толькі паддзеў крэмень з-пад нізу, напружыўся, як нехта зусім блізка гукнуў:

- Хто тут?

Выпрастаўся. Стаяць ці то тры, ці чатыры постаці.

- Хто тут, што за звер?

Нечый голас, нібы рэха:

- Петрык? Ты? Ну, здароў, стары.

Нехта ёмка штурхануў ці то ў грудзі, ці ў плячо. Аж не ўстаяў, уплішчыўся ў шчыліну між крэменем і сцяною буданчыка.

- Гляньце, Петрык напіўся. Я ж казаў, яблык ад яблыні не далёка падае.

Гэта быў той самы бэйбус-аднакласнік, які найбольш здзекваўся з яго ў школе. Падхапіўся, намагаўся засяродзіцца, аднак уваччу плыло і плыло. Плыў маладзік, плылі твары і хмары.

- Што, напіўся, стары?

Аднакласнік і тыя, што былі з ім, зарагаталі.

- Самагонкі нагнаў, га? Ану, адыдзі, зараз праверым, што ў цябе там. Вой, як смачна пахне.

Петрык адышоў, закрыў сабою дзверы. Хацеў папрасіць, каб памаглі перакуліць крэмень, але язык не слухаўся, замест слоў вылятала яму самому незразумелае сіпенне.

- Во, дапіўся, шыпіць, як гусак, і дзяліцца не хоча.

- Гэта мо той, міцінгоўшчык?.. - З цемры, з-за аднакласніка вылезла нечая постаць. Яны сутыкнуліся твар у твар. Петрык адхіснуўся: гэта ж той, той самы «зэк»... Ага, яго ўсе ў вёсцы «зэкам» завуць. Усе, і старыя, і малыя, баяцца яго.

- Той, той... Ягоны стары казаў, што не з-за вучобы, а за тое, што міцінгаваў, пагналі к чорту з вучобы.

- А-а, уласць не нравіцца? Жывецца блага? Папівае сабе, бач, самагоначку, і рыпаецца яшчэ. Ну, мы цябе навучым...

- Ды не чапай ты яго, - уступіўся аднакласнік. - Ён і так загнецца не сёння-заўтра.

- То няхай цягне самагон, бо зараз адною пстрычкай заб'ю. Ну, што стаіш, адчыняй, пакуль добры, або адыдзі, не блытайся пад нагамі.

Петрык, можа, і адышоў бы, ды ногі не слухаліся, падгіналіся ў каленях. Ён паспрабаваў варухнуць рукамі, але і яны не слухаліся, толькі пальцы няўлад торгаліся, нібы ножкі пачварнай жамярыны. Пад каменем у грудзях, адчуў, нясцерпна заныла. Ад страху, ці што?

- Ён не чуе! - гукнуў «зэк». - Ён нас не чуе!

- Зараз пачуе. - Падбегла трэцяя постаць. Петрык не пазнаў, хто гэта. Ён толькі адчуў востры боль у грудзіне. Сагнуўся. Нехта паддаў у вуха і па карку. Зваліўся на нешта цвёрдае і вострае, убачыў, як па бліскучым мокрым баку крэменя, яго белага крэменя, пацякла барвовая ручаінка... Пацякла няроўна, выгінаючыся, пераломваючыся на трэшчынах і саслізгваючы з іх. Як рака на карце. «Мая рака» - падумаў, губляючы сябе ў беспрытомнасці.

## РАЗГРАФАВАНЫ СШЫТАК У БЕЛАЙ ВОКЛАДЦЫ

З Веранікай, даўняй сваёй знаёмай, я сустрэўся зусім неспадзеўкі. Адразу мы і не пазналі адно аднаго. І не дзіва - столькі гадоў мінула. Апошні раз школьнікамі бачыліся. Да таго ж я быў на добрым падпітку, а яна гэтак начапурылася, што і маці родная прайшла б побач, не прыкмеціўшы сваёй крывінкі.

...Адбылося ж усё вось пры якіх абставінах. Неяк у рэстаране мы з сябрукамі ладзілі вечарынку, адзначалі невялічкім гуртам Дзень друку, бо ўсе былі работнікамі пяра. Працавалі хто ў газеце, хто ў часопісе ці выдавецтве. Заказалі пару пляшак гарэлкі, дадалі да яе прынесеную з сабою і, як гэта водзіцца ў нашага брата, развялі за сталом такія дэбаты, гэтак ухапілі за чупрыну яе вялікасць палітыку, а заадно і філасофію, быццам бы не на свята сабраліся, а на вучоны савет. Часам і я ўстаўляў свае пяць капеек, але ўліцца ў агульную плынь гутаркі так і не здолеў, засумаваў і вырашыў выскачыць на вуліцу, падыхаць свежым паветрам, бо над нашымі бутэлькамі і пузатым графінам, скамечанымі папяровымі сурвэткамі і паўпустымі талеркамі з мясам, косткамі і капустаю пад маянэзам ужо вісеў сапраўдны смог ад цыгарэтнага дыму, за якім губляліся, расплываліся, цямнелі твары суразмоўцаў.

Спусціўшыся па гулкай прасторнай лесвіцы ў аздобленае каляровай мазаікай фае, адчыніў масіўныя высачэзныя дзверы і... аказаўся сведкам, а хутка і ўдзельнікам не вельмі прыемнай сцэны: двое міліцыянтаў праганялі ад рэстарана маладую жанчыну ў залішне кідкай апратцы і з не меней кідкімі, аголенымі нагамі, а тая даводзіла ім, што зараз выйдзе яе муж і толькі разам з ім яна пойдзе дахаты.

Я толькі паспеў прычыніць за сабою масіўныя дзверы, як апынуўся ў самым цэнтры разборак.

- Ну, я ж казала вам - зараз паявіцца мой муж. Во ён, яшчэ цёпленькі. Калі хочаце, пазнаёмцеся, а лепей не трэба.

І незнаёмка ўпэўнена скіравала да мяне, схапіла за рукаў, падміргнула праз вялізныя шкельцы акуляраў тлуста «наваксаванымі» вейкамі:

- Во, пайшоў і прапаў. Хадзем дахаты, пакуль не насцябаўся зусім. Ты ж абяцаў, што не затрымаешся доўга. Апранайся ды пойдзем.

Па натуры я чалавек вельмі добры, ды і кемлівасці хапіла, каб разабрацца, што тут і да чаго. Таму без асаблівых разваг згадзіўся пабыць на якую хвіліну яе мужам.

- Мілачка, ну як жа я пакіну сваіх сяброў. Хоць бы з паўгадзінкі яшчэ. Няёмка пакідаць іх. Не так ужо часта і сустракаемся.

- Дык што мне, стаяць і чакаць тут, пакуль ты наліжашся? - жанчына раздражнёна сціснула вусны.

- Давай тады да нас. Пасядзім і пойдзем.

Міліцыянты падазрона зыркалі на нас з-пад чорных казыркоў, але падысці і праверыць нашае сваяцтва ўсё ж не рашаліся. Я ўзяў незнаёмку пад руку і павёў наверх да нашага шумнага століка ў асобнай каморцы.

- Шаноўныя, дазвольце мне пазнаёміць вас са сваёй дваюраднай жонкай і кідайце дурныя спрэчкі, - звярнуўся я да калег, спыніўшы тым самым застольны гармідар. А тыя ажно раты параскрывалі, калі ўбачылі мяне вось у такім суправаджэнні, бо добра ведалі маё стаўленне да сям'і.

- Ого, - выдыхнуў адзін.

- Андрэй пайшоў юзам, - заспяваў другі.

- У мяне нешта са зрокам,- паспрабаваў пакпіць трэці летапісец.

І сябрукі дружна пацягнулі рукі для знаёмства з госцяй, устаючы, каб прадставіцца.

- Вераніка. Вельмі прыемна. Вераніка... - яна называла сваё імя і дазваляла цалаваць маленькія выпешчаныя пальчыкі.

«Вераніка?»

Я ўспомніў яе. «Далібог. Гэта ж яна - мая Вераніка». Той жа невялічкі кірпаценькі носік, шчылінка паміж верхнімі пярэднімі зубамі, вялікі, ды вельмі сімпатычны, прываблівы рот. Толькі валасы не яе. Фарбаваныя і перафарбаваныя, мусіць, сто разоў, яны цяпер мелі дзіўны дымчата-фіялетавы колер.

- Вераніка!

Я, відаць, крыкнуў занадта гучна, бо сябрукі вылупілі на мяне вочы і зноў узяліся за кпіны:

- Чаго горла дзярэш?

- Ці то я пачуў голас з унітаза?

- Зусім здурнеў, заікамі хоча зрабіць нас.

А мая даўно знаёмая незнаёмка агледзела мяне доўгім позіркам і ніяк не адрэагавала на зварот. Але ж у мяне выдатная памяць на твары. Я іх, можна сказаць, фатаграфую. Я паўтарыў яе імя, толькі ўжо цішэй.

- Андрэй?

- Не, мусіць, не Андрэй.

- Андрэйка, ты? Няўжо? Колькі ж мы з табою не бачыліся. Ты стаў такі салідны і вунь працоўны мазоль на жываце выгадаваў.

- Вераніка. Мы не бачыліся... Гм... Ды што там лічыць - цэлую вечнасць не бачыліся. Вось дык сустрэча. Расказаць каму - не паверыць.

Сябрукі, ледзь не страціўшы прытомнасць ад такога развіцця падзей, адно круцілі галовамі ды лыпалі няўцямнымі вачыма. Але хутка ажывіліся, загаманілі, нават спрабавалі пажартаваць.

- А мы, Андрэй, верым. І таму прапаноўваем выпіць за гэтую сустрэчу. Садзіцеся вось тут - разам. Васёк, налівай.

Васёк наліў і падняў чарку.

- Давайце вып'ем ведаеце за што? Зараз скажу. Вось прывядзеш ты, Андрэй, сваю прыўкрасную Вераніку дахаты, пакладзеш у ложак, а калі жонка спытае, што ўсё гэта значыць, адкажаш ёй так. Ішоў, маўляў, па горадзе і ўбачыў жабу пад сцяною дома. Хацеў прайсці міма, а яна і просіцца: «Вазьмі мяне, Андрэйка, ды пакладзі ў кішэню». Так і зрабіў. Прынёс дамоў, а яна зноў: «Пакладзі мяне, Андрэйка, у ложак, а то замёрзла». Паклаў. «Ляж са мною». Выканаў просьбу. І тут жаба ператвараецца ў такую вось прыгажуню. Уразумелі? Дык давайце вып'ем за тое, каб жонка паверыла такой вось казцы, а заадно і каб усе нашыя жанкі такім казкам верылі.

Дружна зарагатаўшы, усе выпілі, запілі фантай, і над сталом запанавала храбусценне пасечанай капусты.

Наступныя два тосты таксама прысвячаліся мілавіднай госці, і ў перапынку паміж выпіўкамі яна зноў была ў цэнтры ўвагі. Ну, а пасля філосафы-палітыкі-пісакі вярнуліся да сваіх бясконцых спрэчак і не чапляліся больш да мяне і Веранікі. Яны ўспомнілі пра Сяргея, які некалі быў у іхнім гурце.

- Эх, быў бы з намі Сяргей, такую эпіграму забацаў бы...

- Або спяваў бы ўжо арыю з оперы.

- А хто вінаваты, Сцяпан, што яго няма за гэтым сталом?

- Ніхто не вінаваты. Проста так сталася.

- Няпраўда, Сцяпан. Ты баішся прызнацца, што вінаваты ўсе мы. Ніхто з нас не хацеў...

...Пакуль яны высвятлялі, хто ўсё ж вінаваты, а хто не, я паспеў расказаць Вераніцы, чаму мы тут, і нават дзе-што патлумачыў наконт нашых адносін:

- Сяргей працаваў са мною ў газеце. Але нікому не падпарадкоўваўся дый... за каўнер закідаў. За гэта і звольнілі. Цяпер зусім запіў. Я сябраваў з ім. Але ён не прызнаваў маіх сяброў. Тыя ж папракалі мяне за сяброўства з Сяргеем. Тады я зрабіў глупства - парваў з імі, перайшоў у ягоны гурт. І сяджу во як не свой, бо тое, пра што яны балбочуць, мяне зусім не цікавіць.

Я змоўк, і ўсчатая спрэчка зноў завалодала нашым слыхам.

- ...Гэта ты вышукваеш у смецці залатыя зярняткі.

- І знаходжу іх. Ты хоць ведаеш, з кім ён цяпер?

- З такімі ж наркотамі, як і сам.

- Калі ў нашай краіне яшчэ не зніклі апошнія ачагі чыстага сумлення ды сапраўднага сяброўства, дык яны засталіся хіба што ў асяроддзі вось такіх, як ты кажаш, наркотаў.

- Ну-ну-ну... Дагаварыўся. Далей ужо няма куды. Нам толькі не хапала на п'яніц маліцца. Ды твой «святы» нас за людзей не лічыць, разумнік гэткі. Будзь ён тут, даўно ўжо нас з граззю змяшаў бы. У кожным знайшоў бы шчэпку ў воку, а ў сваім бервяна не бачыць.

- Ён калі і змешваў нас з граззю, дык не з чыёй-небудзь, а з нашаю, якой нам не пазычаць...

Мы крыху паслухалі яшчэ, але хутка зразумелі, што канца дурной спрэчцы не будзе, і загаманілі пра сваё, закідваючы адно аднаго пытаннямі. Праўда, Вераніка яшчэ паспела, перш чым мы поўнасцю адасобіліся ад кампаніі, кінуць колькі слоў у гэтае месіва абвінавачванняў. Глыбакадумна зацягнулася цыгарэткаю, эфектна прыцерусіла попелам абгрызеныя костачкі ў талерцы, пасля не то для сябе адной, не то і для мяне таксама сказала:

- Чаго яны дабіваюцца адзін ад другога? Усё адно ж не знойдуць ісціны. Бо сама спрэчка - гэта і ёсць ісціна, бо жыццё - гэта суцэльная супярэчлівасць, няхай сабе і жыццё аднаго чалавека.

Такім чынам Вераніка разбіла ўсе довады «пракурораў» і «адвакатаў» і зрабіла спрэчку пустой і непатрэбнай. Я ж ад гэтых слоў устрапянуўся, адчуўшы, што маю справу зусім не з тою гарэзай-дзесяцікласніцай, з якою да самазабыцця цалаваўся больш чым дваццаць год таму ў хвойніку паміж яе і маёй вёсачкамі. Поруч са мной сядзела, выставіўшы кругленькае крамянае каленца, занадта сур'ёзная, нават, падалося, суровая жанчына, якая, магчыма, перанесла нямала душэўных выпрабаванняў. У гэты момант яна выглядала чужою не тое што ў нашай кампаніі, але і наогул у

чалавечым жыцці - такім дробязным і нікчэмным. Пад яе пранізлівым позіркам я пачуваў сябе не вартым увагі мурашком. Уважлівей прыгледзеўшыся да сваёй даўняй знаёмай, я знайшоў, што ўся гэтая кідкая апратка, якую яна нацягнула на сябе, - звычайны маскарад. Ні чырвоная кароценькая спаднічка, ні пушысты, вельмі багаты з выгляду пярэсценькі пуловер, ні доўгія бліскучыя кліпсы зусім не пасавалі ёй, бо тое, што было патрэбна ёй, - гэта шэры касцюм з якім-небудзь някідкім маленькім упрыгожаннем на лацкане пінжака і гэткая ж строгая (для дзелавой жанчыны) прычоска.

Мае развагі, відаць, занялі шмат часу. Вераніцы надакучыла выпрабоўваць на сабе мой хутчэй задубелы, чым задуменны, пагляд, і яна падхапілася, падсунулася бліжэй і зазірнула мне ў вочы:

- Ты хоць калі-небудзь успамінаў пра мяне?

- А ты?

- Божачкі, Андрэй, ты зусім не змяніўся. Ты як быў маўчуном, так ім і застаўся. Гаварыць не любіш, затое гатовы бясконца слухаць і слухаць... Помніш, калі ты праводзіў мяне дахаты і мы садзіліся на лаўку пад парканам, дык заўсёды не знаходзілі пра што пагаварыць. І ты плёў мне дурныя анекдоты, бо далей нашае маўчанне нельга было трываць.

- Помню, Вераніка. Я тады вельмі дакараў сябе за сваю маўклівасць. Баяўся, што стану табе нецікавы, што абрыдну табе і мы расстанемся. Мусіць, я кахаў цябе.

- А цяпер?

- А што цяпер. Цяпер у мяне ёсць жонка, трое дзяцей. Я іх вельмі люблю. Сям'я для мяне - святое. Дый хіба ў такім узросце гавораць пра каханне? Глупства.

Вераніка капнула сабе трошачкі «Рускай», паставіла на месца маленькі кругленькі графінчык. Сябры заўважылі гэта і накінуліся на мяне:

- Ты што, не можаш прыслужыць даме? - Сцяпан хутчэй узяўся падкладваць у яе талерку салату, мяса.

- Кавалер саплівы. Давай разлівай, вып'ем разам з госцяй.

Я моўчкі напоўніў шкляначкі, даліў Вераніцы, спустошыўшы графін.

- Дзеля такой сустрэчы трэба было б яшчэ заказаць якую мачынку. А то нейкі сціплы прыём атрымліваецца, - падаў голас Васіль, які бутэльку заўсёды называў мачынкай. Калі хто заходзіў да яго ў госці, ён заўсёды прапаноўваў: «Ну што, па мачынцы?»

Я запытальна паглядзеў на Вераніку.

- Не, болей піць не буду. Я і так вельмі ўдзячна вам за такі прыём.

- Ну, тады з Богам. За сустрэчу.

Мы выпілі, але ад выпітага я не п'янеў, а, здавалася, толькі цверазеў. І ўсё прымушаў Вераніку добра закусваць. Тая ж для выгляду пакорпалася відэльцам у сваёй талерцы, а пасля, крыху аб нечым падумаўшы, нахілілася да мяне і шапнула:

- Мне пара...

- Дзе ты жывеш? Далёка? Я правяду. - Я таксама перайшоў на шэпт і ўжо выціраў сурвэткаю рукі, рыхтуючыся пакінуць наседжанае месца.

- Хіба так важна, дзе я жыву? Няўжо, калі далёка, дык не захочаш правесці?

- Не-не, што ты.

- Дзякую. Ты не забавішся. Да майго дома - адзін аўтобусны прыпынак.

- І гэты шлях мы пройдзем пешшу.

- Так, пройдзем пешшу.

* * *

- Ведаеш, Вераніка, а я нядаўна праязджаў тою дарогаю, па якой праводзіў цябе тымі даўнімі вечарамі-начамі дахаты. Ехаў, і нічога асаблівага, надзвычайнага ў тым лесе не прыкмячаў. Нават не пазнаў спярша, пакуль не агледзеўся і не вызначыў дакладна месцазнаходжанне аўтобуса. А тады мне ўсё здавалася надзвычайным: і тое, што ў лесе было шмат варання, якое ад майго свісту ўзнімалася ў фіялетавае вячэрняе неба і рабіла яго чорным, а цябе палохала, і тое, што на дарозе было шмат пяску, таму ты здымала туфелькі, ішла басанож. Цяпер там - асфальт і няма крумкачоў. Быццам бы нехта знарок гэтак усё зруйнаваў, каб не пакінуць і напаміну пра нашае шчасце. Няхай сабе тое і не было каханнем, але ж нам было добра, мы пачувалі сябе як у сне, як у прыемным, цёплым, лагодным сне.

- Ты ўсё такі ж рамантык, як і быў. І пісака-фантазёр. Гаворыш, быццам раман палюбоўны чытаеш. Хаця, Андрэй, усё ты правільна сказаў. Усё так, і я гатова падпісацца пад кожным тваім словам, хоць ужо запамятавала і крумкачоў, і пясок на дарозе.

Гэтак мы гутарылі, седзячы ўжо ва ўтульным пакойчыку (утульнасць гэтая як бы падкрэслівала, што тут жыве адзінокая жанчына) яе досыць багатай двухпакаёвай кватэры. У руках нашых дыміліся напоўненыя каваю маленькія фарфоравыя пасудзіны ад «Мадонны», з якіх мы няспешна адсёрбвалі, седзячы адно насупраць

аднаго. Паміж намі на журнальным століку ляжалі каля крыштальнай папяльнічкі цыгарэты ў размаляваным пад амерыканскі сцяг пачку, некалькі брыкецікаў шакаладу, сурвэткі з выявамі ці то нямецкіх, ці швейцарскіх будынкаў з чырвонымі дахамі.

- Можа, мы і ў мяне чаго вып'ем?

- Дзякуй, але мне хутка ісці. Дома ж чакаюць, хвалююцца. Дый нашто траціцца ўпустую.

- О-о, пра гэта не клапаціся. Мой заробак дазваляе мне купляць штодня па дзве-тры бутэлькі шампанскага, і гэта ніяк не адбіваецца на маім бюджэце.

- Ты многа зарабляеш?

- Нямала.

- А чым займаешся?

- Маю прафесію ты неаднойчы абліваў брудам у газетах.

- Найбольш чытацкі інтарэс выклікалі мае публікацыі аб праблемах прастытуцыі, але ж...

- Але ж што? Цябе здзіўляе мая сённяшняя прафесія?

Я з асаблівай выразнасцю зірнуў на яе кругленькае вабнае каленца, якое зманліва вызірала з-за століка, быццам бы паказваючы сваім позіркам, што цяпер мне стаў зразумелы яе выгляд...

Вераніка не зніякавела. Яна толькі паставіла пасудзіну з каваю на сурвэтку - прама на акно намаляванага будынка, размашыстым рухам паднесла да матавых вуснаў цыгарку і чыркнула запальнічкай.

Не сказаць, каб гэтая наколькі знаёмая, настолькі і незнаёмая жанчына цяпер, калі ўва мне даўно перагарэла тое юначае пачуццё, зусім не вабіла да сябе. Але я адчуваў, што стрымацца ад спакусы прытуліцца да гэтага рухавага гарачага цела будзе няцяжка. «Нават калі б яна зараз падышла да мяне ззаду і пачала песціць, я не паддаўся б». І зусім не таму, што Вераніка была не здольная ўзбудзіць мяне (усё якраз наадварот). Проста за пятнаццаць год свайго сямейнага жыцця я ні разу не здрадзіў жонцы, і гэтая мая сямейнасць (падкрэсленая, дарэчы, і гараскопам), павага да хатняга акружэння ўвайшлі ў маю кроў - трывала, назаўсёды.

Праўда, Вераніка і не прадпрымала нічога для таго, каб справакаваць мяне на блізкасць.

- Я чытала твае артыкулы «...У гатэль уварваліся аўтаматчыкі», «Целам гандляваць - не зямлю араць», «Да рынку - з голым задам». У іх мяне нічога не здзівіла, акрамя тваёй нецярпімасці...

Вераніка скамячыла ў попельніцы акурак, адкінулася на мяккую спінку крэсла, склала на грудзях рукі.

- У мяне тут вось якая думка наспела. Хачу прапанаваць табе цудоўнейшую тэму для чарговага артыкула. Ён павінен па ступені папулярнасці перакрыць усе, што былі напісаны раней... А шампанскага мы ўсё ж вып'ем. Усё роўна я затрымаю цябе на якія паўгадзіны.

І Вераніка борздзенька залапатала ўступцамі да сценкі, адчыніла бар, выбрала сярод мноства бутэлек адну, паставіла разам з крыштальнымі філіжанкамі на столік.

- Адкрывай.

З шакаладам шампанскае паказала мякка-салодкі смак.

- Ты ж, наколькі я памятаю, гэтак, як да прастытутак, нецярпімы і да камуністаў?

- І гэтаму ёсць прычыны.

- Няхай сабе. У такім выпадку я для цябе проста знаходка. Ты толькі ўяві сабе: былы адказны работнік крайкома партыі...

- Ты гаворыш пра сябе?

- Я працавала сакратаром па ідэалогіі...

- Ну і ну-у?

- Не перапыняй больш. Я працягваю. Уяві сабе: былы адказны работнік крайкома партыі становіцца прастытуткай. Памятаеш, ты не так даўно называў партыйцаў гэтым словам... Ну, у пераносным сэнсе. Памятаеш?

- Так, помню.

- Дык цяпер у цябе ёсць магчымасць абысціся без параўнанняў. Перад табою - самы што ні ёсць партыйны бюракрат, які ператварыўся ў сапраўдную прастытутку. Ты пачнеш свой артыкул так: «Шаноўныя мае чытачы (ты ж іх любіш, шануеш, ці не так?). Тое, што я вам скажу зараз, магчыма, шакіруе вас. Справа ў тым, што зусім нядаўна я сустрэўся з адной прастытуткай, якая, як пасля высветлілася, у часы камуністычнага праўлення кіравала, вазьміце гэта пад увагу, ідэалогіяй цэлага краю. Вы здзівіліся гэтаму паведамленню? Дарэмна. Асабіста я іншым словам іх ніколі называць не мог. Нарэшце паказалі сапраўднае сваё аблічча...»

Я хацеў даць ёй выказацца да канца, але не стрываў:

- Не блазнуй. Пра каго іншага я, магчыма, і напісаў бы так (дарэчы, ты вельмі добра засвоіла мой стыль). Але пра цябе... Гэта было б злачынствам.

- Нічога ты не зразумеў, інжынерышка чалавечых душ. Не пра сябе ж гавару. Я бяру ў прынцыпе.

- Ты хочаш сказаць, што я не справядлівы да тых, каго крытыкую ў сваіх артыкулах? - Я адштурхнуў нагою пярэстага ката, што безупынку цёрся аб калашыну, і нахіліўся, каб скінуць варсінкі.

- Ды не, нічога такога я табе сказаць не хачу. Проста распавяду дзе-што пра сябе.

- Прабач, Вераніка, але ж першая гадзіна ночы. Мне даўно пара дахаты. Хіба мы другім разам не зможам завяршыць гэтую гутарку?

- Не, другім разам будзе не той эфект. Дазволь мне затрымаць цябе яшчэ на адну гадзіну.

- Добра, слухаю. - Я закінуў нагу за нагу, абхапіў рукамі калена і ўжо сядзеў як на іголках.

* * *

«...Веранічка, пакажы гэтым лайдакам, як трэба адказваць на ўроку. Малайчына. Выдатна...

...Веранічка, захварэла настаўніца нямецкай мовы. А ты ж у нас выдатніца, напэўна, вывучыла ўсё наперад. Правядзі колькі ўрокаў. Нічога, што вучаніца. У цябе атрымаецца. З хіміяй жа справілася. Вось і слаўненька...

...Слова мае выдатніца вучобы, член бюро райкома камсамола Вераніка Ламейка...

...Прыемна, што сярод выпускнікоў нашай школы ёсць і залаты медаліст. Гэта, як вы, напэўна, здагадаліся, Вераніка Ламейка...

...У апараце райкома партыі мы таксама абмяркоўвалі кандыдатуру Ламейка і прыйшлі да вываду, што, заняўшы пасаду першага сакратара райкома камсамола, яна здолее ўзняць работу раённай камсамольскай арганізацыі на належны ўзровень... Хто за? Аднагалосна...

...Мяркуем, гады працы ў райкоме камсамола не прайшлі дарэмна для Веранікі Максімаўны. Яна набралася вопыту, пасталела і, да ўсяго, паказала выдатныя арганізатарскія здольнасці. Настаў час падумаць і пра далейшую кар'еру. Прапаноўваем табе пасаду сакратара па ідэалогіі райкома партыі. Як лічыш - справішся? Вось і малайчына. Мы таксама не сумняваемся...»

- А ты... Ты зведаў гэтую хваробу?

- Ты маеш на ўвазе хваробу росту?

- Не зусім росту. Хваробу імклівага ўзлёту. Быццам бы ты разагнаўся і не ведаеш, як спыніцца. І не хочаш спыняцца. Ляціш сабе, бяжыш, імчыш па інерцыі, і ўвесь захоплены гэтым бегам, і нічога больш для цябе не існуе, акрамя асалоды руху.

- Не, мяне такая хвароба мінула. Пасля журфака я атрымаў накіраванне ў моладзевую газету... Там і працую.

- Здаецца, мы сябравалі з табою адзін год. Пасля я і матка ўцяклі ад бацькі далёка-далёка - ехалі некалькі сутак цягніком... А ты падаўся на вучобу. Там я пайшла ў дзевяты клас. Я была вясковаю з дня нараджэння, але зусім не ведала, што такое сялянская праца. Захваленую выдатніцу маці баялася прымушаць рабіць што-небудзь па гаспадарцы. «Ты ўжо вучы лепш свае ўрокі, я і сама тыя грады пасаджу. Вучыся, дык не будзеш пасля пакутаваць, як твая маці». Калі яна ішла на працу (відаць, там было шмат клопатаў, бо вярталася яна з заходам сонца), я даставала з партфеля дзённік і доўга любавалася ягоным змесцівам: пагладжвала пальцамі круглыя, як каўшы, або размашыстыя, акуратныя ці нязграбныя пяцёркі. Іх колькасць была для мяне тое самае, што для філатэліста колькасць рэдкіх марак. Пасля я гэтак жа любавалася сваімі сшыткамі, у якіх не магло быць ніводнай памылкі. Толькі роўны, як у кнізе па чыстапісанні для пачатковых класаў, почырк і чырвоныя коўшыкі пяцёрак. З сёмага класа я завяла яшчэ адзін дзённік (бачыла такі ў старэйшай сяброўкі. Там запісваліся пажаданні знаёмых, песні, якія ёй падабаліся, шмат выслоўяў пра каханне і нешта яшчэ, размаляванае каляровымі фламастэрамі). Гэта быў абгорнуты белаю скураною вокладкаю тоўсты агульны сшытак, кожную старонку якога я акуратна разграфавала з дапамогай лінейкі і чырвонай пасты, каб пасля запаўняць тыя графы прыкладна такою дурнотаю:

«1 верасня 1969 года. Мяне папрасілі выступіць на свяце першага ўрока ў райцэнтры. Гаварыла без паперкі. Калі скончыла, загадчыца райана, якая стаяла ззаду, некаму шапнула: «Вельмі, вельмі разумная дзяўчына. Звярніце на яе ўвагу...»

2 верасня 1969 года. Выкладчыца гісторыі, яна ж дырэктар школы (слова ДЫРЭКТАР я якуратна, пад лінеечку, падкрэсліла), сказала: «А зараз я хацела б даведацца, што вы памятаеце з пройдзенага намі ў мінулым навучальным годзе. Але я баюся, каб вы не сапсавалі мне першы ўрок. Я хацела б хоць сёння мець добры настрой, і таму выклікаю да дошкі Вераніку Ламейка...»

3 верасня 1969 года. Верачка, мы просім цябе ўзяць шэфства над адстаючымі вучнямі твайго класа...

26 студзеня 1970 года. У мяне закахаўся самы прыгожы вучань з 9 класа Андрэй К., з якім за шчасце палічыла б сябраваць любая дзяўчына школы. Ён таксама выдатнік і друкуецца ў газетах...

8 красавіка 1970 года. Маці сказала: «Веранічка мая, і ў каго ж ты такая разумненькая ўдалася. Матка ж твая дурніца з дурніц, а бацька і зусім п'яніца...»

- Чакай. Я хачу вярнуцца да папярэдняга запісу. Хіба ты магла напісаць такое пра мяне? Ты ж кахала мяне. Кахала, так?

- Гэта яшчэ дробязі. Паслухай, што я працытую далей.

«...На ўроку ваеннай падрыхтоўкі праходзілі стральбу. Я адстралялася горш за ўсіх. Тады ваенрук заявіў, што паставіць мне адзнаку «добра», і не болей. Я пачала пярэчыць, маўляў, тое, як я страляю, не павінна ўплываць на адзнаку. Галоўнае - я добра ведаю дысцыпліну. Ён зараз жа задаў некалькі пытанняў, і я заблыталася ў іх, бо была занадта ўзбуджаная: мяне вельмі страшыла, што ў маім бездакорным дзённіку можа з'явіцца цёмная пляма. Калі ён папрасіў дзённік, я паглядзела на яго гэтак жаласліва, што пусціў бы слязу і камень, і прашаптала: не магу, вельмі вас прашу. Ён лагодна ўсміхнуўся (так лагодна, як можа ўсміхацца забойца, стоячы над сваёй ахвярай) і прапанаваў застацца ў ціры пасля ўрокаў, каб трошачкі патрэніравацца. Але мы не трэніраваліся...»

- Вераніка, я не веру табе. Ты была сапраўдным анёлам. Я не хачу, каб ты расказвала мне пра гэта.

- Не, я буду працягваць. У нас не дайшло да ГЭТАГА...

«...Ён папрасіў мяне распрануцца, але я ўся дрыжэла ад страху і не магла скрануцца з месца. А гэты паскудны чалавек, які падобны быў на кій, і калі ішоў, то здавалася, што ў яго хранічны радыкуліт, супакоіў мяне: я не зачаплю цябе, я хачу толькі палюбавацца табою. І я зрабіла, як ён прасіў. Каб ты бачыў, як ён захапляўся маім целам, як цалаваў мае ногі, бёдры і жывот. Не скажу, што гэта было прыемна мне, але перад вачыма маімі ўсплыло самае галоўнае: уціснутая ў клетачку дзённіка дробненькая пяцёрка і сшытак у белай вокладцы, у якім наступны запіс будзе гэткім жа прыемным, як і папярэднія...»

- Гэты запіс у цябе атрымаўся вельмі доўгі. Але ты забыла назваць дату, калі ён рабіўся.

- Гэты запіс захаваўся толькі ў маёй памяці. У сшытку ён выглядаў бы занадта пачварна. А яго ж разграфаваныя лісты былі маім жыццём. Я сама ператварылася ў гэты сшытак.

- Ты падманвала сябе.

- Магчыма. Але так было.

- Са мною ты таксама цалавалася дзеля запісу ў сшытку?

- Гэта пытанне-папрок?

- Не, я задаў яго з цікаўнасці.

- Тады адкажу. Не варта скідваць з рахунку, што я ўсё ж была дзяўчынаю. І дзяўчынаю дарослай. Я нават пачувала сябе жанчынай, і з табою зусім забывалася на сваю хваробу. Яна мяне ненадоўга адпускала. Але ў рэшце рэшт мне наканавана было так і застацца разграфаваным сшыткам. Хочаш, я пакажу табе свой адбітак?..

Не чакаючы адказу, яна падхапілася, скіравала да кніжнай шафы, і я ўбачыў перад сабою зусім не тое, чым любаваўся колькі гадзін таму. Гэта была постаць няшчаснай, стомленай жанчыны. І я падумаў: гэтая хвароба ўсё ж даканала яе.

Не, яна не горбілася. Але рухалася так, нібы наперадзе стаяла гільяціна і ёй трэба горда пакласці на яе сваю галаву. Горда і толькі горда, каб не выклікаць жаласлівасць у некага з тых, хто з прыкрасцю сочыць за кожным яе рухам. Здаецца, ззаду, з бакоў жанчыну акружылі вясковыя бабкі-балбатухі і скрушна ківаюць галовамі: «Хто б мог падумаць, хто б мог падумаць. Які жах, які жах. Жыві проста, кажуць, пражывеш год да ста. Не хоча «проста», не хоча».

Шафа была вялізная і са шклянымі дзвярыма, за якімі я знайшоў вачыма чорныя вокладкі Поўнага збору твораў Леніна і мноства бліскучых, яркіх пераплётаў. Можа, гэта былі кнігі з серыі эратычных бестселераў. А калі адчыніліся ніжнія непразрыстыя дзверцы, увагу прыцягнулі цэлыя стосы тонкіх і агульных сшыткаў. Напэўна, сярод іх ляжалі і вучнёўскія дзённікі. Вераніка ўзяла самы верхні, абцягнуты бялюткаю штучнаю скураю. Выглядаў ён як новы: чысценькі і акуратны.

Я падхапіў яго з вялікай асцярожнасцю. Адчуваў - я першы пасля Веранікі, хто гартае гэтыя пазначаныя чужою таямніцаю старонкі. Большая палова іх аказалася спісаная раўнюткім курсівам і разграфаванымі на тры гарызантальныя паловы: першая - дата, другая - асноўны запіс і трэцяя, самая вузкая (прыкладна два-тры сантыметры шырынёй) аддзяляла чыстае поле. Почырк на першай і апошняй старонцы мала чым адрозніваўся. Можа, з часам ён стаў хіба толькі болей размашысты.

- Каб не займаць лішнія хвіліны, я пакажу табе той запіс, дзеля якога ўзяла гэты сшытак. Вось ён.

І яе бліскучы чаўнок-пазногаць спыніўся на даце: 7 снежня 1988 года.

«Сёння я дакладна ведаю, што павышэння мне давядзецца чакаць зусім не доўга. Не пройдзе і трох месяцаў, як кабінет, на дзвярах якога цяпер вісіць бліскучая ромбападобная шыльда з надпісам: «Сакратар крайкома т. Няфёдаў А.К.» будзе маім. Гэтай

ноччу я абагнала сваіх праціўнікаў. Я паланіла якраз таго чалавека, ад якога ўсё залежыць. Цяпер ён мой і толькі мой. Ён сто разоў назваў мяне самаю прыемнаю, самаю мілаю, самаю разумнаю і самаю цнатлівай. Да яго мяне не зведаў ніводны мужчына...»

Вераніка насцярожана сядзела насупраць і пільна сачыла за мною праз вялізныя шыбіны акуляраў. Чакала рэакцыі. Чакала, што вось-вось мае вусны скрывяцца ў пагардзе, быццам я ўкусіў недаспелую антонаўку і «ўбачыў Маскву», каб сустрэць мой здзеклівы пагляд непакорліваю ўсмешкаю. Але я не скрывіўся. Я чамусьці закрыў сшытак, яшчэ раз уважліва агледзеў яго і, не знайшоўшы, за што зачапіцца, зноў адкрыў, хуценька прагартаў старонкі, дабраўся да апошняга запісу.

«8 сакавіка 1991 года. Чалавек, якога я не хачу называць сваім палюбоўнікам, бо зусім абыякавая да яго, падарыў мне цэлае вядро ружаў. Ён абагаўляе мяне».

Цяпер я сапраўды вельмі ўважліва зірнуў на яе. Але гэта быў не позірк-пагарда, а позірк-здзіўленне.

- Вераніка, гэты запіс ні пра што не гаворыць. Чаму ты палічыла, што ён павінен быць апошнім?

- Таму што толькі ў вас, журналістаў, кожны артыкул мае лагічнае завяршэнне.

Куточкі яе перламутравых вуснаў ледзь прыкметна задрыжалі. Пагляд стаў жорсткі, ад чаго, здавалася, выпраміўся маленькі кірпаценькі носік (мусіць, яна не ўмела плакаць). І гэты занадта афіцыйны выраз твару яшчэ больш не пасаваў да яе кідкага мякка-пяшчотнага пуловера і адкрытых каленак.

- Калі табе гэтак цікава, я прадоўжу вусна. Як ты зразумеў, я напісала пра чалавека, якога згадвала 7 снежня. У той дзень ён гаварыў са мною не пра кар'еру, а пра палітыку. Але я не слухала яго, бо апошняе мяне зусім не цікавіла. Затое я добра запомніла іншае. Ён казаў: «Ты шмат чаго не ведаеш з таго, што ведаю я. Дык вось ведай: у нашай справе ніякіх думак пра кар'еру болей быць не можа. Усё. Пакуль не надышоў апошні дзень, трэба вызначацца, што рабіць. Я вызначыўся. Сёння мы сустракаемся з немцамі, будзем прасіць у іх дапамогі. Гэта будзе ў рэстаране. Калі ты не супраць, мы можам схадзіць туды разам...» Тады я спытала: «Што ж мне рабіць?» А ён адказаў: «Будзе лепей, калі ты пойдзеш са мною. І табе, і мне. Праветрышся... Усё разрадка нейкая. А мне, можа, прасцей будзе дамаўляцца з імі...» Я папраўілася: «Што мне рабіць увогуле? Як жыць далей?» - «Не ведаю. Ва ўсялякім разе ў адным я не сумняваюся ніколечкі: прастытуткаю ты не станеш». - «Чаму ты ўспомніў гэтае

слова?» Мяне яно вельмі ўразіла і нават раззлавала. «Прабач. Проста вырвалася».

- Вось такі працяг мог паявіцца ў сшытку. Але ён не ўвасобіўся ў літары, бо сшытак мой не для такіх запісаў. Ён не прымае іх, - і Вераніка акунула ў попел гарачую галаву цыгарэты, прыдушыла яе ўказальным пальцам, націснуўшы так, што вострых пазногаць шкрабянуў па гладкім дне папяльнічкі. Зняла левую рукою акуляры, а правую сціснула скроні, слізганула пальцамі па вачах, быццам імкнучыся выдавіць іх, спыніла ўказальны і вялікі на пераноссі. Пад вокам з'явіўся доўгі вузкі сіняк. Гэта ад попелу, што прыліп да ўказальнага пальца і забіўся пад пазногаць. Цяпер як бы яна ні намагалася трымацца горда і незалежна, сіняк зводзіў на нішто тыя высілкі. Ён канчаткова выдаваў яе, усё адно як на гэтым месцы нехта выразна напісаў: «Бездапаможная, зусім бездапаможная».

- А ты? Ты прымаеш такія запісы?

- Як бачыш. Сшытак, мусіць, аказаўся толькі часткаю мяне.

- Што ж было далей?

- Далей мой сшытак перастаў прымаць што б там ні было. І перамогі...

- А яны былі?

- Я раскажу табе, што было далей. Мы елі ў рэстаране дзічыну і пілі «Рускую», бо яе вельмі ўпадабалі немцы. Я выконвала ролю перакладчыцы, але не вельмі ўдала, бо шмат чаго забылася. У іх нешта не клеілася, і мой сябар папрасіў у мяне дапамогі. Я быццам бы незнарок правяла пальцамі па валасатай руцэ старога немца. Пасля, ужо знарок, песціла яго ў сваёй пасцелі. Былі крыкі радасці і згамтаная прасціна, была знямога, было храбусценне навюткіх нямецкіх марак і цяжар пакладзеных у далонь пачкаў, аперазаных светла-карычневымі папяровымі стужкамі з чырвонымі палоскамі, было безліч такіх сустрэч і роспач майго сябра, якому я перадумала дапамагчы, бо ўсё яшчэ помніла ягоную абразу з упамінаннем слова «прастытутка»... А вы, журналісты, у гэты час страчылі свае бязглуздыя і нікому не патрэбныя артыкулы пра барацьбу ідэалогій, спрачаліся, хто быў разумнейшы, Пляханаў ці Ленін, Брэжнеў ці Гарбачоў, вучылі людзей, як адрозніваць сапраўднага перабудоўшчыка ад прыстасаванца...

- Чаму ты з'ехала адтуль сюды, на Радзіму? - Я перавёў гутарку на другое.

- А куды яшчэ ехаць? Там жа я не магла займацца сваім рамяством. Кожны сабака ведае.

- Ну, а кватэра?

- Што кватэра?

- Абмянялася?

- Купіла.

- Ого.

- Ты павінен ведаць, што людзі нашай прафесіі зарабляюць многа.

- Я ведаю. Але каб кватэру. Яна каштуе дзесяткі мільёнаў.

- Мне прадалі танней. Своеасаблівы падарунак. Я ж абслугоўваю абраных. А хочаш, я паведамлю табе свае расцэнкі. Міньет раблю…

- Не трэба працягваць. Мне гэта нецікава.

- Дарэмна. Выкарыстаеш у артыкуле… І яшчэ. Я ніколі не падпільноўвала кліентаў каля гасцініц або рэстаранаў. Яны самі знаходзілі мяне дома. А сёння… Сёння асобы выпадак. Я табе ніколі не скажу, чаму я паявілася каля рэстарана.

- Не настойваю.

- І добра.

Цяпер яе пагляд быў насмешліва-суровы. Сіняк знік, яго амаль на ўсю даўжыню перакрэсліла блакітная аправа акуляраў. Вераніка ўсё яшчэ змагалася. Яна ўпарта не хацела выклікаць жаласлівасць. Але пытанне, адрасаванае мне пасля хвіліны маўчання-роздуму, прадало яе гэтак жа, як прадаў толькі што попельны «ліхтар».

- А цяпер я хачу спытаць у цябе: ці мае чалавек права на памылку?

- Такое пытанне нельга ставіць, бо ці мае права адзін чалавек вызначаць, дзе зрабіў памылку іншы, і ці памылка гэта наогул. Кожны павінен сам аналізаваць і даваць ацэнку сваім учынкам. Да таго ж любая памылка можа мець апраўданне.

- Ну, добра. А вось ты, асабіста ты апраўдваеш усе свае памылкі?

- Часам апраўдваю, але часцей усё ж проста вытлумачваю для сябе іх паходжанне, не здымаючы гэтым самым з сябе віны. Не вельмі даўно, калі мы, журналісты, адчулі сябе адносна вольнымі, мяне запрасілі на адну важную канферэнцыю. Я адмовіўся. Мне захацелася паказаць, што цяпер магу і не выканаць нечы загад, што я незалежны і сам вызначаю, куды мне ісці. Але ж то быў не загад, а звычайная просьба. Да таго ж, канферэнцыя аказалася дужа цікавай. Я вырашыў, што зрабіў памылку.

- Мне спадабаўся твой адказ, хоць і прыклад, які ты прывёў, мае занадта малы жыццёвы маштаб. Згадзіся, твая памылка непакоіла цябе ўсяго некалькі гадзін, няхай сабе дзён, але яна ніяк не паўплывала на ход твайго жыцця. Ва ўсялякім разе - знешне. Для

мяне памылкаю стала само маё жыццё. Вось толькі пазнавата зразумела. Ты вельмі добра сказаў, што кожны чалавек сам найбольш дакладна можа вызначыць ступень сваёй памылкі і сваёй віны. Але ж чалавек па прыродзе эгаіст і заўсёды імкнецца апраўдаць сябе. Я таксама знаходжу апраўданне сваім дзеянням (бывае, нават адношу сябе да ліку ахвяр цяперашняга часу), але чым далей, тым цяжэй і цяжэй мне рабіць гэта.

Мне захацелася суцешыць яе, але замест гэтага я толькі ўскінуў руку і зірнуў на гадзіннік, які паказаў палову на чацвертую. Пачынаўся наступны дзень - 6 траўня 1992 года. Цела не слухалася мяне. Здавалася, варта мне падняцца, як пакой уздрыганецца ад скрогату знямелых касцей. Гэта азначала, што добрыя дзве гадзіны я правёў у поўнай нерухомасці. Яна адпіла халоднае кавы, прымасцілася на рог століка:

- Хочаш, я раскажу табе адну прытчу. Слухай. Калі чалавек кажа «дай» і нічога не абяцае ўзамен, гэта яшчэ не сталы чалавек. Калі чалавек кажа «дай, я табе адплачу тым і тым», гэта напаўсталы чалавек. Калі чалавек кажа «давай, я зраблю табе добрую справу, а ты мне адплоціш некалі тым жа», гэта блізкі да сталасці чалавек. Калі чалавек кажа «бяры ў мяне, што табе трэба, я зраблю для цябе ўсё, што магу», гэта сталы чалавек.

- Гэта нейкім чынам тычыцца тэмы нашай гутаркі?

- Гэта тычыцца мяне.

- Якім чынам? Я нешта не зразумеў.

- А такім, што прытчу гэтую прыдумала я. Вось і ўсё.

* * *

Не помню ўжо, што гэта быў за дзень і наогул канец траўня ці пачатак чэрвеня дзевяноста другога. Але тое і не важна. Мне трэба было тэрмінова рыхтаваць да друку звесткі пад рубрыку: «Хроніка падзей» (колькі дзён таму пакінуў пасаду аглядальніка і ўзначаліў аддзел аператыўнай інфармацыі). І трэба ж: у самы гарачы час прыпёрліся Мікола і Сцяпан. Натуральна, пісаць у такой абстаноўцы не будзеш, і я ўзяўся, перакідваючыся з імі словам-другім, гартаць свежыя газеты. Узялі па аркушу і госці...

- Андрэй, гэта не пра тую Вераніку, што была тады з намі, пішуць?

- Дзе?

Мікола паднёс да мяне газету і пстрыкнуў здаравенным пальцам па кароценькім паведамленні пад маленькім падзагалоўвачкам

«Забойствы», ад чаго папера трэснула. Трэшчына як бы перакрэсліла падзагаловачак.

«У адной з кватэр дома № 128, што па вуліцы Першамайскай, знойдзены трупы 35-гадовай Веранікі Ламейка (уладальніцы кватэры) і маладога мужчыны прыкладна 23-26-гадовага ўзросту. Асоба апошняга ўстанаўліваецца.

Пацярпеўшыя, як сведчаць вынікі папярэдняга расследавання, атруціліся газам, уключыўшы, кладучыся спаць, усе чатыры канфоркі газавай пліты».

- Так, гэта яна.

- Ого. Добра, што яна не ўключыла канфоркі, калі начаваў у яе ты.

Я ўсміхнуўся:

- Дзякуй ёй за гэта.

І раптам нечага расчуліўся:

- Эх, Веранічка. Вось і пазбавілася ты ад сваёй хваробы.

- Яна была хворая?

Я зрабіў выгляд, што не пачуў гэтага пытання, хаця мог адказаць сцвярджальна. Я мог нават растлумачыць, чаму яна зацягнула да сябе ў пасцель няшчаснага юнака, якога, напэўна, як і мяне, падцікавала каля гасцініцы або рэстарана. Яна не хацела, каб яе смерць выклікала ў людзей шкадаванне. Гэта была яе апошняя перамога, якую, канечне ж, таксама не прыняў разграфаваны сшытак у белай вокладцы са штучнай скуры. Ён, я ў гэтым быў упэўнены, скончыў сваё існаванне трошачкі раней за гаспадыню.

## ПЕРОН ДЛЯ БЕСПРЫТУЛЬНЫХ

Пасля працяглых халадоў было пацяплела. І вось зноў некалькі дзён запар марозіць і дуе калючы сцюдзёны вецер.

Лейтэнант міліцыі Алік Карчэўскі за ўсю дарогу ад райаддзела да чыгуначнага вакзала ні словам не перамовіўся са сваім калегай, старшым оперупаўнаважаным аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю Сцяпанам Няфёдам.

Моўчкі прыкурылі ад адной запальнічкі і гэтак жа моўчкі пыхкалі ў настылае паветра. Каб скараціць шлях, звярнулі ў незаасфальтаваны завулак. Разбітыя камякі гразі скамянелі на марозе, не ліплі да падэшваў, як некалькі дзён назад, але ісці па іх усё адно было нязручна. Нібы па раскіданым паўсюль каменні.

Алік захінуўся ад ветру высокім каўняром уцепленай мехавою падкладкаю курткі. Начальнік зноў выпер іх з цёплага абкуранага кабінета лавіць «тарбешнікаў» - гэтак звных дробных кантрабандыстаў, што скупляюць у крамах кілбасу, вэнджаныя кумпячкі, сыр і нават малако ў літровых цыратовых мяшэчках і вывозяць усё гэта за мяжу, дзе перапрадаюць па даражэйшых цэнах. Прыдумаў жа нехта тыя праклятыя межы. Раней была адна вялікая краіна з аднолькавымі паўсюль цэнамі. Дык во парэзалі, пакраілі на часткі, пааддзяляліся, напладзілі гэтых трутняў-чаўнакоў. Нічога дзеля сваёй краіны не робяць, сядзяць на гарбу ў сваіх жа суайчыннікаў, спустошаюць крамы, дбаюць адно пра сябе, набіваюць кашалькі. А яму, Аліку, лаві іх, псуй нервы за мізэрную зарплату, нажывай сабе ворагаў. Сышоў бы куды з гэтай абрыдлай, няўдзячнай працы, з-за якой не аднаго крэўнага ворага займеў, ды, як сказаў аднойчы начальнік, хто іх пасля двух-трох гадоў службы ў гэтым аддзеле куды возьме на больш-менш прыстойную працу. Адных кіраўнікоў яны штрафавалі, на іншых заводзілі крымінальныя справы... Тыя, праўда, зазвычай адкручваліся, а такія, як ён, шараговыя службоўцы, запісваліся імі ў чорны спіс заклятых ворагаў. Кіраўнікоў зліць, калі пачынаеш пад іх капаць, бо, лічаць яны, без парушэнняў сёння ніяк нельга добра гаспадарыць. І вось атрымліваецца, што мяшаюць ім эфектыўна весці вытворчыя справы якраз яны, праваахоўнікі, якія, нічога не разумеючы, лезуць, куды іх не просяць. Во папаў дык папаў... А тут яшчэ кватэру абяцаюць. У цешчынай двухпакаёўцы цесна з дзіцём-немаўляткам. Трэці год чакаюць жыллё, а яго ўсё не даюць і не даюць. І невядома, калі дадуць, хоць і абяцалі, як запрашалі на працу, сама больш праз паўгода-год. Два аднакласнікі даўным-даўно атрымалі ад завода трохпакаёўкі, трэці - муляр будаўнічай арганізацыі - вунь, чатырохпакаёўку адхапіў. Жывуць сабе прыпяваючы, без стрэсаў, без трывог, гарэлку пасмоктваюць, часам ганяюць, заліўшы бельмы, жонак па раскошных сваіх харомах, а тыя толькі гладчэюць ды свяжэюць. Тым часам ён, прыстойны, адукаваны грамадзянін, паслухмяны, клапатлівы муж, абаронца інтарэсаў дзяржавы, павінен вось гэтак гібець у цеснаце і беднасці. Той аднакласнік, што ў будаўнічай арганізацыі, працуе вахтавым метадам (дзень на рабоце, два - дома) і, аказваецца, таксама камерцыяй грашыць. Учора якраз злавіў его на пероне з велізарнымі бауламі. Але пашкадаваў, адпусціў. Аднакласнік усё ж. А сёння ад начальства такога прачуханча меў - ніводнага пратакола не прынёс, - што цяпер ніяк нельга вярнуцца без «улову». Інакш адразу сядай і пішы рапарт аб звальненні ды зубы на паліцу кладзі.

Вакзал - сіратлівы буданчык за горадам, наводшыбе - здалося, паявіўся надта хутка, нечакана. Тут вецер яшчэ мацней апякаў твар. Рука, у якой сціскаў папку з чыстымі бланкамі пратаколаў, прыхалола нават у пальчатцы. На бетонных плітах перона спыніліся, агледзеліся. З абкладзеных пабеленаю цэглаю клумбаў тырчэлі высахлыя сцябліны ці то кветак, ці зелля. Людзей было няшмат, а галоўнае, побач з імі не ўзвышаліся прычэпы-паклажы.

Першым прамоўленым Алікам словам было: «Колькі?»

- Яшчэ дваццаць хвілін, - быў гэткі ж сухі, ледзь выціснуты з пасінелых вуснаў, адказ.

- Зноў недаспаць прыйдзецца, - незадаволена прабурчэў Алік.

Ранічкою, недзе а палове пятай наступнага дня, на станцыі спыняўся яшчэ адзін «іхні», як яны называлі, цягнік. Да пачатку работы можна было падбегчы да яго і налавіць «жучкоў», г. зн. Парушальнікаў, тым больш, што якраз гэтым цягніком звычайна і ездзяць тыя, на каго яны палююць. Невыпадкова ў народзе яго празвалі «таварняком».

Па-першае, у такі час яшчэ зусмім цёмна, і можна непрыкмечаным выскачыць з кустоў і шуснуць у вагон, па-другое, менты сама што спяць, і нават хавацца няма патрэбы. Рэдкія ранішнія аблавы звычайна прыносілі багаты ўлоў. Але ж трэба ўставаць пасярод ночы, у тры гадзіны. Добра яшчэ, калі дзіця дасць крыху паспаць, а калі раскрычыцца, калі давядзецца да поўначы гушкаць-супакойваць яго. І пасля гэтага, змучанаму, пешшу па сабачым холадзе плесціся на гэты ненавісны вакзал? Не, лепш пра такое і не думаць. Эх, як было добра ў школе, у інстытуце...

Штуршок у спіну перабіў думкі-перажыванні.

- Глядзі, - Сцяпан паказаў вачыма на жоўты «Мерседэс», з якога выскачыла жвавая дамачка ў паўкажушку і джынсах.

Вось яна агледзелася, нырнула ў салон, выцягнула вялізны паласаты баул. Вось дастала з багажніка другі. «Мерседэс» буксануў коламі па слізкім цвёрдым таку і знік гэтак жа хутка і нечакана, як і з'явіўся.

- Гэтыя жанчыны па цягавітасці вартыя трох здаравенных мужыкоў, - заўважыў усхваляваны, як кот, што сочыць за мышкаю, Сцяпан, не адрываючы позірку ад жанчыны-мішэні.

Тым часам мініяцюрная маладзіца, нібы мураш, цягнула да перона вялізныя і, па ўсім відаць, цяжкія торбы. Кожны крок адбіваўся на яе твары пакутаю. Яна крывіла вусны, моршчылася, але спыняцца і не думала. Во ўпартасць, во сіла волі, каб гэтак на дзяржаўнай працы шчырава.

- Бяжы, цягнік на падыходзе.

Алік падбег.

- Вам памагчы? - і выцягнуў з нагруднай кішэні чырвонае пасведчанне.

Яна ўскінула аніколькі не спалоханыя, хутчэй гарэзлівыя, вялікія і выразныя вочы.

- Алік? - разгубілася хіба на якое імгненне. А тады неяк самотна ўсміхнулася ўсім тварам, уздыхнула: - Ну, вось і сустрэліся...

Ён нейкі час стаяў з паднятым да грудзей пасведчаннем. Паўз іх прагрукацеў, запавольваючы бег, цеплавоз, мільганулі першы, другі, трэці... вагоны.

- Вой, і пагаварыць некалі, - яна ўпэўнена хапілася за сумкі.

- Не спяшайцеся, прыехалі. - Гэта падышоў Сцяпан і таксама прадэманстраваў чырвоную кніжачку. - Паказвайце, што ў сумках.

- Сцяпан Сцяпанавіч, аднакласніца. - Алік злавіў сябе на здагадцы, што глядзіць на кампаньёна ўмольнымі вачыма, нібы ўпрошвае, каб той дазволіў адпусціць жанчыну.

- Учора аднакласнік, сёння аднакласніца. Хопіць. - І да яе: - што стаіце, адкрывайце сумкі.

Цягнік усё яшчэ не крануўся з месца. За трыма постацямі сачыла з вышыні, з тамбура плацкартнага вагона праваднiца. Сачыла спакойна, відаць, прывыкла бачыць такое не толькі на гэтай невялічкай станцыі.

Затрыманая, адчуўшы, што з ёю не збіраюцца жартаваць, бліснула звужанымі вочкамі, перасмыкнула вуснамі, задрыжала, нібы рыхтуючыся да нападу, зрабілася падобнай да ашчэранага звярка.

- Што ж вы, сволачы, вырабляеце, што вам ад мяне трэба! - Яна не пыталася, проста крычала. - Што вы ўсё блытаецеся пад нагамі, жыць мяшаеце. Думаеце, з раскошы цягаю гэтыя праклятыя баулы, думаеце лёгка мне. Не нажывацца ж еду, а каб выжыць, выжыць... Алік, ну скажы яму, скажы...

- Па вашай апратцы нешта не бачна, што выжыць. - Сцяпан і не збіраўся саступаць.

- А што ж мне, па вашаму, у лахманах хадзіць? - Цяпер яе твар скрывіўся нібыта ад болю. У гэтым выразе было ўсё: і разгубленасць, і страх, і нянавісць, і роспач, і маленне... Хацела нешта яшчэ сказаць, але вусны дрыжэлі гэтак моцна, што словы аб іх разбіваліся, растрэсваліся імі, і яна заплакала.

...Некалі ў іх быў раман. Юначы, школьны. Яны нават збіраліся пажаніцца. Пра іх адносіны ведалі не толькі бацькі, але і ўся вёска. Вяселле меркавалася згуляць пасля вяртання Аліка з войска. Здавалася б, невялікі тэрмін - паўтара года. Ды дзявочай вернасці

толькі на год хапіла. А тады раптам, ніхто і здзівіцца не паспеў, выскачыла за гарадчука, што прыязджаў на лета да сваякоў, пераехала ў горад. Праз шэсць месяцаў пасля вяселля нарадзіла. Людзі казалі, што доўга яна з тым дурнаватым не нажыла. Разбэшчаны бацькамі і лёгкім, разгульным жыццём муж трымаў яе за хатнюю прыбіральшчыцу, часам распускаў рукі, і яна сышла, развялася, перабралася нібыта на прыватную кватэру.

Толькі цяпер да Аліка, нарэшце, дайшло, чаму яго былая каханая пакінула школу, настаўніцтва, і з галавою акунулася ў небяспечную камерцыю. Успомніў, як нехта ў вёсцы, ужо і забыў, хто, казаў, нібыта яна збіраецца купляць у горадзе двухпакаёўку. Маўляў, няхай усе ўбачаць, чаго варты ён, які і па сённяшні дзень жыве з бацькамі, і яна, у якой і дзіця дагледжана, на адны пяцёркі вучыцца, і зайздроснае жытло з усімі выгодамі займела, і ўся абстаноўка ў тым жытле шыкоўная. Дык вось што, аказваецца, штурхае яе на вярблюджую працу і рызыку. Вось яно якое, яе выжыванне. Можа, каб менш было ў ёй гонару, каб умела цярпець знявагі, саступаць, перамоўчваць, як шмат якія жанкі, дык і жыла б сабе да скону сямейным жыццём. Але не той характар, ведае сабе цану. І, мабыць жа, тут сапраўды ёсць што цаніць.

Алік, магчыма, яшчэ захоўваў да яе нейкія пачуцці. Але не настолькі, каб з-за іх цяпер бараніць былую сваю каханаю цаною ўласнага дабрабыту. Не дай Божа, начальнік дазнаецца, што ён стаў на бок парушальніцы, у лепшым выпадку аблае і аб'явіць вымову, у горшым - вытурыць з работы. Хутчэй за ўсё, яму свеціць апошняе. Але ж і караць яе нібыта нешта не давала. Якраз у гэты момант лезлі ў галаву іх сустрэчы за вёскаю, ля крыніцы, першыя пацалункі, цёплыя густыя туманы, якія, як тады здавалася, закрывалі іх ад чужога вока... Ды што цяпер пра гэта думаць. Цяпер у яго сям'я, дзеці. Вось пра каго трэба дбаць найперш. Не такі ўжо ён невыпраўны летуценнік, каб тое юначае захапленне, якое, да ўсяго, ужо мала хвалявала, зусім адабрала розум, змусіла паступіцца здабыткамі цяжкою, спрэс не нервах і стрэсах, працаю, выгодамі, ці, дакладней, яшчэ толькі надзеямі на тыя выгоды, найперш на кватэру.

І ўсё ж... Яе бацькі сябруюць з ягонымі. Памагаюць адно аднаму, не раўнуючы, нібы самыя блізкія сваякі. Як яны хацелі парадніцца, як шкадавалі, што раскідалася вяселле. І цяпер адносяцца да яго, як да роднага. Што яны скажуць, калі даведаюцца (а даведаюцца ж, абавязкова даведаюцца), што ён, іх любімы Алік, зрабіў іх і без таго няўдачлівую дачку злачынцай. Значыць, толькі прытвараўся, што не трымае зла. Гэты гандаль, якім яна займаецца, у вёсцы не лічаць

нечым надта заганным, адносяцца да такога занятку па-філасофску, маўляў, трэба ж неяк жыць. А камерцыяй цяпер не займаецца хіба што самы лянівы. Канечне ж, яны расцэняць яго прынцыповасць як помсту. Помсту за былую знявагу, за здраду дачкі. Уся вёска загаворыць, загудзе, хоць да бацькоў не прыязджай. Скажуць, ага, знайшоў Алік сякеру пад лаўкай. Як бач прысуд вынесуць, без пракурораў і адвакатаў - не адмыешся. Бацькоў, напэўна, пачнуць заступаць на кожным кроку. Эх, чаму ён не нарадзіўся ў горадзе. Хоць бы ў такім маленькім, у якім жыве цяпер. А яшчэ лепш, у вялікім, у гмаху на сотні кватэр, дзе нават суседзі па лесвічнай пляцоўцы нічога адно пра аднаго не ведаюць, не трэба ні на каго азірацца. Тут жа - уся вёска, нібы адна сям'я. Яшчэ і з пакалення ў пакаленне будуць перадаваць гэтую, канечне ж, па-свойму вытлумачаную, гісторыю.

Думкі наплывалі і наплывалі, а рашэнне трэба было прымаць імгненна, зараз жа, не марудзячы. Няма гарантыі, што Сцяпан змаўчыць у аддзеле.

Цягнік тым часам грукнуў коламі, адкаціўся крыху назад, праваднiца спытала, ці зачыняць ёй дзверы, жанчына хапілася за сумкі, ірванулася да вагона. Сцяпан дагнаў, схапіў яе за руку, крыкнуў: «Алік, ну што ты стаіш?» - і кінуў раз'юшаны пагляд.

Алік падбег і схапіў яе за другую руку.

Імгненне, і цягнік ужо грукацеў, набіраў разгон, замільгалі вагоны...

- Бярыце мае рукі, бярыце, надзеньце на іх наручнікі. - Палонніца цягнула да іх свае ручаняты, істэрычна крычала, плакала, на Аліка не глядзела, нібы ігнаравала, а калі часам кідала пагляд, дык нічога, акрамя пагарды, у ім нельга было прачытаць.

- Трэба будзе, і наручнікі адзенем. - Сцяпан яшчэ не аддыхаўся, але гаварыў спакойна, яго эмоцыі - чые б яны ні былі - не хвалявалі, як, зрэшты, мала хвалявалі яны і Аліка. Ён толькі шкадаваў, што адпусціў учора аднакласніка...

## ХУЛІГАН

У кішэні дабяла пацёртых джынсаў сціснуўся пакамечаны траяк. Ён не шалясціць нават тады, калі хлопец ад няма чаго рабіць бязлітасна скубе яго спрытнымі музычнымі пальцамі, запіхвае на самае дно скуранога капшука для ключоў і іншай патрэбнай і непатрэбнай дробязі. Нядаўна ў кішэні гэтак жа пакутліва бавіла час

пяцёрка, але яна перабралася ў партманет невядомага гандляра-бэйбуса ў абмен на загадкавыя рублёвыя газеты, і вось цяпер застаўся знябожаны старэнькі траяк.

Хлопец прыпомніў, як пасля заняткаў сабраўся з сябрукамі павячэраць у студэнцкай сталоўцы, але ў апошні момант перадумаў, пайшоў блукаць па горадзе. Яму заўсёды да нудоты прыкра слухаць, як студэнты таргуюцца, дамаўляюцца між сабою, каб не пераплаціць лішнюю капейку, танней паесці, плануючы выдаткі на месяц уперад.

Ён жа альбо жыў, як кажуць, на шырокую нагу, альбо дыбаў на цыпках, перабіваючыся з вады на хлеб. Іначай не ўмеў.

Заўтра ў інстытуце культуры, дзе ён вучыцца, - выдача стыпендыі, і траяк, які ляжыць у кішэні, просіцца, аж пацее, на волю. А вось, здаецца, якраз тое месца, дзе можна патраціцца. Маленькая экспрэс-кавярня на рагу вялізнага каменнага будынка запрашае элегантнай некрыклівай шыльдаю.

...Праз хвіліну здаровы бармен з халодным абыякавым тварам ужо грэе на гарачым пяску чорны духмяны напітак, падае ці не ўчарашнія, падсохлыя зверху, бутэрброды. Юнак нетаропка пераносіць ежу на паліцу, якая тут замест століка, падсілкоўваецца, аглядаючы адначасова сваіх суседзяў. Іх тут нямнога - дзве дзяўчыны і двое па-вясковаму апранутых мужчын. Большую колькасць наведвальнікаў гэты малюсенькі пакойчык змясціць не мог пры ўсім жаданні яго гаспадара.

Дзяўчаты смаляць цыгарэты, збіваючы попел у кубачкі з-пад кавы. Стройныя, у кароценькіх светлых куртках і такіх жа кароценькіх спаднічках, быццам выстаўляючы напаказ прыгожыя ногі, адцененыя чорнаю сетачкаю калготаў, праз якія прасочваецца моцны васковы загар, яны вымушаюць спыніць на сабе позірк.

Юнаку такое суседства не падабаецца. Здаецца, глядзяць тут на яго як на выпадковую казяўку - пры ім можна гаварыць усё, што хочаш, не турбуючы сябе выбарам слоў.

- Што ты за чалавек, Пятровіч? Ужо ж стары, а да дзяўчат яшчэ ласы, - звініць нахабным смехам маладзейная, тузаючы субяседніка за крысо паліто.

Той задаволена рагоча:

- З такімі прыгажунямі я адчуваю сябе зусім юным. Вунь як гэты пацан.

- Дзяўчаты зыркаюць на хлопца і душацца ад смеху. Ён чырванее.

Захацелася раптам выскачыць на вуліцу, дыхнуць свежага паветра.

Другі мужчына хваліўся, што ён сам гаloўны ў нейкім калгасе, што стварыў там сабе сапраўдны рай і цяпер для яго нічога немагчымага не існуе.
- Так што прыязджайце да мяне ў калгас, - заключае ён. - Не пашкадуеце.
- Што-о-о? У калгас? - зноў заходзяцца ад смеху дзяўчаты. - Да гэтых трактарыстаў мурзатых? Што мы там з імі рабіць будзем? Навучаць верхавой яздзе? Ха-ха-ха...
Хлопец, збіраючыся ісці, яшчэ раз акідвае ненавісным позіркам сваіх суседзяў, з гідлівасцю заўважае, як лапае стары сваімі поўнымі і белымі, нібы вылепленымі з цеста, рукамі тонкі дзявочы стан.
- Гэй, студэнт, - чуе ўжо наўздагон, - адну хвілінку.
Азіраецца. Дзяўчынка спрытна адводзіць ад сябе руку «жаніха», лёгка, нібы матылёк, падлятае да яго. Не паспеўшы апамятацца, хлопец адчувае, як леглі на плячо яе мяккія пальчыкі.
- Мне надакучыў гэты стары, - быццам аднекуль здалёк, з іншага вымярэння, ловіць ён здзеклівы, з адценнем капрызу галасок і зусім блізкі смех. - Хачу быць з табою. Ты запросіш мяне ў рэстаран?
Такога павароту, відаць, не чакаў ніхто. Хлопец разгубіўся і маўчаў. Мужчыны аслупянелі.
- Што ты стаў як пень. Пайшлі адсюль. Я ж сказала, што з імі быць не хачу.
І яны выйшлі.
- І куды ж мы? - спытаў, абы не маўчаць, збянтэжаны юнак.
- Калі хочаш, пайшлі да цябе, - усё гэтак жа весела і бессаромна прапаноўвае спадарожніца.
- Гэта немагчыма.
- Тады пойдзем да мяне. Калі ты джэнтльмен, то не адмовішся правесці дзяўчыну дахаты. - Яна зазірае ў самую глыбіню яго вачэй, смяецца іскрыстым, задзірыстым смехам. - У тваіх вачах адбіваецца неба. Не, не адбіваецца - яны ўвабралі ў сябе цэлае неба. Такія глыбокія, чыстыя і светлыя.
Ён крывіць вусны недаверлівай, іранічнай усмешкай:
- Ты ўсім сваім хахалям так гаворыш? І гэтаму старому тое ж казала?
- Ага, казала, - ужо з нейкім раздражненнем парыруе яна.
Пасля гэтых слоў хлопцу падалося, што дзяўчына зусім не такая, якую строіла з сябе ў кафэ.
- Як ты вызначыла, што я студэнт?
- У цябе ж на ілбе напісана. А ведаеш, на каго ты падобны? - да дзяўчыны зноў вяртаецца весялосць. - На Морыса-мустангёра з

фільма «Коннік без галавы». Памятаеш, у яго таксама былі прамыя і доўгія светлыя валасы, ён таксама быў высокі і стройны. Гэта мой любімы кінагерой. Я цябе таксама буду называць Морысам, добра?

- Заві. Але ў мяне няма мустангаў, - кідае ён з кропляй іроніі.

- А мне мустангі і не патрэбны.

- Жалезнага мустанга ў мяне таксама няма.

- Я ж, здаецца, сказала, што мне мустангі не патрэбны.

- Як жа тады мне цябе называць?

- Маё імя Валянціна. Так і называй.

- А маё - Жэнік.

Жытлом Валянціны аказаўся інтэрнат. Высокі, нібы слуп, абкладзены барвовай пліткай, ён узвышаўся над суседнімі будынкамі.

- Ты мне пазвоніш? - запыталася яна каля дзвярэй. І, не чакаючы адказу, прадыктавала нумар свайго рабочага тэлефона. - Гэта бальніца. Я там працую медсястрой, - дадала, амаль прытуліўшыся да вуха. Цмокнула яго ў шчаку і знікла. Быццам і не было. Толькі за дзвярыма гулка зацокалі абцасікі.

«Ну і гісторыя», - крутнуў галавою Жэнік і засмяяўся. Затым ён імчаў на аўтобусе да свайго студэнцкага інтэрната. Ужо змеркалася, і перад вачыма праляталі, быццам вялізныя снежкі, блакітна-белыя плямы ліхтароў. Сёння яны здаваліся асабліва яркімі, нават урачыстымі. Хацелася імчацца ўсю ноч, каб хоць крыху астудзіць узрушаныя, узбунтаваныя пачуцці.

* * *

На наступны дзень яны сядзелі ў маленькім рэстаранчыку за столікам ля самай эстрады. Жэнік упершыню наведаў такую ўстанову і адчуваў сябе не зусім ёмка. Але не толькі гэта было прычынай ніякаватасці. Усяго некалькі гадзін назад ён атрымаў ліст ад сваёй дзяўчыны з вёскі, поўны пяшчоты і нейкай, цяпер ужо, здавалася, наіўнай шчырасці. Хлопец глядзеў на багата сервіраваны стол, на ўсе гэтыя закускі, салаты, крышталёвыя шклянкі, бутэлькі; глядзеў на асляпляльную, свежанькую Валянціну ў белай вязанай сукенцы, якая пакідала адкрытымі прыгожыя крамяныя плечы і частку грудзей. Ён бачыў перад сабою Валянціну, а сам успамінаў спатканні з Марыяй у дамоўленым месцы за ваколіцай. Божа, як адрозніваліся гэтыя сустрэчы - тыя, што былі ў вёсцы, і сённяшняя. Як не падобны адна на адну Марыя і Валя. Прыкладна так, як не могуць быць падобныя саматканая сялянская світка і модная імпартная кофтачка.

З Марыяй ён адчуваў сябе лёгка: мог сказаць што неўпапад - яна даравала, не баяўся быць наіўным, дзяліўся самым патаемным. Ёй

таксама было лёгка з ім. Аднойчы яны аж да самага світання прастаялі, захутаныя шчыльным туманам, каля хаты, усё цалаваліся, мілаваліся, не маглі развітацца. А калі з-за сяліб прасачыліся першыя сонечныя промні, адкуль ні вазьміся - Марыіна маці і давай хвастаць дзяўчыну хвартухом па спіне. Здавалася, пасля такой знявагі яны не змогуць больш зірнуць адно аднаму ў вочы, але пры першай жа сустрэчы ён неяк па-простаму, па-сяброўску спытаў: «Што, дасталася ад маці?». «Дасталася, - гэтак жа проста адказала Марыя. - Але нічога, яна добрая. Толькі каля хаты ўсё роўна стаяць больш не будзем. Лепш за ваколіцай». І яны доўга і весела смяяліся, руйнуючы ўсялякую ніякаватасць.

...Тут жа трэба сачыць за кожным словам і рухам. Сабранасці патрабуе сама атмасфера іх яшчэ няпэўных, нявызначаных адносін. Добра, што за два гады вучобы крыху асвойтаўся ў горадзе, іначай даўно ўжо абняславіўся б. Валя - не Марыя. Ледзьве што - засмяе.

Пасля некалькіх чарак гарэлкі ніякаватасць прайшла. Марыя паціху знікала, адыходзіла на другі план, а вочы прагна лавілі Валю. Вось яна акуратна прабіла нешырокае кола танцораў, і яе зграбнае цела пачало вырабляць хуткія выкрутасы ў такт музыцы. Яркія кофтачкі, кароценькія спаднічкі, чорныя сетачкі калготаў, джынсы, касцюмы адразу ж расступіліся, прыпынілі рух, залюбаваліся невядомай танцоркай. Валя не ведала стомы. Яе рукі мільгалі то пад самай столлю, то плылі ў бакі, галава плаўна адкідвалася назад, цела выгіналалася, нібы спружына. Жэніку захацелася раптам абняць яе, прытуліць да сябе, пацалаваць адкрытыя спакуслівыя плечы, злавіць гарачыя месячыкі вуснаў...

Да Валі пачалі падыходзіць мужчыны. Яна круціла галавою, гарэзліва смяялася, пасля крутнулася некалькі разоў з шырокаю джынсаваю курткаю, пакінула яе, падбегла да Жэніка... І яны сталі героямі вечара. У інстытуце ён навучыўся нядрэнна танцаваць, таму трымаўся з Валяй больш-менш упэўнена. Пасля па яе просьбе заказваў музыку, замяняў на эстрадзе гітарыста і нават не заўважыў, як яны, яшчэ не астылыя ад гарэлкі, музыкі і танцаў, апынуліся на аўтобусным прыпынку, пасля ў інтэрнаце, у яе маленькім утульным пакойчыку.

Ноч ператварылася ў казку. Казкаю былі яе трапяткія рукі, якія аблытвалі цела мяккаю казытлівай павуцінкаю, яе хуткае, гарачае дыханне ў самае вуха; яно пранікала глыбока-глыбока ў сэрца, пераварочвала ўвесь свет, вымушала дзейнічаць... Казкаю быў яе дзівосны шэпт у цішы пакоя. Казкаю была яна, тоненькая, але не худая, налітая маладой свежасцю, загарэлая амаль да чарнаты,

быццам адлітая з воску, са светлымі ўзгорачкамі палаючых грэшным, пякельным агнём грудзей, уся такая звабная і жаданая на белым прастакутніку канапы.

* * *

Наступны дзень быў такі ж цёплы, як і папярэднія. І людзі гэтак жа ўпарта і нястомна таўклі на вуліцы снежную кашу. Але ён гэтага не бачыў. Ён спаў спакойным, моцным мужчынскім сном на сваім ложку ў сваім інтэрнаце. На гэты раз яму не прыснілася нічога.

Недзе пасля абеду сон пачаў паступова адыходзіць, і думкі адразу ж перанеслі яго зноў у той утульны маленькі пакойчык з сінімі валошкамі ў нізкай тоўстай вазе на вялізным плакаце-календары. Яго ён заўважыў толькі пад раніцу.

«Зараз яна на працы... да паловы дзевятай, - успомніў, зірнуўшы на гадзіннік. - А так хочацца пабачыцца зноў».

Праз якую хвіліну Жэнік быў ужо ля тэлефона-аўтамата і накручваў прадыктаваныя Валяю лічбы.

- Я слухаю, - пачулася ў трубцы.

- Валя? Добры вечар. Гэта Морыс. Пазнала?

- Ага.

- Я пакінуў у цябе сваю куртку. Сёння зайду забяру.

- Заходзь.

- Ты будзеш мяне чакаць?

- ...

- Ало, Валя. Ты чуеш?

- Чую.

- Дык я зайду.

- Я ж кажу, заходзь.

«Які я наіўны, - думаў ён, кладучы трубку. - І пацягнула ж нешта за язык». «Чакаць будзеш?» - перадражніў сам сябе ледзь не ўголас.

Валянціна сустрэла яго ў сваім пакойчыку стрымана. «А няўжо ж на шыю кінецца. Гэта табе не Марыя, - зноў пакпіў ён сам з сябе.

- Хачу папіць з табою чаю, - прапанаваў першае, што прыйшло ў галаву. Толькі б затрымацца яшчэ хоць некалькі хвілін. Тыя мяккія, але моцныя павуціны, якімі яна аблытала яго яшчэ ноччу, скавалі не толькі цела, але і гонар, і Жэнік гатовы быў ужо на каленях маліць Валянціну, каб дазволіла застацца тут.

- Зараз падагрэю ваду. Але я піць не буду. Калі хочаш, магу зварыць каву.

- Не, лепей чай.

- Табе трэба не спазніцца на аўтобус. Тут далекавата дабірацца, - напомніла яна.

...Па дарозе дамоў ён думаў пра Валянціну ўжо са злосцю: «Вось я цябе і раскусіў, даражэнькая. Ты кахаеш за пачастунак. Табе нальеш, у рэстаран зводзіш - і каханне забяспечана. Не пачастуеш - бывай здароў. Як жа гэта ўсё прыкра. А яшчэ пытаецца, ці пазваню. Трэба ёй гэты званок...»

Але назаўтра ён пазваніў. І зноў Валянціна прымусіла аслупянець ад здзіўлення.

- Ты не крыўдуеш на мяне? - пыталася яна чароўным шэптам. - Прыходзь сёння. Я буду чакаць.

Пасля гэтых слоў хлопец гатовы быў хоць зараз з усіх ног імчаць да яе ў той маленькі ўтульны пакойчык з сінімі валошкамі на вялізным плакаце-календары.

* * *

Усе мы залежныя ад волі нашага ўладара - усемагутнага Лёсу, добрага і бязлітаснага ў адначассе. У яго свае правілы, свае ўмовы гульні, якімі ён ніколі і ні з кім не дзеліцца. Усё вырашае сам - Бог і д'ябал у адной асобе. Некалькі дзён назад ён захацеў злучыць, звязаць у адзін вузел дзве нітачкі чалавечых жыццяў і зрабіў гэта самым нечаканым, нейкім не зусім нават натуральным чынам. Жэнік адчуваў, што калі яму і не выпадзе сустрэцца больш з Валяй, дык вузел гэты ўсё роўна доўга-доўга будзе тлець у яго сэрцы пякучым вугольчыкам. Зараз жа Лёс захацеў, каб тае прагна чаканай сустрэчы не адбылося, і вось ужо юнак імчыць у цягніку дамоў, туды, дзе яго чакаюць бацькі і сціплая вясковая дзяўчына Марыя.

«Дома нешта здарылася, гэта бясспрэчна, - трывожныя думкі заглушалі грукат цяжкіх жалезных колаў цягніка, нацягвалі кожную мышцу яго маладога здаровага цела, вымушалі іх напружана дрыжаць, як пры цяжкай рабоце. - Але што, што магло здарыцца? Чаму такі скупы на словы быў гэты ліст ад Марыі? У ім нічога не растлумачана. Можа... самае горшае? Не. Тэлеграма была б».

На процілеглай лаўцы сядзела немаладая вясковая кабета ў ярка размаляванай хустцы, ела вараныя яйкі і хлеб. Затым бялявая ружовашчокая праваднiца прынесла чай, і жанчына пачала сваімі непаслухмянымі, пакрыўленымі і патрэсканымі пальцамі развязваць зашмальцаваную насоўку, у якой ляжалі некалькі пяцірублёвак і адна дзесяцірублёвая паперка. Капеек не было.

Рукою, падобнаю больш на сухую альховую галінку, жанчына працягнула праваднiцы грошы. Зрабіла яна гэта да таго няўпэўнена,

нават з непрыхаваным страхам, быццам апраўдвалася, што ў яе не знайшлося капеек.

- У мяне няма здачы, - наганяючы на жанчыну яшчэ больш страху, адрэзала правадніца. - Калі размяняеце сваю пяцёрку, тады і прыйдзеце па чай.

І правадніца падхапіла са стала ахутаную парай шклянку ў металічнай падстаўцы.

- Хвіліначку, - спыніў яе раптам Жэнік. - Вось вам капейкі. Стаўце чай на стол.

Ён сам выхапіў з пухленькіх дагледжаных рук гарачае пітво, паставіў перад жанчынай.

- Дай Бог табе здароўя, сыночак, - толькі і прагаварыла тая, абдымаючы, быццам нейкую вельмі каштоўную рэч, звычайную шклянку, напоўненую духмяным напіткам.

- Х-хэ, рыцар знайшоўся, - ацаніла яго ўчынак правадніца і знікла за дзвярыма.

Жанчына дрыготкімі рукамі разгарнула паперку, узяла дзве тоненькія белыя цаглінкі... У шклянцы жвавай сінічкай заціанькала бліскучая лыжачка.

У яго маці такія ж патрэсканыя, грубыя, абветраныя рукі. Праўда, грубыя яны толькі з выгляду, а на самой справе вельмі пяшчотныя і мяккія - гэта хлопец добра памятае яшчэ з дзяцінства.

У Валі таксама пяшчотныя рукі. Але іх пяшчота зусім іншая - узбуджае, дурманіць, падбівае да неабдуманых дзеянняў. Рукі ж маці супакойваюць, наганяюць здаровы і моцны сон, лечаць ад усялякіх стрэсаў, душэўнага прыгнечання, перажыванняў.

Дотык Марыіных рук ён чамусьці ўжо не памятае. Ды і вабіла ў ёй Жэніка нешта зусім іншае. А што, ён і сам дакладна не ведаў: ці то ўнутраная нейкая прыгажосць, ці шчырая, з ямачкамі на шчоках, усмешка, ці жывыя і бойкія, з затоенай недзе ў глыбіні дзікаватасцю чорныя выразныя вочы. Хутчэй за ўсё, вабілі ўсе яе вартасці, узятыя разам.

Жэнік раптам акінуў адным усеабдымным успамінам сваё жыццё, пачынаючы аж з таго далёкага часу, які ён толькі мог узнавіць у памяці. І хаця жыццё было пакуль што вельмі і вельмі кароткае - нядаўна размяняў трэці дзесятак, - ён склаў з яго па нейкай сваёй, нікому не вядомай схеме цэлы горад - горад успамінаў. Шчаслівыя выпадкі набывалі ў ім формы раскошных палацаў і шырокіх праспектаў, няшчасныя або нежаданыя з'явы нагадвалі маленькія, увагнаныя па вокны ў зямлю хаткі, якія даўно патрабуюць злому, хвіліны смутку юнак абазначаў вуліцамі без асфальту, на якіх

заўсёды вільготна і няўтульна... Вось так і атрымліваўся ў Жэніка цэлы горад, вельмі падобны на сапраўдныя гарады, якія ён паспеў убачыць.

Цяжкія колы цягніка грукаюць манатонна, быццам адбіваюць мелодыю, а хлопец у вагоне, закалыханы ёю, блукае і блукае па няўтульных вуліцах свайго асабістага гарадка, час ад часу зазірае ў маленькія скасабочаныя хаткі: у адной з іх маці плача над памёрлай бабуляй, у другой ляжыць цяжка хворы бацька і просіць пасядзець з ім. «Няўжо ў маім горадзе прыбавіцца яшчэ адна такая чорная хаціна? - думае хлопец. - Нашто яны ў горадзе? Няхай бы ўсё было добра». Раптам брудная вузкая вулачка выводзіць яго на новы светлы праспект, высланы рознакаляровым зіхатлівым брукам, які ўпіраецца ў велічны палац; такой прыгажосці ў сваім горадзе юнак яшчэ не бачыў ніколі. Ахоплены цікаўнасцю, ён адчыняе запаветныя дзверы і... нечакана трапляе ў абдымкі Валянціны. Яе лёгкія, быццам крылы матылька, рукі песцяць ягоныя шыю і твар, дрыготкія вусны слізгаюць полымем па яго вуснах. Залаціста-зялёныя вочы яе на залацістым твары і пад залатою кудзеляю валасоў сабралі ў сабе, здаецца, усе знічкі, якія толькі ёсць на небе. Яны блішчаць і іскрацца. Іскрыцца і ўвесь пакой у палацы. Здаецца, усё тут выраблена з золата.

«Чаму я ні разу не наведаў палац, у якім жыве Марыя? - спытаў ён у самога сябе перад тым, як заснуць, а можа, нават і ў сне.

* * *

Пад цёплымі промнямі чыстага вясенняга сонца цямнее, плавіцца снег на палях. Ноччу ён падмярзае, пакрываецца зверху нетрывалым шурпатым панцырам, а днём зноў слязіцца, яшчэ больш асядае, прыпадае да чарназёму, робіцца порыстым, нібы гумавая мачалка. Пасля поры растуць, выядаюць апошнія снежна-ледзяныя крышталікі, і сонцу адкрываюцца бліскучыя чорныя камячкі зямлі. У некаторых месцах глеба набрыняла, і вада, не маючы куды дзецца, застойваецца на паверхні, утвараючы невялікія лужыны.

На прысядзібным участку Андрэя Галубка лужын не бывае ніколі. Ён не дае ім застойвацца. Своечасова адводзіць раўчукі (адзін паміж полем і мяжой, астатнія - у залежнасці ад нізкіх месцаў), па якіх цёмная, змяшаная з брудам вада сцякае ў невялічкі штучны вадаём, выкапаны Галубком яшчэ ў тыя далёкія часы, калі ён працаваў на калгасным экскаватары.

Зараз ён чысціць ад усялякага бруду - камякоў зямлі, ламачча, шэрых каменьчыкаў - тоненькія водныя шляхі, падганяе рыдлёўкаю ваду...

Выпростваецца. Заганяе рыдлёўку ў неадталую яшчэ зямлю, і на вяршок адпаліраванага дзяржальна апускаецца яго шырокая цяжкая пяцярня з набрынялымі карэнішчамі венаў.

Бацька засяроджана назірае, як збягае па раўчуку ўчарашні снег, як спяшаюцца ў вялікую ваду маленькія крохкія льдзінкі, якія нават тут дахітраюцца налазіць адна на адну, крышацца на яшчэ больш дробныя часткі, імітуючы сапраўдны рачны крыгаход.

- Дзень добры, тата, - вітаецца сын.

- Здароў сынок, здароў, - не хаваючы радасці, адказвае, павярнуўшыся, бацька. - Ты што, на канікулы?

- Якія зараз канікулы, тата.

- А як жа ты прыехаў? З заняткаў уцёк?

- Чаму ўцёк. Адпрасіўся. Марыя напісала, каб тэрмінова прыехаў дахаты. Я падумаў - нешта здарылася. А што, усё нармальна тут?

- Марыя напісала? - Жэніку падалося, што бацька вельмі здзівіўся. Ну, можа, і малайчына, што напісала. Хоць дома пабудзеш.

- Дык у вас праўда ўсё добра?

- Бяды вялікай няма. А Марыя, відаць, напісала табе пасля таго, як маму нашу дзверы ў старым кароўніку прывалілі. Там крукі жалезныя лёдам абраслі, петлі на іх падняліся, і маці толькі кранула дзверы, каб адчыніць, а яны прама на яе і паваліліся. Так што і галаве, і спіне, і паясніцы, нават левай руцэ дасталося. Ледзьве дамоў прывалаклася. А зараз то нудзіць яе, то бок абмірае.

- Так моцна стукнула?

- А што ж ты думаў. Ведаеш, якія там дзверы - вялізныя, цяжкія. Яны нават не стукнулі - прывалілі яе. Але і гэтага хапіла.

- У бальніцы была?

- А як жа. Бальнічны далі... на тры дні. Сказалі, як будзе горш, каб прыязджала, прадоўжаць. Але яна не хоча ехаць. Там, кажа, пакуль дачакаешся сваёй чаргі - памерці можна. Лепей ужо на працу хадзіць.

- І што, ходзіць?

- А куды дзецца? Бальнічны ж калі ўжо кончыўся.

- Кепска ёй, мусіць, пакалечанай, працаваць?

- А няўжо ж добра. Прыйдзе з фермы - і ў ложак адразу.

- Няхай бы хоць з калгасным начальствам пагаварыла, каб адпусцілі на які тыдзень-два. Жывыя ж людзі, павінны зразумець.

- Ага, чакай - кінуць яны табе ўсё і пачнуць разумець нейкую там замурзаную даярку. Яны ж цяпер злыя на маму.

- За што гэта?

- Прасілі, каб сказала ў дзяржстраху, што траўму не на працы атрымала. Ім жа за гэта нібыта вельмі дастаецца ад начальства. А яна не паслухалася. Крыўдна, што гэтулькі дармаедаў сядзіць у канторы, і ніхто ні пра што не дбае. Дый страхоўка большая будзе.

Бацька падняў рыдлёўку, падзёўбаў ёю мокры чарназём, зноў увагнаў у зямлю і заключыў, нібы прачытаў прысуд:

- Цяпер у начальнікаў справядлівасці не даб'ешся.

Маці ляжала на канапе ў зале. Не спала, таму сына заўважыла адразу.

- Помніш? - сказала, калі Жэнік прысеў побач, - ты некалі хацеў стаць трактарыстам, як бацька. Добра, што адгаварылі цябе...

Маці, здавалася, гаварыла больш самой сабе, чым Жэніку. Але адтаго, што сын слухае яе, рабілася лягчэй на душы...

Хлопец на якую хвіліну нібы разгубіўся. Слізгаў позіркам то па вялізных зімовых яблыках на стале, ад аднаго паху якіх сціскала зубы аскома, то разглядаў дарожкі на падлозе. Там-сям на іх падсыхалі камячкі чорнай зямлі - трэба было б вынесці іх на вуліцу, павыбіваць. Вялізнае лісце фікусаў пакрылася сівізною - таксама ніхто іх даўно не даглядаў. Праўда, утульнасць яшчэ цяплілася ў хаце, але яе прыкметна паменшала. З хваробай гаспадыні ў заняпад прыходзіць не тое што хата, але і ўся гаспадарка - гэта даўно прыкмечана людзьмі.

Жэнік раптам адчуў, што матчына крыўда перакінулася і на яго. Вось яна ўжо распірае грудзі, бліскае з вачэй нядобрым помслівым агеньчыкам, сціскае ў кулакі пальцы.

Ён ускідваецца з лаўкі, кіруецца да дзвярэй, азіраецца на трывожнае матчына «Ты куды, сынок?», прыкмячае адначасова, як з іконы ў процілеглым кутку на яго з папрокам пазірае Хрыстос і быццам памахвае даўгімі перакрыжаванымі сярэднім і ўказальным пальцамі. Жэнік супакойвае маці кароткім «Зараз вярнуся» і шумна выбягае на парог...

* * *

Вечар неўпрыкмет накрывае хлопцаў празрыстым чорным вэлюмам, і яны, адгароджаныя ад чужога вока цёмнаю сцяною, смялеюць, гавораць усё гучней і гучней, ужо не хаваюць пляшку за ствалом маладой разгалістай таполі, у кроне якой няўклюдна варочаецца выпэцканая ў сажу вата нізкіх, набрынялых веснавой вільгаццю хмар.

У кампаніі лепшых сяброў Жэнік пачувае сябе ўтульна. Блакітнае неонавае святло тоўстым пучком вылятае з акна вясковай

сталоўкі-забягалаўкі, насупраць якой і размясціліся хлопцы. Па правую руку ад Жэніка сядзяць браты Сяргей ды Віктар. Побач хістаецца даўгі, як хлыст, кудлаты тамада з пляшкаю і шклянкай у руцэ. Яго таксама завуць Віктар. Але хлопцы вымаўляюцьь гэтае імя адмыслова - націскаючы на апошні склад. У іх атрымліваецца - Вікт'ор.

Стограмоўка пераходзіць у Жэнікавыя рукі.

- Вось што, хлопцы, ніяк не магу забыцца на матку. Яе ж гэтак зняважылі. Хочацца помсціць. Не магу дараваць, далібог, не магу...

- Можна цёмную зрабіць, - прапаноўвае Віктор.

- Здагадаецца, - папярэджвае Сяргей.

- Няхай здагадваецца. Доказаў жа ў яго не будзе, - стаіць на сваім Віктор. - Ці ты мо пра другое думаеш - пра Марыю? Дык мы з гэтым смаркачом Славікам можам пагаварыць. Ён і дарогу да яе забудзе.

Твар Жэніка раптам асвятляе ўсмешка.

- А ведаеце, як назвала мяне адна цудоўная дзяўчына ў Менску? - пытаецца ён. - Не ведаеце? Морысам. Мне спадабалася гэтая мянушка.

- А што, і праўда - падобны...

- Я хачу выпіць за тую дзяўчыну, за Валю.

- Давай, Жэнік.

Хлопец пакутліва глытае горкі напой, але выпівае да дна.

У гэты час светлы праём акна засланяе нешта вялізнае і цяжкае. Аж чутно, як пішчыць і чаўкае пад нагамі раскіслая ад вады зямля. Хлопцы апынаюцца ў цемры.

- Хто там яшчэ засціць? - незадаволена бурчыць Сяргей.

- Цішэй, гэта ж Міхаіл Васільевіч, калгасны старшыня, - хутка пазнае чалавека Гена. - Зноў напіўся ў сталовай.

- Стойце тут, хлопцы. Я зараз вярнуся, - вочы Жэніка ўспыхваюць рашучасцю і нейкай звярынай, задубелай злосцю.

- Мы з табою. Паможам, калі што, - схапіў яго за рукаў Сяргей.

- Не, я сам.

Старшыня, мусіць, не пазнаваў юнака. Ён доўга ўзіраўся: хто гэта такі перагарадзіў дарогу ды яшчэ быццам бы і пагражае? А пазнаўшы, закрычаў гнеўна, як і належыць сапраўднаму гаспадару:

- Ты... Ты пагражаць мне? Ану, марш адсюль. Блытаецца тут пад нагамі ўсялякая драбядзень.

Апошняе яго слова злілося з хуткім - знізу ўверх - ударам.

Праціўнік калыхнуўся. З яго грудзей вырваліся раз'юшаныя праклёны. Тоўстыя бярвенні рук пацягнуліся наперад.

- Задаўлю... г-гада, - шыпеў старшыня.

- Рукі кароткія, - адказаў яму Жэнік, і яго моцны, да болю сціснуты кулак прачарціў той жа шлях, як і хвіліну назад.

Масіўная фігура праціўніка калыхнулася яшчэ раз і пачала бездапаможна падаць на хлопца. Жэнік падхапіў яе і пацягнуў туды, дзе сушэй, - на агністую грыву леташняй травы.

- Заўтра чакай бяды, - сказаў яму па дарозе дамоў Сяргей. - Я ўжо ведаю, што бывае пасля такога разбою.

- Ты не можаш сабе ўявіць, як лёгка мне зараз. Адпомсціў, і быццам нарадзіўся нанова. Ніколі не думаў, што помста валодае такой моцнай лекавай сілай. А пра якую бяду ты гаворыш?

- Павесткі з міліцыі чакай. Пасадзіць могуць. Старшыня ўсё-такі.

Словы сябрука выбілі апошні хмель з галавы. Заснуць у гэтую ноч Жэнік так і не змог. Трывожыўся не за сябе - за бацькоў. Такога ўчынку яны ніяк не чакалі ад свайго адзінага, любімага сына.

* * *

Пакой, у якім апынуўся Жэнік праз некалькі дзён пасля той кароткай п'янай бойкі, у міліцыі называюць «тэлевізарам». Чаму «тэлевізарам»? Мабыць, таму, што ён мае шкляныя дзверы, праз якія можна бачыць усё, што за імі робіцца. Да таго ж, размешчаны яны насупраць другіх дзвярэй, за якімі сядзіць дзяжурны міліцыянер. Паколькі дзверы «дзяжуркі» амаль заўсёды адчынены, то атрымліваецца, што чалавек у «тэлевізары» знаходзіцца пад пастаянным наглядам. Як рыба ў акварыуме.

Жэнік сядзіць на лаўцы пануры, знябожаны. Чакае выкліку. Правая рука яго з абабітымі пальцамі падпірае моцны, як вытачаны з каменю, падбародак. Вузкія і доўгія каласкі броваў маўкліва сышліся на пераноссі, па якім зверху ўніз пралеглі дзве глыбокія тужлівыя складкі. Выразныя вільготныя вочы, быццам дзве валошкі ў час дажджу, глядзяць некуды ўдалячынь праз тоўшчу шэрай бетоннай падлогі.

«Чаму бацькі ні разу не папракнулі мяне за той неразумны хуліганскі выбрык?» Сярод усіх пытанняў, якія мучаць яго цяпер, гэтае займае цэнтральнае месца. Часам яго засцяць іншыя пытанні, і яны таксама здаюцца галоўнымі.

«Навошта я званіў Валі? Што я гаварыў ёй? Гаварыў, што мне блага. Як жа гэта нізка, не па-мужчынску. Раскіс. Па падтрымку адразу кінуўся. Добра, што не паспеў нагаварыць многа - сувязь перапынілася. Далібог, апаратура айчынная... Валя, здаецца, нават не паспела нічога адказаць. А можа, і не хацела адказваць. Можа,

забылася ўжо». Ад гэтай здагадкі сэрца сціскаецца ў маленькі цвёрды каменьчык і ные нудна, аж захлёбваецца, быццам увабраўшы ў сябе тысячы чалавечых боляў. Пакуты абвастрыліся яшчэ больш, калі хлопец уявіў сабе, як высмейвае Валя яго наіўнасць перад сваімі новымі жаніхамі.

«Цікава, як будуць выглядацьь гэтыя дні ў маім горадзе ўспамінаў праз некалькі гадоў». Ён спрабуе пафантазіраваць, але нічога не атрымліваецца. Перад вачыма ўзнікае вобраз маці - патухлыя вочы, пацямнелыя маршчыны, згорбленае цела і нейкая зацятая, прыдушаная маўклівасць. Тут жа прыйшло на памяць, як Сяргей пры сустрэчы паведаміў, што ён, Жэнік, не столькі нашкодзіў, колькі дапамог старшыні. У таго, аказваецца, вельмі балеў зуб, і якраз яго хлопец выбіў пры першым жа ўдары.

«Чорт, гэтаму гаду нават лупцоўка на карысць ідзе». Ад такіх думак маршчыны на пераноссі робяцца глыбейшымі, а бровы сыходзяцца шчыльней і ніжэй навісаюць над цёмнымі валошкамі вачэй.

«Пачытаю, што нефармалы пішуць. Кажуць, у іх больш праўды», - успамінае пра даўнюю пакупку, дастае з кішэні газету. Але раптоўны стук блытае думкі, змушае падняць галаву.

У расчыненых дзвярах паяўляецца грузная, распаўнелая постаць міліцыянера.

- Прымі дзяўчыну, хлопец. Толькі ненадоўга, начальнік убачыць - бяда будзе, - прабасілі яго тоўстыя добрыя губы, і ў пакой лёгкаю, асцярожнаю хадой увайшла... Не, не ўвайшла - выткалася з паветра (Божа, хто б мог падумаць) яго Валянціна. Здаецца, сама прыгажосць запоўніла залацістым святлом гэты маленькі халодны пакойчык.

Жэнік ускоквае, імкнецца рушыць насустрач і... не мае сіл. Ногі змярцвелі, нібы ўраслі ў бетонную тоўшчу падлогі.

- А вось і я, - гаворыць яна лёгка і проста, быццам прыезд гэты быў даўно запраграмаваны, і апякае яго рукі сваімі - мяккімі і пяшчотнымі. - Што ў цябе тут здарылася? Ты мне так і не паспеў усё сказаць па тэлефоне.

Ён песціць вачамі яе прыгожы, смуглявы твар і не знаходзіць што сказаць.

- Валя, я ўсё забываў у цябе спытаць, дзе ты так загарэла. Ты што, на курортах была? - гэтае пытанне аказалася нечаканым нават для яго. Адкуль яно толькі ўзялося?

Дзяўчына смяецца звонка, залівіста, асвятляючы шэры пакой белізною роўных, выстраеных па ранжыру зубоў.

- Які ты смешны і слаўны, мой легендарны Морыс, - звініць тысячамі малюсенькіх званочкаў яе залівісты голас. - Я загарэла пад

кварцавай лямпаю. Знарок, каб быць прыгажэйшай, смуглявай. Праўда, папрыгажэла? Хаця зараз гэта не мае аніякага значэння. Галоўнае, што мы зноў разам. І я не паеду адсюль, пакуль не даведаюся, што чакае цябе наперадзе. Я ніколі не пакіну цябе, мой добры і мужны хуліган. Ты хочаш, каб я была з табою?

Яшчэ ніколі не білася так гулка яго маладое чулае сэрца, яшчэ ніколі не адчуваў ён сябе так упэўнена, як зараз, яшчэ ніколі не быў ён такі шчаслівы...

## ПЛЮШАВАЕ САБАЧАНЯ

На бліскучай паліцы маленькай вясковай крамы разам з іншымі цацкамі стаяла плюшавае сабачаня. Самае звычайнае: жоўтае з чорным носікам і чорнымі вочкамі-гузікамі. Звычайнае, бо не ведала яшчэ, што яму наканавана прынесці няшчасце сваім будучым гаспадарам. Хаця, калі папраўдзе, то нельга ўпэўнена сказаць, няшчасце гэта будзе ці, наадварот, шчасце. Ды пра канчатковы вынік вам ніхто і не скажа, няма дурных падагульняць тое, што будзе выкладзена наперадзе. Які ж тады сэнс пісаць апавяданне?

* * *

Дык вось. У той самы час, калі сабачаня нават і не думала аб сваім прызначэнні ў жыцці, у краму ўпырхнула пярэстая сукеначка.

- Вой, Рэгіначка, добры дзень, - ветліва заўсміхаліся на яе прывітанне прадаўшчыцы, якіх тут было дзве: рабая Годэліха, як заўсёды цяжарная, і высокая маладая Ніна Шулякова. Яны ведаюць: Рэгіна ніколі не пакіне краму з пустымі рукамі.

- Дзевачкі, можа, вам калі калготкі падкінуць... чорныя...

- Што ў сетачку?

- Ды ну, у сетачку ў крамах не прадаюць. Хоць бы просценькія. Пакіньце мне парачку, ага? Вой, якая модная кофтачка. Шыфонавая, мусіць. Колькі яна?

- Сорак, па-мойму. Зірні там на этыкетку.

- Ого, з падплечнікамі. Точна - сорак. - Рэгіна адпусціла каляровую паперку, і тая загайдалася на тонкай нітачцы. - А што яшчэ ў вас новага?

- Хто яго ведае. Вунь - сабачка хіба. - Рухавая Ніна кіўнула ўбок маленькага жоўтага шчанюка і зусім абыякава ўсміхнулася.

- Ах ты мой мардаценькі. Ну, ідзі да мяне, ідзі мой малюпарасенькі.

І цацка апынулася ў руках задаволенай Рэгіны. Сабачаня было вельмі прыгожанькае і смешнае, а яго тоўсценькі і задраны ўверх хвосцік так і намерваўся гайдануцца ад асалоды на мяккай ружовай далоні маладзіцы.

- Колькі ён?

- Паўтара...

- Бяру. Наце вось, рубель... Так, так, дваццаць, сорак. Ага, ёсць пяцьдзесят...

Хутка шчанюк апынуўся на новенькім паліраваным трыльяжы сваёй няўрымслівай гаспадыні, а пад нагамі ў яго ляжала накрухмаленая карункавая подсцілка. Калі б сабачаня было жывое і магло павярнуць галаву да люстэрка, то яно, пэўна, убачыла б падобную да сябе істоту. Але шчанюк, на жаль, быў плюшавы і не мог бачыць не толькі сябе, але і тоненькую расчырванелую Рэгіну, якая сядзела насупраць, глядзела ў яго гузікавыя вочкі і ціхенька смяялася. Не бачыў ён і зіхатліва-белых пацерак яе раўнюткіх зубоў, доўгіх ільняных валасоў. Не бачыў яе выспеленага зграбнага цела, калі яна, зусім голая, любавалася сабою тут жа, перад ім, у вялікім люстэрку трэльяжа.

Ён - шчанюк, усяго толькі цацка. А таму нават не ўздрыгануўся, калі дзверы неспадзявана рыпнулі і з сенцаў данеслася глухаватае тупанне.

Рэгіна спрытненька кінулася да свайго падшыванага халаціка, падкінула яго над сабою, трапіла па-дзіцячы маленькімі ручанятамі ў мяккія праёмы рукавоў і...

...У дзвярах вырасла нязграбная постаць мужа. Ён смяяўся:

- Ага, злавіў.

- Адвярніся, бессаромнік. - Яе пальчыкі дробненька танцавалі на гузіках.

- Ну, што ты, на самай справе. Муж я табе ці не? Колькі ўжо хавацца можна?

- Хіба мы не спім разам голыя?

- Спім... але... - ён не знайшоўся што сказаць, змоўк.

- Што ў цябе ў сумцы?

- Кнігі.

- Колькі табе іх трэба? Гэта вялікія грошы, Раман.

- Ты вялікія грошы выкідваеш на свае анучы.

- Я хачу прыгожа апранацца. Мне яшчэ няма дваццаці. Вопратка неабходна кожнаму чалавеку, а вось кнігі... кнігі... Кніжка цябе не ўпрыгожыць.

- Упрыгожыць... унутрана.

- Лухта ўсё. Такія казкі я чула яшчэ ў дзяцінстве. Паказвай, што там.

Раман хуценька чыркнуў замочкам па пластмасаваму чарвяку «маланкі», і перад вачамі Рэгіны паявіліся чатыры рудыя томікі Васіля Быкава.

- Ну й колер. Куды іх цяпер? У сценку я такую дрэнь не пастаўлю, увесь выгляд папсуе.

- Што ты вярзеш. Ты проста не чытала Быкава. Ён святы для беларусаў. Яго чытае ўвесь свет.

- То няхай і пераплёт робяць адпаведны.

- Не хвалюйся, і прыгожа пераплятаюць. Толькі яны такім «эстэтам», як ты, дастаюцца.

- А такія дурні, як ты, падбіраюць тое, што ніхто не бярэ.

- Змоўкні.

- С-санітары кніжных крамаў. - Тоненькі месячык яе вуснаў скептычна скрывіўся.

- Рэгіна, мне здаецца... Ты не заўважаеш, як нацягнулася нітачка нашых адносін? Што будзе далей? Я ўжо не памятаю, калі мы з табою ў апошні раз нармальна, без папрокаў, гаварылі.

- Начытаўся, бедненькі: «...нітачка адно-о-осін». Мы жывём без года тыдзень, а ты гаворыш так, быццам прайшло жыццё.

- Кожнае імгненне - жыццё.

- У-у-у, куды загнуў. Паглядзі, у цябе сцёрся каўнер.

- Што з таго. Галоўнае, каб не сцёрлася душа.

- Ты пораш гарачку.

- Ты проста не разумееш унутранай прыгажосці. Ты не ўмееш бачыць яе.

- Я бачу прыгажосць, якую не трэба выдумляць. Паглядзі, якое слаўнае сабачаня. - Рэгіна весела падхапіла маленькі жаўтаваты камячок, падняла над сабою на сваёй маленькай ружовай далоньцы. Зазвінеў яе мілы сярэбраны смех.

- Ты купіла сабачку?

- Ага. Ён такі прыгожы і смешны.

- Ты стала купляць зусім непатрэбныя рэчы.

- Табе не падабаецца?

- Я перастаў разумець цябе. Гэта ж страшна. Чаму ты так безадказна раскідваешся грашыма? З-за цябе нам заўсёды не хапае на самае неабходнае.

- Я так хачу. - Смех гарэзліва падскочыў да хрустальнага свяцільніка, звонка з'ехаў па праменьчыку на трыльяж, акунуўся ў маленькую вазачку з палявымі рамонкамі і, раптам ператварыўшыся

ў кропельку яду, расцёкся па зусім бездапаможным сэрцы юнака. «Я не магу так», - застагнала яно.

Сабачаня раптам пераскочыла ў Раманавы рукі і праз які момант шмякнулася, нібы гумавы мяч, у куток і адскочыла на дыванок. За Раманам гулка грымнулі дзверы.

- Ну вось, - Рэгіна разгублена схілілася над цацкай. - А ўсё ты вінаваты, барбос.

І зноў такі, калі б шчанюк быў жывы, ён бы падумаў ці нават сказаў бы: «Я згладжваю сваю віну ўжо тым, што глытаю твае слёзы». Плюш сапраўды вельмі добра ўсмоктваў гарачыя салёныя кропелькі.

* * *

- Божа, без яе я зусім не магу. - Раман крыкнуў так гучна, што некалькі чорных прахожых пад чорнымі парасонамі павярнулі да яго белыя твары і недаўменна залыпалі вачыма. Разумеў яго зараз хіба што дождж. Гэта яму крычаў Раман. Ён любіў гэты гаючы шум, доўгія срэбныя нітачкі, што выцягвае зямля з чорнай кудзелі-хмары сваімі мітуслівымі бурбалкамі. У такі час наваколле нагадвае яму карціну. Лес, хаты, хлявы, асобныя дрэвы, клуб - усё на нейкі час мярцвее, і толькі дождж разразае гэтае велічнае, выкананае цёмнымі фарбамі, палатно.

Гэта ён, заўсёды спакойны і верны сябар і дарадца - дождж, упарта нёс Рамана на маленькі вясковы прыпынак. І чалавек цалкам давяраўся гэтай патаемнай прыроднай сіле.

«Цудоўна, цудоўна», - шэпча шалёная залева, закалыхвае, аглушае, дурманіць. І ўжо не чутно, як буйныя кроплі закрадваюцца за каўнер, расцякаюцца па скуры, грэюцца на згорбленай спіне.

Ён не думаў цяпер, колькі дажджавых нітак аддзяляе яго ад Рэгіны. Злічыць такое - чалавеку не падуладна. Ён ведаў іншае: прайшоў тыдзень - сем дзён. Не кароткіх шчаслівых дзён, а доўгіх, як само жыццё, як гэтыя халодныя крэсы дажджу, што злучаюць сабою неба і зямлю.

- Дождж, не пакідай мяне. Вядзі, вядзі мяне да яе... - Не ведаю, сказаў ён гэта ці проста падумаў. Урэшце, ён сам гэтага не ведаў. Але дождж пачуў. Гэта так слаўна.

Ён не пакідаў Рамана ў дарозе. Ляскатаў па даху аўтобуса, біўся аб шкло і бездапаможна сцякаў уніз; вышукваў невялічкія адтуліны, прасочваўся ўнутр, пракладваў аж да карычневага лінолеуму падлогі светлыя раўчукі на запыленай, а некалі бліскучай абіўцы.

Няўлоўна мігцяць далёкія і блізкія агні. Часам яны выцягваюцца ў доўгія бляклыя крэсы, перакрыжоўваюцца з лініямі дажджу, знікаюць... паяўляюцца зноў...

Цёпла, утульна, неспакойна...

Непадалёку ад хаты дождж сцішэў. А можа, яго тут не было зусім. Можа, тут не было суму?

- Дождж, ты прывёў мяне сюды, каб пакінуць каля самай мэты аднаго?- Раманавы рукі стомлена апусціліся на слізкія поручні мастка.

У бруднай канаве, на самым дне гнілога сметніка, злосна скавытаў прамокшы да ніткі вецер. Раман абыякава назіраў, як шалёна рваў ён з бліскучай кансервавай бляшанкі вузенькую палосачку паперы, перакульваў жоўтыя абрыўкі газет, гайдаў некалі ружовую бязногую ляльку, жудасна завываў у тоненькім рыльцы пляскатай бутэлькі з-пад адэкалону, забаўляўся, як футбаліст з мячом, з маленькім жаўтлявым клубочкам, падобным да...

- Яе сабачаня, - узрадавана падумаў Раман і збег уніз.

- Добра, што я знайшоў цябе. Але якое ты бруднае, мокрае. Нічога, я цябе выкручу і сагрэю каля свайго сэрца. Гэта гаспадыня выкінула цябе на сметнік, так? І колькі ж ты тут праляжала? Я занясу цябе на тваё старое месца, і ніхто больш не пакрыўдзіць цябе. Ты дапамог мне, ты, барбос. - Раман пстрыкнуў сабачаня па чорнай кнопачцы носіка і шчыра, упершыню за сем дзён, засмяяўся.

Шчанюк быў плюшавы і не чуў, як у грудзях, да якіх ён быў шчыльна прытулены Раманаваю рукою, горача калацілася ўзрушанае ЯЕ блізкасцю сэрца. А тым больш не чуў ён біцця яшчэ аднаго змучанага трывогаю і чаканнем сэрца. Ён не ведаў нават, хто вінаваты ў яго нядаўніх пакутах, як, зрэшты, не ведаў, ці пакутаваў ён увогуле.

**ЗМЕСТ**

Крэйдзіч А.

Палескі Напалеон: Аповесць, апавяданні. - Мінск, "Мастацкая літаратура", 2001 г., 219 [2] с.

ISBN 985-02-0513-X

Другая кніга прозы аўтара. Аповесць, апавяданні. Асноўнае палатно кнігі саткана з характараў і вобразаў, якія дасканала раскрыты Анатолем Крэйдзічам. Героі кнігі - запаміналныя, каларытныя, надзеленыя высокай духоўнасцю, багатым унутраным светам, якія не пазбаўлены трагізму, пошукаў спрадвечных ісцін.